ББК 67.3я73
Ю 94

Рэцэнзент
доктар юрыдычных навук, прафесар С. Ф. Сокал

Рэкамендавана кафедрай тэорыі і гісторыі дзяржавы і права юрыдычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта

Ю 1203010000—045 / М 317(03)—92 19—92

ISBN 5-7855-0592-4 

# УВОДЗІНЫ

## 1. Значэнне, прадмет і задачы навукі гісторыі дзяржавы і права

Гісторыя дзяржавы і права як навуковая дысцыпліна з'яўляецца арганічнай часткай агульнай гісторыі народа, яго культуры, гэта навука аб жыцці і дзейнасці людзей у грамадстве і дзяржаве. Яна дапамагае бачыць поспехі і памылкі ў грамадска-палітычным жыцці людзей, з асаблівай вастрынёй усведамляць іх месца ў ланцугу пакаленняў, правільна накіроўваць іх паводзіны ў сучаснасці. Без грунтоўнага ведання гістарычных падзей і яснага разумення ўсяго ходу гісторыі немагчыма мець цвёрды светапогляд. Гістарычны аналіз заканадаўства неабходны і для правільнага ўсведамлення дзеючых норм права (гістарычнае тлумачэнне закона), і для крытычнай ацэнкі застарэлых норм.

Задача навукі гісторыі дзяржавы і права — вывучэнне гістарычнага ходу падзей у іх канкрэтнасці і храналагічнай паслядоўнасці, выяўленне асноўных заканамернасцей развіцця структуры і дзейнасці органаў дзяржаўнай улады і праваадносін грамадзян, прававога становішча класаў, саслоўяў і розных сацыяльных груп насельніцтва, выяўленне і вывучэнне крыніц права, высвятленне развіцця асобных галін права: дзяржаўнага, адміністрацыйнага, цывільнага, крымінальнага, судовапрацэсуальнага і інш.

Вывучэнне гісторыі дзяржавы і права беларускага народа патрэбна яму для ўсведамлення свайго нацыянальнага светапогляду, вызначэння месца сярод народаў свету. Усе славянскія народы ўжо даўно маюць распрацаваныя гісторыі сваіх дзяржаў, пачынаючы з самых даўніх часоў. Ніхто з даследчыкаў мінулага не аспрэчвае неабходнасці вывучэння гісторыі дзяржавы і права кожнага народа паасобку. Аднак для беларускага

народа рабілася выключэнне. Даследаванне яго гісторыі дзяржаўна-палітычнага жыцця не толькі не вялося, але нават сцвярджалася, што беларускі народ да 1919 г. не меў сваёй дзяржаўнасці і сваёй прававой сістэмы, нібыта ён няздольны да самастойнага жыцця і заўсёды жыў пад прыгнётам другіх народаў. Так, аўтары «Гісторыі дзяржавы і права Беларускай ССР», выдадзенай у 1970 г., указвалі: «Белорусский народ до победы Великой Октябрьской социалистической революции не имел своей национальной государственности»[1]. Тое ж самае пісалася і ў вучэбных дапаможніках па гісторыі Беларусі для школ рэспублікі[2]. Больш таго, гэтая фальсіфікацыя нашай гісторыі была ўзведзена ў закон і замацавана нават у Канстытуцыі Беларускай ССР 1978 г., дзе сцвярджаецца, што «рабочыя і сяляне Беларусі ...упершыню ў гісторыі здабылі сваю дзяржаўнасць, утварылі Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку», тым самым адмаўляецца магчымасць навуковых даследаванняў гісторыі дзяржаўнасці беларускага народа, прыніжаецца яго роля ў развіцці сусветнай гісторыі. На самой жа справе беларускі народ меў у мінулым не менш слаўную і багатую гісторыю дзяржавы і права, нічым не горшую, чым у іншых народаў. Аднак каб яе пазнаць, трэба спачатку ўсвядоміць, як мяняліся імёны нашага народа, як узніклі дзяржавы на нашай тэрыторыі, як ішлі працэсы росту і развіцця гэтых дзяржаў, як выпрацоўвалася сваё, нацыянальнае права.

## 2. Пра назву «Беларусь»

Гісторыя беларускага народа значна старэй за яго назву. Тэрмін «Беларусь» у яго сучасным этнаграфічным, геаграфічным і дзяржаўна-палітычным значэнні пачаў ужывацца параўнальна нядаўна. Канчатковае прызнанне і замацаванне гэтага тэрміна адбылося толькі пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі і ўтварэння БССР. Таму каб правільна зразумець гісторыю беларускага народа, неабходна прасачыць усе папярэднія імёны, якія насіў наш народ на працягу сваёй шматвяковай гісторыі.

Першае ўпамінанне аб насельніцтве, што пражывала

[1] История государства и права Белорусской ССР. Мн., 1970. Т. 1. 1917—1936. С. 11.

[2] Абецедарский Л. С., Баранова М. П., Павлова Н. Г. История БССР. Мн., 1968. С. 146.

на тэрыторыі сучаснай Беларусі, сустракаем у грэчаскага гісторыка Герадота, які жыў у V ст. да н. э. Герадот, расказваючы аб ваенным паходзе персідскага цара Дарыя на Скіфію ў 513 г. да н. э., падае шэраг цікавых звестак пра паўночных скіфскіх суседзяў — неўраў, якія жылі на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Калі скіфы папрасілі дапамогі ў сваіх суседзяў, бо самі не маглі адбіць 700-тысячную армію Дарыя, то цары гэтых народаў, у тым ліку і неўраў, далі такі адказ: «Калі б вы першыя не рабілі крыўды персам і не пачыналі з імі вайны, то цяперашнюю просьбу вашу і цяперашнія вашы размовы мы палічылі б правільнымі... Што датычыць нас, то ні тады мы не крыўдзілі гэтага народа, ні цяпер не будзем абражаць яго. Вось калі б персідскі цар уварваўся і ў нашу зямлю і першы пакрыўдзіў нас, мы таксама не засталіся б убаку» [3].

З гэтага запісу Герадота можна зрабіць два выключна важныя вывады пра гісторыю неўраў. Па-першае, неўраў было даволі многа, і былі яны моцныя, каб на іх падтрымку маглі разлічваць скіфы, альбо, адмовіўшы скіфам у дапамозе, не баяцца іх помсты. Па-другое, неўры былі не дзікуны, а мелі пэўную палітычную арганізацыю, на чале якой, паводле звестак Герадота, стаялі цары альбо іншыя асобы, якія мелі права выступаць у міжнародных справах ад імя ўсяго народа. Пра наяўнасць у неўраў палітычнай арганізацыі сведчыць і тое, аб чым Герадот гаворыць: «У неўраў норавы скіфскія» [4], г. зн. у іх звычаі, права і палітычны лад такія ж, як і ў скіфаў. У Скіфіі да таго часу ўжо склалася рабаўласніцкая дзяржава. Гэтая думка падкрэсліваецца характарыстыкай, якую антычны гісторык даў андрафагам, якіх ён лічыў дзікімі. Пра іх ён пісаў, што норавы ў іх самыя дзікія, яны не ведаюць ніякіх законаў. Значыць, у тых народаў, якіх Герадот не адносіў да дзікіх, ужо былі законы.

Далей Герадот расказвае легенду, паводле якой «штогод адзін раз неўр ператвараецца на некалькі дзён у воўка, а потым зноў становіцца чалавекам» [5]. У гэтай легендзе, магчыма, адлюстраваны звычай славян раз на год, на масленіцу, убірацца ў звярыныя шкуры ў знак абагаўлення некаторых лясных звяроў.

---

[3] *Геродот.* История в девяти книгах. Л., 1972. Кн. 4. С. 216.
[4] *Геродот.* История в девяти книгах. Кн. 4. С. 213.
[5] Там жа.

Магчыма, што з гэтым звычаем нашых продкаў звязаны паходжанне назвы горада Ваўкавыска і гербы шэрагу гарадоў. У прыватнасці, на старажытным гербе горада Мсціслава быў воўк. Тут таксама будзе дарэчы адзначыць, што легенда аб тым, нібыта жыхары Беларусі перакідаюцца ў ваўкоў, была вядома і аўтару «Слова аб палку Ігаравым», які, расказваючы пра полацкага князя Усяслава, надае яму здольнасць перакідацца ў воўка.

Назва «неўры» была вядома і старажытнарымскім гісторыкам і географам. Так, Пампоній Мела (I ст. н. э.) адзначаў, што Тырас (Днестр) «бярэ пачатак у зямлі неўраў»[6]. Гай Пліній Секунд (I ст. н. э.) размяшчаў неўраў у вярхоўях Дняпра: «Неўры, ад каторых выцякае Барысфен»[7]. Ля Дняпра жылі неўры паводле Марціна Капелы (V ст. н. э.), які пісаў: «Неўры, ля якіх Барысфен»[8].

Назва «неўры» вядома і нашым летапісцам, у якіх яны называюцца «норыкамі», «нарцамі».

У «Аповесці мінулых гадоў» ёсць такі запіс: «Нарцы, еже суть словяне»[9]. У другім летапісе чытаем: «Норицы иже суть словене»[10]. Аб тым, што гэтыя назвы адносіліся да ўсходніх славян, сведчаць шматлікія геаграфічныя назвы ва Усходняй Еўропе, што захавалі корань слова «нур», «нор», «нар», «нев». Напрыклад, буйнейшае на Беларусі возера называецца Нарач, ёсць рэкі Нараў, Нарва, Нарэўка, Нурэц, гарадскі пасёлак Нароўля і г. д. Мажліва нават, што слова «народ» утварылася ад зліцця двух слоў «нар» і «род».

Славяне ў старажытнасці былі вядомы не толькі як неўры, але, у прыватнасці, і як скіфы. Гэта назва была не этнаграфічная, бо так называлі ўсе народы, якія жылі ад Дуная і Днястра да Волгі і Урала. Напрыклад, пад скіфамі ратаямі трэба разумець славян, якія жылі на тэрыторыі сучаснай Кіеўшчыны.

На пачатку нашай эры частка славян у заходнееўрапейскай літаратуры атрымала назву «вянеды», а крыху пазней з'яўляецца новая назва — «славяне». Паходжанне гэтай назвы да сённяшняга часу не раскрыта. Як мер-

---

[6] Вести. древней истории. 1949. № 1. С. 280.
[7] Там жа. № 2. С. 283.
[8] Там жа. № 4. С. 280.
[9] Повесть временных лет. М.; Л., 1950. Ч. 1. С. 11.
[10] Полное собрание русских летописей (далей ПСРЛ). М., 1965. Т. 15. С. 9.

каваў вядомы славацкі вучоны Павел Йозэф Шафарык, аўтар фундаментальнага даследавання па гісторыі славян «Славянскія старажытнасці», народнасць (племя), якую называлі «славяне», была ў мінулыя часы на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Пазней частка гэтага народа перасялілася і дала назву славакам, славенцам і ільменскім славянам. У доказ сваіх разважанняў вучоны прывёў шматлікія геаграфічныя назвы, што бытуюць на Беларусі. Напрыклад: Слаўцы Мінскай губерні, Славены Магілёўскай і Смаленскай, Славена Віцебскай, Славіск Гродзенскай, Славянск, або Славінск, Віленскай губерні, рака Славечна ў Віленскай і Мінскай губернях, прыток Славечны Славешынка, Славенскае возера ў Мінскай губерні. «Я думаю,— пісаў далей П. Й. Шафарык,— што ў дагістарычныя часы гэтая славянская галіна жыла дзе-небудзь на тэрыторыі губерняў Мінскай, Магілёўскай і Валынскай» [11].

Магчыма, што і назва горада Слоніма паходзіць ад імя славян.

Упершыню назва «славяне» ў пісьмовых помніках сустракаецца ў пачатку VI ст. і адносіцца яна да паўднёвых славян *.

Крыху пазней ва ўсходніх славян атрымала распаўсюджанне назва «Русь». Яна становіцца шырокавядомай у сярэдзіне IX ст., калі русы зрабілі некалькі паспяховых ваенных паходаў на Візантыю. Так, у адным з апісанняў гаварылася: «Усё па берагах Эўксіна (Чорнага мора.— *Я. Ю.*) і яго ўзбярэжжа разбураў і спусташаў у набегах флот росаў (народ жа рос — скіфскі, жыве каля паўночнага Таўра, грубы і дзікі). І вось самой сталіцы ён пагражаў жудаснай небяспекай» [12]. Тут, відаць, пад Руссю разумелі славянскае насельніцтва паўночнага Прычарнамор'я, якое па традыцыі называлі яшчэ і скіфамі. Назва «Русь» у гістарычных помніках ужывалася ў розных значэннях. У геаграфічным сэнсе з X ст. Руссю называлі ўсю Усходнюю Еўропу, дзе жылі славяне, незалежна ад іх этнічнай прыналежнасці. Гэтая назва змяніла найменне «скіфы», якое ўжывалі

---

[11] *Шафарик П. Й.* Славянские древности. М., 1948. Т. 2, кн. 1. С. 52—53, 74.

* Першым, хто запісаў гэту назву, лічаць епіскапа Марціна, які, пералічваючы народы, якія прынялі хрысціянства, назваў і славян. (Русская история в очерках и статьях / Под ред. М. В. Довнар-Запольского. М., 1910. Т. 1. С. 71.)

[12] История Византии. В 3 т. М., 1967. Т. 2. С. 228.

грэчаскія і візантыйскія пісьменнікі. Тое самае зазначае і «Аповесць мінулых гадоў» — грэкі раней называлі славян, што жылі на Днястры, «Вялікая Скуф», г. зн. «Вялікая Скіф». Тэрмін «Русь» ужыты аўтарам летапісу ў геаграфічным значэнні і тады, калі ён гаворыць: «Се бо такмо словенеск язык в Руси: поляне, древляне, ноугордьци, полочане, дреговичи, север, бужане»[13]. Называлі Руссю ў этнічным значэнні ў IX—XII стст. у асноўным толькі падняпроўскіх палян і іх паўднёвых суседзяў, што пацвярджае летапіс: «Поляне, яже ныне зовомая Русь»[14].

Тэрмін «Русь» ужываўся яшчэ і для вызначэння асобай сацыяльнай групы насельніцтва, г. зн. меў саслоўнакласавае значэнне, ім называлі ў асноўным кіеўскіх гарадскіх купцоў, баяр, дружыннікаў або наогул усіх кіеўскіх гараджан. Акрамя таго, тэрмін «рускі» стаў абазначаць рэлігійнае грэка-праваслаўнае веравызнанне ва ўсходніх славян. З пашырэннем хрысціянства тэрмін «рускі» ў яго царкоўна-рэлігійным значэнні пачаў ужывацца і на тэрыторыі Беларусі.

Да з'яўлення тэрміна «Русь» насельніцтва Беларусі падзялялася на крывічоў, дрыгавічоў (драгавічоў), бужан і радзімічаў. Аўтар «Аповесці мінулых гадоў» лічыў гэтыя назвы пляменнымі, хоць яны, несумненна, склаліся як дзяржаўна-геаграфічныя і адлюстроўвалі некаторыя этнічныя асаблівасці кожнага з названых народаў. Напрыклад, назва «бужане» мае ярка акрэслены геаграфічны характар і ўтварылася ад назвы ракі Заходні Буг. Бужане займалі тэрыторыю па ніжнім і сярэднім цячэнні ракі. У вярхоўях яе жылі валыняне. Ананімны баварскі географ IX ст. пісаў, што бужане мелі 230 гарадоў, а валыняне — 70[15]. Пазней тэрыторыя, дзе жылі бужане, атрымала назву Падляшша, г. зн. зямля, якая знаходзіцца недалёка ад ляхаў. У сакавіку 1569 г. Падляшша паводле незаконнага распараджэння Сігізмунда Аўгуста было ўключана ў склад Польшчы і стала называцца Падляссем.

Назва «крывічы» паходзіць, відаць, ад назвы цэнтральнага горада зямлі, якім было старажытнае Крэва, і тады іх трэба называць «крэвічы». Цікава адзначыць, што даўней латышы называлі ўсіх славян «крэвс». Тэр-

---

[13] Повесть временных лет. Ч. 1. С. 13.
[14] Там жа. С. 21.
[15] *Тихомиров М. Н.* Древнерусские города. М., 1956. С. 9.

мін «крев» ужываў і В. Н. Тацішчаў. Магчыма таксама, што назва «крывічы» паходзіць ад слова «край» (у сэнсе ўскраіна зямлі). Вядома, што крывічы займалі паўночную і паўночна-ўсходнюю граніцы славянскай зямлі. У такім разе трэба было б гаварыць «краевічы». Цікава адзначыць, што адна з абласцей югаслаўскай Славеніі называецца Крайна. Калі б удалося знайсці ўзаемасувязь гэтых тэрыторый у старажытнасці, то гэта была б цудоўная метрыка нашых крывічоў. Але як у адным, так і ў другім выпадку назву «крывічы» трэба разглядаць як не племянную, а геаграфічную. Назву «драгавічы» большасць гісторыкаў выводзіць ад балоцістай мясцовасці — дрыгвы. Але даволі зірнуць на геаграфічную карту, каб пераканацца, што мясцовасць «межю Припетью и Двиною» ўключае ў сябе не толькі палескія балоты, але і Мінскае ўзвышша. Вядомы польскі гісторык Г. Лаўмянскі звярнуў увагу на тое, што некаторая частка драгавічоў у старажытнасці перасялілася на Балканскі паўвостраў, дзе яны былі вядомы пад назвай другавітаў, і ад іх пайшлі геаграфічныя назвы Драгавіца, Драгавістыка [16].

Трэба думаць, што і ў сябе на радзіме насельніцтва гэтай тэрыторыі называлася другавітамі, або драгавітамі (адсюль і назва ракі Друць і гарадоў Друцк, Драгічын), а потым гэтая назва трапіла ў трохі скажонай форме ў грэчаскую літаратуру, адкуль яна была перанесена і ў нашы летапісы. Магчыма, што слова «другавіты» ўтварылася ў сувязі з пакланеннем насельніцтва богу, якога называлі Вітам. Такім чынам, назва «другі Віта» ператварылася ў другавічоў, або astручан, якія пакланяліся Віту. Мажлівы і іншыя падобныя меркаванні, але адно павінна быць цвёрда прынята, што выводзіць найменне драгавічоў, якія жылі на Менскім узвышшы і нават на Палессі, няма як ад «дрыгвы», бо тады драгавічамі трэба было б называць украінскіх драўлян, ільменскіх славян і іншых насельнікаў нізінных мясцовасцей. Неабходна таксама звярнуць увагу на тое, што імя Віта (Святавіта, Яравіта) было ў вялікай пашане ў славян. М. К. Любаўскі заўважаў, што гэта архаічнае імя святога і яркага святла («вити» — па-санскрыцку «святло») [17]. Імёны Віт, Вітэнь, Вітаўт, Ві-

---

[16] *Lowmiański H.* Początki Polski. Warszawa, 1963. T. 2. S. 99.
[17] *Любавский М.* История западных славян. М., 1918. С. 51.

таль былі пашыраны на Беларусі і толькі часткова выцеснены хрысціянскімі (грэчаскімі і яўрэйскімі) іменамі. З імем Віта, відаць, звязаны і назвы ракі Віцьбы і горада Віцебска, у старажытнасці Вітбеска.

Ёсць падстава думаць, што найменне радзімічаў насіла таксама дзяржаўна-геаграфічны характар і ўзнікла ад галоўнага горада зямлі — Радамля (у цяперашні час невялікая вёска за 20 км на поўнач ад горада Чавусы Магілёўскай вобласці).

Паступова на працягу XI—XIII стст. старыя найменні бужан, крывічоў, радзімічаў і драгавічоў пачалі выцясняцца новымі іменамі «Літва» і «Русь». З гэтага часу ўзнікае і тэрмін «Белая Русь». Аб яго паходжанні ў гістарычнай літаратуры было выказана шмат самых розных меркаванняў. Напрыклад, у «Гісторыі БССР», выдадзенай Інстытутам гісторыі АН БССР у 1961 г., гаварылася: «Найбольш верагодна, што гэта назва (Белая Русь.— *Я. Ю.*) узнікла як процілеглая другой — «Чорная Русь». Чорнай Руссю называлася тая частка заходніх земляў Русі, якая ў першай палове XIII ст. была захоплена літоўскімі князямі (раён Гродна, Слоніма, Навагрудка). Паняцце «чорны» азначала стан залежнасці, падпарадкавання, процілеглае паняццю «белы», якое выказвала стан волі, незалежнасці. Мажліва, што ў першай палове XIII ст. назва «Белая Русь» замацавалася за тою часткаю заходніх зямель Русі, якія за гэты час не былі падпарадкаваны ні татара-манголам, ні літоўскім феадалам[18]. На першы погляд, такое меркаванне здаецца прыймальным, аднак яно поўнасцю супярэчыць фактам, а таму трэба яго прызнаць за памылковае[19].

Тэрмін «Белая Русь» упершыню з'явіўся не ў XIII, а ў XII ст., і таму яго ўзнікненне не можа звязвацца з татарскімі або літоўскімі захопамі рускіх земляў. Так, напрыклад, В. Н. Тацішчаў адзначаў, што тэрмін «Белая Русь» у летапісах упершыню ўпамянуты пад 1135 г. у Раскольніцкім і Растоўскім манускрыптах[20]. Больш частае ўжыванне гэтага тэрміна адносіцца да другой паловы XII ст.

У летапісах вялікі князь Андрэй Юр'евіч (Багалюбскі) з 1157 г. называецца ўжо князем Белай Русі. «По смерти Юриеве ростовцы, суздальцы и володимирцы, со

[18] История БССР. Мн., 1961. Т. 1. С. 74.
[19] *Ермаловіч М. І.* Па слядах аднаго міфа. Мн., 1989.
[20] *Татищев В. Н.* История Российская. М.; Л., 1963. Т. 2. С. 146 і 265.

всеми городы здумавше, пояше Андрея, старейшего Юриева сына, и посадиша его на отчи столе во всей Белой Руси, в Ростове и Суздале»[21]. «Я всю Белую Русь (г. зн. Растова-Суздальскую.— *Я. Ю.*) городами и селами великими населил и многолюдной учинил»,— гаварыў, выхваляючыся, князь Андрэй Багалюбскі[22]. Аналізу тэрміна «Белая Русь» В. Н. Тацішчаў прысвяціў цэлы раздел сваёй працы, у якой пісаў: «О причине же имяни сего разные мнения находятся. Герберштейн и другие от множества снегов написали, токмо сие неправо, ибо оное Великой Руси, где стужи и снегов более бывает, паче бы согласовало. Польские и некоторые наши кладут от белого платья, которое при дворе царском в почтении было. Но и сие несогласно, ибо в Белой Руси более овец серых, следственно, и платья серого, нежели в Малой Руси... Древние наши писатели разумели под оным имянем Польской и Мережской или Суздальский и Ростовский пределы с принадлежностьми, после Смоленское или Кревич, которое было особное владение, к тому присовокупили. Литовские, хотя похитить титул великих князей белорусских, обладав Смоленском, оное токмо за Белую Русь почли»[23].

Белаю Руссю называлі Маскоўска-Суздальскую Русь і пасля ўтварэння рускай цэнтралізаванай дзяржавы. У XV ст. найменне «Белая Русь» мела тое ж значэнне, што Вялікая Русь, і ніяк не было звязана з тэрыторыяй сучаснай Беларусі[24]. «Можна, здаецца, упэўнена сказаць,— пісаў праф. В. І. Ламанскі,— што ў канцы XV і ў XVI ст., калі пад Белаю Руссю разумелі вольную і незалежную, то мелі на ўвазе не Белую Русь ва ўласным сэнсе, а Русь паўночна-ўсходнюю, Маскоўскую»[25]. Пры вялікім князі Іване III тэрмін «Белая Русь» уносіцца ў тытул вялікага князя Маскоўскага. Як адзначаў М. М. Карамзін, «исчисляя в титуле своем все особенныя владения государства Московского, Иоанн наименовал оное Белою Россиею, то есть великою или древнею, по смыслу сего слова в языках восточных»[26]. Тэрмінам «Белая

---

[21] Там жа. 1964. Т. 4. С. 251.

[22] *Ключевский В. О.* Соч. М., 1956. Т. 1. С. 289.

[23] *Татищев В. Н.* История Российская. М.; Л. 1962. Т. 1. С. 355.

[24] *Соловьев А.* Великая, Малая и Белая Русь // Вопр. истории. 1947. № 7.

[25] *Ламанский В. И.* Белая Русь // Живая старина. 1891. Вып. 3. С. 245—250.

[26] *Карамзин Н.* История государства Российского. СПб., 1819. Т. 6. С. 351.

Русь» часамі называлі нават украінскія землі. Так, у паведамленні дзяка Кунакова ў Маскву гаварылася: «У гетмана у Богдана Хмельницкого и в полковников и всего Войска Запорожского положено на том... церкви благочистивые христианские веры в Киеве и во всей Белой Руси все от унеи учинил свободны, и костелов бы и унеи в Киеве и во всей Белой Руси отнюдь не было, и положил бы Киевское и Белой Руси правление на их гетманскую волю, а сам бы король в Киев и во все белорусские города ни в расправу и ни во што не вступался»[27]. З гэтага акта відаць, што пад Белаю Руссю разумелася ўся падуладная Багдану Хмяльніцкаму Украіна. Цікавыя ў гэтых адносінах звесткі ёсць у выпісцы з «Распросных речей полоняников в Патриаршем дворцовом приказе», дзе чытаем: «свели его в Киев, жил у белорусца», «родина де яе в Белой Руси в Хвастове»[28]. Трохі іншае разуменне тэрміна «Белая Русь» даецца ў «Хроніцы Еўрапейскай Сарматыі», што напісана італьянцам Аляксандрам Гваньіні ў 1578 г., які быў на службе ў Віцебску. Вось што ён пісаў: «А ёсць Русь траякая: адна Белая, другая Чорная, трэцяя Чырвоная. Белая каля Кіева, Мазыра, Мсціслаўля, Віцебска, Оршы, Полацка, Смаленска і зямлі Северскай, якая здаўна належыць Вялікаму княству Літоўскаму.

Чорная ў Маскоўскай зямлі каля Белага возера і там усюды да Азіі. Чырвоная каля гор, якія называюцца Бескідамі... Пад тымі ж гарамі паветы: Галіцкі, Перамышльскі, Саноцкі, а ўсярэдзіне вядомы горад Львоў... Абмяжоўваецца зямля з поўдня Татрамі, ракою Днястром; з усходу ракою Танаісам (Дон.— *Я. Ю.*) і Перакопскаю зямлёю, з поўначы Літоўскаю зямлёю, а з захаду Польшчаю»[29].

Трэба адзначыць, што польскія гісторыкі ў XVI ст. не ведалі дакладна, дзе знаходзіцца Белая Русь. Так, вядомы польскі вучоны, былы рэктар Кракаўскага універсітэта Мацей Мяхоўскі, які выдаў у 1517 г. Трактат пра дзве Сарматыі, значнае месца адвёў апісанню Вялікага княства Літоўскага і Маскоўскай дзяржавы. Але ён усяго адзін раз успомніў пра Белую Русь, адзначыў-

---

[27] Белоруссия в эпоху феодализма (далей БЭФ). Мн., 1960. Т. 2. С. 35.

[28] *Потебня А.* Белая Русь // Живая старина. 1891. Вып. 3. С. 118.

[29] *Guagnini A.* Kronika Sarmacyej Europskiej. Krakow, 1611. Кн. 3. S. 13—14.




Карта сучаснай Беларусі

шы, што яна размешчана недзе між Аралам і Азоўскім морам [30]. Пра Чорную Русь ён зусім не ўспамінае. З гэтых выказванняў самых розных аўтараў можна зрабіць вывады: 1) найменне «Чорная Русь» ніколі не ўжывалася самім насельніцтвам Беларусі, не было яно вядома ў якасці этнаграфічнага тэрміна і бліжэйшым суседзям, а было выдумана іншаземцамі і ўжывалася да розных тэрыторый як абразлівая мянушка; 2) тэрмін «Белая Русь» таксама амаль не ўжываўся для вызначэння цяперашняй Беларусі, а ў асноўным быў як раўназначны тэрміну «Вялікая Русь». Такім чынам, нам неабходна ўстанавіць, як жа называлася насельніцтва Беларусі ў XIII—XVIII стст., г. зн. звыш 500 год.

---

[30] *Меховский Матвей.* Трактат о двух Сарматиях. М.; Л., 1936. С. 120.

У XI—XIII стст. насельніцтва цяперашняй Беларусі называлася паводле галоўнага горада тае ці іншае зямлі — дзяржавы. І таму ўсё насельніцтва падраздзялялася на палачан, віцяблян, берасцейцаў, слонімцаў, менян, случан, дручан, тураўцаў і г. д. Кожная зямля мела дзяржаўны суверэнітэт не толькі ва ўнутраных справах, але і ў знешніх сувязях, г. зн. была самастойнай.

Пасля злучэння ўсіх беларускіх земляў у складзе Вялікага княства Літоўскага насельніцтва Беларусі, акрамя мясцовых найменняў, называлі літвінамі, а беларускую зямлю — Літвою. Гэтае найменне ўжывалася як унутры дзяржавы, так і ў міжнародных пагадненнях. Напрыклад, у дагаворы Вялікага княства Літоўскага з Вялікім Ноўгарадам ад 1440 г. гаварылася: «Новгородцам из всее Новгородское волости торговати без пакости по всей Литовской земли. А мне, вел. кн. Казимиру, королевичу, блюсти новгородца, как и своего литвина, тако же и новгородцам блюсти литвина, как и своего новогородца... А рубеж Новгороду з Литвою по старому рубежу земли и воды, и с полочаны, и с витбляны, и с торопьчаны»[31]. Такое ж разуменне тэрміна «Літва» ў летапісах і ў іншых пісьмовых помніках. Так, у Баркалабаўскім летапісе расказваецца, што ў 1583 г. летам «великий жар был... все погорело у Литве, а звлаща около Менска»[32]. У спісе рускіх гарадоў, складзеным у канцы XIV або пачатку XV ст., такія беларускія гарады, як Слуцак, Гародня, Клецак, Крэва, Гальшаны, Друцак, Орша, Горваль, Лукомль, Лагойск, Полацк, Віцебск, Навагрудак, Барысаў, Ліда, Менск і інш., аднесены да літоўскіх гарадоў[33].

Гэтай жа тэрміналогіі прытрымліваліся і вучоныя таго часу. У кнізе Мацея Мяхоўскага ўся Беларусь называецца Літвою, а Украіна — Русіяй. У гэтай жа кнізе гаворыцца: «Ля Сармацкіх гор (Карпат.— *Я. Ю.*) жыве народ рускі... Ля гэтых жа гор знаходзяцца акругі — Галіцыйская... У кірунку да цэнтра Расіі ляжыць Львоўская зямля, а ў ёй добра ўмацаваны горад таго ж імя. Гэта сталіца Русіі. На поўнач ідуць акругі Холмская, Луцкая і Бельзенская... Абмежавана Русія — з поўдня Сармацкімі гарамі і ракою Тырасам, якую жыхары назы-

---

[31] Акты Западной России (далей АЗР). СПб., 1846. Т. 1. С. 52—53.

[32] Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры. Мн., 1959. С. 205.

[33] БЭФ. Мн., 1959. Т. 1. С. 112.

ваюць Дняcтрам; з усходу — Танаісам, Меацідамі (Азоўскім морам.— *Я. Ю.*) і Таўрыцкім востравам, з поўначы — Літвою, з захаду — Польшчаю. Вядомая рака Барысфен, якая называецца жыхарамі Дняпром, цячэ з Масковіі, праходзіць праз Літву і Русію» [34].

Літвою ў XVI—XVII стст. называлі Беларусь і самі беларусы. Так, Сымон Будны ў сваіх творах неаднаразова ўжываў такія выразы: «писано в Лоске, в Литве», «у нас в Литве, в Ивье» [35]. Афанасій Філіповіч у сваім палемічным творы «Дыярыуш» пісаў: «З Литвы, з манастыря Купятицкого, миля от Пинска лежачого» [36].

Літвою называлі Беларусь і ў Маскоўскай дзяржаве. Напрыклад, у паведамленні цару Івану IV аб прыездзе купцоў з Беларусі гаварылася, што прыехалі «из Литовское земли из города ис Кричева торговые люди» [37]. У другіх дакументах ёсць такія запісы: «Васька Рубцов ездил в Литовские городы в Витепск торговать... торговый человек Гриша Микулин ехал в Витепск с товаром, и как будет переехав рубеж по Витепской дороге, и тут де вышед из деревни литовские люди многие... на литовских на торговых людей на оршан» [38]. «А которые де, государь, Литовские городы по сю сторону Днепра и ис тех де, государь, Литовских городов из всех паны, и державцы, и урядники... все выбежали» [39].

У афіцыйных дакументах XVI—XVIII стст. апроч «Літвы» для ўсяе тэрыторыі Беларусі другога наймення наогул не існавала, і ўвесь народ называлі літвою. У нашай жа гістарычнай літаратуры да цяперашняга часу ігнаруюць гэта найменне народу, якое ён насіў больш чым 500 год. Так, сялян і гараджан Беларусі XIV—XVIII стст. называюць беларусамі, а феадалаў — літоўцамі, хоць і тыя і гэтыя стала жылі разам на адной і той жа зямлі, ужывалі адну і тую ж мову, мелі адны і тыя ж звычаі і права і жылі ў адной дзяржаве. Памылковасць такога падзелу будзе больш выразнаю, калі мы для параўнання ўспомнім пачатковую гісторыю Кіеўскай дзяржавы, у якой, паводле падання, княжылі прышлыя князі-варагі. Але нават самыя зацятыя нарманісты ні-

---

[34] *Меховский Матвей:* Трактат о двух Сарматиях. С. 95.

[35] Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии. Мн., 1962. С. 67, 74.

[36] *Коршунов А.* Афанасий Филиппович. Мн., 1965. С. 99.

[37] Русско-белорусские связи // Сб. документов. Мн., 1968. С. 11.

[38] Там жа. С. 27, 28.

[39] Воссоединение Украины с Россией. М., 1954. Т. 2. С. 24.

колі не адважваліся называць увесь клас феадалаў Кіеўскай дзяржавы шведамі-варагамі. Для Беларусі ж такі падзел народа лічыцца амаль заканамерным. Падзел найменняў беларускага народа ўзнік таму, што польскія і рускія буржуазныя гісторыкі, якія пісалі нам нашу гісторыю ў мінулым, не прызнавалі існавання беларускай народнасці і нацыі, і адны бачылі на гэтай зямлі толькі «польска-літоўскую шляхту», а другія — «заходнерускі народ».

Такая блытаніна ў тэрміналогіі вядзе да скажэння ўсяго гістарычнага працэсу развіцця беларускага народа, да замоўчвання яго багатай гісторыі. Таму ў цяперашні час наспела неабходнасць удакладніць нашу гістарычную тэрміналогію і адкінуць некаторыя застарэлыя трафарэты і схемы.

Вядома таксама, што нават у другой палове XIX ст., пад найменнем «Літва» разумелі як землі этнаграфічнай Літвы, так і землі, якія ўваходзілі ў склад былога Вялікага княства Літоўскага [40].

У сувязі з тым, што стваральнікам і асноваю Вялікага княства Літоўскага былі народы Беларусі і Літвы, і самую дзяржаву правільней было б у цяперашні час называць беларуска-літоўскай. Разам з тым трэба сказаць, што ў XVIII і асабліва ў першай палове XIX ст. усіх феадалаў-католікаў, а заадно і значную частку беларускіх сялян-католікаў сталі называць палякамі. У гэтым асабліва стараліся каталіцкія ксяндзы. Яны фактычна былі замежнымі агентамі і выконвалі ў Беларусі ролю ідэалагічных дыверсантаў, якія намагаліся ліквідаваць нацыянальную самасвядомасць беларускага народа. Пад уздзеяннем каталіцкай прапаганды і розных езуіцкіх хітрыкаў многія беларусы сталі і самі называць сябе палякамі, хоць змен у этнічным складзе насельніцтва Беларусі ні ў XVIII, ні ў XIX ст. не было. Не было таксама значнага перасялення народаў і раней, якое дало б падставу меркаваць аб зменах этнічнага складу насельніцтва.

Першае ўжыванне тэрміна «беларускі», якое паслужыла пачаткам этнаграфічнай назвы нашага народа, адносіцца да 1675 г., калі праваслаўны епіскап Феадосій, архімандрыт Слуцкага манастыра, атрымаў пацвярджальны прывілей на епіскапства Магілёўскае. У гэтым

---

[40] Słownik geograficzny Królewstwa polskiego i innych krajów słowiańskich. Warszawa, 1884. T. 5. S. 330.

прывілеі епіскап Феадосій быў упершыню тытулаваны як «беларускі», што паслужыла пачаткам афіцыйнага прыняцця гэтага тэрміна. Спачатку «беларускай» называлася толькі Магілёўская праваслаўная епархія, потым паступова гэтым тэрмінам называюць усе землі, на якія пашыралася ўлада магілёўскага епіскапа. Пасля далучэння ў 1772 г. паўночна-ўсходніх земляў Беларусі да Расіі гэта найменне набывае новае адміністрацыйна-геаграфічнае значэнне. Ім абазначаюць дзве новыя створаныя губерні: Пскоўскую (пасля пераўтвораную ў Полацкую) і Магілёўскую. Напрыклад, у пастанове сената ад 8 мая 1773 г. гаварылася: «...учредя с самого начала в присоединенных к Российской империи из польских земель двух новых белорусских губерниях»[41]. У снежні 1796 г. былі ўнесены змены ў адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел, паводле якога Полацкая і Магілёўская губерні былі пераўтвораны ў адну Беларускую губерню з цэнтрам у Віцебску. Віленская і Слонімская губерні былі пераўтвораны ў адну Літоўскую губерню з цэнтрам у Вільні. У склад Літоўскай губерні былі ўключаны наступныя паветы: Слонімскі, Наваградскі, Гарадзенскі, Ваўкавыскі, Лідскі, Берасцейскі, Кобрынскі, Пружанскі, Віленскі, Завілейскі, Троцкі, Браслаўскі, Ашмянскі і інш. З гэтага пераліку відаць, што нават у самым канцы XVIII і пачатку XIX ст. значная частка Беларусі афіцыйна называлася яшчэ Літвою.

Паступова з ростам нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа на працягу XIX ст. тэрмін «Беларусь» пачынае пашырацца на Менскую губерню і некаторыя паветы Віленскай, а потым і на Гарадзенскую. Пра маруднае распаўсюджанне новага тэрміна можа сведчыць той факт, што нават у 1918 г. Брэст называўся яшчэ Літоўскім.

У развіцці нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа выдатная роля належыць паўстанню 1863 г. пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага, якое ўскалыхнула грамадскую думку ў краіне і павысіла свядомасць усяго народа.

З 60-х гг. XIX ст. тэрмін «Беларусь» пачынае набываць сваё сучаснае этнаграфічнае значэнне. У развіцці і станаўленні гэтага тэрміна вялікая заслуга належыць нашым этнографам, мовазнаўцам, літаратарам і іншым грамадскім і культурным дзеячам Беларусі.

---

[41] БЭФ. Мн., 1961. Т. 3. С. 37.

## 3. Гістарыяграфія

### Зараджэнне прававых даследаванняў на Беларусі

Пачатковы этап асвятлення праблем дзяржаўнай палітыкі і права ў пісьмовых крыніцах Беларусі датычыцца паведамленняў, якія змяшчаюцца ў летапісах і хроніках. У іх асноўнае месца адводзілася князям, іх кіраўніцтву і войнам, якія вяліся ў розных напрамках. Прававы матэрыял сустракаецца радзей, бо ў той перыяд дзейнічала звычаёвае права, якое не заслугоўвала асаблівай увагі летапісца.

Нормы звычаёвага права цесна перапляталіся з рэлігійнымі вераваннямі і дагматамі царквы, а прадстаўнікі духавенства прымалі самы актыўны ўдзел у разглядзе судовых спраў. «Догматы царквы,— указваў Ф. Энгельс,— былі адначасова і палітычнымі аксіёмамі, а біблейскія тэксты атрымлівалі ва ўсякім судзе сілу закона» [42]. Таму і першыя друкаваныя кнігі ў Беларусі насілі рэлігійна-маралістычны характар. У іх выказваліся таксама меркаванні аб дзяржаве і праве.

Першымі кнігамі, надрукаванымі на беларускай мове, былі кнігі Бібліі, выдадзеныя выдатным асветнікам Францыскам Скарынаю з Полацка ў 1517 г. У гэтых кнігах Ф. Скарына змясціў прадмовы і пасляслоўі, у якіх выкладаў свае грамадска-палітычныя і прававыя ідэі. Ён лічыў, што з мэтай лепшага грамадскага ладу неабходна дабівацца, каб усё права ў цэлым і кожны закон паасобку былі добрапрыстойнымі, справядлівымі, магутнымі, неабходнымі, карыснымі, выдадзенымі ў адпаведнасці са звычаямі дадзенай зямлі, часам і месцам, яўнымі, не маючымі ў сабе двухсэнсавага значэння, і былі накіраваны на дасягненне агульнага дабрабыту, а не да выгады некаторых асоб. Для дасягнення гэтай мэты, на яго думку, неабходна, каб заканадаўства і ўсе паводзіны людзей будаваліся па прынцыпу: «То чинити иным всем, что самому любо ест от иных всех, и того не чинити иным, чего сам не хощеши от иных имети» [43]. Вылучэнне гэтых патрабаванняў, па-першае, зрывала покрыва святасці з права і, па-другое, наносіла ўдар па ўсім феадальным ладзе, бо феадалізм грунтаваўся менавіта на прывілеях для феадалаў і бяспраўным стано-

---

[42] *Маркс К., Энгельс Ф.* Соч. 2-е изд. Т. 7. С. 360.
[43] Францыск Скарына і яго час. Мн., 1988. С. 136.

вішчы асноўнай масы народа, а не на ўзаемнай павазе да людзей. Прынцып раўнапраўя разглядаўся ім як аснова дзейнасці судовых органаў. Ён лічыў, што суддзі павінны дзейнічаць не «яко цари или властели... но яко ровнии и товарищи, раду им даючи и справедливость межи ними чиняти ... да судять людей судом справедли-



Францыск Скарына

вым, и да не уклонятся ни на жадную страну, и да не зрять на лица, и не приймають даров, понеже дарове ослепяють очи мудрых людей и зменяють слова справедливых»[44]. На яго думку, крымінальныя законы выдаюцца з мэтаю не толькі пакарання злачынцы, але і папярэджання злачынстваў.

Аб стане дзяржавы і права пісалі найвыдатнейшыя беларускія гуманісты XVI ст. Міхалан Літвін (Міхайла Цішкевіч), Сымон Будны, Андрэй Волан і інш. У творы

---

[44] Там жа. С. 100.

Міхалана Літвіна «Аб норавах татар, літоўцаў і масквіцян», напісаным у сярэдзіне XVI ст., крытыкуецца феадальны грамадскі лад і феадальнае права. Абураючыся жорсткімі адносінамі феадалаў да сялян і чэлядзі нявольнай, Міхалан Літвін пісаў: «Татары пераўзыходзяць нас не толькі ўстрыманнем і разважнасцю, але і любоўю да бліжняга... А мы трымаем у няспынным рабстве людзей сваіх, здабытых не вайною і не куплей, якія належаць не да чужога, але да нашага племя і веры... у нас па ўсіх сёлах і вёсках робяцца прыгаворы аб жыцці людзей» [45].

Прагрэсіўны характар маюць і погляды аўтара па пытанню аб абавязках насельніцтва перад дзяржавай. Ён лічыў, што для дзяржаўнай карысці не трэба было б вызваляць феадалаў ад падаткаў, а, наадварот, асноўную масу падаткаў спаганяць з уладальнікаў маёнткаў і іншых асоб, якія валодаюць іншай маёмасцю, у залежнасці ад атрымліваемага імі даходу.

Будучы прыхільнікам прыватнай уласнасці, аўтар трактата падвергнуў крытыцы законы таго часу, па якіх сяляне і дробная служылая шляхта не мелі права распараджацца сваёй маёмасцю без дазволу свайго пана або прадстаўніка дзяржаўнай адміністрацыі. «Па гэтых законах нікому нельга нічога мець,— пісаў аўтар,— што не залежала б ад начальніка». Да таго ж вяльможы (паны) маюць звычай «прымяняць законы да сваіх выгад» [46].

Разбіраючы пытанні падсуднасці, Міхалан Літвін указваў на ненармальнасць такога становішча, калі злодзей, злоўлены на месцы злачынства, не судзіцца службовай асобай, якая знаходзіцца на той жа тэрыторыі, а адводзіцца «на суд да свайго пана, а часам да таго, у чый дом ён зносіў крадзенае. Несправядліва і тое, што бядняк, жадаючы паклікаць да суда магната, ні за якія грошы не знойдзе сабе адваката. Не менш несправядліва і тое, што сусед мой мацнейшы, які жыве ў адным са мною акалодку, мае іншую падсуднасць і не так лёгка заклікаецца да суда, як я» [47].

Рэзкай крытыцы ў творы падвяргалася каталіцкае духавенства, а таксама розныя забабоны і рэлігійныя

---

[45] Архив историко-юридических сведений, относящихся до России, издаваемый Н. Калачовым. Кн. 2, половина 2, отделение 5, сочинение Михалона Литвина. М., 1854. С. 47—49.

[46] Там жа. С. 41.

[47] Архив историко-юридических сведений... С. 37—39.

абрады. Асноўнай яго ідэяй з'яўляецца павага да чалавека, вызваленне людзей ад забабонаў, дурману, ад феадальнага прыгнечання і несправядлівасці. У гэтых адносінах трактат Міхалана Літвіна ўліваўся ў шырокі і магутны паток гуманізму, які, разліўшыся па Заходняй Еўропе, дасягнуў і Беларусі.

Ідэі гуманізму і Рэфармацыі ў Беларусі атрымалі шырокае распаўсюджанне ў другой палове XVI ст. Асабліва ярка яны былі выказаны ў працах віднага беларускага вучонага-рэфарматара Сымона Буднага. Грунтуючыся на хрысціянскай маралі, ён выступіў супраць феадальнай ідэалогіі, па якой просты народ разглядаўся як нейкая прыналежнасць паноў і панскага маёнтка, і імкнуўся даказаць, што ўсе людзі роўныя перад богам, а таму павінны быць роўныя і ў грамадстве і ў дзяржаве, хоць ён не адмаўляў грамадскай карысці дзяржаўных органаў і неабходнасці падпарадкавання у пэўных межах тым, хто мае ўладу. На яго думку, «улада — справа добрая, патрэбная і карысная», але носьбіт улады павінен імкнуцца не да асабістай карысці і задавальнення, а да дабрабыту ўсяго грамадства і дзяржавы, да задавальнення патрэб грамадзян зямель сваіх. Ён павінен сачыць за тым, каб бескарысныя трутні дарэмна хлеба не елі, а людзі бедныя і сіроты не пакутвалі ад галечы і не гінулі пад плотам ад голаду і холаду. Гасудар павінен быць чалавекам адукаваным і чытаць кнігі «старажытных і нестаражытных гісторыкаў, каб ведаць аб тым, што адбывалася ў старажытнасці, бо... той, хто не ведае, што адбывалася ў свеце ў мінулым, заўсёды застанецца юнаком»[48]. Іншыя службовыя асобы ў дзяржаве, лічыў С. Будны, гэтак жа павінны быць не менш богабаязнымі, справядлівымі, праўдзівымі і міласэрнымі, дасведчанымі ў законах. Усе гэтыя патрабаванні сведчаць аб ідэалагічнай барацьбе.

Значны ўплыў на развіццё прагрэсіўных, гуманістычных ідэй у галіне дзяржавы і права аказаў Андрэй Волан, які напісаў і апублікаваў каля 26 сваіх твораў. Грунтуючыся на натуральным праве чалавека, ён даказваў неабходнасць свабоды і роўнасці людзей. Забеспячэнне свабоды людзей, на яго думку, можа быць дасягнута толькі дзякуючы ўстанаўленню і захоўванню разумных законаў, заснаваных на прынцыпе: «Нікому не

---

[43] Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии. С. 76—77.

рабіць крыўды, кожнаму аддаць тое, што яму належыць»[49]. Галоўнай мэтай і назначэннем дзяржавы ён лічыў забеспячэнне спакойнага і шчаслівага жыцця людзей, іх абарону ад гвалту і грабяжоў, а сапраўды свабоднымі людзьмі, меркаваў ён, могуць быць грамадзяне толькі такой дзяржавы, у якой права ў роўнай ступені служыць усім. Але паколькі ў Вялікім княстве Літоўскім права абараняла ў асноўным інтарэсы класа феадалаў і саслоўя шляхты, то ён лічыў такую дзяржаву несправядлівай і падвяргаў крытыцы парадкі, пры якіх шляхціц, учыніўшы злачынства супраць простага чалавека, нёс лёгкае пакаранне або наогул не караўся, а просты чалавек, які толькі зняважыў шляхціца, караўся вельмі сурова. Па свайму сацыяльна-класаваму светапогляду А. Волан быў выразнікам інтарэсаў заможных мяшчан і сярэдняй шляхты, незадаволенай засіллем каталіцкага духавенства і буйных феадалаў. Яго выступленні і заклікі да роўнасці і свабоды ўсіх людзей не ішлі далей фармальнай роўнасці.

У XVI—XVIII стст. ідэі натуральнага права былі прыняты на ўзбраенне ідэолагамі капіталістычных адносін, якія зараджаліся і развіваліся. На Беларусі і ў Літве гэтыя ідэі даволі грунтоўна былі выкладзены ў кнігах Т. Млоцкага «Доказы пачаткаў натуральнага права» і І. Страйноўскага «Навука аб натуральным і палітычным праве, палітычнай эканоміі і праве народаў».

## Дваранская і буржуазная гістарыяграфія

Далучэнне Беларусі і Літвы да Расіі ў другой палове XVIII ст. стварыла спрыяльныя ўмовы для развіцця эканомікі і культуры. Развіццю юрыдычнай навукі садзейнічала пераўтварэнне ў 1803 г. Віленскай духоўнай акадэміі ва універсітэт і адкрыццё шэрагу ліцэяў, у якіх вялося выкладанне юрыдычных навук. Працы па юрыдычных навуках, якія выдаваліся ў Пецярбурзе, Маскве, Кіеве, Харкаве, Варшаве і іншых гарадах, атрымлівалі вядомасць і на Беларусі. Быў назапашаны дастатковы фактычны матэрыял і меліся добра падрыхтаваныя вучоныя. Тым самым у пачатку XIX ст. ужо была падрыхтавана глеба для навуковай распрацоўкі гісторыі права.

[49] Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии. Мн., 1973. С. 77.

Першым навуковым даследаваннем, прысвечаным гісторыі права Вялікага княства Літоўскага, была праца прафесара Крамянецкага ліцэя Т. Чацкага «Аб літоўскім і польскім праве, яго духу, крыніцах, сувязях і аб змесце першага Статута, выдадзенага для Літвы ў 1529 годзе», якая выйшла ў свет у двух тамах у Варшаве ў 1800—1801 гг. на польскай мове. Паўторна гэтая праца была апублікавана ў трохтомным зборы твораў Т. Чацкага ў 1844—1845 гг. і ў трэці раз — у 1861 г.

У звароце да чытачоў і ва ўводнай частцы першага тома аўтар прыводзіць агульны агляд гісторыі заканадаўства і спрабуе вызначыць крыніцы права Польшчы і Вялікага княства Літоўскага. Затым выкладае змест некаторых грамат (прывілеяў) Вялікага княства Літоўскага, разглядае парадак летавылічэння і манетна-грашовую сістэму. Асноўнае месца ў рабоце займаюць пераказ тэкста Статута 1529 г., вялікія каментарыі і гістарычныя даведкі да артыкулаў Статута.

Т. Чацкі першым падвергнуў крытыцы памылковыя погляды польскіх юрыстаў XVII—XVIII стст., якія, знаходзячыся пад уплывам каталіцкага духавенства, лічылі, што права Польшчы і Вялікага княства Літоўскага мела сваёй крыніцай рымскае права, і пачаў даследаванне права Вялікага княства Літоўскага ў яго гістарычным развіцці. Разам з тым ён зыходзіў з памылковай нарманскай тэорыі паходжання славянскіх дзяржаў і права, сцвярджаючы, што літоўскае права, якое змяшчаецца ў Статутах, мае сваёй крыніцай права, звычаі і традыцыі паўночных народаў і германцаў. Далей, ён лічыў, што ў сувязі з распаўсюджаннем польскай мовы на Беларусі, у Літве і на Украіне гэтыя тэрыторыі сталі польскімі. Гэтыя погляды, нягледзячы на іх ненавуковасць, працяглы час падтрымліваліся некаторымі польскімі буржуазнымі гісторыкамі, якія імкнуліся абгрунтоўваць прэтэнзіі польскай буржуазіі і памешчыкаў на беларускія, украінскія і літоўскія землі.

Тэндэнцыйныя і памылковыя сцвярджэнні Т. Чацкага падвергнуліся крытыцы ў працах рускіх і некаторых польскіх вучоных. Так, ужо ў 1816 г. С. Ліндэ выдаў у Варшаве кнігу «Аб Літоўскім Статуце, выдадзеным і апублікаваным на рускай мове», у якой даў аналіз мовы першапачатковых тэкстаў статутаў, іх гісторыю, параўнаў і выявіў памылкі ў польскіх перакладах. С. Ліндэ першым правільна ўказаў, што беларускі тэкст статутаў з'яўляецца сапраўдным, а польскія пераклады толь-

кі «прыватнай справай», якая змяшчае цэлы шэраг незразумелых або нават бессэнсоўных выразаў, прычым некаторыя нормы наогул супярэчаць арыгіналу. Кожная наступная публікацыя Статута на польскай мове змяшчае яшчэ больш памылак, бо да ранейшых прыбаўляліся новыя.

Памылковыя погляды Т. Чацкага аб запазычанні германскага права славянскімі народамі падвергнуў грунтоўнай крытыцы І. Б. Ракавецкі ў сваёй двухтомнай працы «Руская Праўда, або Права вялікага князя Яраслава», выдадзенай на польскай мове ў Варшаве, першы том — у 1820, другі — у 1822 г. На яго думку, падабенства нормаў славянскага права і права іншых народаў вынікае не з запазычання права, а з падобных умоў жыцця, якія параджаюць падобныя нормы. Другой прычынай падабенства нормаў ён лічыў паходжанне іх з агульных для некалькіх народаў крыніц. Ён меркаваў, што ўсе славянскія народы ў старажытнасці мелі адзіны зборнік прававых норм, які затым быў страчаны, але некаторыя яго нормы захаваліся ў «Рускай Праўдзе». Ён дапускаў таксама магчымасць рэцэпцыі асобных норм права аднымі народамі ў іншых. Галоўны яго вывад аб тым, што права славянскіх народаў мае сваёй крыніцай старажытныя народныя звычаі і правілы, паслужыў асновай для новага напрамку вывучэння гісторыі права ўсіх славянскіх народаў. Ён першым пачаў весці навуковыя даследаванні па параўнальнай гісторыі права славянскіх народаў. У гісторыі права І. Б. Ракавецкі бачыў сродак павышэння культуры народа і яго разумовага развіцця. Ён лічыў, што гісторыя прававой сістэмы народа (нацыянальнае права) з'яўляецца важным прадметам даследавання гісторыі разумовага развіцця чалавецтва, што не можа быць плённага і паспяховага вывучэння гісторыі права кожнага славянскага народа без вывучэння гісторыі права ўсіх славянскіх народаў як адзінага цэлага. Крытыка нарманскай тэорыі паходжання дзяржавы і права, даследаванне права славянскіх народаў на аснове звычаяў, рэлігіі, мовы і быту народа дазволілі яму распачаць справу вызвалення рускай гісторыка-прававой навукі з-пад прыгнёту нямецкай школы гісторыкаў права, якая адмаўляла нацыянальныя асновы развіцця славянскага права.

Метадалагічныя асновы даследавання прававых сістэм у іх узаемасувязі і гістарычным развіцці, пачатыя Т. Чацкім, С. Ліндэ і І. Ракавецкім, адлюстроўвалі новы

этап у грамадскім развіцці, выкліканы станаўленнем капіталістычных адносін у нетрах аджываючага феадалізму. Для абгрунтавання капіталістычных тэндэнцый неабходна было тэарэтычна аргументаваць працэс замены старых, феадальных, адносін новымі, капіталістычнымі. Выкананню гэтай задачы павінна была служыць гісторыя і тэорыя права. Пры дапамозе гісторыі права даказвалася непрыгоднасць феадальных норм права, іх часовы характар. Разам з тым гісторыя права была выкарыстана і для абароны феадалізму і старых грамадска-прававых адносін. Выразнікамі гэтага кансерватыўнага напрамку сталі прадстаўнікі т. зв. гістарычнай школы права, якая атрымала асаблівае развіццё ў Германіі. У Віленскім універсітэце ідэі прадстаўнікоў гістарычнай школы не атрымалі распаўсюджання, хоць прафесар Алоізій Капелі, які чытаў курс рымскага і кананіцкага права, знаёміў студэнтаў з працамі Густава Гуга і Фрыдрыха Савіньі — заснавальнікаў гэтай школы.

Дэмакратычна настроеныя студэнты ўспрымалі гісторыю права як доказ не застою, а развіцця грамадскіх адносін. У гэтай справе значная заслуга належыць аднаму з самых буйных спецыялістаў па гісторыі права Беларусі і Літвы Ігнату Мікалаевічу Даніловічу. У верасні 1814 г. ён пачаў выкладаць у Віленскім універсітэце мясцовае права і працаваў у спецыяльна створаным камітэце па кадыфікацыі мясцовага права. У красавіку 1830 г. ён запрашаецца ў Пецярбург для работы ў камісіі Сперанскага па складанню Звода мясцовых законаў Заходніх губерняў, які меркавалася ўключыць у звод законаў Расійскай імперыі. Пасля заканчэння гэтай работы І. Даніловіч атрымаў назначэнне ў Кіеўскі універсітэт дэканам нанава адкрываемага юрыдычнага факультэта, дзе займаў гэтую пасаду ў 1835 і 1836 гг., у 1839 г. ён пераводзіцца на работу ў Маскоўскі універсітэт. І. М. Даніловіч быў выдатным знаўцам усіх найважнейшых помнікаў права Беларусі і Літвы перыяду феадалізму. Ім былі выяўлены новая рэдакцыя Судзебніка 1468 г., спісы Статута 1529 г. на беларускай мове, Супрасльскі летапіс і напісана некалькі навуковых работ.

Глыбокія веды гісторыі права дапаўняліся ў І. Даніловіча веданнем дзеючага права Расіі і іншых дзяржаў, а яго навуковая захопленасць і любоў да гісторыі рабілі яго лекцыі любімым прадметам для многіх студэнтаў. У навуковых працах і лекцыях ён зыходзіў з

таго, што права Вялікага княства Літоўскага мела адзіную крыніцу са старажытнарускім правам.

Цікава адзначыць, што «Рускую Праўду» І. Даніловіч лічыў помнікам гарадскога права, якое не ахоплівала ўсіх бакоў народнага жыцця старажытнай Русі. М. Ф. Уладзімірскі-Буданаў, характарызуючы дзейнасць І. Даніловіча, указваў, што ён быў патрыётам Вялікага княства Літоўскага і «жадаў бы аднавіць да жыцця мову Статута 1588 г. ...З гэтага пункту гледжання Масква і Польшча былі для яго аднолькава чужыя і аднолькава блізкія як нацыі, што жылі па-суседству, і роднаскава блізкія як нацыі, што жылі па-суседству, і родныя. То быў рамантык чыстай вады; тагачасны агульнаеўрапейскі гістарычны рамантызм ён перавёў у жыццё асабістае»[50]. Падобнай думкі аб І. Даніловічу прытрымліваўся і М. Каяловіч, які пісаў: «Было ў Заходняй Расіі некаторы час, што тамашнія адукаваныя людзі ... спрабавалі самастойна зірнуць на сваю краіну ... Яны задумалі аднавіць у навуцы самастойнасць Заходняй Расіі ... Яны ўзялі старую ідэю палітычнай незалежнасці Літвы і меркавалі, што Заходняя Расія можа выпрацаваць гэтую самастойнасць пры той жа польскай цывілізацыі, але свабодна, натуральна без усякага гвалтоўнага падаўлення мясцовых народных асаблівасцей»[51]. Так гэта тэорыя выказваецца даволі прыкметна ў працах І. Даніловіча, Т. Нарбута і Я. Ярашэвіча. Іх заслугай з'яўляецца тое, што яны сабралі і аднавілі цэлы шэраг фактаў дзяржаўна-прававой гісторыі Беларусі і Літвы, паклалі пачатак асвятленню гістарычнай негрунтоўнасці аргументацыі польскай шляхецкай гістарыяграфіі, якая спрабавала гістарычна абгрунтаваць захопніцкія тэндэнцыі польскіх феадалаў у адносінах да Беларусі, Літвы і Украіны.

І. Даніловіч падтрымліваў ідэю І. Ракавецкага аб адзінстве славянскага права, хоць і не прызнаваў, што ў старажытнасці быў якісьці адзіны звод законаў для ўсіх славян. Навуковая заслуга І. Даніловіча заключаецца ў тым, што ён адкрыў і апублікаваў шэраг выключна важных помнікаў права і звярнуў увагу рускіх гісторыкаў права на неабходнасць усебаковага вывучэння гісторыі права Вялікага княства Літоўскага. І. Даніловіч пісаў: «Гісторыі ў сто разоў больш заслугоўвае

---

[50] Биографический словарь профессоров и преподавателей императорского университета св. Владимира. Киев, 1884. С. 166.

[51] *Коялович М.* Чтения по истории Западной России. СПб., 1884. С. 16—17.

ўдзячнасць той, хто выдае ў свет старыя акты і летапісы, чым той, хто складае гісторыю па гатовых кнігах. Колькі пазбеглі б мы памылак, калі б усе рукапісныя летапісы і акты народаў былі надрукаваны»[52].

Рамантыкі-летуценнікі, гісторыкі права пачатку XIX ст., І. Даніловіч, Я. Ярашэвіч, Т. Нарбут хоць і пісалі на польскай мове, але, будучы ўраджэнцамі Беларусі, крытычна адносіліся да пслькай шавіністычнай прапаганды ў гістарычнай навуцы. Разам з тым і яны прытрымліваліся выдуманай каталіцкім духавенствам легенды аб старажытнарымскім паходжанні літоўскага народа. Гэта легенда была патрэбна для таго, каб абгрунтаваць гістарычную залежнасць насельніцтва Беларусі і Літвы ад рымскай курыі.

Улічваючы памылкі І. Даніловіча, Я. Ярашэвіча і Т. Нарбута і станоўчае ў іх работах, мы з поўнай падставай цэнім іх як зачынальнікаў даследаванняў па гісторыі феадальнай дзяржавы і права Беларусі і Літвы. Першыя крытычныя заўвагі на іх працы з прычыны паходжання Вялікага княства Літоўскага і ролі ў ім каталіцкага духавенства былі выказаны ў працах О. В. Турчыновіча і М. О. Каяловіча.

Развіццё капіталістычных адносін, якое знішчыла прыгоннае права і выклікала правядзенне буржуазных рэформ у Расіі ў 60-х гг. XIX ст., садзейнічала ўздыму і ажыўленню даследаванняў па ўсіх навуках, у тым ліку і па гісторыі права. У вывучэнні гісторыі дзяржаўных устаноў і права Вялікага княства Літоўскага ганаровае месца належыць вучоным Кіеўскага, Маскоўскага і Пецярбургскага універсітэтаў. У Кіеўскім універсітэце дзякуючы працы Н. Д. Іванішава, Н. І. Кастамарава, В. Б. Антановіча, М. Ф. Уладзімірскага-Буданава і выпускнікоў гэтага універсітэта склалася асаблівая школа гісторыі дзяржавы і права. Вучоныя гэтай школы побач з даследаваннем пытанняў гісторыі рускага права шмат увагі надавалі гісторыі дзяржавы і права Вялікага княства Літоўскага.

Ідэалагічная барацьба дзвюх гістарычных школ у Расіі — заходнікаў і славянафілаў знайшла сваё адлюстраванне і ў навуцы гісторыі дзяржавы і права, хоць і не так выразна. Большасць кіеўскіх вучоных і выпускнікоў Кіеўскага універсітэта па цэламу шэрагу пытанняў

---

[52] *Данилович И.* О литовских летописях // Журн. м-ва нар. просвещения. 1840. № 11. С. 114.

прымыкала да славянафілаў, але разам з тым яны выпрацавалі свае канцэпцыі, якія характарызаваліся пазітыўным ідэалізмам. Яны падвергнулі крытыцы рэакцыйную сутнасць нямецкай гістарычнай школы права, паказалі памылковасць поглядаў польскіх гісторыкаў, якія лічылі права Беларусі, Украіны і Літвы польскім правам, выявілі рэакцыйны характар каталіцкай ідэалогіі і яе адмоўнае значэнне для развіцця культуры беларускага і ўкраінскага народаў. Галоўная заслуга прадстаўнікоў Кіеўскай школы гісторыі дзяржавы і права заключалася ў тым, што яны першымі пачалі вывучаць прававыя праблемы ў цеснай узаемасувязі з жыццём народа, надаўшы асаблівую ўвагу гісторыі ўкраінскага і беларускага народаў. Разам з тым яны абаранялі і падтрымлівалі царскае самадзяржаўе і праваслаўнае духавенства. Царызм яны паказвалі як выразніка і абаронцу інтарэсаў усяго насельніцтва.

Адным з самых буйных прадстаўнікоў Кіеўскай школы гісторыі права быў М. Ф. Уладзімірскі-Буданаў (1838—1916). Дзякуючы яго працам была пачата распрацоўка гарадскога права Беларусі, Украіны і Літвы, формы і віды сялянскага, царкоўнага і памешчыцкага землеўладання і зямельнага права, гісторыя сямейнага права Беларусі і Украіны. Акрамя таго, ім былі апублікаваны шматлікія прававыя акты, якія датычацца гісторыі Вялікага княства Літоўскага. Па сваіх перакананнях М. Ф. Уладзімірскі-Буданаў стаяў на пазіцыях прававога ідэалізму. Ён, напрыклад, сцвярджаў, што асноўнай прычынай заняпаду гарадоў Беларусі і Украіны ў XVII—XVIII стст. было нямецкае — магдэбургскае права, а сапраўдную прычыну — феадальны лад — ён у дадзеным выпадку ігнараваў. Пры аналізе крыніц права і прававых інстытутаў права Вялікага княства Літоўскага ён адносіў да агульнарускага права. Пры даследаванні прававога становішча асобных груп насельніцтва, асабліва сялян, ён зыходзіў з славянафільскай і нават панславянскай ідэі адзінства славян пад уладаю рускага цара.

Панславянская тэндэнцыя яшчэ больш ярка праявілася ў працах Ф. І. Леантовіча (1833—1911), які, скончыўшы Кіеўскі універсітэт, быў прафесарам Адэскага, а затым Варшаўскага універсітэтаў. Карыстаючыся параўнальна-гістарычным метадам, Ф. І. Леантовіч імкнуўся даказаць адзінства славянскага права і на прыкладзе сербска-харвацкай задругі абгрунтаваць тэорыю бяс-

класавага паходжання дзяржавы ў славянскіх народаў. У сваіх працах па гісторыі права Вялікага княства Літоўскага ў процілегласць польскім гісторыкам ён даказваў, што гэта права з'яўляецца рускім, а не польскім, і асноўнае насельніцтва Беларусі і Украіны трэба лічыць не палякамі, а рускімі. У свой універсітэцкі курс лекцый па гісторыі рускага права ён уключаў і гісторыю «літоўска-рускага» права.

Прадстаўнікамі Кіеўскай школы гісторыі права былі і выпускнікі Кіеўскага універсітэта, якія працавалі ў розных гарадах Расіі і працягвалі справу, пачатую В. Б. Антановічам і М. Ф. Уладзімірскім-Буданавым. Да іх ліку адносяцца М. А. Максімейка, І. А. Маліноўскі, М. В. Доўнар-Запольскі, Г. В. Дземчанка, Ф. В. Тараноўскі, М. Н. Ясінскі і іншыя вучоныя.

Значны ўклад у вывучэнне гісторыі дзяржавы і права Вялікага княства Літоўскага ўнеслі і прадстаўнікі гісторыка-юрыдычнай школы, якія галоўную ўвагу надавалі даследаванню гісторыі дзяржаўных органаў і права ў адрыве ад сацыяльна-эканамічных праблем. Галоўнымі прадстаўнікамі гэтага напрамку былі М. К. Любаўскі, І. І. Лапо, С. А. Бяршадскі.

М. К. Любаўскі першым у рускай буржуазнай гісторыка-прававой навуцы зрабіў спробу напісаць гісторыю Вялікага княства Літоўскага з асвятленнем прававога становішча саслоўяў і асобных груп насельніцтва. На думку М. К. Любаўскага, «Заходняя Русь», увайшоўшы ў склад Вялікага княства Літоўскага, «не толькі не губляла сваёй гістарычнай спадчыны, але і перадавала яе пануючай зямлі, якая сама ў многім будавалася па ўзорах гэтай Русі» [53].

Рускія буржуазныя гісторыкі, якія займаліся гісторыяй Вялікага княства Літоўскага, разглядалі гэтую дзяржаву як прамы працяг і далейшае развіццё гісторыі Кіеўскай Русі. Тэарэтычныя канцэпцыі буржуазных гісторыкаў права грунтаваліся на неабходнасці павольнага эвалюцыйнага змянення права ў адпаведнасці з патрэбнасцямі часу. Так, І. А. Маліноўскі лічыў, што асноўнымі законамі гістарычнага развіцця з'яўляюцца: 1) закон паслядоўнасці развіцця, якім адмаўляюцца рэвалюцыйныя змяненні, і 2) закон паступовасці, у сілу якога ў кожнай гістарычнай эпосе назіраюцца, побач з

---

[53] *Любавский М. К.* Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. 2-е изд. М., 1915. С. 1.

рысамі, якія яе характарызуюць, т. зв. «перажыванні» мінулага і зародкі будучыні. «Паступовасць гістарычнага развіцця, на яго думку, выключае магчымасць скачкоў у гісторыі» [54].

Некаторыя рускія буржуазныя гісторыкі ў другой палове XIX і пачатку XX стст. пачалі займацца не наогул гісторыяй Вялікага княства Літоўскага, а гісторыяй беларускага народа, яго культурай і палітычным ладам. Першымі такімі працамі былі «Агляд гісторыі Беларусі са старажытнейшых часоў» (СПб., 1857) О. В. Турчыновіча, «Лекцыі па гісторыі Заходняй Расіі» (СПб., 1884) М. О. Каяловіча, шэраг артыкулаў і зборнікаў, падрыхтаваных А. П. Сапуновым. Структура феадальнай гаспадаркі на Беларусі і павіннасці сялян атрымалі асвятленне ў працах М. В. Доўнар-Запольскага і В. І. Пічэты. Яны на падставе аналізу вялікай колькасці гістарычнага матэрыялу даследавалі маёмаснае і прававое становішча класаў, саслоўяў і розных сацыяльных груп насельніцтва. Акрамя таго, у іх працах атрымалі асвятленне і некаторыя палітычныя падзеі ў жыцці беларускага народа.

Сістэматычнае выкладанне гісторыі Вялікага княства Літоўскага ад яго ўзнікнення да Люблінскай уніі 1569 г., дадзена ў «Лекцыях па рускай гісторыі» А. Е. Праснякова, якія ён чытаў у 1908/09 навуч. г. у Пецярбургскім універсітэце, другі том якіх прысвечаны гісторыі Заходняй Русі і Літоўска-Рускай дзяржавы. Заслугай аўтара з'яўляецца тое, што ён здолеў убачыць шматплямённы склад насельніцтва Вялікага княства Літоўскага і пастараўся вызначыць ролю кожнай народнасці ў гэтай дзяржаве, паказаў палітычную раз'яднанасць асобных земляў і з гэтага пункту гледжання асвятліў палітычны лад. Гаворачы аб утварэнні Вялікага княства Літоўскага, А. Е. Праснякоў адзначаў, што яно было створана на беларускай тэрытарыяльнай, этнаграфічнай і культурнай аснове. Такая трактоўка карэнным чынам разыходзілася з поглядамі польскіх і рускіх буржуазных гісторыкаў. Разам з тым і А. Е. Праснякоў недаацэньваў эканамічны фактар і значэнне класавай барацьбы ў развіцці палітычных установ і права, перабольшваў ролю шляхты ў гістарычным працэсе.

Побач са значнымі ідэйнымі і метадалагічнымі па-

---

[54] *Малиновский И. А.* Лекции по истории русского права. Ростов н/Д., 1916. С. 6.

мылкамі працы рускіх буржуазных вучоных змяшчаюць каштоўны фактычны матэрыял, што дазволіла ім вырашыць цэлы шэраг выключна важных прыватных пытанняў. Так, яны на аснове аналізу велізарнага фактычнага матэрыялу даказалі наяўнасць генетычнай сувязі права Вялікага княства Літоўскага са старажытнарускім правам, даследавалі структуру і кампетэнцыю вышэйшых і мясцовых дзяржаўных органаў, звярнулі ўвагу на неабходнасць вывучэння гістарычнага развіцця норм крымінальнага, грамадзянскага і працэсуальнага права. Яны паказалі рэакцыйны характар дзейнасці на Беларусі і ў Літве каталіцкага духавенства. Разам з тым даследаванні гэтых гісторыкаў не будаваліся на базе сацыяльна-эканамічных адносін, ігнаравалі класавую барацьбу, не раскрывалі сапраўдных прычын змянення дзяржаўна-прававой надбудовы. Гісторыя народа ў іх падмянялася гісторыяй пануючай дынастыі або пануючага класа і саслоўя.

### Польская гістарыяграфія

Гісторыі дзяржавы і права Вялікага княства Літоўскага значная ўвага надавалася ў працах польскіх шляхецкіх і буржуазных гісторыкаў і юрыстаў. Адным з першых польскіх гісторыкаў, які займаўся гісторыяй Вялікага княства Літоўскага, быў Адам Нарушэвіч. Ён напісаў «Гісторыю польскага народа», «Гісторыю Яна Карла Хадкевіча, ваяводы віленскага, вялікага гетмана Вялікага княства Літоўскага» і шэраг іншых даследаванняў, у якіх паспрабаваў асвятліць мінулае, знайсці прычынную сувязь гістарычных падзей, паказаць перавагі моцнай каралеўскай улады. Значны ўплыў на развіццё польскай навукі гісторыі дзяржавы і права аказаў Іахім Лялевель, які чытаў курс лекцый па ўсеагульнай гісторыі, гісторыі Польшчы і Вялікага княства Літоўскага ў Віленскім універсітэце ў 1815—1818 і 1822—1824 гг. Ён адным з першых паказаў непарыўную сувязь палітычнага ладу і права з агульнай гісторыяй народа, звярнуў увагу на значэнне класавай барацьбы ў жыцці народа. Аб працах І. Лялевеля ў гэтай частцы К. Маркс пісаў: «Сваім старанным даследаваннем эканамічных умоў, якія ператварылі польскага селяніна са свабоднага ў прыгоннага, стары Лялевель зрабіў значна больш для высвятлення прычын заняволення сваёй радзімы,

чым цэлы сонм пісьменнікаў, увесь багаж якіх зводзіцца проста да лаянкі ў адрас Расіі»[55].

Капітальнае даследаванне па параўнальнай гісторыі права славянскіх народаў ажыццявіў Вацлаў Аляксандр Мацееўскі, які напісаў некалькі работ па гісторыі дзяржавы і права Польшчы, Вялікага княства Літоўскага і Старажытнай Русі. Сярод іх найбольшае значэнне мелі «Гісторыя славянскіх заканадаўстваў», «Польшча і Русь да першай паловы XVII ст., іх быт і звычаі», «Пачатковая гісторыя Польшчы і Літвы».

Для вывучэння гісторыі права найбольшую цікавасць мае «Гісторыя славянскіх заканадаўстваў», першае выданне якой выйшла ў чатырох тамах у 1832—1835 гг., другое — у шасці тамах у 1856—1865 гг. Аўтар лічыў, што ніводзін славянскі народ не зразумее сутнасці айчыннага права, калі добра не разбярэцца ў праве іншых славянскіх народаў.

Разглядаючы пытанне аб паходжанні органаў дзяржаўнай улады, В. А. Мацееўскі лічыў, што ў славянскіх народаў да распаўсюджвання хрысціянства існавала народаўладдзе ў форме народных вечавых сходаў, дзе кожны здольны насіць зброю быў паўнапраўным членам народнага сходу і прымаў удзел у вырашэнні ўсіх найбольш важных агульнанародных спраў. Зыходзячы з ідэі адзінства права славянскіх народаў, ён, у процілегласць І. Б. Ракавецкаму, асноўную ўвагу ўдзяляў польскаму праву, а права іншых славянскіх народаў выкарыстоўваў толькі для лепшага тлумачэння польскага права, якое, на яго думку, было найбольш дасканалым і чыстым славянскім правам. Акрамя таго, пад уплывам шавіністычных тэндэнцый ён атаясамліваў права Вялікага княства Літоўскага з польскім правам. Таму, вывучаючы яго працы, трэба мець на ўвазе, што пад польскім правам ён разумеў і права Беларусі, Украіны і Літвы. Разам з тым, гаворачы аб Статутах Вялікага княства Літоўскага, В. А. Мацееўскі ўказваў, што яны аказаліся справай недасягальнай для Польшчы і занялі ганаровае месца ва ўсім славянскім заканадаўстве.

В. А. Мацееўскі значна развіў і ўдасканаліў параўнальны метад вывучэння гісторыі права, прапанаваў новую перыядызацыю гісторыі права, увёў у навуковы ўжытак цэлы шэраг забытых помнікаў права, садзейнічаў інтэнсіфікацыі вывучэння гісторыі права славян-

---

[55] *Маркс К., Энгельс Ф.* Соч. Т. 12. С. 435.

скіх народаў. Яго працы былі перакладзены ў Расіі, Францыі, Германіі, Аўстра-Венгрыі. Дэмакратычныя колы Польшчы і іншых краін віталі з'яўленне яго «Гісторыі славянскіх заканадаўстваў», рэакцыйна-клерыкальныя — выступілі з нападкамі. Гэта праца была ўключана Ватыканам у індэкс кніг, якія было забаронена чытаць усім католікам. Тым самым Ватыкан яшчэ раз адкрыта выступіў як вораг славянскіх народаў і вораг навукі.

Разам з тым у «Гісторыі славянскіх заканадаўстваў» сустракаліся істотныя памылкі. Аўтар зыходзіў з ідэалістычных перадумоў паходжання і развіцця права, з рэакцыйных палажэнняў гістарычнай школы права, некрытычна аднёсся да некаторых крыніц. Аднак пры ўсіх недахопах гэта праца аказала станоўчы ўплыў на развіццё навукі гісторыі дзяржавы і права не толькі Польшчы, але і суседніх народаў.

У канцы XIX і пачатку XX стст. пасля некаторага спаду ў польскай буржуазнай гісторыка-прававой літаратуры актывізаваліся даследаванні па гісторыі права Вялікага княства Літоўскага. У сваёй большасці гісторыкі права разглядалі заканадаўства народаў Беларусі, Літвы і Украіны як частку права Польшчы. Асаблівую цікавасць маюць працы А. Лявіцкага, Ю. Вольфа, О. Галецкага, А. Ябланоўскага, Е. Язерскага, В. Камянецкага, Л. Калянкоўскага, А. Прахазкі.

Выдатнае становішча сярод польскіх буржуазных гісторыкаў права займаў Станіслаў Кутшэба (1876—1946), які, абапіраючыся на даследаванні сваіх папярэднікаў, асабліва рускіх гісторыкаў права, па-новаму асвятліў гісторыю дзяржавы і права Вялікага княства Літоўскага. Другі том сваёй капітальнай працы «Нарысы гісторыі дзяржаўнага ладу Польшчы» ён поўнасцю прысвяціў гісторыі дзяржаўных органаў і права Вялікага княства Літоўскага. Ён адным з першых польскіх буржуазных гісторыкаў даследаваў дзяржаўныя ўстановы і права ў сувязі з грамадскім ладам і класавай структурай грамадства, хоць і перабольшваў ролю ідэй. Гісторыю Вялікага княства Літоўскага ён апісваў да 1791 г., тым самым лічачы, што і пасля Люблінскай уніі Вялікае княства не злілося з Польшчай, а працягвала існаваць як суб'ект дзяржаўна-прававых адносін. Адзін з раздзелаў кнігі названы: «Дзяржаўна-прававыя адносіны Літвы да Кароны ў 1569—1791 гг.», што само па сабе было ўжо новым у польскай гісторыка-прававой

літаратуры. У гэтай жа рабоце дадзены кароткі агляд і характарыстыка асноўных крыніц права. Так, гаворачы аб Статутах 1529 і 1566 гг., аўтар указваў, што яны раўняюцца або нават перавышаюць заходнееўрапейскія помнікі кадыфікацыі велічынёй праблем, якія знайшлі ў іх вырашэнне, ва ўмовах больш цяжкіх, чым на Захадзе.

Больш поўны аналіз крыніц права Вялікага княства Літоўскага С. Кутшэба даў у спецыяльным даследаванні «Гісторыі крыніц старога польскага права», у якім змяшчаецца аналіз асноўных крыніц права Вялікага княства Літоўскага, а таксама крыніц царкоўнага, гарадскога і яўрэйскага права, нормы якіх дзейнічалі і на тэрыторыі Беларусі і Літвы. Значную цікавасць маюць работы С. Кутшэбы аб уніях Вялікага княства Літоўскага з Польшчай, а таксама выдадзеныя ім сумесна з В. Сямковічам «Акты уніі Польшчы з Літвой». Адзначаючы буйны ўклад С. Кутшэбы ў даследаванне гісторыі права Беларусі і Літвы, трэба адзначыць, што ён у сваіх працах не заўважаў беларускага народа, не жадаў ужываць назву «Беларусь» нават у працах, апублікаваных ім пасля 1919 г., г. зн. пасля абвяшчэння Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

Падобныя адносіны да Беларусі праяўлялі і іншыя польскія буржуазныя гісторыкі права, працы якіх былі апублікаваны ў 1920—1939 гг. У гэты перыяд быў выдадзены шэраг работ аб уніях Вялікага княства Літоўскага з Польшчай, аб Статутах, аб працэсуальным і судовым праве Вялікага княства. Ад гэтай памылковай традыцыі адным з першых польскіх гісторыкаў права адышоў Ян Адамус, які ў рабоце «Аб праблемах літоўскага права», апублікаванай у 1926 г., указваў, што права Вялікага княства Літоўскага склалася з права трох народаў: беларускага, украінскага і літоўскага.

Характэрнай рысай большасці даследаванняў польскіх буржуазных гісторыкаў права былі абмежаванасць праблем дзейнасцю князёў і каралёў, уніямі Вялікага княства Літоўскага з Польшчай, а з помнікаў права даследаваліся толькі статуты. Яны перабольшвалі ролю шляхты ў палітычным жыцці дзяржавы і ідэалізавалі шляхецкую дэмакратыю. Некаторыя польскія буржуазныя гісторыкі імкнуліся даказаць палітычную адсталасць народаў Беларусі, Украіны і Літвы, якія нібыта запазычвалі палітычныя ўстановы і права Польшчы і ў сілу гэтага сталі часткай самой Польшчы, тым самым

гістарычна абгрунтоўваліся «правы» польскіх памешчыкаў і буржуазіі на захоп тэрыторый былога Вялікага княства Літоўскага.

Даследаваннем праблем гісторыі дзяржавы і права Вялікага княства Літоўскага займаюцца вучоныя Польскай Рэспублікі. Іх працы характарызуюцца глыбокім веданнем крыніц і змяшчаюць новыя навуковыя канцэпцыі, што абвяргаюць старыя палажэнні буржуазных вучоных. Гэта датычыцца ў першую чаргу такіх капітальных даследаванняў, як шматтомная «Гісторыя Польшчы» і двухтомная «Гісторыя дзяржавы і права Польшчы да 1795 года». Пільнай увагі заслугоўваюць таксама працы асобных польскіх вучоных, асабліва Юліуша Бардаха. У яго кнігах «Даследаванні грамадскага ладу і права Вялікага княства Літоўскага XIV—XVII стагоддзяў» і «Аб старажытнай і нестаражытнай Літве» дадзены аналіз крыніц права Вялікага княства Літоўскага, разгледжаны пытанні аб класавым складзе Літвы, Украіны і Беларусі, аб праве ўласнасці, шлюбнасямейным праве. У артыкуле «Літоўскія статуты — помнікі права эпохі Адраджэння» Ю. Бардах прааналізаваў крыніцы статутаў, іх асноўны змест і ўплыў на правы суседніх дзяржаў. У яго манаграфіі «Вацлаў Аляксандр Мацееўскі і яго сучаснікі» прыведзены новыя звесткі аб навуковай дзейнасці В. Мацееўскага і І. Даніловіча, аб уплыве прац В. Мацееўскага на развіццё навукі гісторыі права ў Расіі.

Агульная тэорыя і гісторыя паходжання дзяржаў у народаў Усходняй Еўропы асветлена ў працах Г. Лаўмянскага «Даследаванне пачаткаў літоўскага грамадства і дзяржавы», «Праблема ролі нарманаў ва ўтварэнні славянскіх дзяржаў», «Пачаткі Польшчы». У гэтых работах дадзена крытыка нарманскай тэорыі паходжання славянскіх дзяржаў, паказаны эканамічныя, класавыя і этнічныя перадумовы ўтварэння дзяржаў у славянскіх народаў. Некаторыя пытанні гісторыі Вялікага княства Літоўскага асветлены ў рабоце Е. Ахманьскага «Гісторыя Літвы».

Кароткі агляд найважнейшых работ польскіх гісторыкаў і гісторыкаў права дазваляе зрабіць выснову аб тым, што іх працы ў значнай ступені садзейнічаюць вывучэнню гісторыі феадальных органаў дзяржаўнай улады і права Беларусі, Украіны і Літвы.

## Савецкая гістарыяграфія

У першыя гады Савецкай улады перад вучонымі-прававедамі нашай рэспублікі стаяла першачарговая задача падрыхтоўкі кваліфікаваных юрыстаў для практычнай работы ў судзе, пракуратуры і іншых савецкіх органах, а навуковая распрацоўка гісторыі адсоўвалася на другі план. Але нават у той час, разумеючы неабходнасць і значнасць вывучэння гісторыі культуры народа, нашы гісторыкі і гісторыкі права выканалі шэраг фундаментальных даследаванняў па гісторыі дзяржаўных органаў і феадальнага права.

Адным з першых вучоных у Беларускай ССР, які пачаў выкананне гэтай задачы, быў выдатны савецкі гісторык, першы рэктар Беларускага дзяржаўнага універсітэта акадэмік Уладзімір Іванавіч Пічэта. Ён стаў займацца гісторыяй Беларусі ў Маскоўскім універсітэце пад кіраўніцтвам М. К. Любаўскага. Асноўным прадметам яго даследаванняў былі сацыяльна-эканамічныя з'явы, пытанні землеўладання і землекарыстання. Ён напісаў некалькі выключна каштоўных работ па агульнай гісторыі і гісторыі права, усяго 482 назвы.

У работах У. І. Пічэты па гісторыка-прававых праблемах дадзены глыбокі аналіз прававога становішча насельніцтва і прававых адносін у грамадстве. Ім былі падрыхтаваны абагульняючыя працы па гісторыі беларускага народа «Гісторыя Беларусі», «Гісторыя сельскай гаспадаркі і землеўладання ў Беларусі». Для гісторыі права Беларусі маюць асаблівую каштоўнасць яго даследаванні, спецыяльна прысвечаныя пытанням гісторыі права. Хоць такіх работ параўнальна нямнога, аднак іх значэнне выключна вялікае, паколькі імі пакладзены пачатак савецкай навукі гісторыі права ў Беларусі.

У сваіх даследаваннях па гісторыі феадальнага права Беларусі У. І. Пічэта грунтоўна прааналізаваў публікацыі, што былі да таго часу, і выявіў памылковыя канцэпцыі буржуазнай навукі гісторыі права, якая не надавала дастатковай увагі гісторыі беларускага права. Навуковыя працы У. І. Пічэты па гісторыі Беларусі і па гісторыі права не страцілі свайго значэння і ў цяперашні час. Асабліва значную цікавасць маюць яго працы па сацыяльна-прававой гісторыі сельскага насельніцтва Беларусі.

Агульныя пытанні феадальнага права Беларусі асвят-

ляліся ў рабоце Усевалада Макаравіча Ігнатоўскага «Кароткі нарыс гісторыі Беларусі», першае выданне якой выйшла ў свет у перыяд замежнай інтэрвенцыі ў Беларусі ў 1918 г. Яна ставіла сабе за мэту барацьбу з белапольскай прапагандай, што імкнулася «гістарычна» абгрунтаваць прэтэнзіі польскіх памешчыкаў і буржуазіі на тэрыторыю Беларусі. Кніга служыла першым вучэбным дапаможнікам па гісторыі Беларусі. Асобныя раздзелы яе былі прысвечаны гісторыі ўтварэння Вялікага княства Літоўскага, уніі яго з Польшчай, міжнародным сувязям, прававым актам, сацыяльнаму складу і прававому становішчу насельніцтва, органам улады. Аўтар імкнуўся ахапіць усе бакі народнага жыцця, паказаць, што менавіта народ, а не князі і каралі, з'яўляецца творцам гісторыі, творцам дзяржавы і права, а таму ніякіх правоў у белапольскіх акупантаў на Беларусь не было і быць не можа.

Кароткі пераказ асноў феадальнага права Вялікага княства Літоўскага ў савецкай гісторыка-прававой літаратуры быў упершыню ажыццёўлены С. В. Юшковым у 1940 г. у яго падручніку «Гісторыя дзяржавы і права СССР». З тае пары ва ўсіх падручніках па гісторыі дзяржавы і права СССР у адпаведных раздзелах асвятляюцца асноўныя моманты гісторыі феадальнага права Беларусі і Літвы. У падручніку С. В. Юшкова гэты раздзел называецца «Грамадска-палітычны лад і права Літоўскай дзяржавы», такая ж назва захавана і ў падручніку, выдадзеным калектывам аўтараў пад рэдакцыяй праф. К. А. Сафроненкі (М., 1967). Трэба прызнаць такую назву недакладнай. Па-іншаму вырашылі гэта пытанне аўтары падручніка па гісторыі дзяржавы і права СССР, выдадзенага ў 1988 г. пад рэдакцыяй Ю. П. Цітова. Яны ўключылі дзве главы, у якіх паасобна выкладаецца феадальнае права Беларусі і Літвы. Да агульных нарысаў трэба аднесці і брашуру А. В. Сурылава «Грамадска-палітычны лад і права Вялікага княства Літоўскага» (Кішынёў, 1961). У ёй коратка разглядаюцца асноўныя моманты гісторыі Вялікага княства Літоўскага і даецца агульная характарыстыка найважнейшых крыніц права.

Праблеме ўтварэння Вялікага княства Літоўскага і ўваходжання ў яго беларускіх княстваў прысвечана кніга В. Т. Пашуты «Утварэнне Літоўскай дзяржавы» (М., 1959), у якой аўтар указвае, што Вялікае княства Літоўскае ўтварылася ў выніку пагаднення феадалаў

Аукштайціі з феадаламі значна больш развітай Беларусі. У 1972 г. выйшла ў свет кніга «Шляхі развіцця феадалізму», дзе В. Т. Пашута крыху ўдакладняе раней выказаную думку і гаворыць не толькі пра баяраў, але і пра больш поўны беларуска-літоўскі грамадскі сінтэз як аснову Вялікага княства Літоўскага.

Даследаванню гісторыі дзяржавы і права Беларусі эпохі феадалізму прысвечаны працы Я. А. Юхо. У 1967 г. у Маскоўскім дзяржаўным універсітэце быў выдадзены падручнік па гісторыі дзяржавы і права СССР. У главе дзесятай, напісанай І. А. Юхо, выкладаюцца асновы грамадска-палітычнага ладу і права Вялікага княства Літоўскага. Ім жа выдадзена манаграфія «Правовое положение населения Белоруссии в XVI в.» (Мн., 1978), у якой разглядаецца сацыяльна-прававое становішча насельніцтва Беларусі, яго розных класаў, саслоўяў і груп; найбольш важныя крыніцы права — граматы, Статуты; асноўныя палажэнні крымінальнага, грамадзянскага і шлюбна-сямейнага права судовага ладу. Ён таксама апублікаваў артыкулы ў часопісах і зборніках.

Даследаванне грамадска-палітычнай думкі і прававых ідэй XVI—XVIII стст. праводзілі Н. А. Алексютовіч, Э. К. Дарашэвіч, С. А. Падокшын, Е. С. Пракошына, С. Ф. Сокал, І. А. Юхо і іншыя вучоныя. У выніку іх прац выдадзены калектыўныя манаграфічныя даследаванні «Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии» (1962), «Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии (1973), «Идеи гуманизма в общественно-политической и философской мысли Белоруссии» (1977), «Францыск Скарына і яго час» (1988), Энцыклапедычны даведнік і манаграфіі С. Ф. Сокала «Политическая и правовая мысль в Белоруссии XVI — первой половине XVII в.» (Мн., 1984) і «Социологическая и историческая мысль в Белоруссии во второй половине XVI века» (Мн., 1974), Э. К. Дарашэвіча «Философия эпохи просвещения в Белоруссии» (Мн., 1971), В. В. Дуброўскага «Казимир Нарбут» (Мн., 1979), С. А. Падокшына «Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы» (Мн., 1970). Значная колькасць артыкулаў па гісторыі дзяржавы і права змешчана ў 12-томнай Беларускай Савецкай Энцыклапедыі.

Даследаванню крыніц права Вялікага княства Літоўскага прысвечаны працы В. Андруліса, С. Вансявічуса, Э. Гудавічуса, С. Лазуткі, В. Раудзелюнаса,

Ю. Юргініса, М. Ючаса, К. Яблонскіса. Асаблівай увагі заслугоўвае выданне «Першага Літоўскага Статута» ў дзвюх частках пад рэдакцыяй С. Лазуткі і Э. Гудавічуса (Вільнюс, 1983—1985). У першай частцы даследуюцца характэрныя асаблівасці рукапісных спісаў Статута, у другой — змешчаны факсімільна надрукаваныя тры рукапісныя спісы Статута 1529 г.

Аналізу прававога становішча сельскага насельніцтва Беларусі прысвечаны працы А. Бурдзейкі, Т. Забелы, Д. Л. Пахілевіча, Н. Н. Улашчыка, П. Г. Казлоўскага. У іх работах разглядаюцца эканамічныя і прававыя адносіны сельскага насельніцтва Беларусі ў XV—XVII стст.

Эканамічнаму стану гарадоў і прававому становішчу гарадскога насельніцтва Беларусі XV—XVII стст. прысвечаны манаграфіі і артыкулы З. Ю. Капыскага, Л. С. Абецэдарскага, А. П. Грыцкевіча, А. П. Ігнаценкі і іншых гісторыкаў. У гэтых работах асвятляецца класавая структура гарадскога насельніцтва, састаў і кампетэнцыя кіравання ў гарадах Беларусі, узаемаадносіны паміж войтам, бурмістрамі, радцамі і гарадскім насельніцтвам.

Даследаванне крыніц і асобных галін феадальнага права Беларусі ў савецкай гісторыка-прававой літаратуры не атрымала належнага развіцця і прадстаўлена толькі нешматлікімі кнігамі і артыкуламі. Сярод іх у першую чаргу трэба адзначыць работу А. Л. Харашкевіч «Полацкія граматы XIII — пачатку XVI стст.» (М., 1977—1982), артыкулы У. І. Пічэты «Вывучэнне Літоўскіх Статутаў у найноўшай гісторыка-юрыдычнай літаратуры (1918—1940)» і «Літоўскі Статут 1529 г. і яго крыніцы». У першым з гэтых артыкулаў аўтар падвяргае абгрунтаванай і пераканаўчай крытыцы погляды польскіх буржуазных гісторыкаў права на крыніцы Статутаў і дае кароткі агляд публікацый да 1940 г. У другім асвятляецца гісторыя кадыфікацыі права Вялікага княства Літоўскага да 1529 г., даецца агульная характарыстыка Статута 1529 г. і ўказваецца, што ён з'яўляецца адначасова і «асноўным законам Вялікага княства Літоўскага», які вызначае яго дзяржаўны лад і сацыяльную будову. Хоць у артыкуле і няма адказу на пытанне аб крыніцах Статута, аднак аўтар даў метадалогію, намеціў шляхі вырашэння гэтай праблемы і паставіў шэраг пытанняў, якія дапамогуць будучым даследчыкам Статута 1529 г.

Гістарыяграфіі гарадскога права прысвечаны артыкул В. Дружчыца «Беларускія месты ў гістарычнай літаратуры» (Мн., 1927), у якім дадзены крытычны агляд літаратуры аб беларускіх гарадах і гарадскім праве.

Праблемам кадыфікацыі феадальнага права Украіны прысвечана манаграфія А. П. Ткача «Історія кодифікації дореволюційного права України» (Київ, 1968), у якой асвятляюцца і некаторыя крыніцы права Беларусі. У ёй даецца крытычны агляд літаратуры і крыніц права, якое прымянялася на Украіне ў XV—XVIII стст., у тым ліку статутаў Вялікага княства Літоўскага, прывілеяў і іншых актаў. Аўтар правільна адзначае, што дзеянне гэтых актаў не спынялася на тэрыторыі Украіны і пасля ўз'яднання яе з Расіяй. Найбольш распаўсюджанымі тэкстамі Статута 1588 г. былі яго пераклады на польскую і рускую мову, зробленыя ў XVII—XVIII стст. У рабоце А. П. Ткача значнае месца ўдзелена аналізу класавых і саслоўных узаемаадносін і класавай барацьбы працоўных, крытыцы рускіх і польскіх буржуазных гісторыкаў права і ўкраінскіх буржуазных нацыяналістаў.

Значную навуковую цікавасць уяўляюць працы па гісторыі права С. І. Барысенкі, які робіць шэраг цікавых вывадаў. У прыватнасці, даследуючы розныя спісы Статута, ён прыйшоў да перакanання, што пры карыстанні Статутам у розных дзяржаўных установах службовыя асобы дапісвалі ў Статут нормы мясцовага права, а таксама новыя пастановы, прынятыя соймам або Радай.

Артыкулы па гісторыі права Вялікага княства Літоўскага, і у прыватнасці аб статутах, былі апублікаваны ў зборніках прац камісіі па вывучэнню гісторыі заходнерускага і ўкраінскага права ў Кіеве. У зборніках былі змешчаны артыкулы О. Даброва «Право необхідного спадкування за Литовским Статутом» (вып. 1. 1925), М. Таўсталеса «Про знахідку по литовскому праву» (вып. 2. 1926), «Суть заставы за Литовским Статутом» (вып. 6. 1929) і інш. У працах камісіі публікаваліся таксама рэцэнзіі на работы па гісторыі права, змяшчалася крытыка поглядаў буржуазных гісторыкаў права.

У двухтомнай рабоце І. Чаркаскага «Громадськiй (копный) суд на Украине—Русі XVI—XVIII стст.» (Київ, 1928) сабраны багаты фактычны матэрыял, які датычыць гісторыі копных судоў на Беларусі. Разам з тым трэба адзначыць, што аўтар пры характарыстыцы копных судоў прытрымліваўся поглядаў рускіх буржуазных гісторыкаў А. Яфіменкі і І. Спрогіса, якія разглядалі коп-

ныя суды як пазакласавыя судовыя органы. Да таго І. Чаркаскі, напісаўшы работу ў асноўным на матэрыялах Беларусі, няправільна адносіць яе толькі да Украіны.

Кароткі агляд крыніц феадальнага права Украіны і Беларусі змяшчаецца ў глыбокай па зместу манаграфіі А. І. Пашука «Суд і судочинство на лівобережній Україні в XVII—XVIII стст.», выдадзенай у Львове ў 1967 г.

Па гісторыі феадальнага права Беларусі каштоўныя думкі выказалі савецкія гісторыкі права, якія праводзілі даследаванні па гісторыі права Расіі і Украіны, А. Б. Дубровіна, В. С. Кульчыцкі, Г. І. Літвінава, І. Д. Мартысевіч, А. І. Пашук, К. А. Сафроненка, І. П. Старасціна, А. В. Сурылаў, А. П. Ткач, Ю. П. Цітоў, М. А. Чальцоў-Бебутаў, З. М. Чарнілоўскі, О. І. Чысцякоў, С. В. Юшкоў, І. І. Якаўкін і інш.

Трэба таксама адзначыць, што пытанні сацыяльнай структуры грамадства, прававога становішча класаў, саслоўяў, асобных груп насельніцтва і дзяржаўнага ладу прама ці ўскосна асвятляліся ў агульнагістарычных даследаваннях савецкіх гісторыкаў.

Грунтоўны аналіз публікацый дакументаў і гістарыяграфічных работ па феадальнай гісторыі Беларусі дадзены ў кнізе Н. Н. Улашчыка «Нарысы па археаграфіі і крыніцазнаўству гісторыі Беларусі феадальнага перыяду». Аўтар выявіў тэндэнцыёзнасць падбору матэрыялаў у дарэвалюцыйных публікацыях, іх непаўнату і памылкі. Ён правільна адзначыў, што ў гэтых публікацыях інтарэсы народаў, якія насялялі гэты раён — беларусаў, літоўцаў і ўкраінцаў,— не толькі не ўлічваліся, але і прыкладаліся ўсе намаганні да таго, каб даказаць, што яны наогул не існуюць.

### Публікацыі крыніц права

У XVI ст. на Беларусі і ў Літве меліся ўсе неабходныя матэрыяльныя перадумовы для пачатку кнігадрукавання. Тут былі кваліфікаваныя рэзчыкі па дрэве і металу, ліцейшчыкі, гравёры, майстры па вытворчасці паперы і фарбы; сярод значнай часткі шляхты і гарадскога насельніцтва распаўсюджана пісьмовасць. Усё гэта забяспечвала стварэнне друкарняў у Вільні, Берасце, Нясвіжы, Іўі, Заблудаве, Лоску і іншых гарадах і мястэчках Беларусі.

Публікацыя прававых актаў пачалася з выдання ў 1586 г. закона аб утварэнні Галоўнага суда «Трибунал обывателем Великого княжества Литовского» і ў 1588 г. Статута Вялікага княства Літоўскага. Статут 1588 г. на беларускай мове выдаваўся яшчэ двойчы, ў 1593 і 1600 гг., хоць на ўсіх трох беларускіх выданнях стаіць 1588 г.

У 1614 г. Статут 1588 г. быў перакладзены на польскую мову і апублікаваны ў Вільні. Усяго на польскай мове ён публікаваўся восем разоў (1614, 1619, 1648, 1693, 1744, 1786, 1811, 1819 гг.) і на польскай і рускай у 1811 г. Першае выданне на польскай мове 1614 г., хоць і вельмі блізкае да арыгінала, не можа разглядацца як афіцыйнае, бо ўсе пераклады былі прыватнай справай выдаўцоў. Публікацыі Статута на польскай мове, акрамя выдання 1614 г., утрымліваюць заўвагі і каментарыі, у якіх былі яўныя памылкі або нават наўмыснае скажэнне тэкста норм Статута. Асабліва шмат скажэнняў допушчана ў выданнях, пачынаючы з 1648 г., у якіх нават ужо на тытульным лісце няправільна адзначана, што першае выданне Статута было нібыта ажыццёўлена ў Кракаве, а «затым другі раз таксама польскай моваю ў 1619 г.». Гэтым заглаўным лістом выдаўца заводзіў чытачоў у зман і ігнараваў адзіна афіцыйныя беларускія выданні і на іх месца ставіў выдуманае выданне Статута ў Кракаве. Гэтая фальсіфікацыя паўтаралася затым ва ўсіх выданнях Статута на польскай мове. У якасці дадатку да тэкста Статута публікаваўся «Трибунал...», а таксама некаторыя соймавыя пастановы (канстытуцыі). Напрыклад, да Статута выдання 1786 г. былі далучаны пастановы соймаў 1726, 1764, 1766, 1768, 1775, 1776, 1778, 1780, 1784 гг.

Нормы ваенна-крымінальнага і ваенна-адміністрацыйнага права і працэсу былі ўпершыню сабраны ў кнізе «Артыкулы ваенныя», выдадзенай у Нясвіжы ў 1754 г. У яе ўключаны соймавыя пастановы і распараджэнні гетманаў XVI—XVIII стст., у якіх устанаўліваліся асноўныя абавязкі ваеннаслужачых, парадак прыцягнення да адказнасці і пакарання за дапушчаныя парушэнні. Гэтая кніга была першым сістэматызаваным выданнем юрыдычных актаў па ваеннаму праву Беларусі і Літвы.

Першае выданне храналагічнага збору нарматыўных актаў Вялікага княства Літоўскага і Польшчы выйшла пад назвай «Валюміна легум» («Кнігі законаў») (у 1732—1739 гг. шэсць тамоў і ў 1782 г. два тамы). Перавыданне гэтага збору было ажыццёўлена ў Пецярбурзе

ў 1859—1860 гг., у 1889 г. быў выдадзены дзевяты том і ў 1952 г.— дзесяты. У «Кнігі законаў» былі ўключаны нарматыўныя акты з 1347 па 1794 г. Гэта выданне не змяшчае поўнага збору законаў, бо шмат якія выключна важныя нарматыўныя акты не былі надрукаваны. У ім разам з актамі, узятымі з першакрыніц, сустракаюцца і акты сумнiцельнага паходжання, таму яны патрабуюць крытычнай праверкі па іншых крыніцах. Гэта выданне было неафіцыйным, але выкарыстоўвалася як судовымі органамі, так і ў навуковай рабоце.

У «Валюміна легум» сабраны нарматыўныя акты, якія датычаць дзейнасці органаў дзяржаўнага кіравання і ўлады, прававога становішча класаў і сацыяльных груп насельніцтва. Значная колькасць актаў адносіцца да гісторыі асобных галін права: дзяржаўнага, адміністрацыйнага, грамадзянскага, зямельнага, крымінальнага, працэсуальнага. У гэтым выданні змяшчаюцца і некаторыя міжнародныя пагадненні. Таму «Валюміна легум» з'яўляецца адной з найбольш поўных крыніц феадальнага права Беларусі і Літвы.

Каштоўнай крыніцай для вывучэння гісторыі міжнародных актаў і пагадненняў служыць выдадзены Мацвеем Догелем «Дыпламатычны кодэкс Каралеўства Польскага і Вялікага княства Літоўскага». Аўтарам было падрыхтавана восем тамоў, але з друку выйшлі толькі тры: першы — у 1758 г., пяты — у 1759 і шосты — у 1764 г. Некаторыя матэрыялы з іншых тамоў былі пазней ўключаны ў іншыя выданні.

Практычным дапаможнікам па заканадаўству Вялікага княства Літоўскага служыла кніга «Ручны слоўнік, або Кароткі змест польскіх і літоўскіх законаў, якія служаць кіраўніцтвам у судовых цяжбах усякага роду, сабраных для ўжывання ў прысутных месцах і для карысці прыватных абывацеляў каронных і літоўскіх правінцый», выдадзеная першы раз на польскай мове ў Варшаве ў 1783 г. і другі раз на рускай — у Санкт-Пецярбурзе ў 1810 г.

Велізарная работа па выяўленню, збіранню і апублікаванню актаў па гісторыі феадальнай Беларусі была праведзена ў XIX ст. дзяржаўнымі ўстановамі Расіі і некаторымі асобамі. Пасля далучэння Беларусі да Расіі царскі ўрад імкнуўся атрымаць гістарычнае абгрунтаванне таго, што ў мінулым Беларусь была праваслаўным і «искони русским» краем, які нічым не адрозніваўся ад астатніх славянскіх частак Расіі. Рэдактары і выдаўцы

гістарычных актаў прама ці ўскосна пры дапамозе гісторыі абвяргалі прэтэнзіі польскіх шавіністаў на тэрыторыю Беларусі, Украіны і Літвы. У гэтай частцы выданні мелі выключна важнае значэнне. Разам з тым тэндэнцыёзны падбор актаў значна зніжае навуковую каштоўнасць некаторых з гэтых выданняў. Акрамя таго, выдаўцы гэтых актаў ігнаравалі пытанні класавай барацьбы і спрабавалі падмяніць яе рэлігійна-царкоўнай барацьбой, якой надавалася першачарговае значэнне. Асноўным жа недахопам усіх дзяржаўных выданняў і значнай часткі прыватных дасавецкіх выданняў было тое, што яны ігнаравалі інтарэсы простага народа, не ўлічвалі яго ролі як творцы гісторыі і не прызнавалі існаванне беларускага і ўкраінскага народаў.

Першыя прыватныя выданні помнікаў права Беларусі і Літвы ў Расіі былі ажыццёўлены І. Н. Даніловічам, І. І. Грыгаровічам, Т. Нарбутам, П. А. Муханавым. З гэтых выданняў асаблівай увагі заслугоўвае «Скарбніца грамат» І. Даніловіча, куды ўключаны ці пераказаны змест 2383 актаў за час з 784 па 1569 г.

Найбольш поўныя публікацыі дакументаў па гісторыі права Беларусі і Літвы ажыццёўлены ў зборніках розных археаграфічных камісій: Пецярбургскай, Віленскай, Кіеўскай і інш. і перыядычных выданнях: «Русский архив», «Русская старина», «Чтения в Обществе истории и древностей российских при имп. Московском университете» (М., 1849—1916), «Чтения в Историческом обществе Нестора-летописца» (Киев, 1879—1914) і інш. Пецярбургскай археаграфічнай камісіяй былі выдадзены «Акты, што датычаць гісторыі Заходняй Расіі» ў пяці тамах, у якія былі ўключаны дакументы па гісторыі Беларусі і Літвы за час з 1340 па 1699 г.; «Акты, што датычаць гісторыі Паўднёвай і Заходняй Расіі» ў пятнаццаці тамах і «Руская Гістарычная бібліятэка». Для гісторыі феадальнага права Беларусі вялікую каштоўнасць уяўляюць усе пяць тамоў «Актаў Заходняй Расіі», 1 і 14 тамы «Актаў Паўднёвай і Заходняй Расіі», тамы 20, 27, 30 і 33 «Рускай Гістарычнай бібліятэкі».

У Вільні былі апублікаваны «Акты, выдаваемыя Віленскай камісіяй» (39 тамоў), «Археаграфічны зборнік дакументаў, што датычаць гісторыі Паўночна-Заходняй Русі» (14 тамоў) і шэраг асобных кніг, у якіх змяшчаліся акты рэвізіі і апісання пушчаў, старастваў і эканомій. У Віцебску былі выдадзены «Гісторыка-юрыдычныя матэрыялы, узятыя з актавых кніг губерняў Віцебскай і Ма-

гілёўскай, што захоўваліся ў Цэнтральным архіве ў Віцебску» (32 выпускі).

З Кіеўскіх выданняў найбольшая колькасць актаў аб Беларусі апублікавана ў «Архіве Паўднёва-Заходняй Расіі» (часткі 1—8). Для гісторыі феадальнага права цікавасць маюць акты аб мясцовых сойміках (частка 2, том 2), аб шлюбным праве і сямейным быце (частка 8, том 3), аб гарадах (частка 5, тамы 1—2) і акты аб землеўладанні (частка 8, тамы 4 і 6). У публікацыі актаў ганаровае месца належыць асобным вучоным-энтузіястам, першым сярод якіх (па колькасці выдадзеных актаў) быў Аляксей Парфёнавіч Сапуноў (1852—1924). Ён выдаў звыш 70 прац і 200 навуковых артыкулаў і рэцэнзій. Яго кнігі «Віцебская даўніна», «Полацка-Віцебская даўніна» і інш. змяшчаюць шматлікія прававыя акты, якія раней нідзе не друкаваліся.

Шмат прававых помнікаў па гісторыі феадальнага права Беларусі выявілі і апублікавалі асобнымі кнігамі або ў якасці дадаткаў да сваіх прац рускія вучоныя Сяргей Аляксандравіч Бяршадскі, Фёдар Іванавіч Леантовіч, Мацвей Кузьміч Любаўскі, Мітрафан Віктаравіч Доўнар-Запольскі, Іяанікій Аляксеевіч Маліноўскі, Іван Іванавіч Лапо і інш.

Пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі і абвяшчэння Беларускай ССР была прадоўжана публікацыя крыніц феадальнага права. Так, у 1927—1930 гг. былі выдадзены тры тамы «Беларускага архіва», куды былі ўключаны акты вышэйшых і мясцовых органаў улады і праўлення Вялікага княства Літоўскага, акты мясцовых судоў Віцебскага, Полацкага і Менскага паветаў, акты, якія характарызуюць цэхавыя арганізацыі рамеснікаў, і інш. У 1936 г. выйшаў першы том «Гісторыі Беларусі ў дакументах і матэрыялах», у якім былі змешчаны дакументы за перыяд з IX па XVIII ст. Побач з прававымі актамі ў гэтую кнігу ўваходзяць вытрымкі з розных летапісаў і хронік, таможных кніг, статуты рамесных цэхаў, матэрыялы аб міжнародных адносінах. Другі том гэтага выдання выйшаў у 1940 г. пад назвай «Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі». У ім змешчаны дакументы за час з 1722 па 1903 г.

Сацыяльна-юрыдычныя акты былі апублікаваны ў зборніку «Заканадаўчыя акты Вялікага княства Літоўскага XV—XVII стагоддзяў», які выйшаў у Ленінградзе ў 1936 г. пад рэдакцыяй І. І. Якаўкіна. Зборнік прызначаўся для вучэбных мэт студэнтаў-гісторыкаў і юрыстаў.

Прававыя акты змешчаны таксама ў трохтомным зборніку дакументаў «Беларусь у эпоху феадалізму» (1959—1961), у які ўвайшлі гістарычныя матэрыялы і дакументы, пачынаючы з VI ст. і да 1860 г. Дакументы за час з 1570 па 1667 г. аб эканамічным стане, класавай барацьбе, аб гандлёвых і міжнародных адносінах апублікаваны ў зборніку «Руска-беларускія сувязі».

У 1960 г. прававым аддзелам Акадэміі навук БССР быў выдадзены Статут Вялікага княства Літоўскага 1529 г. на беларускай мове і яго пераклад на рускай мове, а таксама слоўнік-каментарый. У 1989 г. Беларускай Савецкай Энцыклапедыяй апублікаваны Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г. Каб захаваць арыгінал тэксту Статута, надрукаванага на беларускай мове, у выданні змешчаны чорна-белыя здымкі ўсіх 620 старонак Статута. Уключаны тэкст гэтых артыкулаў, адапціраваных сучасным шрыфтам. Статут перакладзены на рускую мову. Дадзенае выданне з'яўляецца энцыклапедычным даведнікам, у яго ўвайшлі 850 артыкулаў, якія датычаць усёй тэрміналогіі, што сустракаецца ў тэксце Статута.

Для вывучэння эканамічнага, сацыяльнага і прававога становішча насельніцтва Полацкай зямлі значную цікавасць уяўляюць выдадзеныя Г. Л. Харашкевіч «Полацкія граматы XIII — пачатку XVI стст.» у чатырох кнігах (ратапрынтнае выданне Інстытута гісторыі СССР Акадэміі навук СССР. М., 1977—1982).

Нават кароткі агляд навуковых прац і публікацый крыніц па гісторыі дзяржавы і права Беларусі сведчыць аб багацці нашай прававой культуры. Але пры наяўнасці вялікай колькасці актавага матэрыялу і навуковай літаратуры, напісанай дваранскімі і буржуазнымі вучонымі, параўнальна мала работ савецкіх вучоных, асабліва па вывучэнню дзяржаўных устаноў і прававаадносін. Амаль няма даследаванняў такіх крыніц права, як агульназемскія, абласныя і валасныя граматы (прывілеі), Судзебнік 1468 г., соймавыя ўхвалы, пастановы і інш. Слаба вывучана гісторыя дзейнасці дзяржаўных устаноў.

# Раздзел 1

# ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЛАД І ПРАВА БЕЛАРУСІ Ў IX—XII стст.

## 1. Усталяванне дзяржаўнасці ўсходніх славян

Сучасны стан археалогіі, лінгвістыкі і другіх гістарычных навук дазваляе лепш пазнаць нашу старажытную гісторыю[1]. Народ, які ў V—IV стст. да н. э. жыў на тэрыторыі паміж рэкамі Заходняй Дзвіной і Прыпяццю і паміж Заходнім Бугам і сярэднім Дняпром, займаўся земляробствам і хатняй жывёлагадоўляй. Рыбалоўства, паляванне і бортніцтва былі дапаможнымі заняткамі. Аб тым, што земляробства было асноўным заняткам насельніцтва, сведчаць як знойдзеныя прылады працы, зробленыя з жалеза мясцовымі майстрамі, так і посуд для захоўвання зерня і само зерне, а таксама старажытная вера ў бога, згодна з якой людзі абагаўлялі сілы прыроды, маліліся агню і сонцу, прыносілі ахвяры богу маланкі — Перуну, богу жывёлагадоўлі — Велясу і інш. Асабліва ў пашане быў бог святла, цяпла і ўсяго жывога Сварог і яго сын—бог сонца, які называўся Сварожычам, Свята-Вітам, Яра-Вітам, Даждь-Богам. Імя Даждь-Бога ў форме Далі-Бога і Даль-Бога захавалася ў сучаснай беларускай мове пры клятве-божбе (Дальбог праўда), а імя Віт увайшло ў многія сучасныя асабістыя імёны.

У першых стагоддзях нашай эры народы Усходняй Еўропы ўжо мелі гандлёвыя зносіны не толькі ўнутры свайго рэгіёна, але і з народамі далёкіх краін, аб чым сведчаць знаходкі старажытнарымскіх манет на тэрыторыі Беларусі. Аб сувязях усходнееўрапейскіх народаў са старажытным Рымам сведчыць і аўтар «Слова аб палку Ігаравым», які перыяд III—IV стст. н. э. назваў Тра-

[1] *Гамкрелидзе Т. В., Иванов В. В.* Индоевропейский язык и индоевропейцы. Тбилиси. 1984. Т. 1—2.

навымі вякамі, тым самым гаворачы, што імя рымскага імператара Траяна было агульнавядомым і для ўсходнееўрапейскіх славян. Устойлівыя гандлёвыя адносіны падтрымлівалі славяне і са сваімі суседзямі на ўсходзе, асабліва з волжскімі булгарамі, а праз іх і з краінамі Азіі. Гэтыя сувязі асабліва пашырыліся ў VIII—X стст., аб чым сведчаць запіскі арабскіх географаў і падарожнікаў, а таксама клады арабскіх манет, знойдзеныя на тэрыторыі Беларусі.

Наяўнасць пашавага земляробства, рамеснай вытворчасці і гандлёва-эканамічных сувязей у народаў Усходняй Еўропы ў пачатку нашай эры дазваляе зрабіць вывад аб значным падзеле працы і дзяленні грамадства на класы, што ў сваю чаргу непазбежна вяло да стварэння дзяржавы. Аднак усе гэтыя даныя ігнараваліся прадстаўнікамі дваранска-буржуазнай навукі, якія лічылі, што дзяржавы ў славян былі створаны прышлымі князямі-нарманамі. Сярод гісторыкаў XIX ст. мелі хаджэнне тры тэорыі, пры дапамозе якіх рабіліся спробы вызначыць характар грамадскага і палітычнага ладу ўсходніх славян да сярэдзіны IX ст. Найбольш распаўсюджанай была тэорыя радавога быту, прыхільнікі якой (Густаў Эверс, К. Д. Кавелін, С. М. Салаўёў) лічылі, што да прыходу варажскіх князёў славяне жылі радамі, г. зн. саюзамі асоб, звязаных паміж сабой адзінствам кроўнага паходжання, агульнасцю радавой уласнасці, сумеснай самадапамогай пад кіраўніцтвам роданачальніка або заступаючага яго месца старэйшага ў родзе. Затым па меры разрастання радоў яны аб'ядналіся ў плямёны, якія для навядзення парадку і ўтварэння дзяржаў у сярэдзіне IX ст. заклікалі да сябе варажскіх князёў. Гэтая тэорыя грунтавалася на біблейскай легендзе аб паходжанні ўсіх людзей ад Адама і Евы і на тэарэтычных поглядах летапісца XII ст., які лічыў, што да заклікання варагаў славяне жылі радамі.

У сярэдзіне XIX ст. атрымала распаўсюджанне тэорыя абшчыннага быту (К. С. Аксакаў, І. Д. Бяляеў, В. Н. Ляшкоў), у сілу якой славяне ў перыяд да IX ст. жылі абшчынамі, якія складаліся з асобных сем'яў. Па гэтай тэорыі аснову абшчыннага саюза складала не адзінства паходжання, а эканамічныя і сацыяльна-грамадскія інтарэсы. Людзі, што жылі ў абшчыне, сумесна валодалі зямлёй, сумесна абмяркоўвалі і вырашалі грамадскія справы, разам клапаціліся аб абароне ад знешніх нападаў, самі падтрымлівалі парадак унутры абшчыны. Органамі

кіравання быў сход членаў абшчыны і выбарны кіраўнік абшчыны. Прыхільнікі гэтай тэорыі грунтавалі свае меркаванні на вывучэнні рускай абшчыны XVIII—XIX стст. і больш старажытных прававых актаў, у якіх яны вышуквалі ўпамінанні аб мясцовых органах самакіравання.

У другой палове XIX ст. атрымала вядомасць тэорыя задружна-абшчыннага быту, вылучаная Ф. І. Леантовічам. Па гэтай тэорыі, аснову грамадскага жыцця складалі не рады ў іх чыстым выглядзе і не абшчыны, а абшчына сямейная, якая ў паўднёвых славян называлася задругай. У такую абшчыну ўваходзілі як асобы, звязаныя паміж сабой кроўнай роднасцю, так і чужакі, аб'яднаныя агульнымі эканамічнымі інтарэсамі. Задругі ў сваю чаргу аб'ядноўваліся ў больш буйныя грамадскія адзінкі па тэрытарыяльнаму прынцыпу «жупы», воласці, зямлі. Кіраванне такой адзінкай ажыццяўлялася сходам (снемам, вечам) і выбарнай асобай (жупанам, князем, валасцелем). Гэта тэорыя грунтавалася на вывучэнні гісторыі паўднёвых славян у XIX ст.

Разгледжаныя тэорыі не ўлічвалі развіцця прадукцыйных сіл грамадства і яго класавага расслаення. Яны зыходзілі з таго, што дзяржавы ў славянскіх народаў узніклі не раней VII—IX стст. Некаторыя лічылі нават, што дзяржава ва ўсходніх славян узнікла яшчэ пазней — пасля хрышчэння Русі. Так, В. І. Нікольскі пісаў: «Гаварыць аб дзяржаве ў паўдзікіх славян-язычнікаў, якія яшчэ ў XI і XII стагоддзях дапускалі кроўную помсту (яўны доказ адсутнасці не толькі дзяржавы, але нават правільнага грамадскага жыцця), больш чым дзіўна»[2]. Гэтыя і іншыя памылковыя погляды былі падвергнуты крытыцы ўжо ў канцы XIX ст. віднымі рускімі гісторыкамі і гісторыкамі права, якія даволі пераканаўча паказалі памылковасць «нарманскай тэорыі».

Аднак крытыка нарманскай тэорыі буржуазнымі гісторыкамі М. Ф. Уладзімірскім-Буданавым, І. Забеліным і інш. не прывяла да поўнага паражэння прыхільнікаў гэтай тэорыі. Толькі дзякуючы працам савецкіх гісторыкаў і гісторыкаў дзяржавы і права Б. Д. Грэкава, М. Н. Ціхамірава, Б. А. Рыбакова, С. В. Юшкова, П. Н. Трацякова і інш. была даказана поўная навуковая негрунтоўнасць нарманскай тэорыі. Разам з тым і да цяперашняга часу няма навуковага абгрунтавання часу пахо-

---

[2] *Никольский В. М.* О началах наследования в древнейшем русском праве. М., 1859. С. 216.

джання дзяржаў ва ўсходніх славян. Так, Б. Д. Грэкаў пісаў: «Зусім ясна, што значна раней IX ст. на Русі выспелі неабходныя для ўтварэння дзяржавы передумовы, якія паспелі даць пэўныя вынікі. Аб'яднанне Ноўгарада і Кіева — гэта толькі важная падзея ў гісторыі Русі, але зусім не пачатковая» [3]. Больш дакладнага часу узнікнення дзяржаў ён не ўказваў. С. В. Юшкоў лічыў, што «паколькі ўсходнія славяне сваімі продкамі мелі скіфасармацкія народы, то, натуральна, што яны павінны былі атрымаць у спадчыну не толькі матэрыяльную і духоўную культуру, але і грамадскі, палітычны і прававы лад ад гэтых народаў» [4]. З гэтага сцвярджэння можна зрабіць вывад, што дзяржавы ва ўсходніх славян склаліся на рубяжы нашай эры. Але ў іншым месцы гэтай жа кнігі знаходзім, што нават наяўнасць дзяржавы ў славянскага народа антаў, якія жылі на велізарнай тэрыторыі ад Дуная да Паўночнага Данца і Сярэдняга Дона на працягу IV—VI стст., не дазваляе адказаць на пытанне: калі склаліся дзяржавы ў больш паўночных суседзяў антаў або нават у тых усходніх славян, якія пад другімі імёнамі сталі вядомы на гэтай жа тэрыторыі. Так, С. В. Юшкоў пісаў: «Вядома, уплыў антаў павінен у той ці іншай ступені адбіцца і на тых плямёнах, якія не ўваходзілі ў склад анцкага саюза (дрыгавічы, крывічы, ільменскія славяне, вяцічы), але і зноў ступень гэтага ўплыву і, значыць, узровень грамадска-эканамічнага развіцця, магчыма, былі іншымі, чым у карэнных антаў або ў суседніх з імі плямёнаў, адным словам, паўстае новае пытанне—пытанне аб грамадска-эканамічным і палітычным ладзе ўсходняга славянства з пачатку VII ст. да ўтварэння Кіеўскай дзяржавы» [5]. Такім чынам, аўтар сам стаў сумнявацца ў выказанай ім думцы і як бы вярнуўся да погляду, што дзяржавы ў славян узніклі толькі пасля VII ст., бо да гэтага часу ён гаварыў не аб дзяржаўных аб'яднаннях, а аб плямёнах.

Да больш ранняга перыяду адносіў утварэнне дзяржаў ва ўсходніх славян акадэмік Б. А. Рыбакоў. Ён пісаў: «Паўнакроўнае развіццё скалацкага грамадства ў V—III стст. да н. э., якое дайшло, мяркуючы па ўсім вядомым нам, да ўзроўню дзяржаўнасці, было спынена сармацкім нашэсцем II ст. да н. э. Сарматы рухаліся з

[3] *Греков Б. Д.* Киевская Русь. М., 1953. С. 451.
[4] *Юшков С. В.* Общественно-политический строй и право Киевского государства. М., 1949. С. 44.
[5] Там жа. С. 39.

усходу, ад нізоўяў Дона, і ўрэшце рэшт дасягнулі Сярэдняга Дуная... У Сярэднім Падняпроўі сарматы знішчылі адно са скалацкіх царстваў па Цясміну і моцна пацяснілі паўночнае царства (Кіеўская археалагічная група), заняўшы вялікае Перапетава поле на поўнач ад р. Рось. Праславянская дзяржаўнасць Сярэдняга Падняпроўя, якая толькі што зарадзілася, знікла прыкладна на чатыры стагоддзі, аж да складання новай спрыяльнай кан'юнктуры» [6]. Думка аўтара аб тым, што праталславяне (скалоты) ужо ў V—III стст. да н. э. дасягнулі «ўзроўню дзяржаўнасці», не выклікае пярэчання, але нельга згадзіцца з палажэннем, што «моцна пацясніўшы паўночную дзяржаву... народжаная праславянская дзяржаўнасць Сярэдняга Падняпроўя знікла прыкладна на чатыры стагоддзі», ад «пацяснення» дзяржаўнасць не знікае.

Трэба адзначыць, што ў старой рускай гісторыка-прававой навуцы меліся працы, у якіх даказвалася існаванне славянскіх дзяржаў у перыяд да нашай эры. Так, В. Н. Тацішчаў, пераказваючы Іаакімаўскі летапіс, пісаў: «О князех русских старобытных Нестор монах не добре сведом был, что ся деяло у нас славян во Новеграде, а святитель Иоаким, добре сведомый, написал, еже сынове Афетовы и внуки отделишася, и един от князь, Славен з братом Скифом, имея многие войны на востоце, идоша к западу, многи земли о Черном мори и Дунае себе покориша. И от старшего брата прозваша славяне... Славен князь... иде к полуносчи и град великий созда, во свое имя Славенск нарече... умре Славен князь, а по нем владаху сынове его и внуки много сот лет. И бе князь Вандал, владая славянами, ходя всюду на север, восток и запад морем и землею, многи земли на вскрай моря повоева и народы себе покоря... Он имел три сына: Избора, Владимира и Столпосвята. Каждому из них построи по единому граду, и в их имяна нарече» [7]. Далей В. Тацішчаў расказвае пра князёў Бурывоя і Гастамысла, пасля якога ў Ноўгарад быў запрошаны сын дачкі Гастамысла князь Рурык.

Рацыянальнае зерне легенды, выкладзенай у Іаакімаўскім летапісу, заключаецца перш за ўсё ў тым, што гісторыя славянскіх народаў і іх дзяржаўнага ладу да-

---

[6] *Рыбаков Б. А.* Киевская Русь и русские княжества XII—XIII вв. М., 1982. С. 30.

[7] *Татищев В. Н.* История Российская. Т. 1. С. 108.

тычыцца таго ж часу, што і скіфскага народа, г. зн. VIII—VII стст. да н. э. Гэта палажэнне Іаакімаўскай легенды пацвярджаецца сучаснымі археалагічнымі адкрыццямі, зробленымі пры раскопцы т. зв. зміевых валаў на Украіне. Аб наяўнасці славянскіх дзяржаў у перыяд да нашай эры можна зрабіць вывад і з паведамленняў Герадота аб гелонах, будзінах і неўрах, насельніцтве, што жыло на тэрыторыі сучаснай Украіны і Беларусі [8]. Ёсць падставы меркаваць, што гарады Славенск і Сталпасвят, якія ўпамінаюцца ў Іакімаўскім летапісу, былі на тэрыторыі Беларусі. Так, на Заходняй Бярэзіне ў Валожынскім раёне ёсць вёска Славенск і побач з ёю замкавая гара, археалагічныя раскопкі якой маглі б даць адказ аб часе ўзнікнення Славенска. Водгаласы старажытнага Сталпасвята чуваць у назве цяперашняга горада Стоўбцы.

Падобнай думкі прытрымліваўся і І. Забелін. Ён пісаў: «Развіццё нашай краіны было, вядома, перш за ўсё земляробчае... мяркуючы паводле сведчання Герадота, яно было напалову гандлёвае. І пачалося яно, па ўсім верагодна, з тае пары, калі па берагах Чорнага мора з'явіліся грэчаскія калоніі, за 700 і 600 гадоў да Р. Х.» [9] Апісваючы падзеі больш позняга часу, І. Забелін прыводзіць запіс грэчаскага гісторыка Іаана Эфескага, які пісаў у 584 г. н. э. наступнае: «І да цяперашняга дня славяне жывуць, сядзяць і пакояцца ў Рымскіх абласцях без клопату і страху, рабуючы іх і разараючы агнём і мечам. Яны разбагацелі, набылі золата, серабро, табуны коней і мноства зброі, якой навучыліся валодаць лепш, чым рымляне» [10]. Той факт, што славяне сілай зброі выбілі ў V—VII стст. візантыйцаў і рымлян з Балканскага паўвострава, а германцаў з Цэнтральнай Еўропы, сведчыць аб іх шматлікасці і добрай ваеннай і палітычнай арганізацыі.

Аб існаванні дзяржаў ва ўсходніх славян са старажытнейшага гістарычнага часу пісаў і М. Дзяканаў у кнізе «Нарысы грамадскага і дзяржаўнага ладу старажытнай Русі»: «У пачатку гісторыі не існуе адзінай рускай дзяржавы. На прасторы Еўрапейскай Расіі, і то далёка не ўсёй, існуе цэлы шэраг невялікіх дзяржаў. Летапіс пералічвае шмат якія з іх: ён упамінае асаблівыя кня-

---

[8] *Геродот.* История... С. 213—218.

[9] *Забелин И.* История русской жизни с древнейших времен. 2-е изд. М., 1908. Ч. 1. Доисторическое время Руси. С. 363.

[10] Там жа. С. 459.

жанні ў палян, драўлян, дрыгавічоў, наўгародскіх славян, палачан, крывічоў і г. д.» Затым М. Дзяканаў параўноўвае ўсходнеславянскія дзяржавы з дзяржавамі Галіі да заваявання яе Цэзарам: «Галія не ўяўляла нацыянальнага цэлага... не было адзінства палітычнага... На прасторы паміж Пірынеямі і Рэйнам можна налічыць каля 90 дзяржаў або кожны з народаў утварыў вялікую групу (з насельніцтвам у 50—400 тысяч)... Народы Галіі вялі войны і заключалі мірныя саюзы як паміж сабою, так і з чужаземцамі, як гэта робяць незалежныя дзяржавы... Старажытная Русь не мае ў гэтых адносінах ніякага выключэння. І ў ёй назіраецца значная колькасць невялікіх дзяржаў, граніцы якіх падвергнуты пастаянным хістанням» [11].

Пры вырашэнні пытання аб часе паходжання дзяржаў у народаў Усходняй Еўропы неабходна ўлічваць тэарэтычныя асновы навукі аб дзяржаве і вынікі археалагічных даследаванняў. Для таго, каб вызначыць час (перыяд) утварэння дзяржаў, трэба вызначыць час рэвалюцыйнага перавароту ў грамадскіх адносінах, які адбыўся ўслед за пераваротам у вытворчых адносінах. Такім пераваротам у вытворчых адносінах было выкарыстанне жалезных прылад працы. Ф. Энгельс пісаў, што «жалеза, апошні і самы важны з усіх відаў сыравіны, якія адыгрывалі рэвалюцыйную ролю ў гісторыі... Жалеза зрабіла магчымым паляводства на больш буйных плошчах, расчыстку пад раллю шырокіх лясных прастораў» [12]. Пачатак вытворчасці і выкарыстання жалезных прылад працы на тэрыторыі Беларусі датуецца VII—V стст. да н. э. [13] Да гэтага часу, як відаць, можна аднесці і ўстойлівае раздзяленне грамадства на класы, якое пачалося яшчэ пры аддзяленні земляробства ад жывёлагадоўлі. «З першага буйнога грамадскага падзелу працы ўзнікла і першае буйное раздзяленне грамадства на два класы — паноў і рабоў, эксплуататараў і эксплуатуемых» [14]. Дзяленне грамадства на класы непазбежна цягнула ўзнікненне органаў дзяржаўнага кіравання і насілля, неабходных для ўтрымання ў паслушэнстве асноўнай масы народа. У. І. Ленін указваў, што дзяржава «з'яў-

---

[11] *Дьяконов М.* Очерки общественного и государственного строя древней Руси. 3-е изд. СПб., 1910. С. 68—70.

[12] *Маркс К., Энгельс Ф.* Соч. Т. 21. С. 163.

[13] *Мельниковская О. Н.* Племена южной Белоруссии в раннем железном веке. М., 1967. С. 56—62.

[14] *Маркс К., Энгельс Ф.* Соч. Т. 21. С. 161.

ляецца там і тады, дзе і калі з'яўляецца дзяленне грамадства на класы, калі з'яўляюцца эксплуататары і эксплуатуемыя»[15]. Аб наяўнасці дзяржаў ва ўсходнееўрапейскіх народаў — скіфаў, сарматаў, неўраў і інш.— яшчэ да нашай эры сведчаць паведамленні Герадота і другіх старажытных аўтараў.

Пытанне аб часе паходжання дзяржаў разглядаецца ў класічнай працы У. І. Леніна «Аб дзяржаве». На аснове глыбокага вывучэння гісторыі ён прыйшоў да вываду, што ва ўсіх народаў Еўропы, без усялякага выключэння для ўсходнееўрапейскіх, існавалі рабаўладальніцкія дзяржавы дзве тысячы гадоў назад. Ён пісаў: «Развіццё ўсіх чалавечых грамадстваў на працягу тысячагоддзяў ва ўсіх без выключэння краінах паказвае нам агульную заканамернасць, правільнасць, паслядоўнасць гэтага развіцця такім чынам, што спачатку мы маем грамадства без класаў — першапачатковае патрыярхальнае, першабытнае грамадства, у якім не было арыстакратаў; затым — грамадства, заснаванае на рабстве, грамадства рабаўладальніцкае. Праз гэта прайшла ўся сучасная цывілізаваная Еўропа — рабства было зусім пануючым 2 тысячы гадоў назад»[16]. Гэта думка У. І. Леніна дае ключ і да вырашэння пытання аб вызначэнні характару грамадскага ладу ў народаў, якія жылі на тэрыторыі сучаснай Беларусі.

На рубяжы нашай эры ішоў працэс станаўлення рабаўладальніцкага ладу і адмірання абшчынна-патрыярхальнага. Абодва гэтыя ўклады працяглы час суіснавалі і дапаўнялі адзін аднаго. Клас эксплуататараў, рабаўладальнікаў, які выдзеліўся, існаваў не толькі за кошт эксплуатацыі рабоў, але і свабодных сялян, за кошт атрымання з іх рознага роду данінаў, кармленняў і адбывання павіннасцей. Рабаўладальніцкі лад у нашых народаў не быў даведзены да яго вышэйшага развіцця і ў X ст. пачаў хіліцца да заняпаду пад уздзеяннем феадальных адносін. Праца рабоў выкарыстоўвалася ў асноўным ў жывёлагадоўлі, хатняй гаспадарцы і абслугоўванні рабаўладальніка і ў меншай ступені ў земляробстве.

У сувязі з дваістым характарам грамадскіх адносін і палітычны лад у VIII—IX стст. адлюстроўваў у сабе два элементы. Улада належала прадстаўнікам класа рабаўладальнікаў — князям і «лепшым людзям», а так-

---

[15] *Ленин В. И.* Полн. собр. соч. Т. 39. С. 70.
[16] Там жа. С. 438.



Старажытны замак

сама народнаму сходу — вечу-сойму, на які збіраліся ўсе свабодныя хатнія гаспадары. Княжацкі прастол займаўся, як правіла, толькі са згоды веча, яно ж давала сваю згоду і на назначэнне іншых службовых асоб дзяржаўнага кіравання. Асобныя невялікія воласці або ўмацаваныя гарады-замкі кіраваліся старцамі, якіх выбірала насельніцтва, або намеснікамі, якіх прызначала цэнтральная адміністрацыя. Аб шырокім распаўсюджванні на тэрыторыі Беларусі ўмацаваных паселішчаў—гарадоў-замкаў — сведчыць ананімны Баварскі географ IX ст. Ён пісаў, што ў жыхароў Свірскай зямлі было 325 гарадоў, у турычан — 104 гарады, у пружан — 70 гарадоў, у бужан — 231 горад, шмат гарадоў было ў жыцічаў, лукамлян і нараўлян [17]. Не выклікае сумнення, што пабудова гарадоў праводзілася на працягу многіх стагоддзяў пры наяўнасці дзяржаўнага кіравання, якое ажыццяўляла кіраўніцтва будаўніцтвам і нагляд за ўтрыманнем у належным стане грамадскіх пабудоў, такіх, як ірвы, сцены, вежы. «Разам з горадам з'яўляецца і неабходнасць адміністрацыі, паліцыі, падаткаў і г. д.» [18]

[17] *Шафарик П. Й.* Славянские древности. Т. 2, кн. 1. С. 192.
[18] *Маркс К., Энгельс Ф.* Соч. Т. 3. С. 50.

Асноўнымі нормамі паводзін насельніцтва было мясцовае звычаёвае права і правілы, прадпісаныя язычніцкай рэлігіяй. Язычніцкія жрацы стварылі для старажытных дзяржаў неабходную ідэалагічную аснову і садзейнічалі падтрыманню ў грамадстве парадкаў, выгадных і пажаданых пануючаму класу. Іх функцыі цесна перапляталіся з дзяржаўнымі, асабліва пры вырашэнні дзяржаўных спраў, ажыццяўленні правасуддзя, выкананні насельніцтвам агульнадзяржаўных павіннасцей. Яны пад выглядам рознай варажбы, прадказванняў і да т. п. навязвалі сваю волю вечавым сходам і некаторым службовым асобам.

## 2. Грамадскі лад

Класавая структура грамадства ў IX—XII стст. характарызавалася наяўнасцю двух асноўных класаў: феадальна-залежных людзей і феадалаў. Адначасова з асноўнымі класамі працягвалі захоўвацца рабы (халопы, чэлядзь нявольная), свабодныя гарадскія жыхары і сяляне-даннікі, якія не знаходзіліся ў залежнасці ад асобных феадалаў, а выконвалі пэўныя павіннасці і ўносілі феадальную рэнту непасрэдна на карысць дзяржавы.

Клас феадалаў, які вырас з рабаўладальнікаў і разбагацеўшых гараджан, а таксама былых свабодных сялян, меў значныя зямельныя ўгоддзі, якія апрацоўваліся залежнымі ад іх людзьмі, халопамі і чэляддзю нявольнай. Аб значнасці маёмаснага расслаення насельніцтва сведчаць знойдзеныя на тэрыторыі Беларусі грашовыя скарбы манет VIII—X стст. Так, напрыклад, толькі ў адным скарбе, знойдзеным каля Полацка ў 1973 г., было выяўлена каля 8 тыс. арабскіх сярэбраных манет VIII—IX стст., сума па тых часах каласальная. Вядома, сабраць такую колькасць грошай можна было толькі шляхам эксплуатацыі соцень, а можа быць, і тысяч людзей. Само сабой зразумела, што ўласнік, які схаваў гэты скарб, валодаў яшчэ і іншай не менш каштоўнай маёмасцю ў выглядзе зямельных угоддзяў, жывёлы, прылад вытворчасці, а таксама меў рабоў і залежных ад сябе людзей.

Аб значным багацці «лепшых людзей», «мужоў», мясцовых князёў сведчаць і пісьмовыя помнікі. Так, у Іпацьеўскім летапісу гаворыцца, што Ізяслаў Мсціславіч, захапіўшы ў 1146 г. Пуціўль, узяў там 500 беркаўцаў мёду, 80 карчаг віна і 700 чалавек чэлядзі. У тым жа летапісу

ад 1158 г. гаворыцца аб менскай княгіні, якая завяшчала Пячэрскаму манастыру пяць сёл з чэляддзю і ўсю сваю маёмасць. У царкоўным жыццеапісанні Ефрасінні Полацкай расказваецца аб дарэнні на карысць царквы і манастыроў значных зямельных угоддзяў і даходаў, што паступілі з насельніцтва. Багацці класа федалаў папаўняліся за кошт эксплуатацыі бяднейшых слаёў мясцовага насельніцтва, а таксама гандлю з замежнымі краінамі і ў выніку адкрытых ваенных рабаўніцтваў суседніх народаў. Напрыклад, летапісец, расказваючы пра паход кіеўскага князя Уладзіміра Манамаха на Менск, пісаў, што горад быў поўнасцю разрабаваны і ў ім не засталося ні людзей, ні жывёлы. Вайна і разбойныя напады як сродак абагачэння пануючага класа ў эксплуататарскім грамадстве адыгрывалі не апошнюю ролю. Эканамічная магутнасць класа феадалаў дазволіла яму заняць пануючае становішча ў палітычным жыцці грамадства, захапіць у свае рукі ўсе ключавыя пасады ў дзяржаўным апараце. У летапісным паведамленні аб органах кіравання ў Полацкім княстве ў сярэдзіне XIII ст. гаворыцца, што кіраванне ажыццяўлялі 30 мужоў, якія выконвалі ўсе адміністрацыйныя і судовыя функцыі [19].

Клас феадальна-залежных людзей утварыўся з некалькіх крыніц за кошт: 1) асаджвання халопаў і іншых несвабодных людзей на зямлі, бо для феадалаў значна важней станавілася права распараджэння павіннасцямі сялян, чым іх асобаю; 2) гвалтоўнага пазаэканамічнага прымусу былых свабодных абшчыннікаў уносіць пэўныя даніны і выконваць павіннасці на карысць асобных феадалаў або дзяржавы ў цэлым; 3) маёмаснага расслаення свабодных сялян, якія, збяднеўшы, трапілі ў даўгавую кабалу. У пачатковы перыяд развіцця феадальных адносін працягвалі яшчэ захоўвацца на тэрыторыі Беларусі свабодныя сяляне-даннікі, якія вялі сваю ўласную гаспадарку і абавязаны былі ўносіць на карысць цэнтральных і мясцовых органаў кіравання пэўную даніну прадуктамі сваёй працы або грашыма і выконваць шэраг дзяржаўных павіннасцей, такіх, як нясенне ваеннай службы пры скліканні апалчэння, рамонт і будаўніцтва замкаў, мастоў, дарог, нясенне ахоўнай службы і інш. Свабодныя сяляне-даннікі захоўвалі сваю свабоду да XVII ст., асабліва ў басейнах Заходняй Дзвіны, Дняпра, Сожа і Прыпяці. Напрыклад, у XVI ст. даннікамі працягвалі заста-

[19] ПСРЛ. М., 1975. Т. 32. С. 20.

ваецца сяляне валасцей: Крычаўскай, Прапойскай, Чачэрскай, Горвальскай, Рэчыцкай, Брагінскай, Мазырскай, Бабруйскай, Свіслацкай, Любошанскай, Усвяцкай, Азярышчанскай, Магілёўскай.

Халопы (рабы, чэлядзь нявольная) у Беларусі адыгрывалі істотную ролю як у гаспадарках асобных феадалаў, так і ў вялікакняжацкіх і дзяржаўных маёнтках, і захоўваліся да XVII ст. Халопства паступова замянялася прыгоннай залежнасцю. У. І. Ленін лічыў, што рабства ў велізарнай большасці краін у сваім развіцці ператварылася ў прыгоннае права. Гэтая выснова У. І. Леніна была вернай і для Беларусі. Наяўнасць у IX—XII стст. значнай колькасці свабодных сялян-даннікаў і рабоў у канчатковым выніку не мяняла феадальнага характару грамадскіх адносін, бо свабодныя сяляне-даннікі ўносілі рэнту на карысць феадальнай дзяржавы і рабы эксплуатаваліся таксама феадаламі. У эканамічнай структуры грамадства праца свабодных сялян-даннікаў і чэлядзі нявольнай не адыгрывала пэўнай ролі і насіла дапаможны характар.

Да IX—XII стст. адносіцца і значны рост насельніцтва ў гарадах, дзе таксама ішоў працэс маёмаснага расслаення. Купцы і багатыя рамеснікі, якія валодалі ўласнымі майстэрнямі, занялі пануючае становішча ў гарадах. Яны аказвалі значны ўплыў на ўсю палітыку дзяржавы. Акрамя таго, яны валодалі і зямельнымі маёнткамі, работы ў якіх вяліся залежнымі ад іх сялянамі і чэляддзю нявольнай. Гараджане мелі значны ўплыў на вырашэнне пытанняў, выносімых на абмеркаванне вечавых сходаў.

## 3. Палітычны лад

У старадаўнасці для вызначэння дзяржавы было некалькі тэрмінаў. У летапісах і іншых пісьмовых крыніцах дзяржавы называюцца такімі тэрмінамі, як «зямля», «горад», «княства», «воласць». Напрыклад, у «Рускай Праўдзе» было запісана: «А и своего города в чюжю землю свода нетуть» (арт. 35, па Траецкаму спісу). У дадзеным артыкуле тэрміны «горад» і «зямля» абазначаюць дзяржаву. М. Ф. Уладзімірскі-Буданаў лічыў, што тэрмін «зямля» дакладней абазначае аб'ём тагачасных дзяржаў і іх унутраны характар. З гэтым сцвярджэннем нельга пагадзіцца, бо ў старажытнасці для абазначэння адной і той жа дзяржавы ўжываліся розныя тэрміны, якія

мелі аднолькавае значэнне, хоць і адлюстроўвалі некаторыя адценні. Тэрміны «княжанне», «княства», «воласць» больш падкрэслівалі ўладныя паўнамоцтвы, а тэрміны «зямля», «горад»— тэрыторыю дзяржавы і яе дзяржаўную будову. У склад «зямлі», як правіла, уваходзіла некалькі больш дробных дзяржаў, г. зн. «зямля» выступае як злучаная феадальная дзяржава. «Горад» звычайна не ўключаў у свае валоданні іншых дзяржаў, а меў толькі прыгарады.

Кожная старажытная дзяржава мела свой палітычны цэнтр, стольны, або старэйшы, горад. Па яго імені называлася і ўся дзяржава і яе жыхары: палачане, driучане, лукамляне, меняне, берасцейцы і да т. п., што служыць сведчаннем таго значэння, якое надавалася сталіцы ў палітычным, культурным і гаспадарчым жыцці ўсёй дзяржавы.

У дзяржаўным ладзе да IX ст. пераважалі дробныя дзяржавы-княствы, якія былі адасоблены нават ад сваіх бліжэйшых суседзяў. К. Маркс, характарызуючы палітычны лад Індастана да яго заваявання мусульманскімі феадаламі, указваў, што ён быў падзелены на столькі незалежных і варожых паміж сабою дзяржаў, колькі ён налічваў гарадоў або нават вёсак [20]. Гэтая характарыстыка, дадзеная К. Марксам палітычнаму ладу Індыі, падыходзіць і да старажытных дзяржаў Усходняй Еўропы.

Змены ў вытворчых адносінах, што адбываліся ў IX—X стст., выклікалі карэнныя змяненні ў дзяржаўным і палітычным ладзе. Гэтаму садзейнічала таксама новая ідэалогія класа феадалаў, што складваўся, якую падтрымлівала праваслаўнае духавенства, выхаванае на ідэях і традыцыях візантыйскага дэспатызму і цэнтралізму. Усё гэта прывадзіла да таго, што дробныя дзяржавы-княствы аб'ядноўваліся пад пратэктаратам больш моцных дзяржаў або нават зліваліся з імі. Акрамя таго, і больш моцныя дзяржавы ўступалі паміж сабой у саюзы і аб'яднанні, утвараючы своеасаблівыя феадальныя федэрацыі і канфедэрацыі. Узаемасувязі ў такіх саюзах часта трымаліся на родпасных адносінах кіраўнікоў дзяржаў — князёў і пасля смерці аднаго з іх скасоўваліся, у сувязі з чым аб'яднаная дзяржава-саюз распадалася на састаўныя часткі — дробныя дзяржавы, княствы.

Саюзы і аб'яднанні дзяржаў-княстваў утвараліся як

---

20 *Маркс К., Энгельс Ф.* Соч. Т. 9. С. 130.



на аснове добраахвотных пагадненняў, так і па прымусу больш моцных дзяржаў, але характар саюзных дзяржаў ад гэтага не мяняўся.

На тэрыторыі Беларусі ў IX—XIII стст. існавалі некалькі буйных дзяржаў-княстваў, сярод якіх найбольшае значэнне мелі княствы Полацкае, Менскае, Тураўскае, Пінскае, Берасцейскае, Гарадзенскае, Навагрудскае. У сваю чаргу гэтыя княствы часамі ўтваралі саюзы паміж сабой або з іншымі княствамі, а здаралася, і

*А. Шатэрнік.* Кірыла Тураўскі. Скульптура

варагавалі паміж сабой. У XII ст. першачарговае значэнне сярод княстваў належала Полацкаму княству. Яно займала тэрыторыю каля 40—50 тыс. кв. км (больш чым сучасная Бельгія ці Нідэрланды).

Дзяржаўны лад Полацкага княства ў IX—XII стст. будаваўся на аснове ўключэння ў яго склад некаторых дробных княстваў і саюза з іншымі. Так, у залежнасці ад Полацкага княства знаходзіліся княствы Лукомльскае, Друцкае, Браслаўскае, Віцебскае, а таксама латышскія княствы на Заходняй Дзвіне Герцыка і Кукейнае. Саюзныя адносіны былі з Менскім, Берасцейскім княствамі і інш. Такія ж адносіны ў Полацкай дзяржавы складваліся і са старажытнарускімі дзяржавамі, у прыватнасці з Кіеўскай і Смаленскай.

Найбольш ранні запіс аб Полацку змяшчаецца ў ісландскай сазе аб Цідрэку, у якой расказваецца аб асадзе і ўзяцці Полацка гунамі ў час кіравання ў іх Атылы, г. зн. у першай палове V ст.[21] Зразумела, гэтае паведамленне належыць крытычнай ацэнцы, але можна мерка-

[21] *Сапунов А.* Сказания исландских, или скандинавских, саг о Полоцке, князьях полоцких и р. Западной Двине // Полоцко-Витебская старина. Витебск, 1916. Вып. 3. С. 29—32.

ваць, што ў ім знайшлі месца водгаласы нейкіх ваенных дзеянняў паміж палачанамі і гунамі, асабліва калі мець на ўвазе весткі Іаакімаўскага летапісу аб князях у славян у пачатку нашай эры. Летапісы аб Полацкай дзяржаве не дазваляюць узнавіць карціну яе сапраўднай гісторыі, а толькі сведчаць аб тым, што гэтая дзяржава адыгрывала значную ролю ў нашай гісторыі. Так, палачане ўдзельнічалі ў 907 г. у паходзе на Канстантынопаль і атрымалі з гэтага горада кантрыбуцыю. Расказваецца легенда аб сватаўстве і жаніцьбе ноўгарадска-кіеўскага князя Уладзіміра з полацкай князёўнай Рагнедай у 980 г. Летапісы паведамляюць аб неаднаразовых ваенных дзеяннях палачан з суседнімі дзяржавамі, аб паходах кіеўскіх князёў на палачан. У 1021 г. да Полацкай дзяржавы былі далучаны гарады Віцебск і Усвята. Урыўкавыя паведамленні змяшчаюцца і ў адносінах полацкіх падзей другой паловы XI ст., калі полацкім князем быў Усяслаў Брачыслававіч. Упамінаюцца паходы кіяўлян на Полацк і іншыя гарады ў 1066, 1069 і 1071 гг. Паведамляецца аб паходзе полацкага князя Барыса Усяславіча ў 1102 г. на ятвягаў і аб заснаванні горада Барысава, аб удзеле палачан у паходзе на полаўцаў у 1103 г. Змяшчаюцца звесткі аб вайне з земголамі і паражэнні палачан у 1106 г.

У 1116 г. кіяўляне ўчынілі паход на Полацкае княства і ўзялі Оршу і Менск, а ў 1119 г. узялі ў палон менскага князя Глеба, які і памёр у палоне. З падобных паведамленняў, нават калі прызнаць іх верагоднымі, няма магчымасці скласці палітычную гісторыю Полацкай дзяржавы, бо яны датычацца толькі сферы адносін Полацка з Кіевам і па-за полем зроку пакідаюць асноўныя моманты жыцця народа, а таксама адносін з іншымі дзяржавамі і княствамі, якія ўваходзілі ў сферу полацкага ўплыву.

Яшчэ больш бедныя звесткі аб княствах Тураўскім, Пінскім, Берасцейскім, Гарадзенскім, Наваградскім, Лідскім, Крэўскім і інш.

Разам з тым пры ўсёй мізэрнасці крыніц можна аднавіць асноўную сістэму палітычнага ладу старажытных дзяржаў.

Сістэма органаў улады і кіравання ў дзяржавах-княствах IX—XII стст. на тэрыторыі Беларусі была таго ж тыпу, што і ў іншых старажытнарускіх дзяржавах. Вышэйшымі органамі былі князь, савет (Рада), веча (сойм). Функцыі органаў цэнтральнага кіравання выконвалі не-

каторыя службовыя асобы, такія, як пасаднік, тысяцкі, ключнік, падвойскі, цівун, а таксама вышэйшыя прадстаўнікі праваслаўнай царквы — епіскап і ігумены.

Князь быў галоўнай асобай ва ўсёй сістэме кіравання. Ён стаяў на чале дзяржавы і ўсіх выканаўчых органаў, меў права вырашаць усе бягучыя пытанні дзяржаўнага кіравання. Па важных справах ён раіўся са сваімі бліжэйшымі саветнікамі — «думчымі», «лепшымі», «добрымі» «мужамі» або склікаў веча для больш шырокага абмеркавання. Асноўным абавязкам князя была арганізацыя абароны дзяржавы ад знешняга нападу і падтрыманне парадку ўнутры дзяржавы. У асабістым распараджэнні князя была невялікая дружына, якая часта наймалася з іншаземцаў. Яна несла ахову княжацкага дома і выконвала даручэнні князя па падтрыманню парадку ўнутры дзяржавы ў мірны час. У час ваенных паходаў дружына складала ядро найбольш баяздольнай часткі войска.

Уладарныя паўнамоцтвы князя абумоўліваліся як яго асабістымі якасцямі і аўтарытэтам сярод насельніцтва, так і падтрымкай вярхоў пануючага класа, у руках якога знаходзіўся ўвесь апарат дзяржаўнага кіраўніцтва.

Узвядзенне князя на прастол магло адбывацца па-рознаму. Найбольш часта на прастол уступаў адзін з наследнікаў князя, які раней кіраваў. Але лічылася нармальным і запрашэнне іншага князя.

Даволі распаўсюджаным быў захоп улады сілаю, калі князь, абапіраючыся на падтрымку часткі насельніцтва або сілы іншага княства, сядаў там на княжанне. Аднак і ў такім выпадку дзяржава не страчвала свайго суверэнітэту ва ўнутраных і знешніх адносінах. Наглядным прыкладам розных спосабаў уступлення на княжацкі прастол можа служыць гісторыя жыцця полацкага князя Усяслава Брачыслававіча. Ён стаў полацкім князем пасля смерці свайго бацькі Брачыслава ў 1044 г. У 1067 г. на Полацкую дзяржаву быў зроблены паход аб'яднаных сіл Кіеўскага, Чарнігаўскага і Пераяслаўскага княстваў. Не дабіўшыся поспеху ў ваенных дзеяннях, князі Ізяслаў Кіеўскі, Святаслаў Чарнігаўскі і Усевалад Пераяслаўскі шляхам падману і клятвапарушэння захапілі ў палон Усяслава Полацкага і пасадзілі яго ў турму ў Кіеве. У верасні 1068 г. ў Кіеве ўспыхнула народнае паўстанне, у выніку якога Ізяслаў быў выгнаны з Кіева, а на яго месца абраны вызвалены Усяслаў Полацкі. Затым Усяслаў

пакінуў Кіеў і вярнуўся ў Полацк, адкуль выгнаў князя Святаполка.

Уступленне князя на прастол суправаджалася строга пэўным рытуалам, у час якога новы князь прыносіў прысягу ахоўваць тэрыторыю дзяржавы і інтарэсы грамадзян, абяцаў дзейнічаць у адпаведнасці з мясцовымі дзяржаўна-прававымі звычаямі. Умовы ўступлення князя на прастол афармляліся ў дагаворы-радзе, які заключаўся князем з вярхамі пануючага класа. Некаторыя старажытныя нормы (артыкулы) пагаднення знаходзілі адлюстраванне і ў наступных заканадаўчых актах. Напрыклад, у грамаце, выдадзенай палачанам у 1511 г., ёсць умовы, якія былі выпрацаваны ў больш старажытны перыяд, калі Полацкая дзяржава была яшчэ самастойнай і палачане заключалі дагаворы са сваімі князямі. Згодна з гэтымі ўмовамі князь абяцаў не ўмешвацца ў царкоўныя справы і царкоўную маёмасць, не адымаць маёмасці ў палачан, старых рашэнняў судоў не пераглядаць, не перашкаджаць выезду свабодных людзей за мяжу княства і шэраг іншых [22].

Паўнамоцтвы князя ажыццяўляліся ў асноўным у сферы выканаўча-распараджальнай дзейнасці. Правам выдання новых законаў князь не валодаў. Такое права прызнавалася толькі за калегіяльнымі органамі — думай (Радай) і вечам. Судовая дзейнасць князя таксама абмяжоўвалася вярхамі кіруючага класа: ён не мог судзіць аднаасобна і павінен быў учыняць правасуддзе сумесна з членамі Рады і іншымі асобамі.

Княжацкая дума (Рада) не мела пастаяннага складу. Князь мог запрашаць да сябе на нарады ўсіх, каго ён хацеў, але яму не дазвалялася ігнараваць думкі найбольш уплывовых людзей у дзяржаве і асабліва службовых асоб цэнтральнага і дварцовага кіравання. Да бліжэйшых саветнікаў князя адносіліся епіскап, ігумены, пасаднік, тысяцкі, падвойскі, ключнік, найбольш паважаныя члены княжацкай дружыны, а таксама «цівун градскі», «старцы градскія». У пісьмовых помніках члены савета называюцца «лепшыя», «пярэднія» мужы. Кампетэнцыя Рады фактычна злівалася з кампетэнцыяй князя, бо ўсе пытанні, вырашаемыя князем, як правіла, ён абмяркоўваў са сваімі саветнікамі. Аб залежнасці Полацкага князя ад сваіх саветнікаў расказвае ісландская сага аб Эймундзе. У ёй гаворыцца, што калі скандынавец

---

[22] АЗР. СПб., 1848. Т. 2. С. 86—90.

Эймунд прыйшоў з дружынай наймацца на службу да Полацкага князя Брачыслава, то князь адказаў яму: «Дайце мне час параіцца з маімі мужамі, таму што яны даюць мне грошы, а я толькі іх трачу»[23]. На пасяджэннях Рады, што адбываліся штодзённа, прысутнічалі не ўсе асобы, якія мелі права прымаць удзел у нарадах з князем, а толькі тыя з іх, якія ў дадзены час знаходзіліся каля яго. Пры вырашэнні ж больш важных пытанняў Рада збіралася ў поўным складзе. Акрамя бягучай выканаўча-распараджальнай дзейнасці ў Радзе вырашаліся і найбольш важныя судовыя справы, якія датычалі інтарэсаў прадстаўнікоў кіруючых вярхоў і вышэйшых службовых асоб дзяржаўнага апарата. Пры адсутнасці князя ўсё кіраўніцтва дзяржаўнымі справамі сканцэнтроўвалася ў руках членаў Рады. У Хроніцы літоўскай і жамойцкай расказваецца, што ў XIII ст. у Полацку кіравалі 30 мужоў, выбраных з ліку палачан, якія вырашалі ўсе справы і рабілі правасуддзе[24]. На Радзе рыхтаваліся і рашэнні, якія падлягалі абмеркаванню на вечы (сойме). Рыхтуючы скліканні веча, члены Рады мабілізоўвалі залежных ад сябе людзей і патрабавалі ад іх падтрымкі сваім рашэнням, праводзілі пэўную агітацыйную кампанію сярод насельніцтва. Такім чынам, і на вечах членам Рады належала кіруючая роля.

Веча (сойм) — найбольш старажытны орган дзяржаўнай улады. Яно ўзнікла адначасова з дзяржавай і існавала ва ўсіх старажытных славянскіх дзяржавах у ноўгарадцаў, смалян, кіяўлян, палачан і г. д. Вядомы рускі гісторык права В. Сергяевіч лічыў, што «веча... існуе з незабыўных часоў і было заўсёды»[25]. Славамі «веча», «снем», «сойм» у даўнія часы абазначаўся ўсякі сход народа. У актах XIII—XV стст. на Беларусі атрымліваюць распаўсюджванне і такія назвы сходаў, як «капа», «купа» (ад слоў «капіць», «скоп», «скупшчына»). Веча збіралася ў пэўным месцы, на гандлёвай плошчы, каля царквы. Яно лічылася таксама законным, калі збіраліся па нейкіх прычынах і ў незвычайных месцах. Паўнапраўнымі ўдзельнікамі веча прызнаваліся толькі свабодныя людзі і не падначаленыя сямейнай уладзе. Напрыклад, жыхары Друцка, запрашаючы да сябе князя Рагвалода

---

[23] *Сапунов А.* Сказания исландских, или скандинавских, саг о Полоцке, князьях полоцких и р. Западной Двине. С. 2, 10.

[24] ПСРЛ. Т. 32. С. 20.

[25] *Сергеевич В.* Русские юридические древности. СПб., 1893. Т. 2, вып. 1. С. 33.

Барысавіча, гаварылі: «Прыязджай, князь, не марудзь, рады мы табе; калі давядзецца, станем біцца за цябе і разам з дзецьмі» [26]. Адсюль відаць, што бацькі рашалі і за паўналетніх дзяцей, якія былі здольныя змагацца за князя. Дакладнай колькасці асоб, якія з'явіліся на веча, для прызнання яго паўнапраўным не было, але адсутнасць прадстаўнікоў пэўнай часткі насельніцтва магла выклікаць неабавязковасць для іх дадзенага рашэння. Таму органы дзяржаўнага кіравання былі зацікаўлены, каб на вечы (сойме) былі прадстаўнікі розных груп насельніцтва. Так, у грамаце, выдадзенай палачанам у 1486 г., гаварылася: «И далей приказуем, абы бояре и мещане и дворане городские и все поспольство в згоде межи собою были, а дела бы наши господарские вси згодою посполу справляли по давному, а сымались бы вси посполу на том месте, где перед тым сымывались здавна. А без бояр мещаном и двораном городским и черни соимов не надобе чинить» [27].

Удзел у палітычным жыцці ўсіх паўнапраўных людзей быў неабходны для нармальнай дзейнасці дзяржавы. Пры невялікім чыноўніцкім апараце органы ўлады вымушаны былі пастаянна шукаць падтрымку ў насельніцтва, а таму ўсе найважнейшыя справы дзяржаўнай палітыкі маглі быць ажыццёўлены толькі са згоды большасці паўнапраўных грамадзян. Кіруючая роля на вечавых сходах належала найбольш уплывовым мужам. З узмацненнем класавага расслаення паступова падала значэнне простых людзей і ўзрастала роля эксплуататарскіх вярхоў, а самі вечы з органаў, якія выказваюць волю большасці народа, ператвараліся ў органы толькі пануючага класа.

Усе пытанні на вечавых сходах вырашаліся пераважнай большасцю. Пры разыходжанні думак прымалася рашэнне, што выказвала волю найбольш моцнай часткі прысутных, якія былі ў стане прымусіць астатніх згадзіцца з іх думкай і затым дабіцца выканання рашэнняў. Кола пытанняў, якія падлягалі вечаваму вырашэнню, не было строга вызначана. Найбольш важнымі справамі былі: раскладка павіннасцей і падаткі, выбранне і выганне князя, прызначэнне і зняцце вышэйшых службовых асоб, пытанні вайны і міру, арганізацыя апалчэння і аба-

---

[26] *Соловьев С. М.* История России с древнейших времен. М., 1959. Т. 2, кн. 1. С. 517.

[27] Полоцкие грамоты XIII — начала XVI вв. М., 1978. Ч. 2. С. 111.

роны, найбольш важныя судовыя справы, міжнародныя адносіны.

Функцыі органаў кіравання выконвалі службовыя асобы: пасаднік, тысяцкі, падвойскі, ключнік, цівун.

Пасаднік выбіраўся вечам або прызначаўся князем на няпэўны тэрмін. Ён быў як у стольным горадзе, так і ў іншых гарадах дзяржавы, дзе ён выконваў функцыі намесніка князя. Кола паўнамоцтваў пасадніка было вельмі шырокім. Ён разам з князем судзіў, разглядаў справы ў княжацкай Радзе, удзельнічаў у распрацоўцы новых законаў і дагавораў з іншымі дзяржавамі, старшынстваваў на вечы (сойме), быў намеснікам князя ў час яго адсутнасці.

Тысяцкі гэтак жа, як і пасаднік, выбіраўся вечам або прызначаўся князем на няпэўны тэрмін. У ваенны час ён камандаваў апалчэннем, у мірны — сачыў за падтрыманнем парадку ў горадзе і кіраваў гандлёвымі справамі. Падвойскі знаходзіўся ў ліку прыбліжаных князя. Яму даручалася выкананне рашэнняў веча і распараджэнняў князя. Ён жа, як відаць, быў камандзірам княжацкай дружыны. Гаспадарчымі справамі ў дзяржаве распараджаліся ключнік і цівун. Яны ж кіравалі і некаторымі судова-адміністрацыйнымі справамі.

Ідэалагічнай апрацоўкай насельніцтва, пытаннямі адукацыі, апекай над жабракамі і хворымі займалася духавенства. Вярхі духавенства прымалі актыўны ўдзел ва ўсім палітычным жыцці дзяржавы і грамадства.

## 4. Асноўныя рысы старажытнага права Беларусі

У старажытнасці пануючым было звычаёвае права. Яно ўяўляе сабой сістэму няпісаных прававых норм, якія ўзніклі непасрэдна з грамадскіх адносін, што абапіраліся на агульнапрынятасць і даўнасць ужывання і былі санкцыяніраваны дзяржавай. Гэтае права складвалася і развівалася па меры ўзнікнення дзяржаўных органаў, якія санкцыяніравалі і падтрымлівалі выгадныя і ўгодныя пануючаму класу прававыя нормы, абгрунтоўваючы законнасць ужывання гэтых норм іх агульнапрынятасцю і даўнасцю ўжывання. Да таго часу, пакуль права і справядлівасць былі блізкія па сваім змесце, можна было абыходзіцца адным звычаёвым правам і суддзі былі ў стане самі выносіць рашэнні ў адпаведнасці з правам і справядлівасцю. Пасля стварэння ільгот для пануючага класа і асабліва для кіруючых вярхоў права і справядлі-

васць сталі не раўназначныя. Таму запатрабавалася выданне спецыяльных законаў, дапаўненняў і растлумачванняў да нормаў звычаёвага права, якія, захоўваючы знешняе падабенства справядлівасці, па сутнасці ёй супярэчылі, але былі выгадныя і ўгодныя класу эксплуататараў. У стварэнні пісанага права былі зацікаўлены і простыя людзі, бо суддзямі і тлумачальнікамі нормаў звычаёвага права часцей за ўсё выступалі прадстаўнікі пануючага класа, якія, карыстаючыся няпэўнасцю і непаўнатой звычаёвага права, адвольна вырашалі справы ў сваіх асабістых інтарэсах. Таму пісанае права павінна было служыць умацаванню стабільнасці прававых нормаў і праваадносін.

Характэрнай рысай старажытнага звычаёвага права была ідэя фармальнага раўнапраўя свабодных грамадзян, поўнага бяспраўя халопаў і чэлядзі нявольнай і фактычных ільгот для пануючага класа. Усе свабодныя хатнія гаспадары маглі ўдзельнічаць у вырашэнні дзяржаўных спраў на вечавых сходах, але валодалі рознай правааздольнасцю. Аднак у практычным жыцці буйныя землеўласнікі дабіліся для сябе пераваг у частцы заняцця дзяржаўных пасад і ў прысваенні сабе некаторых даходаў. Асабліва ўзраслі перавагі і правы кіруючых вярхоў у перыяд станаўлення і ўмацавання феадальных адносін. У сувязі з чым і звычаёвае права стала замацоўваць праваадносіны, выгадныя класу феадалаў. Гэтая дваістасць звычаёвага права атрымала адлюстраванне і ў розных помніках пісанага права, такіх, як «Руская Праўда», дагавор 1229 г., у граматах Полацкай і Віцебскай земляў.

Другой асаблівасцю звычаёвага права была яго раз'яднанасць. У кожнай дзяржаве-княстве дзейнічала сваё мясцовае звычаёвае права. Так, аўтар «Аповесці мінулых гадоў» гаворыць, што насельніцтва кожнай зямлі «имяху бо обычаи свои и закон отец своих и преданья каждо свой нрав». На Беларусі раз'яднанасць права асобных тэрыторый захоўвалася да XVI ст. Вылучалася звычаёвае права і кансерватызмам прававых нормаў, што ў значнай ступені абмяжоўвала заканадаўчую дзейнасць князя і веча. Нават у XV—XVI стст. урад абяцаў даўніны не парушаць і новых парадкаў не ўводзіць.

Пісанае права напачатку не адмяняла нормаў звычаёвага права, а толькі дапаўняла яго прывілеямі пануючаму класу і уніфікавала, надавала яму агульнадзяржаўны характар. Ва ўсіх старажытных помніках пісанага права

асноўны змест складалі нормы, узятыя са звычаёвага права. Спалучэнне старых нормаў звычаёвага права і новай правятворчасці асабліва выразна відаць у «Рускай Праўдзе», Судзебніку 1468 г. і ў Статуце 1529 г.

Найбольш старажытнымі помнікамі пісанага права на Беларусі былі граматы, якія датычылі адносін Полацка і Віцебска з Рыгай і нямецкімі купцамі, а таксама дагаворы 1229, 1264 і 1338 гг. З гэтых грамат і дагавораў відаць, што ў XIII—XIV стст. паміж беларускімі і нямецкімі купцамі існавалі ўстойлівыя гандлёвыя і дыпламатычныя адносіны, заснаваныя на раўнапраўных адносінах. Гэтыя акты служаць каштоўнымі крыніцамі пры вывучэнні старажытнага права, бо бакі, якія дамаўляліся, знаходзіліся прыкладна на адным узроўні эканамічнага і культурнага развіцця. Кожны бок уносіў у пагадненні нормы свайго мясцовага звычаёвага права. Дагавор 1229 г. быў заключаны Смаленскім, Віцебскім і Полацкім княствамі з Рыгай і Гоцкім берагам. Галоўнае прызначэнне дагавора заключалася ў замацаванні прававых норм, якія забяспечвалі нармальныя адносіны паміж заходне- і ўсходнееўрапейскімі народамі на аснове ўзаемнасці і раўнапраўя. У дагаворы прадугледжвалася зацвярджэнне мірных адносін, вызначаўся аб'ём адказнасці за крымінальныя злачынствы, парадак і чарговасць спагнання доўгу, парадак судаводства.

Развіццё і ўмацаванне феадальных адносін атрымала адлюстраванне ў нормах грамадзянскага і крымінальнага права. У першую чаргу гэта адбілася на ўстанаўленні рознай правадольнасці простых людзей і феадалаў. Найбольш поўнай правадольнасцю валодалі князі, баяры («лепшыя», «пярэднія» мужы) і вышэйшыя слаі духавенства. Яны маглі распараджацца маёнткамі, якія належалі ім, учыняць розныя грамадзянска-прававыя здзелкі, мець залежных ад сябе людзей і халопаў. Меншай праваздольнасцю валодалі свабодныя людзі, якія знаходзіліся ў васальнай залежнасці ад буйных землеўладальнікаў. Яшчэ больш абмежавана была праваздольнасць феадальна-залежных сялян. Халопы і чэлядзь нявольная валодалі нязначнай праваздольнасцю. Яны не мелі права валодаць нерухомай уласнасцю, не маглі выступаць на судзе.

У залежнасці ад класавай прыналежнасці пацярпеўшага і злачынцы ўстанаўлівалася і розная крымінальная адказнасць. У сувязі з тым, што выяўленне і дастаўка злачынцы ў суд, як правіла, павінны былі ажыццяў-

ляцца самім пацярпеўшым або яго блізкім, то злачынства, учыненае багатай і ўплывовай асобай супраць беднага чалавека, заставалася беспакараным, калі бедны чалавек не меў моцнага апекуна. Устанаўлівалася больш высокая адказнасць за злачынствы, накіраваныя супраць асоб, якія належаць да пануючага класа. Напрыклад, у дагаворы 1229 г. прадугледжвалася, што за забойства свабоднага чалавека з вінаватага спаганялася 10 грыўнаў серабра, за папа альбо пасла 20 грыўнаў, за халопа 1 грыўна серабра. У наступным заканадаўстве такая градацыя атрымала яшчэ большае адлюстраванне.

Асноўнымі відамі пакарання былі маёмасныя спагнанні, выдача злачынцы пацярпеўшаму, а за найбольш цяжкія злачынствы злачынца і яго сям'я падвяргаліся расправе і рабаванню.

У сямейным праве ў старажытнасці галоўнае значэнне надавалася шлюбу. Для яго сапраўднасці ў дахрысціянскі перыяд дастаткова было згоды бацькоў на шлюб і ўчынення вяселля. Абрад вяселля складаўся з выканання пэўных магічных абрадаў — расплятання касы нявесты, разуванне жаніха, саджання на кажухі і да т. п., а таксама частавання прысутных, выканання песень і танцаў. Усё гэта адвяргалася духавенствам. Таму старажытны манах-летапісец і запісаў, што ў радзімічаў «браки не бывают, но сходятся меж сел на игрища, плясание и вся песни, и тут уводили себе жен, кто с которою зговорился»[28]. З гэтага паведамлення некаторымі даследчыкамі рабілася выснова, што ў старажытнасці ў славянскіх народаў шлюбаў не было, а жонак выкрадалі. Такі вывад з'яўляецца памылковым, бо з цытаваных слоў відаць, што паміж жаніхом і нявестай існавала папярэдняя змова, што выключае абвінавачванне ў выкраданні. Акрамя таго, не менш старадаўнім з'яўляецца і звычай надзялення нявесты пасагам, які яна прыносіла ў дом жаніха. Наяўнасць пасага сведчыць аб тым, што шлюб заключаўся не толькі па змове бакоў, але і са згоды іх бацькоў. Асабістыя адносіны мужа і жонкі будаваліся на падпарадкаванні жонкі мужу. Ён прызнаваўся галавой сям'і, але калі муж ішоў у сям'ю жонкі — «у прымы», то ўласнікам гаспадаркі лічылася жонка або яе бацькі. У старажытным праве жанчыны карысталіся значнымі правамі і павагай. За злачынствы, учыненыя супраць жанчыны, вінаваты нёс пакаранне ў двайным памеры.

---

[28] *Татищев В. Н.* История Российская. Т. 2. С. 31.

Строга караліся злачынствы супраць маральнасці. Так, па дагавору 1229 г. пралюбадзейства каралася, як і забойства, у размеры 10 грыўнаў (арт. 11). Асноўнай формай сям'і ў язычніцкі перыяд сярод простага народа была парная сям'я, сярод пануючага класа было распаўсюджана і мнагажонства.

З развіццём феадальных адносін, і асабліва з насаджэннем хрысціянства, адбыліся некаторыя змяненні ў сямейным праве. Духавенства дабівалася ўстанаўлення царкоўнай формы шлюбу з абавязковым вянчаннем у царкве, устанаўленнем права атрымання ў спадчыну толькі для дзяцей ад бацькоў, якія знаходзіліся ў царкоўным шлюбе.

Раздзел 2

# АБ'ЯДНАННЕ БЕЛАРУСКІХ ЗЕМЛЯЎ У САСТАВЕ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА

## 1. Утварэнне Вялікага княства Літоўскага

Рост прадукцыйных сіл, умацаванне феадальных вытворчых адносін выклікалі павелічэнне грамадскага падзелу працы, што ў сваю чаргу садзейнічала развіццю гандлю і ліквідацыі адасобленасці дробных дзяржаўкнястваў, зліццю іх у больш буйныя дзяржавы. Асабліва гэты працэс узмацніўся ў Беларусі і Літве ў другой палове XII ст.

У Беларусі і Літве аб'яднанне падтрымлівалася і шырокімі масамі сялян, асабліва ў першай палове XIII ст., калі з паўночнага захаду пачалася агрэсія разбойніцкіх каталіцкіх ордэнаў крыжаносцаў і мечаносцаў, а з паўднёвага ўсходу — татар, што выклікала неабходнасць паскарэння аб'яднання беларускіх і літоўскіх княстваў у адзіную дзяржаву [1].

Беларускія княствы са старажытных часоў знаходзіліся ў пастаянных гандлёвых і палітычных адносінах паміж сабой, бо іх звязвала агульнасць гандлёвых шляхоў па Нёману, Дняпры, Віліі, Заходняй Дзвіне і іншых рэках, агульнасць культуры і язычніцкай, а затым і хрысціянскай, рэлігіі, сумесныя ваенныя дзеянні. У XII ст. пачаўся працэс далучэння і некаторых літоўскіх земляў да беларускіх княстваў. Існуе думка, што ў XI—XII стст. літоўцамі, або літвінамі, называліся славяне, якія жылі ў цэнтры Беларусі [2]. Цвярскі летапісец пісаў, што пры рассяленні славяне сталі называцца рознымі імёнамі: маравамі, чэхамі, харватамі, сербамі, ляхамі. А ад тых

[1] *Ігнатоўскі У.* Кароткі нарыс гісторыі Беларусі. Менск, 1925. С. 64—71.
[2] *Ермаловіч М. І.* Па слядах аднаго міфа. С. 29—31.

ляхаў празваліся адны палянамі «друзии лутици, а инши литва, инии мозовшене, инии поморане»[3]. У летапісах расказваецца таксама, што ў 1239 г. уладзімірскі вялікі князь Яраслаў Усеваладавіч хадзіў да Смаленска і, пераможны там літоўцаў, выгнаў са Смаленска «літоўскага» князя. А «літоўскім» князем у Смаленску быў у той час полацкі князь Святаслаў Мсціславіч, які захапіў княжанне ў Смаленску пры падтрымцы палачан[4].

З гэтых запісаў ясна відаць, што тэрмінам «літва» называлася ў старажытнасці і насельніцтва Полацкай, Менскай і іншых земляў.

Вялікае княства Літоўскае, у састаў якога ўвайшлі беларускія і літоўскія княствы, пачало складвацца ў канцы XII ст. На працягу XIII—XIV стст. да яго былі далучаны ўкраінскія і некаторыя рускія княствы. Сталіцай гэтай дзяржавы спачатку быў Наваградак (Навагрудак), а з XIV ст.— Вільня. Дзяржава ў XIV—XV стст. межавала на поўначы з Лівоніяй, Пскоўскай і Наўгародскай землямі, на ўсходзе з Маскоўскім і Разанскім княствамі, на паўднёвым усходзе з Залатой Ардой, на поўдні з Крымскім ханствам (выходзіла да Чорнага мора), на паўднёвым захадзе з Малдаўскай дзяржавай, на захадзе з Польшчай і на паўночным захадзе з Ордэнам крыжаносцаў (выходзіла да Балтыйскага мора). Яе тэрыторыя складала 900 тыс. кв. км.

Дзяржаўны лад Вялікага княства Літоўскага характарызаваўся дзяленнем яго на дзве часткі: цэнтральную (галоўную) і землі мяжуючыя («прыслухоўваючыя»). Спачатку адносіны паміж цэнтрам і мяжуючымі землямі будаваліся на асабістай залежнасці князёў асобных земляў ад вялікага князя, г. зн. на аснове сюзэрэнітэту — васалітэту. У XV ст. буйныя васальныя княствы былі пераўтвораны ў ваяводствы або паветы, у якіх кіравалі намеснікі вялікага князя — ваяводы і старасты.

У склад цэнтральнай часткі — палітычнага ядра — ўваходзілі землі Ашмянская, Браслаўская, Берасцейская, Віленская, Вілкамірская, Ваўкавыская, Гарадзенская, Клецкая, Кобрынская, Капыльская, Лідская, Менская, Мсціслаўская, Нясвіжская, Наваградская, Пінская, Рэчыцкая, Слонімская, Слуцкая, Трокская, Тураўская і

---

[3] ПСРЛ. М., 1965. Т. 15. С. 19.

[4] *Беляев И. Д.* Очерк истории Северо-Западного края России. Вильна. 1867. С. 49—50; *Голубовский П. В.* История Смоленской земли до начала XV ст. Киев. 1895. С. 199.

Упіцкая, якія ў гістарычных дакументах мелі агульную назву — Літва.

Да земляў «прыслухоўваючых» адносіліся Падляшша (з гарадамі Драгічынам на Бугу, Бельскам і Мельнікам), Валынь, Падолле, Кіеўшчына, Чарнігава-Северская, Смаленская, Віцебская, Полацкая землі і Жмудзь (паўночна-заходняя частка этнаграфічнай Літвы). Акрамя таго, у XV ст. землямі мяжуючымі былі рускія княствы, размешчаныя ў вярхоўях Акі і Дона,— Навасільскае, Варатынскае, Адоеўскае, Мцэнскае і інш. [5].

Дамінуючае становішча ў дзяржаве займалі цэнтральныя землі, у якіх была сканцэнтравана асноўная маса вялікакняскіх і дзяржаўных маёнткаў, тут жа знаходзіліся і асноўныя маёнткі буйных феадалаў. Гэтая тэрыторыя была параўнальна густа заселена, адсюль набіралася асноўная частка арміі, з яе насельніцтва ішлі асноўныя даходы ў дзяржаўную казну. Буйныя феадалы гэтых земляў Алелькавічы, Друцкія, Глебавічы, Гальшанскія, Кішкі, Радзівілы, Сапегі і інш. займалі пануючае становішча ў дзяржаве, у іх руках знаходзіліся ўсе найважнейшыя органы дзяржаўнай улады і кіравання. У сувязі з тым, што асноўную частку галоўнага ядра дзяржавы складалі беларускія землі, беларуская мова была прызнана дзяржаўнай мовай на ўсёй тэрыторыі дзяржавы.

Землі «прыслухоўваючыя» не зліваліся ў адно з асноўным дзяржаўным ядром, захоўвалі сваю дзяржаўна-прававую адасобленасць і выступалі як аўтаномныя суб'екты дзяржаўна-прававых адносін. Тут працягваў захоўвацца адасоблены мясцовы апарат дзяржаўнага кіравання, з той толькі розніцай, што ўзначальваўся ён спачатку асобнымі князямі, а затым вялікакняскімі намеснікамі — старастамі або ваяводамі. Разам з тым гэтыя землі не былі поўнасцю самастойнымі і іх насельніцтва знаходзілася пад уладаю цэнтральных органаў і абавязана было несці пэўныя агульнадзяржаўныя павіннасці. Таму такі дзяржаўны лад не можа разглядацца як феадальная раздробненасць, пры якой кожная зямля выступае ва ўсіх дзяржаўна-прававых адносінах самастойна, але не з'яўляецца дзяржавай з завершанай цэнтралізацыяй.

Адміністрацыйна-тэрытарыяльнае дзяленне дзяржа-

---

[5] *Любавский М. К:* Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. М., 1915. С. 34.

вы ў XIII—XIV стст. характарызавалася захаваннем старых граніц, якія былі паміж асобнымі княствамі да ўтварэння Вялікага княства Літоўскага. Пры вялікім князі Гедыміне (1316—1341) гэта дзяленне істотна не змянілася. Пасля ўступлення на вялікакняскі прастол Альгерда (1345—1377) цэнтральная частка была падзелена на дзве ваенна-адміністрацыйныя акругі, якія атрымалі затым назвы ваяводстваў Віленскага і Трокскага. Такое дзяленне было выклікана неабходнасцю адбіваць на захадзе напады Польшчы і крыжаносцаў, а на ўсходзе — татар. На адбіццё агрэсіі немцаў і палякаў накіроўваліся ў першую чаргу сілы Трокскага ваяводства, а супраць татар — Віленскага. Толькі з 1345 па 1382 г. крыжаносцы ўчынілі 96 набегаў на Беларусь і Літву.

Захаванне старога адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу і мясцовых органаў кіравання было выгадна як мясцовым феадалам, якія захавалі ў сваіх руках кіраванне на месцах, так і цэнтральнаму ўраду, што абапіраўся на мясцовых феадалаў. Князі асобных княстваў, што ўвайшлі ў састаў Вялікага княства Літоўскага, працягвалі называцца гасударамі, або братамі вялікага князя. Напрыклад, князі Васіль полацкі і Фёдар Расціслававіч менскі, якія прыбылі ў Ноўгарад у якасці паслоў, называюцца братамі Гедыміна. У дагаворы 1338 г. з Лівоніяй князі полацкі і віцебскі называюцца, гэтак жа як і Гедымін, каралямі [6].

Усё гэта сведчыць аб тым, што дзяржаўны лад Вялікага княства Літоўскага напачатку характарызаваўся наяўнасцю шырокай аўтаноміі асобных земляў-княстваў, якія ўвайшлі ў яго склад.

## 2. Грамадскі лад

У Вялікім княстве Літоўскім у XIV—XV стст. пануючым быў феадальны грамадскі лад. Разам з тым у гаспадарках буйных землеўладальнікаў працягвала выкарыстоўвацца і праца чэлядзі нявольнай. Захоўваліся таксама і свабодныя сяляне-даннікі, асабліва ва ўсходніх раёнах Беларусі.

Асноўным заняткам насельніцтва было земляробства і хатняя жывёлагадоўля. Паляванне, рыбалоўства і пчалярства мелі дапаможны характар. Працягвалі развівацца рамяство і гандаль, раслі гарады. Найбольш буй-

[6] Послания Гедимина. Вильнюс. 1966. С. 194.

нымі ў той час былі Вільня, Полацк, Бераст, Віцебск, Смаленск, Наваградак, Слонім, Гародня, Менск, Слуцк, Мсціслаў. Гандлем і ліхвярствам займаліся не толькі гараджане, але таксама свецкія і духоўныя феадалы, манастыры.

Па сваёй сацыяльнай структуры грамадства падзялялася на два асноўныя класы: феадальна-залежных сялян і феадалаў-землеўладальнікаў. Акрамя таго, у гарадах і сёлах пражывала значная колькасць людзей, якія лічыліся асабіста свабоднымі. Багатыя гараджане, асабліва гандлёва-рамесныя вярхі, што валодалі сродкамі вытворчасці або ажыццяўлялі буйны гандаль, мелі ўласныя зямельныя маёнткі і цесна змыкаліся з класам феадалаў. Іншыя жыхары гарадоў, якія працавалі ў купцоў або рамеснікаў, змыкаліся з феадальна-залежнымі людзьмі, а то і з чэляддзю нявольнай, асабліва парабкі і найміты.

Клас феадалаў падраздзяляўся на дзве асноўныя групы: найбольш багатыя і ўплывовыя — князі і паны, сярэднія і дробныя — баяры. Баярамі спачатку называліся ўсе землеўладальнікі, абавязаныя несці ваенную службу. Таму да разраду баяр адносіліся не толькі феадалы, але і заможныя сяляне. У XV—XVI стст. сярэднія і дробныя землеўладальнікі, якія выконвалі ваенную павіннасць, пачалі называцца шляхтай. У саслоўе шляхты былі ўключаны і шмат якія ваеннаслужылыя сяляне.

У саслоўе шляхты на Беларусі ўваходзілі ўсе феадалы і некаторая частка ваеннаслужылых людзей. Прававое становішча саслоўя шляхты рэзка адрознівалася ад простых людзей. Палітычныя, маёмасныя і асабістыя правы шляхты атрымалі заканадаўчае замацаванне ў агульназемскіх граматах і статутах.

Клас феадальна-залежных людзей складаўся з асабіста свабодных сялян-даннікаў, якія ўносілі феадальную рэнту ў дзяржаўную казну, і сялян-падданых, што знаходзіліся ў прамой залежнасці ад феадала. Акрамя таго, да несвабодных людзей адносілася чэлядзь нявольная — халопы, якія засталіся яшчэ ад перыяду рабаўладання.

## 3. Дзяржаўны лад у XIV—XV стст.

Вялікае княства Літоўскае было феадальнай манархіяй, на чале якой стаяў гасудар, які называўся вялікім князем, каралём, гаспадаром. Першым тытул караля

пачаў насіць Міндоўг пасля каранацыі ў сталіцы дзяржавы — Наваградку ў 1253 г. Тытул «караля літоўцаў і многіх рускіх» насіў Гедымін, які кіраваў з 1316 па 1341 г. Па-рознаму абазначалася і дзяржава: вялікае княства, гаспадарства, панства, рэч паспалітая. Кожны з гэтых тэрмінаў меў свае адценні, хоць усе яны абазначалі адну і тую ж дзяржаву. У назве «вялікае княства» падкрэслівалася велічыня тэрыторыі і форма ўлады ў дзяржаве, у назве «гаспадарства» — дамаганне разглядаць дзяржаву як асабістае валоданне, маёнтак гасудара, у тэрміне «панства» адлюстроўваліся ўладарныя паўнамоцтвы, у «рэчы паспалітае» ўкладвалася разуменне дзяржавы як агульнай справы, агульных інтарэсаў і агульнага дабрабыту. Гэты тэрмін з'яўляўся даслоўным перакладам на беларускую мову лацінскага паняцця «рэспубліка». «Рэч паспалітая» ў той час ужывалася таксама ў значэнні «грамадства», «грамадская справа».

Манархічны лад Вялікага княства Літоўскага ў XIII—XV стст. характарызаваўся сканцэнтраваннем у руках гасудара шырокіх уладарных паўнамоцтваў. Ён камандаваў узброенымі сіламі, кіраваў знешняй палітыкай, выдаваў граматы і іншыя прававыя акты, ажыццяўляў кіраўніцтва фінансава-гаспадарчай дзейнасцю. На тэрыторыі васальных княстваў ён вымушаны быў дзяліць уладу з васальнымі князямі і буйнымі панамі, якія ажыццяўлялі выканаўча-распараджальную і судовую дзейнасць на месцах. Улада вялікага князя не была абсалютнай і абмяжоўвалася вярхамі класа феадалаў, якія, валодаючы велізарнымі маёнткамі, мелі шмат васальна залежных людзей і ўваходзілі ў склад Рады Вялікага княства Літоўскага. Акрамя таго, улада вялікага князя абмяжоўвалася соймам, у састаў якога ўваходзілі і прадстаўнікі павятовай шляхты.

Пры ажыццяўленні сваёй улады князь абапіраўся на садзеянне службовых асоб цэнтральнага і мясцовага кіравання, а таксама іншых буйных феадалаў, якія былі яго бліжэйшымі саветнікамі і складалі яго Раду. Яна адыгрывала галоўную ролю ў дзяржаўных справах. Так, паводле рашэння радных паноў Віцень быў абраны вялікім князем літоўскім, і з іх жа згоды пасля смерці Альгерда на вялікакняжацкі прастол уступіў Ягайла (Якаў Андрэевіч). Ёсць звесткі, што вялікія князі раіліся з буйнымі феадаламі па ўсіх найважнейшых дзяржаўных справах. Напрыклад, у паведамленні каталіцкага пасольства, што наведала Вільню ў 1324 г., адкрыта га-



Руіны Навагрудскага замка

ворыцца аб наяўнасці пры вялікім князі Гедыміне савета, які складаўся прыкладна з 20 чалавек[7]. Аб наяўнасці нарадаў гасудара з князямі і панамі сведчаць летапісы, граматы і дагаворы з замежнымі дзяржавамі. У Раду ўваходзілі бліжэйшыя родзічы вялікага князя, князі васальных княстваў, службовыя асобы дзяржаўнага апарату. На абмеркаванне ў Радзе выносіліся ўсе тыя пытанні, па якіх патрабавалася садзеянне буйных феадалаў як пры вынясенні рашэння, так і пры яго выкананні.

Да XIV ст. адносіцца пачатак рэгулярнага склікання больш шырокіх нарадаў, якія атрымалі назву соймаў. Сойм, як вышэйшы заканадаўчы орган Вялікага княства Літоўскага, бярэ пачатак ад старажытных вечавых сходаў, якія пры феадалізме пераўтварыліся ў саслоўна-класавыя органы феадалаў. Акрамя таго, соймам называліся і іншыя сходы, напрыклад, сход жыхароў горада або павятовай шляхты. Так, у грамаце, выдадзенай жыхарам Полацка ў 1456 г., было запісана: «А соймались бы вси посполу на том месте, где перед тым соймовались здавна. А без бояр мещаном и дворяном городским и черни соймов ненадобе чинить» [8]. Побач з мясцовымі соймамі збіраліся і агульнадзяржаўныя, на якія з'язджаліся

[7] Послания Гедимина. С. 122.
[8] БЭФ. Т. 1. С. 260.

князі, паны і баяры-шляхта цэнтральнай часткі дзяржавы і некаторыя прадстаўнікі земляў «прыслухоўваючых». Такі, як відаць, быў сойм пры заключэнні дагавора з Лівоніяй у 1338 г., у якім прынялі ўдзел палачане і віцябчане, а таксама сойм 1385 г., што даў згоду на жаніцьбу Ягайлы з польскай каралевай Ядвігай і унію Вялікага княства Літоўскага з Польшчай.

Умацаванне эканамічных сувязей унутры дзяржавы, а таксама ўзмацненне працэсу цэнтралізацыі выклікалі неабходнасць больш шырокага прыцягнення феадалаў да вырашэння агульнадзяржаўных спраў і асабліва да больш актыўнага іх удзелу ў выкананні рашэнняў цэнтральных органаў. У сувязі з гэтым соймы становяцца больш прадстаўнічымі і пачынаюць называцца «вялікімі вальнымі соймамі».

На соймы запрашаліся ўсе епіскапы, князі васальных княстваў, службовыя асобы цэнтральных і мясцовых органаў дзяржаўнага кіравання, а таксама феадалы, якія пажадалі прыбыць на сойм. Парадак склікання і работы сойма, яго кампетэнцыя да XVI ст. рэгуляваліся не законамі, а звычайным правам. Рашэнні на сойме выносіліся, як правіла, гасударам і Радай, а дробныя і сярэднія феадалы пры гэтым прысутнічалі, інакш кажучы, яны фактычна валодалі толькі дарадчым, а не рашаючым голасам. Таму і самі соймы ў XIV—XV стст. мелі значэнне больш органа дарадчага і асведамляльнага, чым заканадаўчага. У XVI ст. заканадаўчыя функцыі сойма і феадалаў, на ім прысутнічаючых, крыху пашыраліся, але ўсе рашэнні рыхтаваліся кіруючымі вярхамі, г. зн. гасударам і Радай.

Службовыя асобы цэнтральнага кіравання напачатку не былі аддзелены ад дварцовай адміністрацыі і дзейнічалі не як самастойныя органы дзяржаўнага кіравання, а як памочнікі гасудара па тых ці іншых пытаннях.

Да вышэйшых службовых асоб адносіўся канюшы, які пазней стаў называцца маршалкам. Ён сачыў за захаваннем парадку і этыкету пры двары вялікага князя, старшынстваваў на пасяджэннях сойма і Рады, аб'яўляў рашэнні гасудара, сойма і Рады, ажыццяўляў правасуддзе ў адносінах да асоб, вінаватых у здзяйсненні злачынстваў у месцы знаходжання гасудара або на сойме. У даўнія часы ён жа загадваў вялікакняскімі стайнямі. Памочнікам князя ў камандаванні войскамі быў ваявода, які таксама мог ажыццявіць суд над падначаленымі яму асобамі. Пазней ваяводамі пачалі называцца кіраўнікі

мясцовай адміністрацыі ў абласцях-ваяводствах. Функцыі дварцовай адміністрацыі выконвалі каморнікі, якія сачылі за захоўваннем маёмасці і каштоўнасцей вялікага князя, выконвалі яго розныя даручэнні па дварцоваму і дзяржаўнаму кіраванню. Пры двары захоўваліся і іншыя старажытныя дварцовыя чыны: стольнік ведаў забеспячэннем кухні і сервіроўкай стала; чашнік загадваў напіткамі, мечнік — аружаносец вялікага князя.

Мясцовыя органы дзяржаўнага кіравання ўзначальваліся князямі-васаламі вялікага князя, намеснікамі, цівунамі, якія вырашалі ўсе справы, раючыся з мясцовымі феадаламі. Асобныя абавязкі былі ў ключнікаў, гараднічых, ляснічых. Прадстаўнічымі органамі на месцах працягвалі заставацца сходы жыхароў дадзенай мясцовасці — веча, соймы, сходы і копы. На іх у даўнія часы маглі з'яўляцца ўсе паўналетнія, свабодныя жыхары дадзенай мясцовасці. У XV ст. у сувязі з юрыдычным афармленнем саслоўяў пачалі збірацца павятовыя соймікі шляхты-баяр, на якія простыя людзі не дапускаліся. Непасрэднае кіраванне ў сёлах ажыццяўлялі выбарныя сялянскія органы — старцы, соцкія, дзесяцкія.

## 4. Крэўская і Гарадзельская уніі

У 1385 г. ў замку Крэва (цяпер мястэчка Смаргонскага раёна на Гродзеншчыне) быў заснаваны дзяржаўна-прававы саюз, з якога пачалося ўстойлівае збліжэнне Вялікага княства Літоўскага з Польшчай. 400 гадоў уся гісторыя народаў Беларусі, Украіны, Літвы і Польшчы была звязана з гэтым саюзам. Ён унёс вялікія змены ў лад абедзвюх дзяржаў і істотна ўплываў на развіццё эканамічных, палітычных і культурных сувязяў гэтых народаў.

Вялікае княства Літоўскае з першых дзён існавання вымушана было прыняць на сябе ўдары нямецка-каталіцкіх захопнікаў, якія імкнуліся заняволіць усе народы Усходняй Еўропы. Натхнялі і арганізоўвалі гэтыя разбойніцкія напады германскія імператары і вярхі каталіцкага духавенства, каб устанавіць сваё панаванне. Галоўная роля ў гэтых агрэсіўных планах адводзілася нямецкім феадалам, якія павінны былі складаць асноўную ўдарную сілу. У якасці іх саюзнікаў выступалі феадалы іншых каталіцкіх дзяржаў Еўропы, у тым ліку вярхі духавенства і многія феадалы Польшчы.

У пачатку XIII ст. папству і нямецкім феадалам удалося стварыць у Прусіі і Лівоніі свае апорныя базы, у якія, каб прайсці ваенную практыку і рабаваць, пачалі збірацца рыцары з усёй Еўропы, а таксама натоўпы каталіцкіх фанатыкаў, шукальнікаў прыгод і проста авантурыстаў. Першы крыжовы паход у Прусію, арганізаваны ў 1222 годзе, праводзіўся з актыўным удзелам анямечаных польскіх князёў Генрыха Сілезскага і Конрада Мазавецкага, біскупаў гнезненскага, вроцлаўскага, кракаўскага, пазнанскага, любускага і іншых феадалаў [9].

У 1226 г. на паўночны ўсход Польшчы са згоды папы рымскага і германскага імператара з Палесціны і Венгрыі быў пераведзены Ордэн крыжаносцаў, які атрымаў ад Конрада Мазавецкага багатыя ахвяраванні. Пад эгідай гэтага князя ўзнік і яшчэ адзін агрэсіўны каталіцкі ордэн — Дабжынскі, войскі якога разам з войскам Мазавецкага спрабавалі захапіць у 1237 г. беларускі горад Драгічын на Бугу з прылеглымі раёнамі, але пераможаны войскамі Вялікага княства Літоўскага, ордэн вымушаны быў пакінуць гэтую тэрыторыю і зліцца з ордэнам крыжаносцаў. Вялікія паражэнні пацярпеў і Лівонскі ордэн у 1236 г. ад войскаў Вялікага княства, а ў 1242 г. ад рускіх войскаў на Чудскім возеры, але і пасля гэтага разбойніцкая арганізацыя яшчэ працягвала існаваць.

Нямецкая агрэсія на славянскіх і прыбалтыйскіх землях вялася рознымі сродкамі і метадамі, але мела на мэце толькі адно — заняволіць і анямечыць мясцовае насельніцтва. Спачатку гэта былі ваенныя напады, падпарадкаванне насельніцтва нямецкім імператарам і каталіцкаму духавенству, а пасля пачалося асабліва небяспечнае пранікненне нямецкіх купцоў і рамеснікаў у гарады і перасяленне значнай часткі нямецкіх каланістаў у сельскія мясціны.

Каланізацыя ў Польшчы набыла велізарны размах, бо ёй спрыялі анямечаныя польскія феадалы і духавенства. Анямечванне насельніцтва ішло побач з узмацненнем феадальнага прыгнёту, увядзеннем новых падаткаў. У XIII—XIV стст. ва ўсіх буйных польскіх гарадах вярхі складаліся з немцаў і анямечаных палякаў, а нямецкія парадкі і права панавалі ва ўсёй дзяржаве. Усё гэта прывяло да таго, што заходнія і паўночныя польскія землі пад час сярэдзіны XIV ст. поўнасцю перайшлі ва ўла-

---

[9] *Филевич И. П.* Борьба Польши и Литвы-Руси за Галицко-Волынское наследие. СПб., 1890. С. 28.

данне немцаў і на шмат стагоддзяў былі страчаны для Польшчы.

Асабліва ўзрасло нямецкае засілле пры Казіміры III, які ў 1335 г. аддаў немцам Сілезію, а ў 1343 г. падараваў крыжаносцам польскае Памор'е і шмат іншых земляў, тым самым адрэзаўшы Польшчу ад Балтыйскага мора. Уступаючы крыжаносцам без бою спрадвечныя польскія ўладанні, Казімір III усе сілы Польшчы скіроўваў на ўкраінскія землі і тым самым падтрымліваў нямецкую каланізацыю. Пры ім толькі ў Львоў перасялілася 1200 нямецкіх сем'яў. Наступнік Казіміра III венгерскі кароль Людовік, які сам у маладосці ўдзельнічаў у разбойніцкіх паходах крыжаносцаў на Беларусь і Літву, у 1380 г. на чале Польшчы паставіў немца (мужа сваё старэйшае дачкі) Сігізмунда Люксембургскага.

Калі пры Казіміры III і Людовіку Венгерскім немцы захоплівалі польскія землі часткамі, дык пасля ўступлення на польскі прастол у 1384 г. Людовікавай дачкі Ядвігі (яна была заручана з Вільгельмам Габсбургам Аўстрыйскім) уся Польшча павінна была перайсці ў рукі Габсбургаў, бо і сама Ядвіга з сямі гадоў выхоўвалася пры венскім двары.

Небяспека пераходу ўсёй Польшчы ў рукі немцаў крыху працвярэзіла і частку польскіх феадалаў — яны, да таго ж пад напорам шырокіх пластоў народа, вымушаны былі пайсці на скасаванне дагавору з Вільгельмам Аўстрыйскім і вырашылі пачаць перагаворы з вялікім князем літоўскім Ягайлам аб яго жаніцьбе з Ядвігай і саюзе дзвюх дзяржаў.

Некаторыя гісторыкі, недаацэньваючы ролю народных мас, лічылі унію простай гістарычнай выпадковасцю або справай толькі феадальных вярхоў. Так, І. Філевіч пісаў, што барацьба паміж Польшчай і Вялікім княствам завяршылася «нікім не прадбачанай выпадковасцю — шлюбам Ягайлы і Ядвігі... Нічым не падрыхтаванае, а таму недаступнае розуму, бяспрыкладнае ў гісторыі шчасце заззяла цяпер на сцьмелым польскім даляглядзе» [10].

Гістарычныя крыніцы сведчаць, што супраць нямецкай экспансіі актыўна выступіла значная частка польскага народа. Апроч таго, саюз з Вялікім княствам Літоўскім дазваляў насельніцтву Польшчы абараніць сваю тэры-

---

[10] *Филевич И. П.* Борьба Польши и Литвы-Руси за Галицко-Волынское наследие. С. 2, 117.

торыю ад спусташальных набегаў і захопаў земляў з боку княства.

Войны са сваім усходнім суседам у XIV ст. польскія ўрадавыя колы вялі з пераменным поспехам. У 1376 г. войскі Вялікага княства спустошылі значную частку Польшчы і захапілі 23 тыс. палонных. Не менш спусташальны быў паход Ягайлы на цэнтральную Польшчу ў 1383 і 1384 гг., як гэта апісана ў «Хронiцы Быхаўца»: «Князь Ягайла, спустошыўшы Польскую зямлю, узяў зашмат палонных, золата і срэбра і дарагіх камянёў і, забраўшы невыказнае мноства скарбаў, прыйшоў у сваю сталіцу Вільню... І пасля гэтага паланення правёў Ягайла граніцу з Польшчай па Белую ваду, г. зн. па раку Віслу».

Вядома, гэтыя паражэнні павінны былі прымусіць урадавыя колы Польшчы шукаць прымірэння з Вялікім княствам.

Саюз з Польшчай быў неабходны і Вялікаму княству, якое рыхтавалася да рашучай барацьбы з нямецкай агрэсіяй. Урадавыя колы княства лічылі, што дзеля поспеху ў барацьбе з крыжаносцамі трэба было перш за ўсё адарваць Польшчу ад згубнага саюзу з немцамі і палітычна ізаляваць ордэн, пазбавіць яго маральнай, а самае галоўнае — матэрыяльнай і ваеннай дапамогі з боку еўрапейскіх дзяржаў.

Феадалы каталіцкіх дзяржаў Заходняй Еўропы папаўнялі шэрагі крыжаносцаў і ўносілі ім вялікія ахвяраванні, што забяспечвала ордэн велізарнымі людскімі рэзервамі і матэрыяльнымі запасамі. Таму магчыма, што ў гэты апошні паход Ягайла пайшоў не толькі каб вярнуць Драгічынскую зямлю, але і каб зрабіць дыпламатычны націск на Польшчу.

Аб'ектыўна саюз паміж Вялікім княствам Літоўскім і Польшчай быў выгадны абедзвюм дзяржавам і ўсім народам Усходняй Еўропы, бо дазваляў аб'яднаць сілы супраць нямецкай і татарскай агрэсіі. Гэты саюз быў карысны таксама і для развіцця вытворчых сіл, гандлёвых сувязей.

Усе гэтыя прадумовы прывялі да таго, што ў жніўні 1385 г. польскія паслы прыбылі ў Крэва — радавы замак Ягайлы (Якава), дзе і быў заключаны саюз.

Скарыстоўваючы імкненне народаў абедзвюх дзяржаў да саюзу і дружбы, польскія феадалы і біскупы хацелі ператварыць яго ў сродак захопніцкай палітыкі і насаджэння каталіцызму на Беларусі, у Літве і на

Украіне. Вядомы ў гістарычнай літаратуры тэкст Крэўскага пагаднення, відаць, не сапраўдны, а пазней сфальсіфікаваны. Антынародны характар яго асабліва шырока выкарыстоўваўся агрэсіўнымі коламі феадальнай і буржуазнай Польшчы для абгрунтавання захопніцкіх дама-





Руіны Крэўскага замка

ганняў на беларускія, украінскія і літоўскія землі ў пазнейшыя часы. Нібыта Ягайла, каб ажаніцца з Ядвігай і насіць тытул караля Польшчы, даў наступныя абяцанні: прыняць каталіцкую веру і распаўсюдзіць яе ва ўсім княстве; перадаць на патрэбы Польшчы дзяржаўную казну Вялікага княства; заплаціць 200 тыс. флорынаў Вільгельму Аўстрыйскаму за адмаўленне ад шлюбу з Ядвігай; вярнуць Польшчы ўсе адарваныя ад яе тэрыторыі; вызваліць з палону ўсіх хрысціян; злучыць усе землі Вялікага княства Літоўскага з Польшчай.

Тэкст гэтага дагавора нагадвае акт безагаворачнай капітуляцыі. Асабліва здзіўляюць абяцанні перадаць казну на патрэбы Польшчы, заплаціць 200 тыс. флорынаў Вільгельму Аўстрыйскаму (за такую суму ў той час можна было купіць цэлую дзяржаву) і ліквідаваць Вялікае княства, далучыўшы яго да Польшчы, толькі за гонар зрабіцца прымаком Ядвігі. На несуразмернасць і кабальнасць гэтых абяцанняў звярталі ўвагу многія гісторыкі і спрабавалі вытлумачыць іх нетрываласцю становішча Ягайлы на вялікакняскім прастоле. Але такое тлумачэнне не грунтуецца на фактах, бо ў 1385 г. Ягайла ўжо моцна трымаў уладу, памірыўся з Вітаўтам, перамог крыжаносцаў пад Коўнам і ўмацаваў граніцы дзяржавы з захаду, зрабіўшы паход за Віслу супраць мазавецкага князя. Згоду Ягайлы на паднявольныя ўмовы нельга растлумачыць і яго імкненнем да пашаны, бо нават ворагі адзначалі яго сціпласць і простасць, пагарду да розных тытулаў і паказной пыхі.

Спрабуючы разабрацца, чаму Ягайла і яго дарадцы згадзіліся на гэтыя ўмовы, можна не без падставы меркаваць, што тэкст пагаднення пазней быў сфальсіфікаваны складальнікамі хронік або зменены польскімі феадаламі з прапагандысцкімі мэтамі. Сумненні, што вядомае нам пагадненне сапраўднае, узнікаюць у сувязі з тым, што гэты акт стаў вядомы толькі пасля смерці Ягайлы, у хроніцы Яна Длугаша. Вядома таксама, што феадалы Вялікага княства Літоўскага неаднойчы выступалі супраць няпраўдзівасці польскіх хранікёраў. Справа дайшла да таго, што супраць няпраўды ў польскіх хроніках у дачыненні да Вялікага княства было паднята пытанне на Віленскім сойме ў 1559 г., і вялікі князь змушаны быў абяцаць, што запатрабуе выпраўлення «таковых непристойных хроник». Трэба думаць, што ў той час былі вядомыя сапраўдныя ўмовы пагаднення.

На Люблінскім сойме 1569 г. феадалы Вялікага кня-

ства аспрэчвалі сапраўднасць тэксту Крэўскага пагаднення, заяўляючы, што гэтыя запісы наогул ніколі не існавалі. Апроч таго, акт, які фігуруе як арыгінал дагавора, не мае неабходных рэквізітаў — подпісаў і пячатак, хоць і іх маглі падрабіць. Магчыма таксама, што падроблены быў не ўвесь акт, а толькі асобныя месцы.



Вялікі князь Ягайла

Не выключана і тое, што акт, вядомы цяпер як афіцыйны дакумент, быў прыватным запісам, зробленым кракаўскім біскупам ці якім іншым канонікам, варожа настроеным да Вялікага княства Літоўскага. На гэтую думку наводзіць той факт, што вядомы нам тэкст захоўваўся не ў архіве дзяржаўнай канцылярыі, дзе трымаліся ўсе дзяржаўна-прававыя акты, а ў архіве кракаўскай капітулы.

Вывад аб тым, што вядомы акт Крэўскага пагаднення фальсіфікаваны, пацвярджаецца ўсім далейшым ходам гісторыі.

Узышоўшы на польскі прастол, Ягайла захаваў за сабою вярхоўную ўладу і ў Вялікім княстве, хоць і назначыў туды вялікім князем свайго брата Скіргайлу Івана, а потым стрыечнага брата Вітаўта (Юрыя Аляксандра), што зусім не шкодзіла княству, не вяло да яго ліквідацыі, а толькі ставіла ў саюзныя адносіны з Польшчай пад верхавенствам Ягайлы. Пытанне аб ліквідацыі княства пачалі ўзнімаць польскія феадалы і каталіцкае духавенства толькі праз шмат гадоў пасля смерці Ягайлы. Праўда, словы аб уключэнні Вялікага княства Літоўскага ў склад Польшчы былі ўнесены ў Гарадзельскі прывілей 1413 г., але тут жа гаварылася пра захаванне ўлады вялікага князя і адасобленасць усёй дзяржавы.

Ягайла, увесь час клапоцячыся аб прызнанні яго вярхоўных правоў у Вялікім княстве, разам з тым імкнуўся ўмацоўваць цэласнасць і дзяржаўную адасобленасць яго. На працягу амаль 50 гадоў свайго праўлення ў Польшчы

ён пастаянна быў у курсе ўсіх падзей у абедзвюх дзяржавах і актыўна ўплываў на ўнутраную і знешнюю палітыку княства, і не было за ім ніводнага дзеяння, якое можна было б растлумачыць жаданнем ліквідаваць самастойнасць Вялікага княства.

Адасобленасць княства падкрэслівалася і тым, што адразу пасля ўступлення Ягайлы на польскі прастол і назначэння вялікім князем літоўскім Скіргайлы Ягайла не зняў з сябе паўнамоцтваў галавы Вялікага княства, а адначасова ўзначаліў дзве дзяржавы. Тым самым была ўстаноўлена персанальная (асабістая) унія паміж гэтымі дзяржавамі.

Польскія феадалы і каталіцкае духавенства ўжо тады ўсімі сіламі стараліся ліквідаваць Вялікае княства. У працэсе прымусовага акаталічвання насельніцтва Беларусі, Літвы і Украіны былі створаны каталіцкія біскупскія кафедры і касцёлы, а духавенства атрымала багатыя ахвяраванні і шмат ільгот.

Характэрна, што рымская курыя, падтрымліваючы агрэсіўныя планы польскіх феадалаў і духавенства, не вылучыла новаўтвораныя біскупствы ў самастойную царкоўную правінцыю з непасрэдным падпарадкаваннем Рыму, а ўключыла іх у склад польскай Гнезненскай царкоўнай правінцыі з падпарадкаваннем новых біскупаў польскаму духавенству. Такім чынам яшчэ раз падкрэслівалася варожае стаўленне рымскай курыі і ўсяго каталіцкага духавенства да насельніцтва Беларусі. Гэтая палітыка каталіцкага духавенства асабліва праявілася ў яго імкненні апалячыць усё насельніцтва Вялікага княства, ліквідаваць нацыянальныя культуры яго народаў, пазбавіць іх нацыянальнай самасвядомасці. У некаторых выпадках дзеля аховы каталіцкага духавенства і падтрымання парадку ў месцах, дзе праводзілася масавае акаталічванне насельніцтва, былі ўведзены ўзброеныя атрады салдат-католікаў, набраных у Польшчы.

Прымусовае акаталічванне, узмацненне феадальнай эксплуатацыі, а таксама парушэнне суверэннасці дзяржавы ўвядзеннем польскіх войскаў абвастрылі незадавальненне насельніцтва і яно са зброяй у руках выступіла супраць урада.

Ужо ў 1388 г. урад Скіргайлы вымушаны быў скарыстаць дапамогу польскіх сіл супраць насельніцтва Віцебскай і Полацкай земляў. Паўстанне было пераможана, гарады занялі ўрадавыя войскі, але асобныя выступленні і напады не спыняліся па ўсёй Беларусі і Літве.

Абставіны ў краіне асабліва абвастрыліся, калі апазіцыйныя сілы ўзначаліў і аб'яднаў у адзін рух берасцейска-гарадзенскі князь Вітаўт. У 1390 г. Ягайла зноў быў змушаны пайсці на дапамогу Скіргайлу ў Беларусь і Літву, бо краіна, паводле слоў Я. Длугаша, «цярпела разарэнне ад міжусобнай вайны і гінула ад уласнага мяча» [11]. На першым часе аб'яднаным сілам Ягайлы і Скіргайлы ўдалося заўладаць замкамі Вітаўта ў Берасце, Камянцы і Гродне, але і пасля гэтага барацьба не спынілася.

Некалькі гадоў урадавыя сілы вялі барацьбу з паўстанцамі. Вітаўт карыстаўся шырокай народнай падтрымкай, і гэта змусіла Ягайлу пайсці на кампраміс. У выніку перагавораў у Востраве (каля Ліды) 5 жніўня 1392 г. было заключана пагадненне, паводле якога аслабілася прымусовае акаталічванне, не дапускалася ўтрыманне польскіх салдат у беларускіх і літоўскіх гарадах. Замест Скіргайлы, які скампраметаваў сябе супрацоўніцтвам з польскімі феадаламі, вялікім князем літоўскім быў прызначаны Вітаўт, але і ён прызнаў верхавенства Ягайлы.

Востраўскае пагадненне спыніла ўнутраную барацьбу ў Вялікім княстве Літоўскім і ўмацавала яго саюз з Польшчай на аснове персанальнай уніі. У гэтым яшчэ раз праявіўся палітычны талент Ягайлы; у асобе Вітаўта ён замест праціўніка займеў энергічнага, рашучага і разумнага саюзніка ў барацьбе з крыжаносцамі.

Гэтым пагадненнем былі юрыдычна аформлены тыя фактычныя ўзаемаадносіны, што склаліся паміж дзвюма дзяржавамі пасля ўступлення Ягайлы на польскі прастол. Адасобленасць Вялікага княства ад Польшчы падтрымлівалася яшчэ і тым, што само княства не было дзяржавай унітарнай, а ўяўляла сабой своеасаблівую феадальную федэрацыю, у якой да цэнтральнай часткі дзяржавы прымыкалі землі-княствы са значнымі аўтаномнымі правамі. Феадалы гэтых земляў не ўдзельнічалі ў вырашэнні пытання аб уніі і таму не лічылі сябе звязанымі ўмовамі гэтага дагавору. Без іх жа ўдзелу нельга было вырашыць пытанне аб характары саюза княства з Польшчай. Трэба ўлічыць таксама, што тэрыторыя Вялікага княства Літоўскага, колькасць насельніцтва, адсюль і ваенныя сілы яго значна перавышалі сілы Польшчы, таму і далучыць княства было немагчыма без

[11] *Длугош Ян.* Грюнвальдская битва. М.; Л., 1962. С. 20.

згоды значнай часткі насельніцтва, асабліва пануючага класа.

Уступленне Ягайлы на польскі прастол вельмі змяніла знешнюю і ўнутраную палітыку польскай дзяржавы. Ягайла, які вырас і выхоўваўся на Беларусі, прыбыў у Кракаў з вялізнай світай сваіх прыдворных і асабістай аховай — каморным атрадам — набранай у асноўным з яго ўладанняў на Беларусі, і паколькі ні ён сам, ні яго прыдворныя і ахова не размаўлялі ні на лацінскай, ні на нямецкай мове, то і польскія феадалы былі вымушаны пакінуць нямецкую і пераходзіць на беларускую або польскую мову. Такім чынам пры каралеўскім двары быў зроблены пачатак адраджэння славянскай мовы і абмежавання нямецкай. Апіраючыся на свае ўзброеныя атрады, Ягайла ўмацаваў каралеўскую ўладу ў Польшчы і тым самым часткова абмежаваў самавольства буйных феадалаў і ўплыў вярхоў каталіцкага духавенства на дзяржаўныя справы.

Каб мабілізаваць сілы абедзвюх дзяржаў на разгром крыжаносцаў, Ягайла перш за ўсё хацеў заручыцца падтрымкай шырокіх мас польскага народа і патрыятычна настроенай шляхты. Дзеля гэтага ў 1388 г. быў выдадзены Петрыкаўскі прывілей, які пашыраў правы польскай шляхты, арганізаваны паход супраць венгерскага ўладарання ў Галіцкай зямлі. З гэтай жа мэтай Ягайла выступіў супраць апольскага князя Уладзіслава, які, уступіўшы ў саюз з крыжаносцамі, перадаў ім Дабжынскую зямлю і прапанаваў план падзелу Польшчы паміж ордэнамі, Брандэнбургскай Маркай і сілезскімі князямі. Пасля гэтага выступлення сілезскія князі вымушаны былі пайсці на пагадненне з Ягайлам. Каб нейтралізаваць або нават прыцягнуць на свой бок хоць частку каталіцкага духавенства, якое падтрымлівала патрыятычныя сілы ў краіне, і ізаляваць Ордэн крыжаносцаў, пазбавіўшы яго падтрымкі заходнееўрапейскіх дзяржаў, Ягайла пачаў шырока прапагандаваць свае захады па акаталічванні насельніцтва Беларусі і Літвы.

Прынятыя Ягайлам меры па ўмацаванні аўтарытэту абедзвюх дзяржаў дазволілі ўрадам Польшчы і Вялікага княства дабіцца замацавання саюзу: 18 студзеня 1401 г. ў Вільні былі сабраны найбольш уплывовыя феадалы, якія прынялі каталіцтва. Яны спецыяльнай граматай пацвердзілі саюз з Польшчай. У сакавіку таго ж года аналагічнае ўзаемнае абавязацельства прынялі польскія феадалы, якія сабраліся ў г. Радаме, і тады саюз, засна-

ваны на персанальнай уніі, быў юрыдычна замацаваны ў Віленска-Радамскім акце. Гэтым пагадненнем феадалы Вялікага княства абяцалі Ягайлу і польскім грамадзянам выступаць усімі сіламі супраць нападаў якіх бы то ні было ворагаў і ахоўваць польскія інтарэсы як свае ўласныя, гэтак жа павінны былі рабіць і польскія феадалы.

Акт Віленска-Радамскай уніі пацвердзіў адасобленасць і самастойнасць Вялікага княства, а таксама правы Вітаўта як самастойнага кіраўніка дзяржавы, вызначыў сутнасць дзяржаўна-прававой сувязі княства з Польшчай як персанальную унію дзвюх дзяржаў пад верхавенствам аднаго гасудара. Віленска-Радамская унія стала юрыдычнай асновай саюзу ўсходнееўрапейскіх народаў у іх барацьбе супраць нямецкай агрэсіі. Таму залежнасць Вітаўта ад Ягайлы мела больш намінальны характар і не была вырашальнай у адносінах паміж абедзвюма дзяржавамі, бо ва ўсіх унутраных і міжнародных справах яны былі самастойныя.

Пацвердзіўшы саюз абедзвюх дзяржаў, Віленска-Радамская унія з'явілася зыходным момантам арганізацыі



Бітва пад Грунвальдам. Мастак М. Басалыга

і аб'яднання сіл усходнееўрапейскіх народаў у іх барацьбе з крыжаносцамі. Славутая перамога пад Грунвальдам у 1410 г. стала пачаткам поўнага знішчэння гэтага разбойніцкага ордэна. Яна паклала канец міфу аб непераможнасці тэўтонскіх крыжаносцаў, і на сотні гадоў была знята магчымасць нямецкай узброенай агрэсіі на ўсходзе Еўропы. Разам з тым гэтая перамога павысіла міжнародны аўтарытэт Вялікага княства і Польшчы, стварыла ў іх прадумовы развіцця вытворчых сіл і міжнародных сувязей. Перамогай пад Грунвальдам была падарвана і магутнасць каталіцкага духавенства, што ў сваю чаргу паспрыяла развіццю свабоднай думкі ва ўсёй Еўропе і павышэнню нацыянальнай самасвядомасці заходніх і паўднёвых славян, актывізацыі іх вызваленчай барацьбы. Гэтая перамога была яскравым сведчаннем плённасці дружбы і саюзу народаў усходняй Еўропы ў іх барацьбе супраць нямецкай агрэсіі і засілля рэакцыйнай, дагматычнай ідэалогіі, якую насаджала каталіцкая царква. Распальваючы рэлігійную варожасць паміж новаахрышчанымі католікамі і праваслаўнымі, каталіцкае духавенства і феадалы-католікі пачалі весці палітыку дыскрымінацыі праваслаўнага насельніцтва, што ў канчатковым выніку падрывала жыццёвыя сілы дзяржавы, вяло да ліквідацыі яе палітычнай самастойнасці.

У 1413 г. ў замку Горадлі над Бугам былі сабраны некаторыя польскія феадалы і 47 феадалаў-католікаў Вялікага княства. У выніку былі выдадзены тры граматы (прывілеі): першая — польскіх феадалаў аб тым, што яны згодны падзяліцца з феадаламі-католікамі Вялікага княства гонарам насіць гербы; другая — феадалаў Вялікага княства, якія прымалі гербы польскіх феадалаў, тым самым уступаючы з імі ў гербавае пабрацімства.

Трэці прывілей, выдадзены ад імя Ягайлы і Вітаўта, уяўляў сабой дакумент адкрытай каталіцкай агрэсіі і меў на мэце не саюз дзвюх дзяржаў, а ўмацаванне і пашырэнне каталіцызму, ідэалагічнае падаўленне і падпарадкаванне народа каталіцкаму духавенству. Дзеля гэтага ў прывілеі былі словы пра ўключэнне Вялікага княства ў склад Польшчы. Так, у арт. 1 хлусліва сцвярджалася, што з таго часу, як была прынята польская Карона «з мэтай пашырэння хрысціянскай веры», дзяржавы і землі, з'яднаныя ў Вялікім княстве, былі «прысвоены, уключаны, злучаны, перададзены» польскаму

каралеўству са згоды князёў, паноў, шляхты, службовых асоб і баяраў Вялікага княства. Далей гаварылася ад імя Ягайлы і Вітаўта, што «землі, якія заўсёды да гэтага часу яны мелі і маюць у поўным уладанні на падставе права наследавання як законныя гасудары, са згоды і волі паноў, шляхты, баяраў другі раз інкарпаруюць, далучаюць, укараняюць у Каралеўства Польскае, прысвойваюць яму, злучаюць і аб'ядноўваюць з ім, звязваюць саюзам і назаўсёды замацоўваюць» [12].



Вялікі князь Вітаўт

Адпаведна з гэтым запісам, Вялікае княства павінна было ў самы блізкі час перастаць існаваць як самастойная дзяржава, але ў арт. 11 гэтага прывілею гаварылася, што «паны і шляхціцы пасля смерці Аляксандра Вітаўта... нікога не будуць мець або выбіраць вялікім князем і гаспадаром Літвы, як толькі кароль польскі і яго наступнікі, параіўшыся з прэлатамі і панамі Польшчы і земляў Літвы, палічаць за неабходнае выбраць і паставіць. Гэтаксама і прэлаты, паны і шляхта Каралеўства Польскага, калі памрэ польскі кароль, не пакінуўшы нашчадкаў і законных наследнікаў, не павінны выбіраць сабе караля і гасудара, без ведама і парады нашай, г. зн. вялікага князя Аляксандра, паноў і шляхты названых вышэй земляў Літвы» [13]. З гэтага артыкула вынікае, што, нягледзячы на ўжыванне ўсіх магчымых дзеясловаў аб далучэнні, Вялікае княства не толькі захоўвае сваю самастойнасць, але ў выпадку смерці Ягайлы каралём Польшчы можа стаць толькі асоба, пажаданая феадалам княства, г. зн., што прывілей у даным выпадку мае раўнапраўны характар, і няма нават намёку на ліквідацыю і далучэнне земляў княства да Польшчы.

Такім чынам, усе напышлівыя словы прывілею аб

---

[12] БЭФ. Т. 1. С. 115.
[13] Там жа. С. 115—117.

зліцці дзяржаў не мелі ў той час новага дзяржаўна-прававога значэння — заставаўся той самы саюз дзвюх дзяржаў у форме персанальнай уніі. Саюзныя адносіны значна аслабіліся пасля паражэнняў крыжаносцаў у 1414—1422 гг. і заключэння з імі міру. Пасля абрання на вялікакняскі прастол у 1430 г. Свідрыгайлы, прыхільніка самастойнасці Вялікага княства, адносіны настолькі сапсаваліся, што справа дайшла да ваенных дзеянняў супраць Польшчы. У 1432—1433 гг. адносіны крыху наладзіліся, але становішча было няўстойлівае, а ў 1434 г. пасля смерці Ягайлы унія была поўнасцю скасавана.

Гаворачы пра вынікі першага этапу саюзу Вялікага княства Літоўскага з Польшчай, трэба адзначыць, што унія спрыяла збліжэнню народаў Беларусі, Літвы, Украіны і Польшчы, умацаванню і развіццю ўзаемных гандлёвых і культурных сувязей. Асабліва важнае значэнне мела аб'яднанне ваенных і матэрыяльных сіл абедзвюх дзяржаў у барацьбе з нямецкай агрэсіяй. Дзякуючы уніі былі прыпынены анямечванне польскага народа і каланізацыя Польшчы, а грунвальдская перамога на стагоддзі стрымала прасоўванне немцаў ва Усходнюю Еўропу. У Польшчы пачалося адраджэнне роднай культуры і мовы. Без перабольшання можна сказаць, што дзякуючы Крэўскай уніі народы Вялікага княства Літоўскага выратавалі Польшчу ад нямецкай каланізацыі. Гэтая унія была важным паваротным момантам ва ўсёй гісторыі Польшчы.

Але ў той самы час з пашырэннем каталіцызму на тэрыторыю Беларусі, Літвы і Украіны атрымала свабодны доступ каталіцкае духавенства з яго дагматычнай ідэалогіяй, якая стала асновай самага рэакцыйнага светапогляду. Да таго ж гэтае духавенства падпарадкоўвалася і служыла іншаземным інтарэсам, і ўся яго дзейнасць была варожая народам княства і самой дзяржаве. Яно ўсімі сіламі імкнулася душыць і знішчаць народную культуру, распальвала рэлігійную варожасць у асяроддзі беларускага народа.

Каталіцкая прапаганда царкоўнага касмапалітызму вяла таксама да таго, што значная частка феадалаў, стаўшы католікамі, больш клапацілася пра інтарэсы рымскай курыі, чым сваёй дзяржавы і народа, і не здольная была процістаяць захопніцкім памкненням польскіх феадалаў, якія доўгі час падрывалі і стараліся знішчыць саюзнае Польшчы Вялікае княства. Гэтая неразумная

і антынародная палітыка польскіх феадалаў і каталіцкага духавенства прывяла да таго, што з аслабленнем Вялікага княства былі падарваны і сілы самой Польскай дзяржавы.

Другі этап саюзных сувязей Вялікага княства Літоўскага з Польшчай пачаўся з абрання ў 1447 г. на польскі прастол вялікага князя літоўскага Казіміра (сын Ягайлы і Соф'і Гальшанскай), пасля чаго ён стаў на чале дзвюх самастойных дзяржаў. Зноў устанавілася персанальная унія, якая шмат дзесяцігоддзяў служыла трывалай асновай саюзу дзвюх раўнапраўных дзяржаў, кожная з якіх мела сваю эканоміку, фінансы, армію, заканадаўства, дзяржаўны апарат і вяла самастойную ўнутраную і знешнюю палітыку.

Разам са смерцю Казіміра ў 1492 г. унія была перапынена, але ў 1501 г. зноў аднавілася, калі каралём Польшчы быў абраны вялікі князь літоўскі Аляксандр. Пасля яго смерці польскія феадалы зноў абралі сваім каралём вялікага князя літоўскага Жыгімонта I, і унія захавалася. Яна працягвалася і пасля ўступлення на польскі прастол Жыгімонта II Аўгуста.

Раздзел 3

# ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЛАД НА БЕЛАРУСІ Ў ПЕРЫЯД УЗНІКНЕННЯ І РАЗВІЦЦЯ САСЛОЎНА-ПРАДСТАЎНІЧЫХ УСТАНОЎ ДЗЯРЖАЎНАЙ УЛАДЫ
## (другая палова XV—XVII стст.)

### 1. Грамадскі лад

Грамадства на Беларусі ў XV—XVII стст. складалася з двух асноўных класаў: феадальна-залежных сялян і феадалаў-землеўласнікаў. Разам з тым захоўваліся яшчэ рабы (халопы, чэлядзь нявольная, з 1588 г. названая чэлядзь дворная). Значную частку насельніцтва складалі вольныя людзі, якія не былі феадаламі і не знаходзіліся ад іх у залежнасці. Вольнымі людзьмі лічыліся: мяшчане, ніжэйшае духавенства, сяляне-даннікі, яўрэі, татары, беззямельная служылая шляхта, а таксама шляхта, якая мела сваю зямлю, абрабляла яе сама і не мела залежных ад сябе сялян. Феадальнае грамадства падзялялася па свайму прававому становішчу на саслоўі: шляхту, мяшчан, духавенства (праваслаўнае, уніяцкае, каталіцкае), сялян. Найбольш прывілеяваным саслоўем была шляхта.

Асноўнымі вытворчымі адзінкамі былі сялянскія гаспадаркі — «дымы» і маёнткі феадалаў — двары і фальваркі. Сялянскі «дым» вельмі часта з'яўляўся складаным сямейна-вытворчым калектывам, дзе сумесна вялі гаспадарку бацькі, іх жанатыя сыны і замужнія дочкі або жанатыя браты і замужнія сёстры са сваімі сем'ямі, пляменнікі і іншыя родзічы. А калі ўлічыць, што ў даўніну ў кожнай сям'і было многа дзяцей, то зразумела, што адна такая гаспадарка магла мець 15—20 чалавек і нават больш. Ва ўладанні сялянскай гаспадаркі мелася ворная зямля. Сяляне адной вёскі або воласці сумесна карысталіся лясамі, сенажацямі, азёрамі, пашай.

Маёнтак феадала складаўся з аднаго або некалькіх землеўладанняў. У яго ўключаліся землі, якія непасрэдна складалі панскі двор (барская ворная зямля), землі, перададзеныя ў часовае карыстанне больш дробным феа-

далам або здадзеныя ў арэнду бедным шляхціцам. З XVI ст. ўласнікам сялянскіх земляў стаў лічыцца феадал. Апрацоўваліся маёнткі чэляддзю нявольнай і залежнымі сялянамі, а таксама наёмнай сілай па добраахвотнаму або прымусоваму найму.

З мэтай павелічэння даходнасці і таварнасці маёнткаў як урадам, так і асобнымі феадаламі выдаваліся рознага роду пастановы і інструкцыі, якія рэгламентавалі паступленне даходаў з маёнткаў. Найбольш важнай урадавай пастановай, накіраванай на правядзенне феадальнай аграрнай рэформы ў Беларусі, была «Устава на валокі» 1557 г. Па гэтаму закону прадугледжвалася стварэнне новых і павышэнне даходнасці старых дзяржаўных і вялікакняскіх маёнткаў, двароў і фальваркаў. Расшыраліся і ствараліся новыя маёнткі, у асноўным за кошт земляў, канфіскаваных у сялян і дробнай шляхты. У гэтым законе атрымаў юрыдычнае афармленне галоўны прынцып феадальнага права ўласнасці на зямлю, у сілу якога ўсе землі сялян, незалежна ад таго, ці куплены яны былі селянінам або атрыманы ў залог або па спадчыне, прызнаваліся ўласнасцю феадала «кгды ж кметь и вся его маетность наша ест» (арт. 29 Уставы). Дробныя шляхціцы, якія лічылі зямлю сваёй уласнасцю, абавязаны былі даказаць дакументам свае правы на зямлю, а таксама пацвердзіць сваю прыналежнасць да саслоўя шляхты. Пры адсутнасці дакументаў яны пазбаўляліся права ўласнасці на зямлю і разглядаліся як часовыя арандатары або пераводзіліся ў разрад залежных сялян. Пры наяўнасці дастатковых доказаў на права валодання зямлёй дробны шляхціц мог быць пазбаўлены сваёй зямлі, але ўзамен яму выдзяляўся іншы ўчастак, як правіла, горшай якасці і ў нязручным месцы за межамі нанава ўтвораных маёнткаў — фальваркаў, як тады называлі, за сцяной, а такую шляхту за яе беднасць і абмежаванасць правоў пагардліва называлі засцянковай шляхтай. Дробныя шляхціцы, якія апрацоўвалі зямлю сваёй асабістай працай, па свайму эканамічнаму становішчу нічым не адрозніваліся ад сялян.

Маёмаснае і прававое становішча сялян не было аднародным. Усе сяляне падраздзяляліся на людзей гаспадарскіх, залежных непасрэдна ад вялікакняскай гаспадарчай адміністрацыі, людзей панскіх (уладальніцкіх, залежных ад асобных феадалаў, і царкоўных, залежных ад царквей, манастыроў і вышэйшага духавенства.

Найбольш заможныя сяляне, якія выконвалі ваен-

ную павіннасць або неслі іншую службу (язда ганцамі, удзел у паляванні і інш.), называліся баярамі, баярамі-путнымі, панцырнымі, баярамі-слугамі. За сваю службу яны маглі валодаць дзвюма валокамі * зямлі і не выконвалі баршчыны. Калі ў які-небудзь год яны службы пры маёнтку не неслі, то абавязаны былі ўносіць падаткі (чынш) да 60 грошаў і аброк натурай. Асабіста яны прызнаваліся свабоднымі і пры пэўных умовах мелі права пераходу да іншага феадала.

Асноўную масу феадальна-залежных сялян складалі людзі цяглыя, асадныя, агароднікі і даннікі. Цяглы сялянскі двор мог карыстацца адной валокай зямлі і абавязаны быў несці наступныя павіннасці: адпрацоўваць баршчыну па два дні на тыдзень са сваімі прыладамі працы (дадаткова летам яшчэ чатыры дні талок), рамантаваць і будаваць масты, дарогі, замкі, несці вартавую службу, касіць сена для маёнтка, выконваць падводную павіннасць, плаціць грашовы падатак — сярэбшчыну і некаторыя дробныя падаткі натурай. Калі ў маёнтку не было неабходных работ для ўсіх сялян, то некаторыя з іх вызваляліся ад баршчыны і пераводзіліся ў разрад асадных сялян, якія замест баршчыны абавязаны былі плаціць 30 грошаў асаднага і адпрацоўваць 12 дзён талок, або ўзамен талок уносіць 12 грошаў. Акрамя таго, яны павінны былі несці і іншыя павіннасці: плаціць сярэбшчыну, касіць сена і інш.

У найбольш цяжкім становішчы знаходзіліся сяляне-агароднікі. Іх зямельныя надзелы былі роўныя тром моргам зямлі 1,6 або 1,8 га. Асноўнай іх павіннасцю былі баршчынныя работы па адным дні на тыдзень і дадаткова на працягу лета шэсць дзён на жніве або праполцы. У сувязі з тым, што адна валока зямлі дзялілася на 10—12 сем'яў агароднікаў, яны адбывалі 10—12 дзён баршчыны з адной валокі на тыдзень.

За нявыхад на баршчыну без уважлівых прычын селянін караўся штрафам: за першы дзень павінен быў аддаць 1 грош, за другі — барана, за трэці — падвяргаўся цялеснаму пакаранню бізуном. У выпадку забойства простага чалавека галоўшчына яго сям'і ўплочвалася ў размеры 25 коп ** грошаў за цяглага чалавека, 20 коп грошаў за «чалядніка дамавога», а за іх жонак у двайным памеры [1].

---

* Валока была роўная 21 га зямлі.

** Копа грошай была роўная 60.

[1] Статут 1588 г., р. 12, арт. 3.

Асаблівае становішча сярод сельскага насельніцтва займалі сяляне-даннікі. Размер іх ворных земляў не быў вызначаны і залежаў ад колькасці працаздольных асоб у гаспадарцы, наяўнасці прылад вытворчасці і жывёлы, а таксама ад магчымасці асваення цалінных земляў у дадзенай мясцовасці. Павіннасці даннікаў вызначаліся ў залежнасці ад агульных абавязкаў, якія накладаліся на вёску або воласць у цэлым. Самі сяляне на агульнай сходцы выбіралі сабе старца, які з'яўляўся мясцовай службовай асобай, размяркоўвалі павіннасці па сялянскіх гаспадарках-«дымах». Сабраныя з даннікаў грашовыя і натуральныя падаткі старцы абавязаны былі адвозіць у казну і здаваць мясцовым прадстаўнікам дзяржаўнай адміністрацыі. Падаткі, якія збіраліся з сялян-даннікаў, захоўвалі старадаўнія назвы, такія, як палюддзе, дзякла, куніца, сярэбшчына, стацыя. Напрыклад, у 1536 г. жыхары Магілёва і Магілёўскай воласці ўносілі палюддзя 60 коп грошаў[2]. Дзякла — падатак натурай: аўсом, сенам; куніца — грашовы ўзнос, які быў роўны прыкладна ад 6 да 12 грошаў. Сярэбшчына — грашовы падатак, які ішоў на ваенныя патрэбы. Стацыяй называлася павіннасць дастаўлення прадуктаў харчавання вялікаму князю або яго прадстаўнікам у час іх знаходжання ў дадзенай мясцовасці. У XVI ст. замест паставак прадуктаў харчавання адміністрацыя пачала спаганяць з сялян стацыі грашыма. Акрамя таго, з сялян-даннікаў даніна бралася мёдам, шкуркамі баброў, куніц і іншых жывёл. Сяляне-даннікі абавязаны былі выконваць работы па ўтрыманню і будаўніцтву замкаў, мастоў, дарог, несці вартавую службу, прымаць удзел у ваенных паходах. Яны непасрэдна якому-небудзь феадалу не былі падпарадкаваны і феадальныя павіннасці неслі толькі ў карысць вялікага князя або дзяржавы. Стварэнне новых фальваркаў і прыпіска да іх былых свабодных сялян-даннікаў, а таксама падараванні цэлых вёсак і валасцей асобным феадалам прывялі да таго, што колькасць сялян-даннікаў у XVI ст. рэзка скарацілася, а за іх кошт узрасла колькасць цяглых сялян, абавязаных адбываць баршчыну.

Самай бяспраўнай часткай насельніцтва працягвалі заставацца халопы — чэлядзь нявольная. Колькасць іх значна скарацілася, паколькі для феадала ўтрыманне ў маёнтку чэлядзі нявольнай было нерэнтабельнай справай

---

[2] БЭФ. Т. 1. С. 196.

і ён лічыў за лепшае пераводзіць іх на становішча агароднікаў. Скарачэнню колькасці чэлядзі нявольнай садзейнічала і заканадаўства, накіраванае на абмежаванне крыніц папаўнення чэлядзі нявольнай. Так, па Статуту 1588 г. крыніцай чэлядзі нявольнай заставаўся толькі адзін палон (раздз. 12, арт. 21).

Акрамя ўказаных катэгорый сялян у сёлах пражывалі беззямельныя асобы — халупнікі, якія мелі толькі сваё жыллё — хату (халупу), і кутнікі, што туліліся па чужых кутах. Не маючы сваіх сродкаў вытворчасці, яны вымушаны былі наймацца ў работнікі да феадалаў, багатых гараджан і сялян або займацца рамяством (ганчарным, кравецкім, шавецкім), а на старасці гадоў жабраваць.

Прававое становішча ўсіх катэгорый сялян характарызавалася іх палітычным бяспраўем, абмежаванай грамадзянскай праваздольнасцю, павышанай крымінальнай адказнасцю. Ім забаранялася займаць больш ці менш значныя пасады ў дзяржаўным апараце. Яны не дапускаліся на соймы. Іх удзел у палітычным жыцці абмяжоўваўся толькі мясцовымі валаснымі справамі і правам на падачу ўраду чалабітных на незаконныя дзеянні адміністрацыі.

Пераход з разраду простых людзей у прывілеяванае саслоўе шляхты быў магчымы для багатых мяшчан і сялян, якія неслі ваенную (баярскую) службу. Яны ў XIV—XV стст., прыняўшы каталіцкую веру, прызнаваліся шляхтай. У першай палове XVI ст. маглі надзяляць шляхецкімі правамі як вялікі князь з Радай, так і буйныя феадалы, якім належала права разглядаць судовыя іскі аб прызнанні шляхецкай годнасці. Статут 1566 г. аднёс усе гэтыя справы да кампетэнцыі гаспадарскага суда і тым самым абмежаваў магчымасць пераходу простых людзей у саслоўе шляхты.

Жыхары гарадоў Беларусі ў сваёй асноўнай масе адносіліся да разраду простых людзей, якія выдзеліліся ў XV—XVI стст. у асаблівае саслоўе мяшчан *. Па маёмаснаму становішчу гарадскія жыхары падраздзяляліся на тры асноўныя групы. Вярхі гараджан складалі заможныя купцы, якія займаліся аптовым гандлем, і ўласнікі буйных рамесных майстэрань, якія мелі ў сваім распараджэнні чаляднікаў, вучняў і наймітаў. Яны часта

---

* Слова «мяшчане» паходзіць ад беларускай назвы горада — месца. Горадам у старажытнасці называўся толькі замак.

валодалі і зямельнымі маёнткамі, якія апрацоўваліся залежнымі ад іх сялянамі і парабкамі. Гэтыя мяшчане абавязаны былі са сваіх маёнткаў несці ваенную службу асабіста або выстаўляць за сябе пэўную колькасць узброеных людзей нароўні з іншымі феадаламі. У сярэднюю групу, самую шматлікую, уваходзілі дробныя гандляры і простыя рамеснікі, якія валодалі невялікай маёмасцю (дом, агарод) і неабходнымі прыладамі працы і інструментамі па сваёй прафесіі. Найбольш бедную частку насельніцтва складалі чаляднікі, вучні майстроў, наёмныя рабочыя, хатняя прыслуга мяшчан. Усе яны прыналежалі да разраду «чорных людзей».

Прававое становішча мяшчан залежала ад таго, у якім горадзе пражываў мешчанін, да якой групы ён адносіўся па свайму маёмаснаму становішчу. Найбольш шырокімі правамі валодалі вярхі мяшчан Вільні, Полацка, Бераста, Менска і іншых буйных гарадоў, якія карысталіся майдэборскім, або магдэбургскім, правам і спецыяльнымі ільготнымі граматамі. Яны былі вызвалены ад уплаты праязных пошлін (мыта) на ўсёй тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага і ад падводнай павіннасці. Меншым комплексам правоў валодалі жыхары гарадоў і мястэчкаў, якія не атрымалі ільготных грамат.

Кіраванне гарадскімі справамі ў гарадах, якія карысталіся майдэборскім правам, знаходзілася, у асноўным, у руках гарадскіх багацеяў. Па сваім маёмасным становішчы яны цесна змыкаліся з класам феадалаў, хоць і адносіліся да разраду простых людзей. Пераход з гэтай групы мяшчан у саслоўе шляхты не выклікаў цяжкасцей. Для гэтага трэба было мець маёнткі (а ў многіх з іх яны былі) і перастаць займацца купецтвам або рамяством. Гэтыя заняткі лічыліся несумяшчальнымі з годнасцю шляхціца. Для іншых катэгорый мяшчан пераход у саслоўе шляхты быў больш складаным.

Найбольш абмежаванымі правамі валодалі чорныя людзі. Іх прававое становішча цесна змыкалася са становішчам феадальна-залежных людзей. Розніца заключалася толькі ў тым, што найміт, або чаляднік, мог пайсці ад свайго гаспадара, разлічыўшыся з ім за даўгі.

Клас феадалаў, які займаў пануючае становішча ў эканамічных і прававых адносінах, не ўяўляў сабой адзінага цэлага і падраздзяляўся на шэраг груп, прыналежнасць да якіх залежала ад памера землеўладання феадала, колькасці залежных ад яго людзей, займаемай па-

сады ў дзяржаўным апараце, сваяцкіх сувязей. Да найбольш прывілеяванай групы адносіліся князі, паны-радныя і паны-харугоўныя. У гэтую групу ўваходзілі прадстаўнікі найбольш знакамітых прозвішчаў, якія валодалі велізарнымі маёнткамі. Другую групу складалі сярэднія феадалы, якія называліся ў XVI ст. зямянамі-шляхтай і валодалі «добрай аселасцю», г. зн. добрым іменем. Трэцюю групу складалі дробныя феадалы, якія валодалі невялікімі маёнткамі, мелі ў залежнасці ад сябе сялян. Усе гэтыя групы феадалаў утваралі прывілеяванае саслоўе шляхты. Акрамя таго, да саслоўя шляхты на Беларусі былі залічаны многія свабодныя людзі, якія, валодаючы невялікімі зямельнымі надзеламі, вялі сваю гаспадарку ўласнай працай. Бедныя беларускія шляхцiцы наогул не мелі сваёй зямлі і арандавалі невялікія ўчасткі ў буйных феадалаў або знаходзіліся ў іх на службе ў якасці асабістай аховы, ляснічых, конюхаў і нават лакеяў, за што яны атрымлівалі ў часовае карыстанне невялікія надзелы зямлі. Гэтая шляхта, вядома, ні ў якой меры не можа быць аднесена да класа феадалаў, а яе трэба разглядаць як асаблівую катэгорыю юрыдычна свабодных людзей.

Князі і паны карысталіся ўсёй паўнатой маёмасных, асабістых і палітычных правоў. Іх маёнткі-вотчыны ўяўлялі сабой «дзяржавы ў дзяржаве», дзе паўнапраўным гасударам быў сам гаспадар маёнтка. Яны ажыццяўлялі ўладарныя паўнамоцтвы над усімі людзьмі, якія пражывалі ў межах уладанняў, незалежна ад іх класавай і саслоўнай прыналежнасці. Яны мелі ўласныя ўзброеныя сілы, якія камплектаваліся з васальна-залежных ад іх шляхціцаў, баяр і часткова простых сялян. У атрады такіх феадалаў, як князі Слуцкія, Радзівілы, Хадкевічы, часам збіралася па некалькі тысяч чалавек. Буйныя феадалы займалі ўсе найбольш важныя дзяржаўныя або прыдворныя пасады, якія прыносілі ім велізарныя прыбыткі.

Зямянам-шляхце ў феадальнай іерархіі адводзілася больш сціплае становішча. Яны займалі другарадныя пасады ў дзяржаўным апараце і знаходзіліся ў васальнай залежнасці ад князёў і паноў. Пераход з разраду зямян-шляхты ў разрад паноў ці наадварот не быў абумоўлены якімі-небудзь патрабаваннямі. Сярэдні феадал пры збегу ўдалых абставін і набыцці буйнога маёнтка мог прабіцца ў разрад паноў-рады.

Дробныя феадалы маглі займаць мясцовыя нязнач-

ныя дзяржаўныя пасады, знаходзіліся ў васальнай залежнасці ад больш багатых феадалаў.

Прававое становішча ўсяго саслоўя шляхты рэзка адрознівалася ад прававога становішча простых людзей. Усе шляхціцы маглі валодаць зямлёй на праве ўласнасці ў неабмежаваных памерах, былі вызвалены ад падаткаў і павіннасцей, акрамя абавязку нясення ваеннай службы ў час вайны і ўплаты грошай на ваенныя патрэбы, збіраемых па рашэнню сойма, мелі права бяспошлінна вывозіць за мяжу прадукцыю сваіх гаспадарак, бесперашкодна выязджаць у іншыя краіны. У заканадаўчых актах абвяшчалася недатыкальнасць асобы і маёмасці шляхціцаў. Шляхціца, які ўчыніў злачынства і паспеў схавацца ў сваім доме, нельга было арыштаваць да разгляду справы ў судзе. Яны заставаліся вольнымі людзьмі, незалежна ад тэрмінаў даўнасці, колькі б часу не знаходзіліся ва ўслужэнні ў пана ці жылі на арандаванай у яго зямлі. Яны мелі права пакінуць службу ў аднаго пана і перайсці на службу да другога. Толькі шляхціцы мелі права займаць пасады ў дзяржаўным апараце і ўдзельнічаць у пасяджэннях сойма. Набыццё шляхецтва ў XV ст. магло наступіць у сувязі з прызнаннем шляхецкіх правоў дазенай асобы па паходжанню ад патомных шляхціцаў або па наданню гасудара. Простая дзяўчына, якая выйшла замуж за шляхціца, станавілася шляхцянкай, шляхтай прызнаваліся і іх дзеці.

Страта шляхецкай годнасці магла наступіць па суду ў сувязі з учыненым злачынствам, а таксама ў тым выпадку, калі б шляхціц пачаў здабываць сабе сродкі да існавання рамяством або гандлем.

Духавенства займала асаблівае становішча ў сацыяльнай структуры грамадства, бо яго вярхі, што валодалі велізарнымі маёнткамі, адносіліся да класа феадалаў, а нізы далучаліся да мяшчан і асабіста свабодных заможных сялян.

На Беларусі былі шырока распаўсюджаны два веравызнанні: праваслаўнае і каталіцкае, а з 1596 г. уніяцкае і каталіцкае. Акрамя таго, мелася значная колькасць кальвіністаў, яўрэяў і магаметан. Такое раздзяленне веравызнанняў у XVI ст. яшчэ не давала магчымасці духавенству аб'яднацца ў адзіную саслоўную карпарацыю і ўстанавіць ідэалагічнае засілле якога-небудзь аднаго веравызнання. Таму існавала значная верацярплівасць, свабода поглядаў і вучэнняў, не было яшчэ масавых рэлігійных ганенняў, што ў значнай ступені садзейнічала

развіццю розных багаслоўскіх, філасофскіх і палітычных канцэпцый. Рэлігійныя ганенні ўзмацніліся на Беларусі пасля з'яўлення тут езуітаў і пасля Берасцейскай царкоўнай уніі 1596 г., асабліва ў XVII—XVIII стст.

Духавенства Беларусі прызнавала над сабой уладу замежных духоўных асоб і ўстаноў, якія дзейнічалі часта на шкоду дзяржаўным інтарэсам Вялікага княства Літоўскага. Кіраўнікі каталіцкай царквы, папа рымскі, рымская курыя і іх мясцовая агентура ў XIII—XIV стст. стваралі, падтрымлівалі і накіроўвалі агрэсіўныя сілы крыжаносцаў супраць народаў Усходняй Еўропы. У XV—XVI стст. яны імкнуліся ліквідаваць Вялікае княства Літоўскае, падпарадкаваўшы яго польскім феадалам і духавенству з тым, каб атрымаць большую магчымасць насаджэння каталіцызму. Нават у арганізацыі царкоўнай адміністрацыі імі ажыццяўлялася дыскрымінацыя ў адносінах да Вялікага княства Літоўскага. Каталіцкія епархіі на гэтай тэрыторыі былі падпарадкаваны польскай царкоўнай адміністрацыі, а не выдзелены ў самастойную правінцыю, як гэта рабілася ў іншых краінах.

Варожай да Вялікага княства Літоўскага была і палітыка Канстантынопальскага праваслаўнага патрыярха. Так, у 1370 г. патрыярх Філфей заклікаў усіх праваслаўных князёў выступіць супраць Вялікага княства Літоўскага, а тыя, хто не прытрымліваўся яго заклікаў, адлучаліся ад царквы[3]. Канстантынопальскі патрыярх на працягу XIV—XV стст. падрываў усе спробы ўрада і мясцовага духавенства арганізаваць самастойнае кіраванне праваслаўнай царквою ў Вялікім княстве Літоўскім. Варожая Вялікаму княству Літоўскаму дзейнасць Канстантынопальскага патрыярха ў значнай ступені падрывала аўтарытэт усяго праваслаўнага духавенства на Беларусі і Украіне і ўскосна садзейнічала распаўсюджванню каталіцызму, а затым і уніяцтва.

Дзейнасць духавенства, як каталіцкага, так і праваслаўнага, на Беларусі была накіравана супраць народнай культуры.

У сярэдзіне XVI ст. у Вялікім княстве Літоўскім пачало распаўсюджвацца пратэстанцкае веравучэнне ў форме кальвінізму, якое ўступіла ў барацьбу з каталіцызмам і праваслаўем. Напачатку да кальвіністаў далучыліся многія гараджане, а таксама частка феадалаў.

[3] Русская историческая библиотека (далей РИБ). СПб., 1910. С. 118—124.

Найбольшага росквіту кальвінізм на Беларусі дасягнуў у другой палове XVI ст., калі яго прапаведнікамі выступалі Сымон Будны, Андрэй Волан і інш., але ў пачатку XVII ст. кальвінізм страціў сваё значэнне, бо многія феадалы, якія раней падтрымлівалі кальвінізм, перайшлі на бок каталіцызму, які пры садзеянні ўрада ўмацаваўся і ў гарадах.

## 2. Цэнтральныя органы ўлады

Вышэйшыя органы ўлады. Сістэма вышэйшых органаў улады ў XVI ст. не атрымала карэнных змяненняў. Аднак характар іх дзейнасці і аб'ём паўнамоцтваў істотна змяніліся. На чале дзяржавы стаяў выбіраемы феадаламі князь — гаспадар. Пасля 1569 г. ён жа і кароль Польшчы і кароль Рэчы Паспалітай. Рашаючую ролю на выбарах адыгрывалі буйныя феадалы. Просты народ у выбарах не ўдзельнічаў, хоць у Статутах 1566 і 1588 гг. гаварылася і аб удзеле ў выбарах гасудара простых людзей. Пасля выбрання вялікага князя адбывалася каранацыя, на якой яму ўручаліся знакі вялікакняскай улады, даваліся наказы. Затым ён прыносіў прысягу і выкладаў сваю праграму дзейнасці, выдаваў грамату (прывілей), у якой пацвярджаў захаванне і непарушнасць дзеючых норм права і ільгот для феадалаў.

Кампетэнцыя гаспадара па-ранейшаму заставалася шырокай, але пры значным абмежаванні правамоцтваў. Галоўным абавязкам вялікага князя лічыліся арганізацыя абароны дзяржавы ад нападаў знешніх ворагаў і падтрыманне парадку ўнутры дзяржавы. Ён кіраваў выканаўча-распараджальнай дзейнасцю вышэйшых дзяржаўных органаў, быў кіраўніком адміністрацыі, за яго подпісам і дзяржаўнай пячаткай выдаваліся ўсе заканадаўчыя акты. Сумесна з Радай ён ажыццяўляў вышэйшы суд у дзяржаве, яму належалі правы вярхоўнага галоўнакамандуючага ўсімі ўзброенымі сіламі, кіраваў знешняй палітыкай. Уладарныя паўнамоцтвы гаспадара ў розны час былі рознымі і змяняліся ў залежнасці ад стану эканамічнай асновы, сацыяльнай базы і асабістых яго якасцей. Эканамічную аснову палітычнай улады вялікага князя складалі яго асабістыя маёнткі-двары і замкі. Акрамя таго, ён разам з панамі-радамі распараджаўся велізарным фондам дзяржаўных маёнткаў і даходамі, якія атрымліваліся ад сялян і мяшчан.

У сярэдзіне XV ст. праходзіла інтэнсіўнае раздорван-

не феадалам земляў дзяржаўнага фонду. Асобным феадалам перадаваліся ў вотчынныя ўладанні велізарныя тэрыторыі. Напрыклад, у 1465 г. Бранск і прылеглыя да яго воласці былі перададзены ў вотчыну князю Івану Андрэевічу[4]. Раздача дзяржаўнага фонду ва ўладанне асобных феадалаў выклікала памяншэнне даходаў дзяржаўнай казны, скарацілася і сацыяльная база ўлады вялікага князя. Разам з тым узрасло значэнне буйных феадалаў, якія ў канцы XV ст. дабіліся юрыдычнага замацавання абмежавання ўлады вялікага князя. Паслабленню ўлады вялікіх князёў садзейнічала таксама тая акалічнасць, што яны часта былі адначасова і каралямі польскімі, што вымушала іх часта выязджаць у Польшчу на працяглы час. Так, Жыгімонт І, пакінуўшы Вялікае княства ў 1523 г., вярнуўся толькі ў 1528 г.[5] Кіраванне дзяржавай у час адсутнасці гасудара поўнасцю знаходзілася ў руках вярхоў феадалаў, якія ўваходзілі ў састаў Рады Вялікага княства Літоўскага.

Рада як вышэйшы орган дзяржаўнай улады набыла сваё самастойнае значэнне ў 40-х гг. XV ст. Яе роля ўзрастала па меры аслаблення ўлады вялікага князя, і ў 1492 г. было ўстаноўлена ў законе, што ў выпадку разыходжання ў Радзе думак вялікага князя і радных паноў гасудар абавязаны выконваць тое, што параяць яму паны-рада. Склад Рады не быў строга вызначаным, яе пасяджэнні лічыліся законнымі, калі прысутнічала трыпяць чалавек, а магло збірацца 30—40 чалавек і больш. У вырашэнні бягучых малазначных спраў прымалі ўдзел толькі тыя радныя паны, якія знаходзіліся ў дадзены час каля гасудара. Для вырашэння важных дзяржаўных спраў Рада збіралася ў поўным складзе.

Правам засядаць у Радзе валодалі каталіцкія епіскапы, ваяводы, каштэляны, маршалкі земскі і дворны, падскарбі земскі, канцлер, гетман земскі, або найвышэйшы, старасты жмудскі, луцкі і гарадзенскі, прыдворныя чыны — падчашы, крайчы, мечнік, стольнік і інш., а таксама некаторыя князі і паны не па пасадзе, а па сваіх асабістых правах, знатнасці свайго паходжання. Акрамя таго, гасудар мог запрашаць на пасяджэнні Рады і іншых асоб, але толькі ўраджэнцаў Вялікага княства Літоўскага, якія належалі да шляхецкага саслоўя і хрысціян.

---

4 РИБ. Т. 27. С. 123.
5 *Любавский М. К:* Литовско-Русский сейм. М., 1901. С. 246.

Рада была выканаўча-распараджальным, заканадаўчым, судовым і кантралюючым органам. Тут вырашаліся пытанні выбрання вялікага князя, арганізацыі абароны дзяржавы, міжнародных адносін, кіраўніцтва вышэйшымі і мясцовымі дзяржаўнымі органамі, прызначэння на вышэйшыя дзяржаўныя пасады, абмяркоўваліся і прымаліся заканадаўчыя акты. Судовыя справы разглядаліся ў Радзе на спецыяльнай сесіі, якая збіралася штогод праз два тыдні пасля пачатку вялікага паста (Статут 1529 г. Раздз. 6, арт. 5, 6).

Кантрольныя функцыі Рада ажыццяўляла або ў поўным саставе, заслухоўваючы справаздачы некаторых службовых асоб, або даручаючы радным панам праводзіць праверкі і рэвізіі. Акрамя таго, Рада магла прызначаць спецыяльных камісараў і рэвізораў з асоб, якія не ўваходзілі ў склад Рады. Нагляд за дзейнасцю вялікага князя заключаўся ў тым, што ніводзін дакумент не мог уступіць у сілу без дзяржаўнай пячаткі, якая захоўвалася ў канцлера, і без яго подпісу.

Сойм (сейм) * Вялікага княства Літоўскага складаўся толькі з асоб, якія належалі да прывілеяваных саслоўяў. Збіраўся сойм па распараджэнню гасудара або Рады. Спачатку на сойме мелі права прысутнічаць усе жадаючыя шляхціцы, але ў сувязі з тым, што часта з асобных паветаў ніхто не з'яўляўся, з 1512 г. быў уведзены абавязак для павятовай шляхты выбіраць і пасылаць на агульныя соймы сваіх прадстаўнікоў — паслоў. У пасяджэннях сойма маглі прымаць удзел гасудар, усе паны-рады, службовыя асобы цэнтральнага і мясцовага кіравання, каталіцкія і праваслаўныя епіскапы і ігумены манастыроў, па два прадстаўнікі ад шляхты з кожнага павета. Пэўных тэрмінаў склікання вальных соймаў не існавала, збіраліся яны па меры патрэбы, напрыклад, у выпадку пагрозы вайны. Не было і пастаяннага месца для іх пасяджэнняў. Яны збіраліся ў розных гарадах і замках, часцей за ўсё ў Вільні, Гародне, Слоніме, Берасце. Працягласць пасяджэнняў магла складаць два-тры дні, а часам некалькі месяцаў, але часцей за ўсё яны працягваліся два-чатыры тыдні. На соймах вырашаліся пытанні вайны і міру, падаткаў на ваенныя патрэбы, міжнародныя справы, прымаліся новыя заканадаўчыя акты, выбіраўся гасудар. Разглядаліся таксама крымінальныя

---

* Слова «сейм», «сойм», «сонм» у старажытнай мове азначала ўсялякі сход, скопішча, сабор, агульную сходку.

справы па абвінавачванню феадалаў у дзяржаўнай здрадзе. Акрамя таго, у час соймаў ураду падаваліся рознага роду чалабітныя і хадатайніцтвы павятовай шляхты.

Усе пытанні на сойме фактычна вырашаліся гасударом і панамі-радай, а прадстаўнікі павятовай шляхты толькі пры гэтым прысутнічалі. Роля шляхты на соймах была нязначнай таму, што усё вырашалася гаспадаром і панамі-радамі, а шляхтаю абавязкова прымалася да выканання; паны радныя ж запрашалі шляхту на соймы як быццам для гонару, на самай жа справе для таго, каб усім яўна было тое, што яны вырашалі [6]. Таму ўдзел шляхты ў рабоце соймаў зводзіўся да ўхвалення і падтрымання рашэнняў кіруючых вярхоў, да прапаганды ў паветах соймавых ухвал і служыў сродкам забеспячэння выканання прынятых пастаноў на месцах. Соймавыя пастановы называліся ўхваламі, або статутамі, а ў XVII—XVIII стст.— канстытуцыямі.

У сістэме цэнтральных органаў кіравання значную ролю адыгрывалі вышэйшыя службовыя асобы, якія загадвалі асобнымі галінамі кіравання. Сярод іх найважнейшае месца займаў маршалак земскі, які быў ахоўнікам парадку і этыкету пры двары. Ён старшынстваваў на пасяджэннях сойма і Рады, аб'яўляў пастановы гасудара і Рады на пасяджэннях гэтых органаў, кіраваў прыёмам замежных паслоў, дапускаў да гасудара прасіцеляў са скаргамі і чалабітнымі, судзіў за злачынствы, учыненыя на сойме, распараджаўся размяшчэннем прыбыўшых на сойм або на аўдыенцыю да гасудара. Яго намеснікам быў маршалак дворны, у непасрэдным падпарадкаванні якога знаходзіліся гаспадарскія дваране, якія выконвалі розныя даручэнні гасудара і маршалкаў па падтрыманню парадку і дастаўцы распараджэнняў мясцовым службовым асобам і некаторым феадалам.

Гетман найвышэйшы камандаваў узброенымі сіламі дзяржавы. У час ваеннага паходу ён надзяляўся самымі шырокімі паўнамоцтвамі ў адносінах да ўсіх падначаленых асоб. Яму належала права караць вінаватых аж да пакарання смерцю. У мірны час улада гетмана была менш значнай. Яго намеснікам быў гетман дворны, або польны, які ўзначальваў частку войск, часцей за ўсё размешчаных пры граніцы, знаходзячыся з імі ў полі.

---

[6] *Любавский М. К.* Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. С. 222.

Канцлер кіраваў работай дзяржаўнай канцылярыі, ажыццяўляў нагляд за работай пісараў (сакратароў) і іх памочнікаў (дзякаў). Пад яго наглядам знаходзілася т. зв. метрыка Вялікага княства Літоўскага — дзяржаўны архіў, ён жа быў хавальнікам вялікай дзяржаўнай пячаткі, без прыкладання якой ніводзін закон не мог уступіць у сілу. Канцлер змацоўваў сваёй пячаткай найбольш важныя дзяржаўныя акты. Намеснікам канцлера быў падканцлер. Канцлер і падканцлер прымалі ўдзел у падрыхтоўцы праектаў заканадаўчых актаў і іх канчатковым рэдагаванні, інакш кажучы, ажыццяўлялі функцыі юрыдычнай службы. Як правіла, на гэтыя пасады прызначаліся буйныя феадалы, якія мелі адукацыю або практычны вопыт судовай ці канцылярскай службы.

Падскарбі земскі быў хавальнікам дзяржаўнай казны — скарба. Ён загадваў дзяржаўнымі даходамі і расходамі. У скарбе захоўваліся і вялікакняскія рэгаліі — шапка Гедыміна, скіпетр, меч і сцяг (харугва). У распараджэнні падскарбія земскага знаходзіліся і ваенныя прыпасы (зброя і амуніцыя), г. зн. дзяржаўны арсенал, пры якім працавалі і спецыяльныя майстры. Роля падскарбія земскага значна ўзрасла ў сярэдзіне XVI ст., калі ён стаў фактычна займацца асноўнымі пытаннямі дзяржаўнай гаспадаркі і ператварыўся з простага казначэя ў міністра гаспадаркі і фінансаў. Яго памочнікам і намеснікам быў падскарбі дворны, у распараджэнні якога знаходзілася дварцовая казна вялікага князя, яго каштоўнасці і грошы, якія ішлі на ўтрыманне гасудара і яго прыдворных. У падначаленні ў падскарбія земскага знаходзіліся скарбнікі, якія сачылі за своечасовым паступленнем сродкаў у казну і разглядалі фінансавыя справаздачы ключнікаў, мытнікаў (таможаннікаў), дзяржаўцаў, цівуноў і іншых асоб мясцовай гаспадарчай адміністрацыі.

Спецыфічнае становішча сярод службовых асоб дзяржаўнага апарату займалі гаспадарскія дваране і ўраднікі (служэбнікі, слугі) вышэйшых службовых асоб. Яны выконвалі шматлікія даручэнні гасудара і радных паноў па дзяржаўнаму кіраванню. Іх рассылалі з рознымі даручэннямі — выконваць судовыя рашэнні, уводзіць ва ўладанне маёнткамі, праводзіць следчыя дзеянні і рэвізіі, спаганяць нядоімкі па падатках, назіраць за будаўніцтвам дарог, мастоў і замкаў, суправаджаць пасольствы за граніцу і г. д. Колькасць дваран пры двары вялікага князя вагалася ад 100 да 150 чалавек. У 1565 г. іх

было 118 чалавек[7]. Пры дварах радных паноў іх было значна менш. Яны набіраліся з маладых феадалаў, якія жадалі выслужыцца пры двары гасудара. У панскай світце маглі быць і бедныя служылыя шляхціцы.

## 3. Мясцовыя органы дзяржаўнай улады

Мясцовыя органы ўлады на Беларусі ў перыяд феадалізму валодалі шырокімі паўнамоцтвамі ў вырашэнні ўсіх мясцовых спраў і мала залежалі ад цэнтральных органаў. У сваёй дзейнасці яны кіраваліся агульнадзяржаўнымі нарматыўнымі актамі і мясцовым звычаёвым правам або актамі мясцовай адміністрацыі. Ваяводствы Полацкае, Віцебскае, Мсціслаўскае, а таксама шмат якія паветы і валасці мелі спецыяльныя граматы, у якіх былі замацаваны іх правы. Акрамя таго, асобнае ўпраўленне было арганізавана ў гарадах і ў прыватных уладаннях феадалаў. Усё гэта параджала разнастайнасць мясцовых органаў і адрозненне паўнамоцтваў нават у аднатыпных органах. Разам з тым усе яны валодалі і некаторымі агульнымі прыкметамі.

Галоўнай асобай у сістэме мясцовых органаў быў ваявода, які ўзначальваў адміністрацыйныя, гаспадарчыя, ваенныя і ў значнай ступені судовыя органы на тэрыторыі ваяводства. Ваяводы, замяніўшы васальных князёў, захоўвалі асноўныя звенні старога дзяржаўнага апарату і кіравалі пры ўдзеле мясцовых соймікаў і мясцовых рад, куды ўваходзілі найбольш уплывовыя феадалы ваяводства. Напрыклад, ваяводы полацкі і віцебскі найбольш важныя мясцовыя справы вырашалі сумесна з епіскапам, гараднічым, канюшым, ключнікам, лоўчым, сакольнічым, цівуном, баброўнічым, князямі і панамі дадзенай зямлі. Прызначаўся ваявода вялікім князем і Радай пажыццёва з ліку буйных феадалаў, ураджэнцаў Вялікага княства Літоўскага. Пры назначэнні ваяводы ў Полацкае або Віцебскае ваяводства ўраду неабходна было заручыцца згодай мясцовых феадалаў прыняць дадзенага кандыдата на пасаду ваяводы. Акрамя таго, і пасля прызначэння ваяводы мясцовыя феадалы мелі права запатрабаваць яго змяшчэння. Залежнасць ад мясцовых феадалаў была даволі значнай і ў іншых ваяводствах. У пасадзе ваяводы спалучаліся прыкметы прадстаўніка цэнтральнага кіравання і мясцовага самакіравання.

---

[7] *Любавский М. К.* Литовско-Русский сейм. С. 418.

Ваяводы абавязаны былі на месцах праводзіць у жыццё распараджэнні цэнтральных органаў і клапаціцца аб інтарэсах мясцовага насельніцтва, асабліва мясцовых феадалаў. Клопат аб мясцовых інтарэсах ваявода мог ажыццяўляць і праз Раду, членам якой ён быў па пасадзе. Усё гэта ставіла ваяводу ў асаблівыя прававыя адносіны з урадам, членам якога ён быў сам, і з мясцовымі феадаламі, для якіх ён быў намеснікам вялікага князя і кіраўніком органаў мясцовага самакіравання.

Асноўныя абавязкі ваяводы заключаліся ў падтрыманні феадальнага правапарадку на тэрыторыі ваяводства, ажыццяўленні агульнага кіраўніцтва эксплуатацыяй усіх крыніц дзяржаўных і вялікакняжацкіх даходаў, арганізацыі ўзброеных сіл ваяводства, выкананні правасуддзя. Для падтрымання парадку ваявода мог выкарыстоўваць падначаленыя яму гарнізоны і склікаць шляхецкае апалчэнне, акрамя таго, у яго, як і ва ўсякага буйнога феадала, меўся атрад асабістай аховы і цэлы штат падначаленых яму службовых асоб —ураднікаў і слуг. У гаспадарчай дзейнасці ваявода перш за ўсё клапаціўся аб належным правядзенні работ у дзяржаўных маёнтках, перададзеных яму ў трыманне (часовае карыстанне), аб спраўным паступленні данін і падаткаў (чынша) з феадальна-залежных людзей. Ён мог асаджваць свабодных сялян і баяр на пустых землях, сачыў, каб сяляне не ішлі з дзяржаўных земляў на землі асобных феадалаў, абавязаны быў ахоўваць дзяржаўны зямельны фонд ад самавольных захопаў феадаламі. Як кіраўнік узброеных сіл ваяводства, ён сачыў за належным утрыманнем замкаў, наяўнасцю ў іх неабходных людзей, узбраення і прыпасаў. Кантраляваў выкананне воінскай павіннасці ўсімі ваеннаабавязанымі людзьмі ваяводства. Пры ажыццяўленні правасуддзя ён мог сам сумесна з мясцовымі феадаламі разглядаць крымінальныя і грамадзянскія справы ў адносінах усіх асоб, якія пражывалі на тэрыторыі ваяводства, за выключэннем спраў, аднесеных да вядзення земскіх, падкаморскіх і вышэйшых судоў — гаспадарскага і Галоўнага трыбунала.

Ваявода ў сваёй дзейнасці карыстаўся дапамогай штата службовых асоб, якія былі бліжэйшымі яго памочнікамі. Каштэлян камандаваў ваеннымі сіламі галоўнага замка ваяводства і апалчэннем ваеннаабавязаных асоб, прыпісаных да дадзенага замка, ён жа быў таварышам ваяводы па прадстаўленню інтарэсаў ваяводства

ў Радзе. Ключнік загадваў зборам данін і чыншаў; канюшы наглядаў за гадоўляй коней для арміі і загадваў дзяржаўнай канюшняй у ваяводстве. На абавязку гараднічага — каменданта замка — ляжаў галоўны клопат аб рамонце і ўтрыманні замка, а ў адсутнасць каштэляна ўзначальваў гарнізон замка. Ляснічы і гаеўнік загадвалі ляснымі промысламі і паляваннем; падваявода быў намеснікам ваяводы па адміністрацыйна-судовых справах, кіраваў работай ваяводскай канцылярыі, засведчваў рознага роду дакументы, старшынстваваў у ніжэйшым гродскім (замкавым) судзе.

Галавой адміністрацыі ў павеце быў староста. Прызначаўся ён гасударам і Радай з ліку буйных феадалаў. Пасада гэтая часцей за ўсё разглядалася як дадатковая крыніца даходаў буйнога феадала, а абавязкі, звязаныя з выкананнем пасады, выконваў прызначаны старастам яго намеснік — падстараста.

Уладарныя паўнамоцтвы старасты былі прыкладна такімі ж, як і ваяводы, толькі на тэрыторыі аднаго павета. Старасты замянілі былых намеснікаў у тых княствах, якія не былі пераўтвораны ў ваяводствы, а ў шэрагу месц паветы былі ўтвораны з тэрыторыі некалькіх княстваў. Напрыклад, у склад Менскага павета была ўключана тэрыторыя старадаўніх княстваў Менскага, Заслаўскага, Лагойскага і некалькі сёл і замкаў іншых княстваў.

Староста, як і ваявода, абавязаны быў сачыць за парадкам на падведамаснай тэрыторыі, наглядаць за гаспадарчым станам дзяржаўных маёнткаў і за паступленнем дзяржаўных даходаў. Ён клапаціўся аб утрыманні ў баявой гатоўнасці замкаў, збіраў ваеннае апалчэнне ў выпадку ваеннай небяспекі, разглядаў крымінальныя і грамадзянскія справы, сачыў за выкананнем судовых рашэнняў. У сваёй дзейнасці па мясцоваму кіраванню старасты карысталіся шырокімі правамі, незалежнымі ад улады ваявод, бо іх паўнамоцтвы грунтаваліся на старых традыцыях кіравання мясцовых васальных князёў. У павеце захоўваліся таксама старадаўнія пасады ключніка, канюшага, гараднічага, ляснічага, цівуна, харужага — павятовага сцяганосца, які збіраў усіх ваеннаабавязаных людзей дадзенага павета ў выпадку ваеннай небяспекі. Памочнікам старасты па ваенных справах быў павятовы маршалак, які камандаваў павятовым апалчэннем шляхты. Ён жа, як правіла, старшынстваваў на пасяджэннях павятовага сойміка. Адміністрацыйна-су-



Мірскі замак

довыя функцыі ў павеце мог выконваць памочнік старасты — падстараста.

Саслоўна-прадстаўнічымі органамі ў ваяводстве і павеце былі ваяводскі і павятовы соймікі. На іх маглі прысутнічаць усе шляхціцы дадзенага павета або ваяводства, тут абмяркоўваліся як мясцовыя, так і агульнадзяржаўныя справы. Павятовыя соймікі збіраліся, як правіла, штогод або нават некалькі разоў на год у павятовым цэнтры. Старшынстваваў на сойміку або найбольш высокі па пасадзе пан, або павятовы маршалак. Тут выбіраліся дэпутаты на вальны (усеагульны) сойм, выпрацоўваліся для іх інструкцыі і наказы, а таксама хадайніцтвы і просьбы да ўрада, заслухоўваліся справаздачы і інфармацыя аб соймах, што адбыліся, выбіраліся суддзі і кандыдаты на судовыя і іншыя пасады, вызначаліся памеры падаткаў на патрэбы павета. Пры дапамозе соймі-

каў павятовая шляхта адстойвала свае мясцовыя інтарэсы перад цэнтральнымі органамі.

Ніжэйшым звяном органаў мясцовага дзяржаўнага кіравання былі кіраўнікі дзяржаўных і вялікакняскіх маёнткаў (дварсў і замкаў) — дзяржаўцы, якія ў больш старажытны час называліся цівунамі. У XVI ст. даволі часта дзяржаўныя маёнткі аддаваліся ў трыманне буйным феадалам, а яны ад сябе прызначалі сваіх намеснікаў, якія і выконвалі функцыі гаспадарчага кіравання маёнткам і органа мясцовай улады. Яны карысталіся і правам суда над усімі простымі людзьмі, якія жылі ў дадзенай воласці. Дзяржаўцы, гэтак жа як ваяводы і старасты, неслі адказнасць за сваю дзейнасць непасрэдна перад урадам (Статут. 1566 г. Раздз. 4, арт. 45). Для ажыццяўлення нагляду над сялянамі старасты і дзяржаўцы прызначалі сельскіх войтаў, сотнікаў, сарочнікаў, дзесятнікаў, якія сачылі за падтрыманнем парадку ў сёлах і выкананнем феадальных павіннасцей сялянамі. Сотнікі сачылі за выкананнем тых павіннасцей, якія абавязаны былі несці сяляне ўсяго павета на павятовы замак або цэнтральны двор павета. Сарочнікі загадвалі павіннасцямі сялян у воласці, а дзесятнікі — у асобных вёсках. Пасля правядзення валочнай рэформы 1557 г. гэтыя пасады ў шэрагу мясцовасцей былі заменены сельскімі войтамі. За сваю службу сельскі войт атрымліваў вольную ад усялякіх плацяжоў і павіннасцей адну валоку зямлі. У яго абавязкі ўваходзіла збіраць сялян на баршчыну, назіраць за выкананнем работ сялянамі свайго войтаўства, адвозіць «у двор» сабраныя з сялян даніны, сачыць за захаваннем зямельнага фонду і непарушэннем межавых знакаў, не дапускаць самавольнага захопу сялянскіх і дзяржаўных земляў, прысутнічаць на судзе і аказваць садзеянне ў вынясенні правільнага рашэння.

У тых мясцовасцях, дзе жылі дзяржаўныя сяляне і не было замкаў або дзяржаўных маёнткаў — двароў, дзейнічалі органы сялянскага самакіравання — сялянскія сходы і старцы, якія на гэтых сходах выбіраліся. На сялянскіх сходах размяркоўвалі даніны, разбіралі спрэчныя справы паміж сялянамі. Старцы назіралі за выкананнем грамадскіх работ па будаўніцтву і рамонту замкаў, мастоў і дарог, збіралі і адвозілі даніны ў вызначанае ўладамі месца, удзельнічалі ў ажыццяўленні правасуддзя на капе.

Кіраванне ў гарадах Беларусі ў канцы XV і ў XVI ст.

значна змянілася. Большасць гарадоў атрымалі спецыяльныя граматы майдэборскага права, г. зн. у гарадах уводзілася асаблівая форма кіравання, падобная ў некаторых рысах да кіравання ў гарадах Польшчы і Германіі на аснове магдэбургскага права. Па гэтых граматах мяшчане вызваляліся з-пад адміністрацыйнай і судовай улады ваявод, стараст або іх намеснікаў і атрымлівалі права мець у горадзе органы гарадскога кіравання ў спалучэнні з некаторымі элементамі самакіравання.

На чале гарадской адміністрацыі і суда быў войт, прызначаемы ўрадам з ліку феадалаў або гараджан. Ён сачыў за падтрыманнем парадку ў горадзе, за захаваннем правіл гандлю, клапаціўся аб абароне інтарэсаў мяшчан перад урадам і ў канфліктах з асобнымі феадаламі, сачыў за своечасовым зборам падаткаў з мяшчан, ажыццяўляў сумесна з членамі гарадской Рады і лаўнікамі (засядацелямі) правасуддзе. Войт мог прызначыць сабе намесніка — лент-войта. Памочнікамі войта па кіраванню справамі ў горадзе былі бурмістры, як правіла, два. Бурмістры прызначаліся або зацвярджаліся войтам з ліку членаў гарадской Рады. Бурмістры ў асноўным вырашалі бягучыя справы па гарадскому кіраванню: пытанні гандлю, рамяства, гарадскога добраўпарадкавання. Яны клапаціліся аб належным утрыманні гарадскіх абаронных збудаванняў, нясенні вартавой службы насельніцтвам і выкананні іншых павіннасцей, ажыццяўлялі правасуддзе па дробных справах.

Гарадская рада ў большасці беларускіх гарадоў складалася прыкладна з 6—20 чалавек. У адных гарадах Рада выбіралася мяшчанамі, у другіх — сам войт камплектаваў Раду. Як правіла, у Раду ўваходзілі найбольш багатыя купцы, цэхмістры — кіраўнікі рамесных цэхаў і багатыя майстры-рамеснікі. Гарадская Рада вызначала агульны напрамак развіцця гарадской гаспадаркі, кіравала пытаннямі добраўпарадкавання і ўтрымання ў баявой гатоўнасці абарончых збудаванняў, выносіла рашэнне аб зборы з насельніцтва неабходных сродкаў на гарадскія патрэбы, ажыццяўляла кантроль за іх расходаваннем, члены гарадской Рады ўдзельнічалі ў ажыццяўленні правасуддзя сумесна з войтам або бурмістрамі. Функцыі ніжэйшых службовых асоб у гарадах па збору падаткаў, кантролю за дзейнасцю гандляроў і рамеснікаў, за падтрыманнем парадку выконвалі соцкія, дзесятнікі і «слугі месцкія», якія знаходзіліся ў падпарадкаванні ў войта і бурмістраў.

У вырашэнні агульнагарадскіх спраў істотнае значэнне, побач з указанымі органамі, працягвалі захоўваць агульныя сходы мяшчан — соймы, веча і копы. На гэтых сходах маглі заслухоўвацца справаздачы бурмістраў аб расходаванні гарадскіх грошай, выпрацоўвацца скаргі і чалабітныя ўраду, выносіцца пастановы аб зборы сродкаў на гарадскія патрэбы, выказвацца патрабаванні аб змяшчэнні тых або іншых асоб гарадскога кіравання. Копныя сходы мяшчан займаліся расследаваннем і разглядам крымінальных спраў. З ростам гарадоў і ўзмацненнем класавага падзелу гарадскога насельніцтва агульныя сходы мяшчан страчваюць сваё значэнне.

Падводзячы вынік разгляду структуры і характару дзейнасці вышэйшых і мясцовых органаў улады, неабходна адзначыць, што на ўсе больш ці менш важныя і даходныя дзяржаўныя пасады маглі прызначацца толькі феадалы-шляхціцы хрысціянскае веры і ўраджэнцы Вялікага княства Літоўскага (Статут. 1566 г. Раздз. 3, арт. 9). Усе пасады звычайна лічыліся пажыццёвымі, пазбаўленне пасады магло быць праведзена толькі па суду за ўчыненне цяжкага крымінальнага злачынства. Дзяржаўная пасада разглядалася як сродак атрымання даходаў, а нясенне пэўных абавязкаў па пасадзе можна было даручыць сваёй даверанай асобе. Буйныя феадалы займалі адначасова некалькі пасад. Напрыклад, Аляксандр Іванавіч Хадкевіч у 1534 г. займаў пасады: старасты берасцейскага, маршалка дворнага, дзяржаўцы вілкейскага, астрынскага і кнышынскага; Ян Мікалаевіч Радзівіл у 1535 г.— каштэляна віленскага, гетмана найвышэйшага, старасты гарадзенскага, маршалка дворнага, дзяржаўцы лідскага і беліцкага [8]. Такі стан дзяржаўнай службы выклікаў незадавальненне не толькі простага народа, але і значнай часткі шляхты, бо справы па кіраванню вырашаліся рознага роду намеснікамі з аглядкай на сваіх паноў або наогул не вырашаліся. Акрамя таго, сярэднія і дробныя феадалы самі былі не супраць заняць даходныя пасады.

## 4. Судовы лад і працэсуальнае права

На Беларусі ў XV—XVII стст. меліся дзве сістэмы судовых органаў — агульныя суды для ўсяго насельніцтва, заснаваныя на старажытным звычаёвым праве і на

[8] *Любавский М. К.* Литовско-Русский сейм. Прил. С. 25, 32.

законе, і саслоўныя суды толькі для шляхты, якія былі аддзелены ад адміністрацыі, створаны на аснове закона ў адпаведнасці з тэорыяй раздзялення ўлад. Саслоўныя суды ў значнай меры абмяжоўвалі судовыя функцыі органаў дзяржаўнага ўпраўлення. Акрамя таго, меліся суды для асобных груп насельніцтва — духавенства, мяшчан, сялян, татар, яўрэяў, якія не атрымалі дастатковага адлюстравання ў Статуце 1588 г., бо дзейнічалі на аснове царкоўнага права (Бібліі, Карана, Торы), спецыяльных нарматыўных актаў або старажытнага звычаёвага копнага права.

Самым высокім судовым органам для ўсяго насельніцтва лічыўся вялікакняскі (гаспадарскі) суд, а таксама суд паноў Рады, сойма і як іх разнавіднасць — камісарскі суд.

Падсуднасць спраў гаспадарскаму суду да сярэдзіны XVI ст. была даволі шырокай, але затым быў устаноўлены інстанцыйны парадак, па якому судовыя справы трэба было разглядаць у мясцовых судах па першай інстанцыі. Да кампетэнцыі гаспадарскага суда былі аднесены толькі справы па дзяржаўных злачынствах, паісках да шляхты аб выпатрабаванні дзяржаўных маёнткаў і земляў, аб прыналежнасці да саслоўя шляхты, паісках, што закраналі інтарэсы казны, па скаргах на незаконныя дзеянні вышэйшых службовых асоб (раздз. 1, арт. 3, 4, 14, 15; раздз. 3, арт. 11; раздз. 4, арт. 63, 83, 90). Альтэрнатыўная падсуднасць была ўстаноўлена паісках замежных гасцей. Іх справы маглі разглядацца па выбару істца ў гаспадарскім або ў іншым судзе (раздз. 4, арт. 28).

Састаў гаспадарскага суда не быў рэгламентаваны ў Статуце, але на практыцы на судзе абавязкова павінны былі прысутнічаць у якасці засядацеляў радныя паны. Іх колькасць не была вызначана ў законе: магло быць два-тры чалавекі, а падчас 20 і болей. Усё залежала ад важнасці справы, месца і часу, а таксама ад таго, якое службовае становішча займалі ісцец і адказчык. Разнавіднасцю гаспадарскага суда лічыўся суд паноў. Ён мог разглядаць справы незалежна ад таго, ці ўся Рада была ў зборы, ці толькі яе частка. Соймавы суд першапачаткова праводзіўся гасударом і панамі-радамі ў час сойма. Па Статуту 1588 г., справы ў соймавым судзе разглядаліся гасударом, панамі-радамі і васьмю дэпутатамі сойма (раздз. 1, арт. 4, 28; раздз. 3, арт. 46). Справамі па зямельных спрэчках феадалаў з дзяржаўнымі маёнткамі

займаліся спецыяльна вызначаныя камісары, якія павінны былі выязджаць на месца і там разглядаць спрэчкі (раздз. 4, арт. 83).

Судовая ўлада вялікага князя і Рады была абмежавана ў 1581 г., калі быў выдадзены закон аб утварэнні найвышэйшага суда — Галоўнага суда (Трыбунала), на які ўскладаліся апеляцыйны перагляд спраў і разгляд некаторых спраў па першай інстанцыі.

Галоўны суд Вялікага княства Літоўскага складаўся з выбарных суддзяў, якія выбіраліся штогод шляхтай на павятовых сойміках. Выбранымі маглі быць толькі шляхціцы, якія мелі ўласныя ўладанні (аседласць), дасведчаныя ў праве і мясцовых звычаях. Ад павета і ваяводства, у якім не было паветаў, выбіраліся па два суддзі. Колькасць членаў Галоўнага суда не была пастаяннай, але, як правіла, іх было каля 40 чалавек. Справы разглядаліся судовай калегіяй з двух-сямі чалавек, аднак магла быць і іншая колькасць суддзяў у калегіі, але не менш чым два. Усёй работай Галоўнага суда кіраваў выбраны суддзямі старшыня — маршалак. На пасаду старшыні рэкамендаваўся Радай адзін з паноў. Для разгляду спраў, звязаных з іскамі з-за царкоўнай маёмасці, стваралася сумесная калегія Галоўнага суда. Яна складалася з членаў Галоўнага суда і прадстаўнікоў духавенства, якіх прызначалі епіскапы. Пасяджэнні (сесіі) Галоўнага суда праводзіліся ў Вільні — штогод, у Менску і Наваградку — папераменна праз год. Кожная сесія (кадэнцыя) магла працягвацца не больш як 22 тыдні, пасля суддзі пераязджалі ў чарговы горад.

Галоўны суд вёў усе справы па апеляцыйных скаргах на рашэнні (выракі): 1) гродскіх, земскіх і падкаморскіх судоў; 2) панскіх судоў у адносінах служылых шляхціцаў, прыгавораных да пакарання смерцю, турэмнага зняволення ці буйных грашовых штрафаў. Па першай інстанцыі ён разглядаў некаторыя справы, якія даўней былі падсудныя гаспадарскаму суду. Асаблівую катэгорыю спраў у Галоўным судзе складалі скаргі на незаконныя дзеянні і злоўжыванні мясцовых службовых асоб і суддзяў. Акрамя разгляду судовых спраў галоўны суд займаўся і натарыяльнымі клопатамі: завяраў завяшчанні, сведчыў дагаворы пазыкі, куплі-продажу маёнткаў і г. д.

Рашэнне (дэкрэт) Трыбунала выносілася па большасці галасоў суддзяў. Не прымалі ўдзелу ў разглядзе справы тыя члены суда, якія былі з таго самага павету,

што і бакі ў спрэчцы. Дэкрэт Галоўнага суда абскарджанню не падлягаў. Выкананне гэтых дэкрэтаў праводзілася павятовымі судамі або павятовым старастам.

Сярод мясцовых судоў найбольш старадаўнім быў замкавы, ці гродскі, суд, пасяджэнні якога праводзіліся ў замку ці, як яго называлі, горадзе, гродзе. Тут галоўная роля належала службовым асобам мясцовай адміністрацыі — ваяводу, старасту, дзяржаўцу і іх намеснікам. Гэты суд дзейнічаў у двух складах: вышэйшым і ніжэйшым. У вышэйшы гродскі суд уваходзіў ваявода, або староста, або дзяржаўца і прадстаўнікі мясцовых феадалаў. Так, полацкі ваявода абавязаны быў разглядаць усе справы са старшымі баярамі полацкімі, віцебскі — з князямі, баярамі і мяшчанамі.

Ніжэйшы гродскі суд складаўся з намесніка ваяводы або намесніка старасты, а таксама суддзі і пісара. На пасаду намесніка, суддзі і пісара ў гродскім судзе маглі быць прызначаны толькі шляхціцы, якія валодалі нерухомай маёмасцю (мелі «аседласць») у дадзеным павеце, ураджэнцы Вялікага княства Літоўскага, дабрачынныя, якія ведалі права і ўмелі пісаць. Ніжэйшы гродскі суд павінен быў знаходзіцца на сваім месцы з пачатку кожнага месяца на працягу двух тыдняў. Вышэйшы гродскі суд (ваявод, стараст, дзяржаўцаў) павінен быў, атрымаўшы скаргу на пастанову ніжэйшага суда, не пазней чатырох тыдняў прыбыць на сваё месца або даручыць сваім бліжэйшым намеснікам — кашталяну, маршалку, харужаму — разгледзець справу па апеляцыі.

Уключэнне ў склад гродскага суда прадстаўнікоў мясцовых феадалаў, а затым суддзі і пісара, якія таксама былі з прадстаўнікоў мясцовых феадалаў, але ўжо валодалі прававымі ведамі, сведчыць пра пэўныя зрухі ў судаводстве, развіцці права, паколькі суд пачаў аддзяляцца ад адміністрацыі і ўзнікла неабходнасць набываць прававыя веды.

У гродскім судзе разглядаліся справы па абвінавачванню шляхты, мяшчан і сялян, значыць, у некаторай ступені ён быў усесаслоўным судом. Разгляд справы мог пачынацца адразу ж пасля дастаўкі ў суд злачынцы, захопленага на месцы злачынства ці затрыманага на працягу 24 гадзін з моманту яго здзяйснення.

Іскавыя патрабаванні бакоў, рашэнні суда, заявы вознага і іншых асоб па забеспячэнню доказаў, розныя натарыяльныя дзеянні заносіліся ў актавыя кнігі, якія вяліся ў гродскім судзе.

Шляхціцаў і іншых асоб, якія ўчынілі злачынства ў час ваеннай службы, маглі судзіць службовыя асобы каманднага саставу арміі — гетман, ваявода, каштэлян, маршалак, харужы — у залежнасці ад часу і месца злачынства, асобы злачынцы і пацярпелага і цяжкасці злачынства.

Найбольш тыповым, аддзеленым ад адміністрацыі саслоўным судом для шляхты быў земскі павятовы суд. Яго ўзнікненне на Беларусі адносіцца да першай паловы XVI ст. Аднак да 60-х гг. суддзі гэтага суда прызначаліся. Канчатковае прававое афармленне земскага суда праведзена Бельскім прывілеем 1564 г. і Статутамі 1566 і 1588 гг. Камплектаванне яго адбывалася ў наступным парадку: спачатку на павятовым сойміку шляхта выбірала па чатыры кандыдаты на пасаду суддзі, падсудка і пісара, а затым вялікі князь з гэтых кандыдатаў зацвярджаў іх. Выбранымі маглі быць толькі ўраджэнцы Вялікага княства, шляхціцы, землеўладальнікі, дабрачынныя, хрысціянскай веры, якія ведалі права, умелі пісаць, не займалі духоўных і дзяржаўных пасад.

Справы ў земскім судзе разбіраліся пасесійна. Сесіі збіраліся тры разы на год: трохкрольская ў студзені, траецкая ў чэрвені і міхайлаўская ў кастрычніку — і працягвалася кожная тры-чатыры тыдні.

Стварэнне земскіх судоў сведчыла пра важны этап у развіцці судовага ладу і права ў феадальным грамадстве. Іх заснаваннем быў пакладзены пачатак арганізацыі судовай сістэмы на новай тэарэтычнай аснове раздзялення ўлад, бо яны былі першымі судамі, цалкам аддзеленымі і незалежнымі ад мясцовай адміністрацыі. Іх узнікненне стала магчымым дзякуючы стварэнню шырокага пісанага права, што ў сваю чаргу выклікала неабходнасць новай прафесіі — юрыста.

Другім судом, аддзеленым ад органаў дзяржаўнага упраўлення, быў падкаморскі суд. Судовыя справы па спрэчках аб межах землеўладанняў феадалаў знаходзіліся ў цэнтры ўвагі саміх землеўладальнікаў і дзяржаўных органаў. Асабліва шмат такіх спраў знаходзілася ў гаспадарскім судзе, які не быў у стане іх своечасова разгледзець. Каб пазбавіцца ад цяжкасцей у вырашэнні гэтых спраў, у 1566 г. быў створаны спецыяльны межавы суд — падкаморскі.

У гэтым судзе зямельныя спрэчкі вырашаў падкаморый з удзелам саміх бакоў. Пасада падкаморыя лічылася ганаровай і даходнай, таму што значная частка судо-

вых пошлін, што ўносілі бакі, ішла ў даход суддзі. Паводле Статута 1566 г., падкаморый прызначаўся непасрэдна гасударом. З 1588 г. чатырох кандыдатаў на гэтую пасаду выбіралі на павятовых сойміках, а затым аднаго з іх зацвярджаў гасудар. Памочнікам падкаморыя ў вымярэнні і ўстанаўленні меж землеўладанняў служыў каморнік, якога прызначаў падкаморый са згоды мясцовых феадалаў.

Разгляд справы ў падкаморскім судзе адбываўся на месцы граніц землеўладанняў. Там жа падкаморый слухаў тлумачэнні бакоў, паказанні сведак, разглядаў пісьмовыя доказы, выносіў сваё рашэнне, паказваў на мясцовасці, дзе павінна праходзіць мяжа, устанаўліваў межавыя знакі. Рашэнні падкаморскага суда падлягалі неадкладнаму выкананню, але маглі быць абскарджаны ў гаспадарскі або галоўны суд. Калі ж узнікала паміж бакамі спрэчка аб праве ўласнасці на маёнтак або зямлю ці іншыя патрабаванні на маёмасць, падкаморскі суд такіх патрабаванняў не разглядаў і прапаноўваў ім звярнуцца з іскам у земскі суд. Рашэнні падкаморскага суда і рэестры спраў запісваліся ў кнігі земскага павятовага суда.

На новых прынцыпах выбарнасці і ўдзелу прадстаўнікоў гарадскога насельніцтва будаваўся і войтаўска-лаўнічы суд у гарадах. Гэтаму суду былі падсудныя як крымінальныя, так і грамадзянскія справы. Войтаўска-лаўнічы суд складаўся з войта, яго намесніка лент-войта і лаўнікаў (засядацеляў), якія выбіраліся мяшчанамі. Дробныя і нязначныя праваапарушэнні і спрэчкі сярод мяшчан разглядалі гарадскія бурмістры, якія прызначаліся войтам ці выбіраліся мяшчанамі. Войтаўска-лаўнічыя і бурмістраўскія суды ствараліся ў гарадах адразу пасля атрымання горадам граматы на магдэбургскае права. Такія граматы ў XVI ст. мелі ўсе значныя гарады Беларусі.

Стварэнне выбарных, незалежных ад адміністрацыі судоў, хаця б толькі для некаторых саслоўяў, сведчыла аб новым этапе ў развіцці прававой культуры грамадства, імкненні да паступовага ўсталявання прававога парадку ў дзяржаве. Выбарны незалежны суд быў прасякнуты задачамі служэння не толькі інтарэсам дзяржавы, але і правам асобных людзей, задачамі абароны правапарадку нават ад органаў дзяржаўнай улады. Так, скаргі на незаконныя дзеянні ваявод, стараст і іншых службовых асоб маглі падавацца ў земскія і гродскія суды, а

апеляцыі на іх пастановы ў галоўны суд. Гэты радыкальны паварот у прававой тэорыі і поглядах на ролю суда ў грамадстве Беларусі ў XVI ст. пачаў ажыццяўляцца ў Заходняй Еўропе толькі ў XVII—XVIII стст. Статут 1588 г. у значнай ступені паставіў дзейнасць мясцовай адміністрацыі пад кантроль суда.

Пераўтварэнне суда з органа абароны дзяржаўных інтарэсаў і правячай вярхушкі ў орган абароны асобнага чалавека прывяло да істотных змен і ў працэсуальным праве, да сцвярджэння новых прынцыпаў: публічнасці, права на ўдзел адваката (пракуратара) у працэсе, спаборніцтва бакоў і зараджэння тэорыі свабоднай ацэнкі доказаў пры захаванні фармалізму працэсу.

Адначасова з новымі палажэннямі судовага ладу ў Статуце былі адлюстраваны і тыпова феадальныя старыя прававыя нормы, якія замацоўвалі суд феадала над залежнымі ад яго людзьмі. Працягваў дзейнічаць старажытны копны суд.

Копныя суды ўзніклі ў старажытныя часы, і ў іх дзейнасці доўгі час захоўваліся многія магічныя і язычніцкія абрады. Суддзямі копнага суда былі простыя людзі — копныя мужы і копныя старцы. Гэта, як правіла, сяляне-домаўласнікі. Колькасць суддзяў на капе не была пастаяннай. Часцей за ўсё на капу збіралася 10—20 копных мужоў і старцаў, але іх магло быць і значна больш. На капе прысутнічаў прадстаўнік дзяржаўнай або панскай адміністрацыі (возны або віж), які наглядаў за захаваннем копных звычаяў і копнага права. Копнае права не прытрымлівалася саслоўнага падзелу грамадства, характэрнага для феадалізму, а таму ў некаторых актах копных судоў шляхціц, баярын і просты селянін выступаюць як раўнапраўныя суб'екты працэсу. Збіраліся на капу і іншыя людзі, якія непасрэдна не ўдзельнічалі ў разглядзе спраў, але маглі садзейнічаць копнаму правасуддзю і разам з тым пераймалі і засвойвалі копныя звычаі і права.

У копных судах разглядаліся пераважна справы простых людзей, але маглі разглядацца і справы, якія закраналі інтарэсы паноў, шляхты, асабліва тады, калі яны былі істцамі і зацікаўлены былі ў хуткім выяўленні і пакаранні злачынцы.

Падсуднасць спраў копнаму суду не была дастаткова акрэслена. Ён мог разглядаць справы аб забойстве, калецтве і пабоях, аб крадзяжах і грабяжах, аб патравах, па спрэчках аб межах сярод сялян і інш.

Дзейнічаў копны суд на акрэсленай тэрыторыі ў радыусе прыкладна 2—3 мілі (15—20 км). Звычайная капа збіралася на пастаянным месцы — на капавішчы, дзе насыпалася ўзвышша, масцілася зямля, рабіліся лавы. «Гарачая» капа, якая збіралася для пошуку злачынцы і яго затрымання адразу пасля ўчынення злачынства, пастаяннага месца збору не мела.

Для копнага судаводства было характэрна спалучэнне дзейнасці следчага і судовага органаў. Так, калі было зроблена злачынства, адразу збіралася «гарачая» капа з бліжэйшых суседзяў і пачынала «гнаць след» — праследаваць злачынцу. Калі яго ўдавалася злавіць, то гэтая ж капа яго і судзіла. Згодна з копным правам злачынец мог быць пакараны адразу, нават смерцю. Следчыя дзеянні маглі праводзіцца і на звычайнай капе, якая збіралася, каб выявіць і асудзіць злачынцаў, да трох разоў. Трэцяя, або прысяжная, капа праводзіла сваё следства пад прысягай усіх копных мужоў, якія павінны былі прысягнуць, што ім нічога невядома аб злачынцы.

Пастановы копных судоў, як правіла, абскарджанню не падлягалі і выконваліся адразу, але прысутныя возны або віж маглі затрымаць выкананне. Дзейнасць копных судоў на Беларусі спынілася ў канцы XVIII ст.

Працэсуальнае права паводле Статута 1588 г. было адзіным для грамадзянскіх і для крымінальных спраў. Судаводства ў судзе пачыналася па заяве зацікаўленага боку — пацярпеўшага ці яго блізкіх сваякоў. Увесь працэс меў іскавы характар. Ісцец (абвінаваўца) абавязаны быў сам збіраць і дастаўляць у суд доказы, падтрымліваць абвінавачванні ў судзе. У выпадку, калі прад'яўленае ім абвінавачванне на судзе не было даказана, то сам абвінаваўца мог быць так пакараны судом, як павінен быў суд пакараць таго, хто абвінавачваўся. Ісцец у любой стадыі працэсу мог адмовіцца ад іску ці абвінавачвання, заключыць міравую здзелку ці памілаваць злачынцу. Роля суда пры іскавым судаводстве была параўнаўча пасіўнай, ён нібы падсумоўваў доказы, што прад'яўлялі бакі, а затым выносіў рашэнне ці прыгавор на падставе фармальнай ацэнкі доказаў у залежнасці ад іх колькасці і зараней прадугледжанай у законе сілы.

Службовыя асобы павінны былі прымаць усе захады для росшуку і пакарання злачынцаў незалежна ад заяў пацярпеўшых і іх сваякоў, толькі за найбольш цяжкія злачынствы: дзяржаўную здраду, забойства, падпаль-

ванне. Інквізіцыйны росшук праводзілі і асобныя феадалы адносна залежных людзей. Інквізіцыйны працэс прымяняўся і ў царкоўных судах каталіцкага духавенства па справах ерэтыкоў, вольнадумцаў, вераадступнікаў. Для разгляду спраў ерэтыкоў быў нават створаны ў Вялікім княстве ў 1436 г. трыбунал свяшчэннай інквізіцыі[9].

У той час, калі каталіцкае духавенства і асобныя феадалы імкнуліся распаўсюджваць інквізіцыйныя метады расправы з непажаданымі людзьмі, кіруючыя колы пад націскам прагрэсіўных сіл вымушаны былі прымаць законы, накіраваныя на развіццё гуманістычных прынцыпаў працэсу і гарантаваць шляхце, і часткова мяшчанам, іх асабістую недатыкальнасць, галоснасць працэсу.

Па Статуту 1588 г. суб'екты працэсу мелі розную працэсуальную правадздольнасць, якая залежала ад класавай і саслоўнай прыналежнасці. Поўнай працэсуальнай правадздольнасцю карысталіся найбольш багатыя феадалы, пазбаўленымі правадздольнасці былі чэлядзь дворная і феадальна-залежныя сяляне, за якіх у судах павінны былі выступаць іх паны або па даручэнні паноў — адвакаты ці іншыя прадстаўнікі паноў. Не маглі падаваць у суд іскаў і весці свае справы асобы, выгнаныя з дзяржавы — выволанцы. Асобы, адлучаныя ад царквы па рымска-каталіцкаму праву, маглі адказваць па суду, але не маглі быць істцамі.

Працэсуальныя правы бакоў у судзе былі даволі шырокія і давалі ім магчымасць актыўна ўздзейнічаць на ўвесь ход працэсу. Бакі маглі весці працэс самастойна або праз адваката, мелі права заяўляць розныя хадайніцтвы: аб выліку дадатковых сведак, прад'яўляць пісьмовыя і іншыя доказы, падаваць скаргі на пастановы суда першай інстанцыі. Бакі павінны былі весці справу добрасумленна, а за злоўжыванне маглі быць пакараны ў крымінальным парадку.

Адвакаты (пракуратары) як прафесійныя абаронцы чужых інтарэсаў у судзе вядомы на Беларусі з пачатку XVI ст. У Статуце 1529 г. меўся артыкул, які забараняў чужаземцам быць адвакатамі ў судзе. У Статуце 1588 г. ўжо было шэсць артыкулаў, якімі ўстанаўліваўся парадак працэсуальнага прадстаўніцтва, правы і абавязкі адвакатаў. Адвакаты былі пры галоўным трыбунале,

---

[9] *Батюшков П. Н;* Холмская Русь: Истор. судьбы русского Забужья. СПб., 1887. С. 47.

гродскіх і земскіх судах. Імі маглі быць толькі шляхціцы, дапушчаныя судом да адвакацкай практыкі, якія ведалі мясцовае права. Колькасць іх пры судах не была абмежавана, што прывяло да празмернай колькасці адвакатаў у паветах.

Адвакат павінен быў добрасумленна выконваць свае абавязкі. Здрада свайму даручыцелю разглядалася як здрада слугі свайму пану і магла карацца смерцю. За нядбайнае вядзенне справы адвакат караўся турэмным зняволеннем на чатыры тыдні і павінен быў выплаціць усе страты, якія па яго віне панёс даручыцель. Дагавор бакоў з адвакатам законам не рэгуляваўся, але калі той ці іншы чалавек па беднасці не мог наняць адваката, то суд мог назначыць яму адваката дарэмна.

Тэорыя фармальных доказаў, што панавала ў феадальным працэсуальным праве, грунтавалася на загадзя ўстаноўленай у законе сіле доказаў, якія дзяліліся на дасканалыя і недасканалыя. Колькасць і якасць іх былі загадзя ўстаноўлены ў законе для кожнай катэгорыі спраў. Так, па спрэчках аб уласнасці на зямлю патрабавалася, каб кожны бок прадстаўляў па дзевяць сведкаў. Па справах аб нападзе (наездзе) на дом ці маёнтак пацярпелы павінен быў неадкладна апавясціць суседзяў аб нападзе (наездзе) і запісаць скаргу ў судовыя кнігі, а калі былі забітыя або параненыя, паказаць іх службовым асобам (суддзі, вознаму), апрача таго, сваё паказанне падмацаваць асабістай прысягай і двух шляхціцаў, а калі не было шляхціцаў, то прысягай жонкі і дарослых дзяцей, пры адсутнасці дзяцей — прысягай жонкі і чатырох слуг. Па іншых справах поўным доказам лічылася сведчанне двух сведак.

Асноўнымі відамі доказаў лічыліся тлумачэнні бакоў, іх прызнанне, паказанні сведак, прысяга, пісьмовыя і рэчавыя доказы, вывады і тлумачэнні экспертаў. Тлумачэнне істца або адказчыка, падмацаванае асабістай прысягай і прысягамі сведак або сапрысяжнікаў, займала адно з цэнтральных месц у сістэме судовых доказаў. Прызнанне адказчыкам іска, зробленае ў судзе, разглядалася як поўны доказ і было дастатковай падставай для прыняцця судовага рашэння. Адказчык або падсудны, прызнаўшы іск або абвінавачванне, пазбаўляўся права падаць скаргу на пастанову суда, у аснову якой было пакладзена прызнанне.

З мэтай атрымання прызнання абвінавачанага простага чалавека маглі мучыць. Але калі па Статуту 1566 г.

мучыць можна было кожнага простага чалавека, то па Статуту 1588 г.— толькі чалавека падазронага, віна якога хоць і не была ўстаноўлена палічным, але меліся другія, няпоўныя ўскосныя доказы яго віны. У такім выпадку дазвалялася мучыць абвінавачанага на працягу аднаой гадзіны. Злоўленага злодзея-рэцыдывіста, вядомага сваімі злачынствамі, дазвалялася мучыць на працягу аднаго дня да трох разоў. Характэрна, што па Полацкаму прывілею 1511 г. суду забаранялася верыць прызнанням, атрыманым пад мукай. Поўная забарона мучэння як сродку атрымання прызнання абвінавачанага была зроблена толькі ў 1776 г., але на практыцы яно прымянялася і пазней.

Сведкамі ў судзе маглі быць мужчыны і жанчыны, дарослыя і няпоўналетнія, свабодныя і залежныя людзі. Не маглі быць сведкамі асобы, раней асуджаныя за цяжкія злачынствы або прызнаныя судом ілгунамі ці паклёпнікамі, слугі і падданыя за сваіх паноў або супраць іх, шалёныя, вываланцы. Не маглі быць сведкамі асобы, юрыдычна зацікаўленыя ў канчатковым зыходзе справы.

Прысяга як дапаможны доказ шырока прымянялася ў тых выпадках, калі бракавала поўных доказаў. Калі абодва бакі прадастаўлялі сведак і гатовы былі прысягнуць, то суд павінен быў даследаваць доказы і прапанаваць таму баку, які меў лепшыя доказы, разам са сваімі сведкамі прысягнуць. Прысяга абодвух бакоў не дапушчалася. Самымі даставернымі лічыліся паказанні духоўных і службовых асоб дзяржаўнай і судовай адміністрацыі.

Пісьмовыя доказы карысталіся шырокай распаўсюджанасцю і разглядаліся судом як найбольш дакладныя крыніцы пры разглядзе спраў. Законам была ўстаноўлена абавязковая пісьмовая форма пагадненняў аб куплі-продажу маёнткаў і іншых нерухомых рэчаў, а таксама аб пазыцы звыш 10 коп грошаў. Падробка пісьмовых доказаў каралася смерцю. Найбольш значныя грамадзянска-прававыя здзелкі заключаліся ў пісьмовай форме і заносіліся ў кнігі земскага або гродскага суда. Па здзелках аб маёнтках і завяшчаннях (тэстаментах) яшчэ патрабавалася прысутнасць сведак двух-трох шляхціцаў.

Рэчавыя доказы разглядаліся як дастатковая падстава для вынясення судом абвінаваўчага выраку, асабліва калі злодзей быў злоўлены з палічным. У Статуце мелася норма, якая забяспечвала і абарону інтарэсаў абвінавачанага. Так, калі палічнае было знойдзена ў зачы-

неным памяшканні добрасумленнага чалавека, але там мелася кепска зачыненае акно, то такі чалавек мог ачысціцца ад абвінавачвання сваёй прысягай і прысягай жонкі і дарослых дзяцей. Такі самы парадак прадугледжваўся, калі рэчавыя доказы знаходзіліся за плотам, у гумне, стайні ці іншых незачыненых месцах.

У працэсуальным праве XVI ст. ясна відаць зараджэнне новай тэорыі сбабоднай ацэнкі доказаў на аснове лагічнага пераканання суддзяў са спалучэннем фармальных доказаў. Засноўвалася яна на свабоднай ацэнцы паказанняў бакоў, сведкаў, пісьмовых і рэчавых доказаў, г. зн. такіх сродкаў доказу, якія маглі лагічна пераканаць прафесійных суддзяў. Хоць новая тэорыя не атрымала дамінуючага значэння і па-ранейшаму галоўная роля захоўвалася за тэорыяй фармальных доказаў, аднак яна значна паўплывала на ўдасканаленне судаводства і неабходнасць набыцця спецыяльнай юрыдычнай падрыхтоўкі суддзямі, адвакатамі, службовымі асобамі цэнтральнага і мясцовага кіравання.

Згодна са Статутам 1588 г. па некаторых крымінальных справах службовыя асобы павінны былі ўзбуджваць абвінавачванне і праводзіць папярэдняе следства, не чакаючы заявы пацярпелага або зацікаўленых асоб. Праводзілася такое следства павятовым старастай або яго намеснікам і суддзёй або пісарам гродскага суда. Допыт сведак і падазроных праводзіўся ў прысутнасці возната і двух панятых шляхціцаў, не маючых дачынення да справы. Такі парадак следства і допыту дазваляў пазбегнуць злоўжывання службовых асоб, выключаў магчымасць змяняць у судзе свае паказанні і забяспечваў выкананне прынцыпу галоснасці і на гэтай стадыі працэсу.

Судовы працэс пачынаўся з афармлення ў судзе позвы (іску, абвінавачвання). У ёй выкладаліся патрабаванні або абвінавачванні, факты абгрунтавання патрабаванняў, доказы, а таксама час, у які павінны былі з'явіцца ў суд бакі. Змест позвы запісваўся ў судовую кнігу, а копія, завераная пячаткаю і подпісам пісара, уручалася другому баку. Суд у парадку папярэдняй падрыхтоўкі справы да разгляду мог даручыць вознаму агледзець патраву або месца злачынства, зрабіць вобыск ці выканаць іншыя дзеянні.

Пасля заслухвання бакоў і іх адвакатаў, даследавання ўсіх доказаў, прынящця прысягі аднаго з бакоў і сведак суд выносіў сваю пастанову. У ёй абавязкова ўказ-

валіся дата, склад суда, асобы, якія прымалі ўдзел у разглядзе справы, патрабаванні істца, пярэчанне адказчыка, доказы, якія прадстаўляліся суду, закон, на падставе якога выносілася пастанова, і рашэнне аб задавальненні іска або адмове. Ісцец і адказчык па большасці спраў мелі права падаць скаргу ў вышэйшы суд, але аб гэтым яны павінны былі заявіць адразу ў судзе. Калі ні адзін з іх такой заявы не зрабіў, то пастанова набывала законную сілу і падлягала выкананню.

Абскарджанне не дазвалялася па справах, якія разглядаліся ў гаспадарскім ці галоўным судзе. Апрача таго, забаранялася падаваць скаргі на наступныя рашэнні: па справах аб звароце гвалтоўна захопленых маёнткаў; абгрунтаваныя пісьмовымі абавязацельствамі адказчыка, калі самі абавязацельствы былі прызнаны судом праўдзівымі, абгрунтаваныя прысягай, абгрунтаваныя прызнаннем, зробленым у судзе.

Працэсуальнае права Беларусі было добра распрацаваным з пункту гледжання прававой тэорыі, але на практыцы меліся і значныя недахопы. Галоўным з іх было тое, што выканаць судовае рашэнне супраць буйнога феадала практычна было немагчыма, калі ён аказваў супраціўленне, зачыніўшыся ў сваім маёнтку або замку. Самавольства буйных феадалаў, іх непадпарадкаванне судовым пастановам прыводзіла да таго, што ісцец, атрымаўшы рашэнне на сваю карысць, не мог дабіцца яго выканання, калі адказчыкам быў буйны феадал.

## 5. Люблінская унія 1569 г.

Вялікае княства Літоўскае ў другой палове XVI ст. апынулася ў вельмі цяжкім становішчы. З аднаго боку, насядалі польскія феадалы і каталіцкае духавенства, якія пастаянна падрывалі сілы Вялікага княства, імкнучыся захапіць землі Беларусі і Украіны, а з другога — пачалася Лівонская вайна і войскі цара Івана IV захапілі рад гарадоў на Беларусі.

З боку Польшчы інтэнсіўна вялася прапаганда ксяндзоў, якія імкнуліся пры дапамозе каталіцызму пазбавіць беларусаў сваёй нацыянальнай самасвядомасці і перарабіць іх у палякаў. Польскія феадалы тэрарызавалі насельніцтва прыгранічных земляў, рабілі набегі, рабавалі, забівалі, калечылі людзей, забіралі ўсё, што маглі. І пры гэтым яны заставаліся беспакараныя, бо ўрадавыя колы Польшчы і каталіцкая прапаганда пакрывалі

і падтрымлівалі іх, заяўляючы, што набегі спыняцца як толькі гэтыя землі будуць далучаны да Польшчы.

Справа дайшла да таго, што пытанне аб ахове заходніх граніц і абароне насельніцтва ад разбойніцкіх нападаў неаднойчы ўзнімалася на соймах Вялікага княства. Так, на соймах 1547, 1551 і 1554 гг. слухаліся скаргі «на кривды несносные, которые мають... от панов поляков и мазовшан». Урад Жыгімонта Аўгуста, які з 1548 г. быў і каралём Польшчы, не прымяняў дзейсных захадаў супраць гэтых нападаў і тым самым патураў ім. У Польшчы ж і на заходніх землях Беларусі і Украіны ў гэты час каталіцкія ксяндзы ўзмоцнена прапагандавалі далучэнне гэтых земляў да Польшчы.

Актыўную дзейнасць развіла вялікая княгіня літоўская і каралева польская ўдава Жыгімонта І італьянка Бона Сфорца, якая фактычна была агентам рымскай курыі. Калі ж курыя вырашыла, што Бона Сфорца больш не прыдатна для гэтай мэты, папскія легаты дапамаглі ёй прысвоіць дзяржаўныя каштоўнасці княства і каралеўства і вывезці ў Італію; там яе атруціў каханак-духоўнік, а ўсе скарбы, згодна з падробленым тэстаментам, перайшлі да папы рымскага і яе забойцы [10].

Пасля ад'езду Боны Сфорца ў Італію галоўным дзеячам па падрыхтоўцы ліквідацыі Вялікага княства быў яе сын Жыгімонт Аўгуст. У пачатку свайго праўлення ён, зблізіўшыся з некаторымі беларускімі феадаламі і ажаніўшыся на Варвары Радзівіл, браты якой (Мікола Чорны і Мікола Рыжы) былі ярымі ворагамі каталіцызму, спрабаваў нават процістаяць яму, але пасля смерці жонкі падпаў пад уплыў каталіцкіх дзеячаў і, ведучы распуснае жыццё, зрабіўся іх паслухмянай зброяй. Яшчэ ў 1549 г. ён заключыў пагадненне з Габсбургамі, якія абяцалі яму ўзброеную дапамогу супраць непаслушэнства падданых, г. зн. заклікаў немцаў для барацьбы са сваім народам.

У той жа час каталіцкае духавенства вяло шырокую прапагандысцкую кампанію за зліццё Вялікага княства з Польшчай. Наколькі каталіцкая прапаганда была моцнай, можна бачыць з такога факта, што на адным са сходаў заходнебеларускай шляхты, у сваёй масе малапісьменнай або нават непісьменнай, было прынята рашэнне прасіць урад, каб усе дакументы для іх пісаліся на лацінскай або польскай мове, а не на беларускай. Каталіц-

---

[10] *Narbut T.* Dzieje narodu litewskiego, Wilno, 1948. T. 9. S. 275.

кія прапагандысты ва ўсіх касцёлах абяцалі, што як толькі Вялікае княства будзе далучана да Польшчы, уся дробная і сярэдняя шляхта атрымае такія ж правы і палітычнае значэнне ў дзяржаве, як і буйныя феадалы. Да таго ж, каб ідэалагічна падрыхтаваць і ашукаць праваслаўную шляхту, Жыгімонт Аўгуст у 1563 г. выдаў прывілей, якім абвяшчаліся яе роўныя правы з католікамі. З юрыдычнага боку прывілей меў значэнне ў тым, што афіцыйна адмяняў дыскрымінацыйныя нормы Гарадзельскага акта 1413 г., практычнае ж значэнне яго было вельмі малое, бо нічога не мянялася ні ў гаспадарскай Радзе, ні на іншых дзяржаўных пасадах, захоўвалася яшчэ верацярпімасць і праваслаўныя, кальвіністы і каталікі разам засядалі ў сойме і Радзе.

Жыгімонт Аўгуст 13 сакавіка 1564 г. выдаў дэкларацыю, у якой абвясціў, што адмаўляецца ад сваіх спадчынных правоў на землі Вялікага княства Літоўскага, добраахвотна адракаецца і ўступае іх Польшчы. Ён спадзяваўся, што дэкларацыя стане юрыдычнай падставай далучэння Беларусі, Літвы і Украіны да Польшчы, а тым самым і ліквідацыі самастойнасці княства.

Феадалы княства рашуча выступілі супраць дэкларацыі, бо яны не прызнавалі вотчыннага характару ўлады вялікага князя, а лічылі яго за службовую асобу ў дзяржаве, выбраную воляй народа. Гэта вельмі выразна выказана ў Статуце, зацверджаным 1 ліпеня 1564 г. і ўведзеным у дзеянне ў 1566 г. У арт. 2 разд. 3 гаварылася, што вялікі князь абавязваецца захоўваць правы і вольнасці ўсіх людзей у вялікім княстве, «в котором они, яко люде вольные, вольно обираючи из стародавна из вечных своих продков собе панов и господарей великих князей литовских». Гэты артыкул быў простым адказам на дэкларацыю 13 сакавіка. У гэтым жа Статуце былі і іншыя артыкулы, накіраваныя на захаванне цэласнасці і незалежнасці княства.

Калі з дарэннем усёй дзяржавы нічога не выйшла, афіцыйныя прапагандысты, каб супакоіць насельніцтва княства і замаскіраваць варожую яму палітыку Жыгімонта Аўгуста, пачалі тлумачыць, што акт сведчыць толькі пра адмаўленне ад тытула вялікага князя на карысць Польшчы. З пункту ж гледжання тагачаснага крымінальнага права гэтая дэкларацыя была не што іншае, як акт дзяржаўнай здрады, здзейсненай галавой дзяржавы.

Усё насельніцтва, у тым ліку і шляхта, не хацелі лік-

відацыі самастойнасці княства. Феадалы неаднойчы вялі перамовы з прадстаўнікамі Польшчы пра больш цесны саюз абедзвюх дзяржаў, але пры ўмове захавання раўнапраўя і «братэрскай любові». Гэта вельмі выразна выказана і ў пастанове Віленскага сойма 1563 г., які зацвердзіў спецыяльную інструкцыю для перамоў з Польшчай аб уніі, у якой дэлегатам наказвалася строга ахоўваць годнасць Вялікага княства, сачыць, каб правы ўсяго насельніцтва ні ў чым не былі страчаны і не прыніжаліся другім бокам. Дапускалася ўстанаўленне аднаго гасудара і скліканне сумесных соймаў для вырашэння агульных спраў, але пры гэтым у кожнай дзяржаве павінны былі быць самастойныя вышэйшыя органы ўлады і кіравання, адасобленыя ўзброеныя сілы, казна і заканадаўства. Гэтыя ўмовы пацвярджаліся і падтрымліваліся на ўсіх наступных соймах княства. Таму няма дастатковых падстаў лічыць, што шляхта жадала поўнага зліцця з Польшчай, а буйныя феадалы выступалі супраць уніі. Гэтая памылковая думка склалася пад уплывам каталіцкай прапаганды, якая спрабавала пераканаць, што далучэнне Украіны і часткі Беларусі да Польшчы было ажыццёўлена згодна з пажаданнем «шляхецкага народу» княства. Яна сцвярджала таксама, нібыта ў XVI ст. у Вялікім княстве існавала шырокая шляхецкая дэмакратыя і нават самая бедная шляхта мела такія самыя правы, як і буйныя феадалы. З аналізу ж тагачасных прававых актаў і іншых гістарычных дакументаў відаць, што праз усю гісторыю княства шляхта ніколі самастойнага палітычнага значэння не мела. Таму пры вывучэнні актаў аб уніі, у якіх выказваецца «жаданне» шляхты хутчэйшага злучэння з Польшчай, няцяжка разгледзець і арганізатараў гэтага «жадання».

Ідэю уніі з Польшчай на ўмовах раўнапраўя падтрымлівала большасць феадалаў княства — яны бачылі ў ёй магчымасць умацаваць сваё становішча ўнутры краіны і атрымаць ваенную дапамогу ў вайне з Расіяй. Таму разыходжанне паміж феадаламі княства і Польшчы было толькі ва ўмовах уніі, а самую яе ідэю падтрымлівала большасць іх. Калі б феадалы княства былі супраць уніі, яны наогул не паехалі б у Люблін на агульны сойм, нягледзячы на ўсе ўгаворы і абяцанні польскіх феадалаў і караля. Пра такія абяцанні сведчаць перагаворы прадстаўнікоў Польшчы ў Лебедзеве і Маладзечне, а таксама граматы, выдадзеныя Жыгімонтам Аўгу-

стам. Так, у грамаце, выдадзенай у кастрычніку 1568 г., гаварылася, што саюз абедзвюх дзяржаў будзе заснаваны на «милости, згоды братское, который бы был однако и заровно во всем пожиточный обеюм тым панствам»[11]. У інструкцыях, разасланых у паветы, Жыгімонт Аўгуст запэўніваў, што дзякуючы уніі княства атрымае ад Польшчы дапамогу ў Лівонскай вайне.

Але прадстаўнікі княства не спяшаліся на агульны сойм, хоць і не супраць былі атрымаць абяцаную дапамогу. Каб рассеяць іх недавер, Жыгімонт у снежні 1568 г. выдаў грамату, дзе клятвенна абяцаў ахоўваць правы і інтарэсы княства і не прымушаць яго прадстаўнікоў да уніі, а ў выпадку, калі не будзе дасягнута ўзаемная згода, гарантаваў, што кожны з іх «мает и мети будет вольное, учтивое, ни от кого ничим не затрудненное и спокойное отъехание с того сейму». Далей ён абяцаў не выдаваць ніякіх грамат без згоды радных паноў Вялікага княства, захоўваць Падляшша ў складзе яго. А насельнікі Падляшша «не мають быти инак захованы... одно заровно со всими обывателями Великого княства Литовского, яко тубыльцы и родичи здешнего панства... и никоторои рецессы соймовыя ани декреты в той всей справе спольной на сторону Великого княства Литовского не мають быти ани будуть выдаваны под печатью Коруны польское, одно под печатью Великого князства Литовского»[12]. Клятвенныя абяцанні і ўгаворы, а таксама надзея атрымаць дапамогу схілілі прадстаўнікоў княства з'явіцца ў Люблін на перагаворы, бо справы на Лівонскай вайне былі вельмі цяжкімі.

Лівонская вайна Вялікага княства Літоўскага, Лівоніі, Польшчы і Рускай (Маскоўскай) дзяржавы пачалася пасля таго, як рускія войскі ў студзені 1558 г. пачалі вайну супраць Лівонскага ордэна і занялі шэраг гарадоў у Эстоніі. Паражэнні войск ордэна змусілі ўрад Лівоніі прасіць дапамогі ў Вялікага княства Літоўскага. У лістападзе 1561 г. у Вільні было падпісана пагадненне, па якому вялікі магістр ордэна Готард Кеттляр аб'яўляўся свецкім князем у Курляндыі і губернатарам у астатняй частцы Лівоніі, якая станавілася правінцыяй пад сумеснай уладай Вялікага княства Літоўскага і Польшчы. У 1562—1568 гг. вяліся цяжкія баі з пераменным поспехам. 80-тысячнай арміі цара Івана IV удалося

---

[11] *Любавский М. К.* Литовско-Русский сейм. Прил. С. 208.
[12] *Kutrzeba S., Semkowicz W.* Akta unji. Kraków, 1932. N 95.

заняць у 1563 г. беларускія гарады Віцебск і Полацк. У наступным годзе ў баях на рацэ Уле і пад Оршай войскі Вялікага княства нанеслі паражэнне рускай арміі, у 1565 г. руская армія пад Чарнігавам разбіла войска Вялікага княства. Польскія феадалы нічым не дапамагалі свайму саюзніку, а толькі чакалі зручнага моманту, каб нанесці ўдар у спіну Вялікаму княству, і такі момант наступіў, калі пачаліся перамовы ў Любліне.

Пасяджэнні Люблінскага сойма пачаліся 10 студзеня 1569 г. Буйныя польскія феадалы і каталіцкія біскупы трымаліся прыхаванай і вераломнай тактыкі нацкоўваць польскую шляхту на прадстаўнікоў Вялікага княства, каб потым заяўляць, што ліквідацыі яго дабіваюцца не яны, а польская шляхта, якая нібыта робіць гэта ў інтарэсах польскага народа. Так, напрыклад, ленчыцкі ваявода даў распараджэнне паслам ад шляхты патрабаваць далучэння да Польшчы Валынскай зямлі, аб чым захаваўся запіс у дзённіку Люблінскага сойма.

Такім чынам, прадстаўнікі княства звярталіся да польскіх феадалаў, спадзеючыся на дапамогу, а тыя думалі, як лепей абрабаваць і знішчыць сваіх сяброў і саюзнікаў. Планы польскіх феадалаў трымаліся ў тайне ад прадстаўнікоў княства — Жыгімонт неаднойчы напамінаў польскім паслам, каб трымалі ў тайне характар сваіх нарад.

У першыя дні польскія феадалы заявілі, што яны жадаюць поўнай ліквідацыі княства, аб чым падрыхтавалі спецыяльны дакумент і запатрабаванні, каб прадстаўнікі княства падпісалі яго без ніякага абмеркавання толькі на той падставе, што ў ім ёсць такія запісы, якія былі ў многіх актах.

15 лютага прадстаўнікі Вялікага княства адмовіліся падпісаць прапанаваны ім дакумент, заявіўшы, што «калі ж... вы, паны, не пажадаеце з намі ўвайсці ў братэрства і па-братэрску злучыцца так, як мы прапаноўваем... але пажадаеце настойваць на вашай запісцы, у якой вы шырока распісалі, як будзеце цягнуць нас да інкарпарацыі і старых дагавораў... дык нам не будзе патрэбы тут болей заставацца; давядзецца не скончыўшы справы паехаць адсюль»[13]. Польскія прадстаўнікі звярнуліся да Жыгімонта, каб ён прымусіў другі бок згадзіцца на прапанаваныя ўмовы «сваею каралеўскаю ўладаю», на што ён 21 лютага даў адказ, што літоўцам

[13] Дневник Люблинского сейма 1569 года. СПб., 1869. С. 78.

не будзе прапанавана нічога іншага, апроч таго, чаго дабіваюцца палякі. Далей ён запатрабаваў толькі, каб было ў тайне ўсё, што адбываецца паміж імі [14].

У наступныя дні прадстаўнікоў княства спрабавалі прымусіць падпісаць прапанаваны акт, а калі не ўдалося гэтага дабіцца, 28 лютага «было абвешчана ад імя караля, што яго вялікасць загадвае Літве прыйсці і сесці ў пасяджэнне» [15] сойма, што павінна было сведчыць пра фактычна здзейсненую унію насуперак волі прадстаўнікоў княства. І гэта ўсё прапаноўвалася трымаць у сакрэце. Даведаўшыся пра такое рашэнне Жыгімонта, які зноў парушыў свае клятвы, абяцанні і прысягі, прадстаўнікі княства 1 сакавіка пакінулі Люблін. Тады Жыгімонт вырашыў адкінуць усялякую маскіроўку і пайшоў на адкрытую здраду інтарэсаў Вялікага княства. Ён выдаў 5 сакавіка незаконны акт аб адлучэнні ад Вялікага княства Літоўскага Падляшскай зямлі з гарадамі Драгічынам, Мельнікам, Бельскам і інш. і далучэнні яе да Польшчы, а феадалам і службовым асобам Падляшша было загадана пад страхам канфіскацыі маёмасці прысягнуць на вернасць Польшчы. Калі гэты захопніцкі акт не атрымаў належнага адпору ні ад феадалаў княства, ні ад насельніцтва Падляшскай зямлі, распрагандаванага каталіцкім духавенствам, Жыгімонт далучыў да Польшчы і ўкраінскія землі — Валынь, Падолле, Кіеўшчыну.

З юрыдычнага боку акты аб далучэнні беларускіх і ўкраінскіх земляў да Польшчы былі незаконныя і належала лічыць, што яны не маюць сілы. Паводле заканадаўства Вялікага княства Літоўскага, вялікі князь, уступаючы на прастол, даваў прысягу і абяцаў дзейнічаць толькі згодна з дзяржаўнымі законамі. Адпаведна з параграфамі 12 і 15 прывілею 1492 г. і арт. 1, 2, 12 раздз. 3 Статута 1566 г. вялікі князь не меў права змяншаць тэрыторыю дзяржавы і выдаваць якія-небудзь заканадаўчыя акты без згоды Рады і сойма. У арт. 4 таго ж раздзела проста ўстанаўлівалася забарона выдаваць прывілеі, якія парушаюць нормы Статута: «А где бы што одержано и вышло яким же кольвек обычаем против сего Статуту, то с права и суду справедливость через нас и потомки наши за радою рад наших Великого князства на сторону отложено и ни во што обернено быти маеть».

---

[14] Дневник Люблинского сейма 1569 года. СПб., 1869. С. 105.
[15] Там жа. С. 117—118.

Таму акты аб аддзяленні ўкраінскіх і заходняй часткі беларускіх земляў, выдадзеныя ў Любліне, кажучы мовай Статута, належала «ни во что обернути» — прызнаць за несапраўдныя. Несапраўднасць іх устанаўлівалася і граматай Жыгімонта Аўгуста ад 21 снежня 1568 г., дзе ён кляўся захоўваць старыя законы і звычаі і не парушаць тэрытарыяльнай цэласнасці дзяржавы.

Акты аб аддзяленні земляў не былі замацаваны пячаткай Вялікага княства, што таксама рабіла іх несапраўднымі. Юрыдычную незаконнасць іх разумелі і самі творцы, таму і пасля выдання гэтых актаў стараліся прымусіць прадстаўнікоў княства згадзіцца на унію і тым самым прыхаваць незаконнае далучэнне чужых тэрыторый бачнасцю «згоды» і «братэрскай любові» абодвух бакоў.

Далучэнне велізарнай тэрыторыі, адарванай ад княства, павялічыла польскую дзяржаву ў некалькі разоў, але не ўмацавала яе, а значна аслабіла, бо Польшча вымушана была ўвесь час трымаць свае сілы на захопленых землях, каб не даваць разгарацца вызваленчай барацьбе ўкраінскага і беларускага народаў, якая праяўлялася асабліва ў сярэдзіне XVII ст. Прысваенне гэтых тэрыторый узмоцніла ў Польшчы і рост вялікадзяржаўных шавіністычных ілюзій, якія зусім выцяснялі цвярозую развагу. Пануючым вярхам Польшчы здавалася, што іх эгаістычным планам цяпер нішто не перашкодзіць, бо галоўныя іх апаненты ў княстве зломлены і прыгнечаны, а само княства асуджана на ліквідацыю. Яны не разумелі, што падрыў сіл саюзнай дзяржавы вёў да аслаблення Польшчы, а разгул шавінізму — да ўзмацнення нацыянальнай барацьбы, што ўрэшце і сталася адной з прычын распаду польскай феадальнай дзяржавы.

Пасля страты значнай тэрыторыі Вялікае княства не магло далей самастойна весці вайну і вымушана было, каб атрымаць дапамогу ад польскіх феадалаў, капітуляваць і падпісаць ганебны акт уніі на ўмовах, прадыктаваных імі. Патрыятычныя сілы княства, якія супраціўляліся націску польскіх феадалаў, былі аслаблены наяўнасцю ўнутры дзяржавы моцнай каталіцкай агентуры, якая складалася з часткі акаталічанай шляхты і каталіцкага духавенства і дзейнічала на карысць польскіх феадалаў па ўказцы з Ватыкана і Гнезна. Значная ж частка феадалаў і шляхты была запалохана пагрозай канфіскацыі маёнткаў і дзеля асабістых інтарэсаў па-

ступалася інтарэсамі дзяржавы. Характарызуючы паводзіны прадстаўнікоў шляхты на соймах, пісьменнік XVI ст. пісаў, што яны поўнасцю падпарадкаваліся жаданням караля, «адны баючыся што-небудзь страціць, а другія жадаючы ўбіцца ў ласку» [16]. Пры такім становішчы прадстаўнікі Вялікага княства вымушаны былі пад пагрозай канфіскацыі маёнткаў вярнуцца ў Люблін і падпісаць прапанаваны ім акт аб злучэнні дзвюх дзяржаў.

Акт Люблінскай уніі быў афармлены ў выглядзе прывілею-дагавора, зацверджанага пастановай Люблінскага сойма 1 ліпеня 1569 г. Тэкст акта быў падрыхтаваны ў двух экземплярах — адзін замацаваны пячаткамі польскіх феадалаў, другі — пячаткамі феадалаў княства, пасля чаго абодва бакі памяняліся актамі. Гэткі парадак іх абмену, на думку яго арганізатараў, павінен быў прыхаваць гвалтоўны, агрэсіўны і нераўнапраўны характар уніі, надаць ёй бачнасць добраахвотнай згоды бакоў.

Такім чынам, акт Люблінскай уніі служыў фігавым лістом, якім жадалі прыкрыць дзяржаўную здраду вялікага князя, а таксама рабаўніцтва і насілле польскіх феадалаў і вярхоў каталіцкага духавенства. Апроч таго, што гэты акт узаконьваў адлучэнне ўкраінскіх і часткі беларускіх земляў, ён павінен быў стаць праграмай апалячвання і ліквідацыі беларускай і ўкраінскай народнасцяў, знішчэння іх культуры.

У акце гаварылася таксама, што «Каралеўства Польскае і Вялікае княства Літоўскае ўяўляюць сабою ўжо адно непадзельнае і неаддзельнае цэлае, а таксама не асобную, а адну агульную рэспубліку, якая злучылася і злілася ў адзін народ з дзвюх дзяржаў і народаў» [17]. Яшчэ ўказвалася, што хоць асобае ўзвядзенне на княжанне вялікага князя літоўскага павінна быць адменена, але тытул і пасады Вялікага княства застаюцца. Уступаючы на прастол, новы кароль пад прысягаю пацвярджае ўсе правы і вольнасці падданых абедзвюх дзяржаў і народаў. Надалей збіраюцца толькі агульныя соймы і адна Рада. Цалкам захоўваюцца правы і прывілеі, а таксама высокія пасады. Дагаворы і саюзы з іншымі краінамі заключаюцца толькі з агульнага ведама і згоды абодвух народаў. Манета павінна быць аднолькавая і раўнацэнная. Адмянялася пошліна на вываз за

---

[16] *Stryjkowski M.* Kronika... Warszawa, 1846. T. 2. S. 418.

[17] *Зельверович Л. М.* Литовская метрика. СПб., 1883. Т. 1. С. 55—76.

граніцу сельскагаспадарчых прадуктаў з маёнткаў духавенства і асоб шляхецкага саслоўя.

Гэты акт павінен быў выклікаць і змены ў заканадаўстве Вялікага княства. «Усе, якія б яны ні былі, статуты, па якой бы прычыне яны ні былі ўведзены ці ўхвалены ў Літве супроць польскага народа і якія звязаны з набыццём ці ўладаннем пазямельнай маёмасцю, што дасталася паляку ў Літве якім бы ні было спосабам... усе гэтыя статуты, як супярэчныя наогул праву, справядлівасці, узаемнай братэрскай любові і Уніі, роўна як і агульнаму злучэнню, ніякай сілы мець не павінны» [18].

Вялікае княства павінна было перастаць існаваць адразу пасля падпісання акта уніі, але далейшы ход палітычных падзей паказаў, што жыццёвыя сілы яго хоць і падарваны, але не знішчаны, і яго магільшчыкі рана святкавалі перамогу. Баючыся народных паўстанняў на Беларусі і асабліва масавага пераходу насельніцтва ў Расію, польскія феадалы і верхаводы каталіцкай царквы вымушаны былі згадзіцца на захаванне княства як самастойнай дзяржавы, праўда, без Украіны і заходняй часткі Беларусі.

Захаванню Вялікага княства садзейнічала і тое, што, анексіраваўшы Украіну і частку заходняй Беларусі і тым самым задаволіўшы захопніцкія апетыты, феадалы разлічвалі скарыстоўваць княства як шчыт для прыкрыцця ўсходніх граніц Польшчы. У 1572 г. ў вярхах Польшчы нават абмяркоўвалася пытанне аб вяртанні княству Падляшша і далучэнні да яго этнаграфічна польскай вобласці Мазовіі, але шавіністычны чад не даў магчымасці хоць часткова аднавіць сілы Вялікага княства. Пасля смерці ў 1572 г. караля і вялікага князя Жыгімонта Аўгуста не толькі фактычна, але і юрыдычна было прызнана захаванне адасобленасці Вялікага княства Літоўскага. Найболей поўна гэтая адасобленасць была замацавана ў зборы законаў Вялікага княства, які атрымаў назву Статута 1588 г. У ім нават не ўпамінаецца пра акт Люблінскай уніі. У арт. 4 раздз. 3 замацоўваецца праграма аднаўлення ранейшых граніц княства.

Статут 1588 г. прадугледжваў таксама, што атрымліваць маёнткі і займаць духоўныя і дзяржаўныя пасады ў княстве маглі толькі мясцовыя ўраджэнцы і ні ў якім выпадку «чужаземцы», «заграпічнікі» ці «суседзі».

---

[18] *Зельверович Л. М.* Литовская метрика. Т. 1. С. 55—76.

З усяго гэтага відаць, што дзяржаўна-прававыя сувязі паміж Вялікім княствам і Польшчай пасля 1569 г. будаваліся не на аснове акта Люблінскай уніі, а на ўмовах, якія прадугледжвалі адасобленасць абедзвюх дзяржаў пры адным гасудары і адным парламенце (сойме). Разам з тым гэтае аб'яднанне спарадзіла і новую дзяржаву — Рэч Паспалітую, у кампетэнцыю якой уваходзілі ў асноўным пытанні сумеснай міжнароднай палітыкі і ўзаемнай абароны. Таму трэба прызнаць, што акт Люблінскай уніі 1569 г. фактычна не быў ажыццёўлены. А паколькі ён быў навязаны прадстаўнікам Вялікага княства гвалтоўна, то і з юрыдычнага боку быў несапраўдны.

Пра гвалтоўніцтва, падман, шантаж і нядобрасумленнасць дзеянняў польскіх феадалаў, каталіцкага духавенства і самога Жыгімонта Аўгуста ў адносінах да прадстаўнікоў Вялікага княства яскрава сведчаць запісы дзённіка Люблінскага сойма, таму няма падстаў згаджацца з тымі гісторыкамі, якія лічылі, што дробная і сярэдняя шляхта жадала і дабівалася уніі з Польшчай.

Аналіз дзяржаўна-прававых сувязяў Вялікага княства Літоўскага ў XVII—XVIII стст. паказвае, што іх прававы характар за гэты час моцна не змяняўся. Разам з тым працэс гвалтоўнага акаталічвання і апалячвання беларусаў і ўкраінцаў паступова захопліваў усё большыя пласты насельніцтва і пагражаў поўным знішчэннем беларускай народнасці, садзейнічаў усё большай залежнасці Вялікага княства ад Польшчы.

Падводзячы вынік гістарычнага развіцця дзяржаўна-прававых сувязяў Вялікага княства Літоўскага з Польшчай, можна з усёй пэўнасцю сцвярджаць, што ў XIV—XV стст. гэтыя сувязі, хоць мелі шмат істотных заган, у асноўным былі карысныя ўсім народам Усходняй Еўропы, чаго нельга сказаць пра унію 1569 г.

Гвалтоўнае і бяспраўнае далучэнне ўкраінскіх і часткі заходнебеларускіх земляў да Польшчы прынесла шмат шкоды не толькі насельніцтву Беларусі, Украіны і Літвы, але і самой Польшчы. Прымусовае акаталічванне і апалячванне беларускага і ўкраінскага народаў спарадзіла нацыянальны і рэлігійны прыгнёт. Насаджэнне ж рэакцыйнай дагматычнай ідэалогіі каталіцкай царквы выклікала застой і заняпад навукі і культуры. Усё гэта шкодна адбілася на стане вытворчых сіл і эканомікі, што ў канчатковым выніку прывяло да пагібелі ўсёй феадальнай Рэчы Паспалітай.

Раздзел 4

# КРЫНІЦЫ БЕЛАРУСКАГА ФЕАДАЛЬНАГА ПРАВА

## 1. Звычаёвае права. Дагаворы з Рыгай

Гісторыя права Беларусі бярэ свой пачатак з незапамятных часоў, калі галоўнай крыніцай было звычаёвае права. Яно складалася непасрэдна з грамадскіх адносін, якія былі адобраны і зацверджаны грамадскімі і дзяржаўнымі органамі і ўжываліся на працягу доўгага часу. На Беларусі яно было пануючым да сярэдзіны XV ст., а затым пачало пастунова выцясняцца пісаным правам, у якім многія нормы звычаёвага права набылі форму закона ў выглядзе шматлікіх грамат, лістоў, прывілеяў, соймавых пастаноў, статутаў і іншых прававых актаў.

У старажытныя часы ва ўмовах абмежаванай эканомікі асобных мясцовасцяў — гарадоў, валасцей — і звычаёвае права было разрозненым. На кожнай тэрыторыі дзейнічала сваё мясцовае права. Насельніцтва кожнай зямлі «имяху бо обычаи свои и закон отец своих и преданья каждо свой нрав»[1]. Другой характэрнай рысай звычаёвага права былі традыцыяналізм і кансерватызм прававых норм, іх нязменнасць. Старажытная прававая тэорыя грунтавалася на царкоўным вучэнні, што ў грамадстве і ва ўсім свеце пануе раз і назаўсёды дадзены богам парадак, а ўсялякія спробы крытыкі і змены сацыяльна-эканамічнай, палітычнай і прававой сістэмы разглядаліся як выступленне супраць царквы і Бога. Апрача таго, у перыяд запрыгоньвання сялян, калі феадалы імкнуліся змяняць звычаёвае права на сваю карысць, просты народ быў супраць яго змены. У XV—XVI стст. вялікія князі ў сваіх граматах неаднаразова абяцалі старыны не парушаць і новых парадкаў не ўводзіць, «бо мы новин не уводим, а старины не рухаем»[2]. Захаванне

[1] Повесть временных лет. Ч. 1. С. 14.
[2] РИБ. Т. 27. С. 595.

старых норм звычаёвага права прадугледжвалася граматай, якая была выдадзена полацкім баярам і мяшчанам у 1499 г., дзе было запісана: «Суды маеть судити наместник наш Полоцкій с старшими бояры Полоцкими, водлуг давного обычая»[3].

Трэцяй асаблівасцю была ідэя поўнага бяспраўя рабоў (халопаў, чэлядзі нявольнай) і фармальнага раўнапраўя свабодных людзей пры фактычным захаванні ільгот і прывілей пануючаму класу. Халопы і чэлядзь нявольная не лічыліся самастойнымі суб'ектамі праваадносін, «а холопу и робе веры не няти», было запісана ў Полацкай грамаце 1511 г. Раўнапраўе свабодных людзей праяўлялася ў тым, што яны ў старажытныя часы маглі прымаць удзел у вырашэнні дзяржаўных спраў на вечавых сходах, выбіраць і быць выбранымі ў дзяржаўныя ўстановы ці на пасады, неслі агульныя дзяржаўныя павіннасці, у тым ліку і вайсковую па абароне свайго горада, воласці, княства. Напрыклад, у Полацку і Віцебску на вечавыя сходы (соймы) ззывалася ўсё насельніцтва. У грамаце, выдадзенай у 1486 г., гаварылася: «И далей приказуем, абы бояре и мещане и дворяне городские и все поспольство в згоде межи собою были, а дела бы наши господарские вси зъгодою посполу справляли по давному, а сымались бы вси посполу на том месте, где перед тым сымывались здавна. А без бояр мещанам и дворянам и черни соимов не надобе чинить»[4].

Звычаёвым правам у старажытнасці рэгуляваліся ўсе прававадносіны ў грамадскім жыцці: структура і кампетэнцыя дзяржаўных устаноў, правы і абавязкі розных класаў, саслоўяў і сацыяльных груп насельніцтва, грамадзянскія, сямейна-шлюбныя, зямельныя, судова-працэсуальныя, крымінальныя і інш.

Першыя запісы звычаёвага права Беларусі былі зроблены ў граматах і дагаворах Полацка, Віцебска і Смаленска з Рыгай і Лівонскім ордэнам. З гэтых дакументаў відаць, што ў XIII—XIV стст. ужо меліся пастаянныя гандлёвыя і дыпламатычныя зносіны паміж беларускімі гарадамі і насельніцтвам Прыбалтыкі і Гоцкага берага.

У гэтай сувязі значны інтарэс мае змест дагавора Смаленска, Віцебска і Полацка з Рыгай і Гоцкім бера-

---

[3] АЗР. Т. 1. С. 199.

[4] Полоцкие грамоты XIII — начала XVI вв. М., 1976. Ч. 2. С. 111.

гам 1229 г. Галоўнае прызначэнне гэтага пагаднення было ў замацаванні прававых норм, якія забяспечвалі ўстойлівыя адносіны паміж купцамі гэтых земляў на падставе ўзаемнасці і раўнапраўя. Значная ўвага ў дагаворы ўдзялялася нормам крымінальнага і грамадзянскага права. Так, арт. 1, 2, 3 прадугледжвалі пакаранне за забойства і калецтва чалавека. За забітага вольнага чалавека спаганялася 10 грывен серабра, а за папа або пасла два плацяжы, г. зн. 20 грывен серабра, у той жа час за халопа толькі 1 грыўна серабра. У гэтых артыкулах яскрава праявіўся класавы падыход пры вызначэнні адказнасці за забойствы, бо вольны чалавек цаніўся ў 10 разоў вышэй за халопа. Аб крыніцах халопства сведчыць арт. 6, згодна з якім князь мог асудзіць вольнага чалавека і ўсю яго сям'ю (жонку і дзяцей) у халопства. Цікава таксама тое, што чалавек, нават будучы халопам, мог самастойна ўдзельнічаць у замежным гандлі і адказваць за даўгі ўласнай маёмасцю (арт. 7). У дагаворы меліся нормы, якія замацоўвалі парадак судаводства па спрэчках паміж «русінамі» і «лацінскімі» людзьмі. Так, згодна з арт. 21 нямецкага госця павінен быў судзіць смаленскі князь і не дазвалялася вызываць немца без яго згоды на «обчии суд».

Грамадзянска-прававыя нормы рэгулявалі парадак куплі-продажу, перавозкі тавараў, гандлёвых пошлін. Гарантавалася ўсім купцам купляць усякі тавар і свабодна карыстацца воднымі шляхамі па ўсёй Дзвіне і на беразе. «Тая правда латинскому взяти оу руское земли оу власти князя смоленского и оу полотьского князя власти и оу витебского князя власти» [5].

Гандлёвыя адносіны палачан і віцяблян з Рыгай падтрымліваліся і ў наступныя гады. Так, у 1263 г. быў заключаны дагавор ад імя палачан і віцяблян князем Гердэнем з лівонскім магістрам Конрадам. Пагадненні палачан і віцяблян з Лівонскім ордэнам былі заключаны ў 1265, 1309 і каля 1339 (або 1340) г. Апрача таго, у 1338 г. вялікі князь Гедымін, са згоды палачан і віцяблян, заключыў дагавор з лівонскім магістрам аб вольным гандлі. У канцы дакумента было запісана, што ён заключаны «са згоды караля Літвы і яго дзяцей і ўсіх яго баяр... и са згоды епіскапа Полацка, караля і горада Полацка і караля Віцебска і горада Віцебска» [6]. Усе гэтыя пагаднен-

---

[5] Хрэстаматыя па гісторыі беларускай мовы. Мн., 1961. С. 38.
[6] Послания Гедимина. С. 194.

ні з Рыгай у значнай меры грунтаваліся на звычаёвым праве насельніцтва Полацкай і Віцебскай земляў і сведчаць аб інтэнсіўных гандлёвых зносінах і аб тым, што было каму і чым гандляваць.

У XIV і XV стст. пачынае развівацца заканадаўства, якое паступова абмяжоўвае звычаёвае права. У першую чаргу выдаюцца законы ў форме прывілеяў (грамат), у якіх юрыдычна пацвярджаліся правы і ільготы феадалаў, афармлялася прававое становішча саслоўя шляхты, замацоўваліся аўтаномныя правы некаторых земляў (княстваў).

## 2. Агульнадзяржаўныя прывілеі, граматы

Першымі агульнадзяржаўнымі (земскімі) прывілеямі лічыліся тры прывілеі, выдадзеныя ў 1387 г. вялікім князем літоўскім Ягайлам, ураджэнцам Беларусі, які ў праваслаўным хрышчэнні называўся Якавам, а калі стаў польскім каралём і прыняў каталіцкую веру, то стаў называцца Уладзіславам.

Яго першы прывілей быў выдадзены 20 лютага 1387 г. і быў накіраваны на распаўсюджанне каталіцызму на Беларусі і ў Літве. Пачынаўся прывілей са сцвярджэння, што нібыта людзі жадаюць прыняць каталіцкую веру, а тым, хто ўжо прыняў яе, даруюцца новыя правы і вольнасці, яны будуць мець поўную магчымасць валодаць, карыстацца, прадаваць, мяняць, дараваць згодна са сваёй добрай воляй і жаданнем замкі, воласці, сёлы, дамы і ўсё, чым бы валодалі па наследству ад бацькоў. Далей у прывілеі гаварылася аб тым, што рыцары не будуць павінны выконваць якія-небудзь работы за выключэннем будавання новых замкаў, калі будзе склікацца насельніцтва ўсёй зямлі, а таксама перабудовы і рамонту старых замкаў.

Згодна са старадаўнім звычаем вайсковы паход, які называўся па-народнаму «пагоняй», павінен быў выконвацца не толькі рыцарамі, але кожным мужчынам, якога б ён ні быў паходжання або звання, толькі б ён быў здольным насіць зброю [7].

У гістарычнай літаратуры распаўсюджана думка, што ўсе гэтыя правы былі нібыта запазычаны з польскага права. Але такое сцвярджэнне з'яўляецца памылко-

---

[7] БЭФ. Т. 1. С. 102.

вым, бо права феадалаў распараджацца маёмасцю, якая належала ім, існавала ўжо ў XI—XIII стст. на ўсёй Беларусі і гарантавалася старажытным правам, аб чым сведчаць шматлікія крыніцы («Руская праўда», летапісы, граматы, дагаворы і інш.). Пацвярджэнне старажытнасці гэтых правоў можна знайсці ў Полацкім і Віцебскім прывілеях, у якіх змяшчаліся нормы, што датычацца, як відаць, XI—XIII стст., хоць поўны тэкст гэтых прывілеяў быў адрэдагаваны ў канцы XIV ст.

Другі прывілей, выдадзены 22 лютага 1387 г., адрасаваўся каталіцкаму духавенству, але закранаў інтарэсы ўсяго народа і фактычна дапаўняў папярэдні прывілей ад 20 лютага. Галоўнае яго прызначэнне заключалася ў прымусовым насаджэнні каталіцкай веры на Беларусі і надзяленні багатымі дарамі і маёнткамі каталіцкага духавенства і касцёлаў. Па гэтым прывілеі ўсё каталіцкае духавенства, касцёлы, манастыры і феадальна залежныя ад іх людзі выключаліся з дзяржаўнай юрысдыкцыі. Гэты прывілей абавязваў усіх жыхароў Вялікага княства Літоўскага пераходзіць у каталіцкую веру з усякай іншай веры (секты). Маёнткі і даходы, перададзеныя каталіцкаму духавенству, вызваляліся ад усякага роду службаў і павіннасцей на карысць дзяржавы і гасудара. Зусім новым было выключэнне з дзяржаўнай юрысдыкцыі ўсіх людзей, залежных ад каталіцкага духавенства. Захоп каталіцкім духавенствам дзяржаўных паўнамоцтваў у адносінах да залежных людзей паслужыў першым крокам да запрыгоньвання сялян, бо яны траплялі пад поўнае панаванне каталіцкіх феадалаў. А сама каталіцкая царква станавілася па-за дзяржаўнай юрысдыкцыяй, паступова захопліваючы ўсё большыя і большыя багацці, набыла велізарную эканамічную сілу і, маючы вялікі штат сваіх агентаў, прапагандыстаў і добраахвотнікаў-фанатыкаў, стала самай уплывовай палітычнай сілай.

У дзяржаўна-прававым жыцці Вялікага княства Літоўскага істотнае значэнне меў прывілей, выдадзены князю Скіргайле (Івану), ад 28 красавіка 1387 г. Гэтым прывілеем пацвярджаліся і замацоўваліся правы князя Скіргайлы на кіраванне ўсім Вялікім княствам Літоўскім пасля ўступлення Ягайлы на польскі прастол. Ягайла абяцаў Скіргайле «крепко блюсти его княженья и державы»[8]. Тым самым юрыдычна замацоўвалася на-

[8] Хрэстаматыя па гісторыі беларускай мовы. С. 49.

дзяленне Скіргайлы вялікакняскімі паўнамоцтвамі і захоўвалася дзяржаўная адасобленасць Вялікага княства. У прывілеі Ягайла таксама абяцаў лічыць Скіргайлу вышэй за ўсіх іншых братоў, і слухаць яго больш за ўсіх іншых саветнікаў, і стаяць за яго «крепко во всем». З мэтай умацавання эканамічнай базы палітычнай улады Скіргайлы пацвярджаліся яго непасрэдныя правы на Полацкае і Трокскае княствы, а таксама перадавалася ў яго асабістае распараджэнне значная частка дзяржаўных земляў і даходаў. Дзяржаўна-прававое значэнне гэтага прывілея падкрэслівалася яшчэ тым, што ў самім тэксце ён называецца «праўдай», там гаворыцца: «на сем на всем дал есмь правду крепкую». Назва граматы 1387 г. «праўда» гаварыла аб яе агульнадзяржаўным характары, а не толькі як аб акце прыватна-прававога падаравання.

Прававая рэгламентацыя саюзных адносін Вялікага княства з Польшчай у выглядзе персанальнай уніі і юрыдычнае замацаванне суверэннасці Вялікага княства Літоўскага былі афармлены Востраўскім пагадненнем 1392 г., па якім вялікі князь Скіргайла здымаўся з Вялікага княства і пераводзіўся на княства Кіеўскае, а паўнамоцтвы вялікага князя перадаваліся князю берасцейскаму і гарадзенскаму Вітаўту (Юрыю, Аляксандру). Далейшае прававое замацаванне саюзных адносін з Польшчай было ажыццёўлена актамі Віленска-Радомскай уніі 1401 г. і Гарадзельскай 1413 г.

Гарадзельскі прывілей быў выдадзены ад імя Ягайлы і Вітаўта і меў на мэце ўмацаванне і пашырэнне каталіцызму. У ім яўна ілжыва сцвярджалася, што нібыта пасля распаўсюджання каталіцкай веры дзяржавы і землі, злучаныя ў складзе Вялікага княства Літоўскага, былі «прысвоены, уключаны, злучаны, перададзены» Польскаму Каралеўству са згоды князёў, паноў, шляхты, службовых асоб і баяр Вялікага княства»[9].

Ілжывым было і сцвярджэнне аб тым, што Ягайла і Вітаўт з'яўляліся ўладальнікамі земляў на падставе атрымання ў спадчыну, бо на Беларусі і ў Літве са старажытнейшых часоў панавала ідэя, што ўлада князя ідзе ад выбрання або яго дагавору (раду) з насельніцтвам дадзенай зямлі. Гэтая ідэя знайшла сваё выражэнне нават у арт. 11 гэтага ж прывілея, дзе гаварылася, што паны і шляхта пасля смерці Аляксандра, г. зн. Вітаўта,

---

[9] БЭФ. Т. 1. С. 115.

будуць выбіраць вялікага князя. Прадугледжвалася таксама, што ў выпадку смерці польскага караля выбранне новага павінна адбывацца са згоды і ведама Вітаўта, паноў і шляхты Вялікага княства. Такім чынам, з тэксту гэтага артыкула выразна відаць, што ўлада гасудара грунтавалася на выбранні і яго паўнамоцтвы разглядаліся не як уласніка ўсёй зямлі, усёй дзяржавы, а толькі як вышэйшай службовай асобы ў дзяржаве.

Спрабуючы адказаць на пытанне, чаму феадалы Вялікага княства згадзіліся з актам 1413 г., па-першае, трэба ўдакладніць, што згоду далі не ўсе «паны, шляхта і баяры», як аб гэтым гаворыцца ў прывілеі, а толькі 47 чалавек, якіх, вядома, шляхта і баяры, асабліва праваслаўныя, не ўпаўнаважвалі на вырашэнне гэтых пытанняў. Па-другое, і з гэтых 47 чалавек, як відаць, не ўсе былі згодныя, і нават, магчыма, не ўсе ведалі поўны тэкст прывілея, напісанага па-латыні. У пацвярджэнне можна спаслацца на заявы прадстаўнікоў Вялікага княства на польскім сойме ў Любліне ў 1448 г., дзе яны заявілі, што вельмі зняважаны граматамі, у якіх змяшчаліся словы аб зліцці і ўключэнні Вялікага княства ў склад Польшчы. На перамовах у 1451 г. у Парчове прадстаўнікі Вялікага княства зноў патрабавалі выключыць з ранейшых дагавораў аб уніі ўсе зневажальныя і абразлівыя для Вялікага княства Літоўскага выразы, такія, як «далучэнне», «уключэнне» і «інкарпарацыя» Вялікага княства ў састаў Польшчы на той падставе, што іх папярэднікі пацвярджалі гэтыя дагаворы, «не ведаючы аб іх змесце, па даным толькі загадзе вялікага князя» [10]. Па-трэцяе, па сваім дзяржаўна-прававым характары прывілей 1413 г. не ўносіў карэнных змяненняў і замацоўваў саюзныя адносіны дзвюх адасобленых дзяржаў. Гэтыя адносіны мелі ўжо багатую практыку і былі прыймальныя для народаў абедзвюх дзяржаў. Магчыма, таксама, што Ягайла і Вітаўт згадзіліся з пракаталіцкім тэкстам прывілея для таго, каб задобрыць і супакоіць рымскую курыю пасля нанесенага ёй цяжкага ўдару, выкліканага паражэннем ордэна пад Грунвальдам, і прадухіліць паход злучаных сіл заходнееўрапейскіх дзяржаў сумесна з крыжаносцамі. Такая асцярога была зусім абгрунтаванай. Сам жа Вітаўт згадзіўся з гэтым прывілеем, імкнучыся набыць прыхільнікаў сярод

---

[10] *Любавский М. К.* Очерк истории Литовско-русского государства... С. 191.

польскіх епіскапаў і буйных феадалаў у надзеі, што пасля смерці Ягайлы ён можа стаць яго пераемнікам на каралеўскім прастоле ў Польшчы. Пра такія планы Вітаўта піша аўтар «Хронікі Быхаўца», паведамляючы, што пасля перамогі пад Грунвальдам адбылося пагадненне, у сілу якога польскія і літоўскія паны згадзіліся ў выпадку смерці Ягайлы выбраць каралём Вітаўта.

Аналіз тэксту прывілея і прычын, што прымусілі да яго абвяшчэння, прыводзіць нас да пераканання, што ўся справа зводзілася да існуючага ўжо саюза дзвюх дзяржаў. Разам з тым ён пашыраў правы каталіцкай царквы і духавенства, а таксама служыў праграмай і заданнем на абмежаванне правоў і дыскрымінацыю ўсіх некатолікаў.

Сярод крыніц дзяржаўнага права, якія паслужылі надставай юрыдычнага афармлення правоў саслоўя шляхты, першаступеннае значэнне мелі прывілеі 1432 і 1434 гг. Па гэтых прывілеях праваслаўныя феадалы ўраўноўваліся ў правах з католікамі. У прывілеі, выдадзеным у Гародні 15 кастрычніка 1432 г., гаварылася, што ў той час, калі жыхары Вялікага княства Літоўскага былі надзелены прывілеямі і свабодамі, князі, баяры і шляхта праваслаўнае веры, падданыя Вялікага княства, павінны былі быць выключаны з права карыстання падараванымі свабодамі, таму, жадаючы, каб у будучым па гэтай прычыне паміж жыхарамі гэтых земляў не ўзнікалі разлады і варожасць, якія падрывалі б сілы гэтых земляў, але для таго, каб роўнымі карысталіся яны ільготамі і правамі і захоўвалі адзінства зброі і тоеснасць жаданняў, больш энергічна і настойліва стараліся аб захаванні ў цэласнасці гэтых земляў і аб падтрыманні іх велічы і сумесна дзейнічалі, а таксама былі пабуджальнымі больш старанна і верна выконваць загады і распараджэнні Ягайлы і Сігізмунда вялікага князя літоўскага і рускага, князі, шляхта і баяры праваслаўнае веры надзяляліся тымі ж падарункамі, свабодамі, прывілеямі і выгадамі, якімі валодалі і карысталіся князі, шляхта і баяры-католікі.

З тэксту прывілея відаць, што ён фактычна пазбаўляў законнай сілы дыскрымінацыйныя нормы Гарадзельскага прывілея і сведчыў аб тым, што феадалы-католікі і каталіцкае духавенства ў інтарэсах класавай салідарнасці гатовы былі крыху аслабіць палітыку прымусовага насаджэння каталіцызму.

Такім чынам, прывілей 1432 г. стварыў прававыя

перадумовы для згуртавання і выдзялення ўсяго класа феадалаў у прывілеяванае саслоўе шляхты, аб'яднаўшы яго на класавай аснове незалежна ад веравызнання.

Прынцыпы саслоўнага, агульнашляхецкага права, выкладзенага ў прывілеі 1432 г., атрымалі далейшае развіццё і замацаванне ў прывілеі ад 6 мая 1434 г. Гэтым прывілеем пацвярджалася роўнасць правоў феадалаў-праваслаўных з католікамі, узаконьвалася і гарантавалася права валодання маёнткамі і перадача іх па наследству або на іншых законных падставах, сяляне і падданыя, залежныя ад феадалаў, вызваляліся ад некаторых агульнадзяржаўных павіннасцей, пацвярджалася права праваслаўных феадалаў карыстацца гербамі і іншымі знакамі шляхецтва, абвяшчалася захаванне ў сіле на вечныя часы ўсіх раней выдадзеных прывілеяў і грамат. Галоўнае нованўвядзенне гэтага прывілея заключалася ў абяцанні вялікага князя па даносу, або па тайнаму абвінавачванню з боку каго-небудзь, або па неабгрунтаванай падазронасці не караць названых князёў і баяр, перш чым яны не будуць выкрыты ў публічным судзе ў адпаведнасці з законамі [11]. Гэтым артыкулам была замацавана адна з найбольш важных гарантый — асабістая свабода і недатыкальнасць шляхціца. У наступных прывілеях і статутах гэта важнейшая канстытуцыйная норма неаднаразова пацвярджалася і атрымала далейшае развіццё.

Важным этапам у развіцці заканадаўства наогул і дзяржаўнага права ў прыватнасці паслужыў прывілей Казіміра 1447 г. У ім больш поўна і грунтоўна былі выкладзены правы класа феадалаў і саслоўя шляхты, некаторыя прынцыпы крымінальнага, грамадзянскага і дзяржаўнага права. Так, у арт. 3 звяртае на сябе ўвагу пашырэнне кола асоб, якім гарантуецца іх недатыкальнасць. Тут больш поўна пералічаны групы класа феадалаў і саслоўя шляхты, а таксама ўключаны гарадскія жыхары, «месцічы». Яны ўказаны і ў прэамбуле прывілея. Усё гэта дазваляе зрабіць выснову, што прывілей 1447 г. быў не толькі саслоўным актам, а меў юрыдычнае значэнне і для простых людзей, асабліва гараджан. У гэтым нас яшчэ больш пераконвае змест арт. 2, 4, 7, 8, 9, 14.

У арт. 5 змяшчалася канстытуцыйная норма аб праве феадалаў свабодна выязджаць за граніцу «для лепшо-

---

[11] БЭФ. Т. 1. С. 119—121.



Вялікі князь Казімір

го шчастья набытия, а любо учинков рытерских»[12], акрамя непрыяцельскіх земляў. Далей у прывілеі была выкладзена норма, па якой «сяляне і падданыя» князёў, рыцараў, шляхты, баяр і мяшчан вызваляліся на карысць сваіх паноў ад дзяржаўных падаткаў, работ і іншых павіннасцей, за выключэннем будаўніцтва і рамонту замкаў, дарог і мастоў, а таксама падатку натурай, называемага «стацыя». Гэтай нормай было пацверджана і развіта запісанае ў прывілеі 1434 г. выключэнне феадальна-залежнага насельніцтва з ліку асоб, непасрэдна залежных ад дзяржавы. У сілу гэтага акта дзяржаўныя паўнамоцтвы па збору падаткаў з насельніцтва былі перададзены асобным феадалам. Дзякуючы гэтай норме феадалы значна ўмацавалі свой эканамічны, а разам з ім і палітычны ўплыў у дзяржаве.

Працэс узмацнення панавання феадалаў над сялянамі атрымаў юрыдычнае афармленне ў арт. 11, па якім ні гасудар, ні яго намеснікі і іншыя службовыя асобы не павінны былі прымаць на дзяржаўныя або вялікакняскія землі прыватнаўладальніцкіх сялян. Адначасова гэта ж забаранялася і феадалам. Тым самым гэтай нормай быў пакладзены пачатак юрыдычнага абмежавання права пераходу сялян. У працэсе падпарадкавання іх феадалу выключнае значэнне меў арт. 12, па якім за феадаламі замацоўвалася права судзіць залежных сялян, акрамя тых выпадкаў, калі феадал не пажадаў бы сам вырашыць справу. Такім чынам, прывілей 1447 г. узаконіў захоп феадаламі функцый дзяржаўнай улады ў адносінах да феадальна-залежнага насельніцтва, што садзейнічала ўзмацненню пазаэканамічнага прымусу. Прызнанне за феадаламі права чыніць суд і расправу над феадальна-залежным насельніцтвам ставіла апошніх у

[12] БЭФ. Т. 1. С. 124—127.

яшчэ большую залежнасць ад паноў, пазбаўляла іх магчымасці шукаць абароны супраць самавольства феадалаў у дзяржаўных органах. Усё гэта дазваляе лічыць прывілей 1447 г. галоўным прававым актам, што заклаў асновы юрыдычнага афармлення феадальнай залежнасці сялян.

Выключна важнае дзяржаўна-прававое значэнне мелі два апошнія артыкулы гэтага прывілея. У іх заканадаўча замацоўвалася тэрытарыяльная цэласнасць дзяржавы, яе суверэнныя правы і адасобленасць. Прывілей забараняў ураду раздаваць дзяржаўную маёмасць і пасады іншаземцам. Гэтыя артыкулы былі накіраваны супраць пранікнення польскіх феадалаў у Вялікае княства і адлюстроўвалі адмоўныя адносіны феадалаў княства да рознага роду дамаганняў іншаземцаў.

Аналіз зместу прывілея 1447 г. дазваляе зрабіць выснову аб тым, што яго дзяржаўна-прававое значэнне заключалася перш за ўсё ва ўмацаванні суверэнітэту і адасобленасці Вялікага княства Літоўскага, нягледзячы на тое, што вялікі князь Казімір 27 чэрвеня 1447 г. стаў каралём Польшчы, і тым самым была адноўлена персанальная унія дзвюх дзяржаў. Акрамя таго, прывілеем 1447 г. было значна пашырана кола асоб, за якімі прызнаваліся правы шляхты, незалежна ад наяўнасці ў іх гербаў і веравызнання. Такім чынам, прывілеі 1432, 1434 і 1447 гг. паслужылі юрыдычнай асновай афармлення правоў усяго саслоўя шляхты.

Уступленне на вялікакняскі прастол Аляксандра Казіміравіча ў 1492 г. было знаменавана выдачай новага універсальнага прывілея, у якім змяшчаліся 33 параграфы, або артыкулы [13].

У першых дванаццаці артыкулах пацвярджаліся, з частковымі змяненнямі і ўдакладненнямі, усе правы і прывілеі, абвешчаныя ў раней прынятых граматах. Затым у арт. 13 былі замацаваны асноўныя прынцыпы міжнароднай палітыкі, згодна з якімі ўрад быў абавязаны падтрымліваць добрасуседскія адносіны з усімі дзяржавамі і захоўваць усе раней заключаныя саюзы і пагадненні. Новымі былі таксама нормы, якія прадугледжвалі юрыдычнае афармленне ўзрослай ролі буйных феадалаў і іх органа — Рады. Прывілей устанаўліваў, што вялікі князь не меў права адмяняць або змяняць законы, пастановы і судовыя рашэнні, прынятыя

---

[13] Гісторыя Беларусі ў дакументах. Мн., 1936. С. 220—225.

сумесна з Радай. У выпадку ж, калі пры абмеркаванні ў Радзе якіх-небудзь пастаноў паны-рада не згодзяцца з думкай вялікага князя, то ён быў абавязаны выконваць тое, што яму параяць паны.

Прывілей забараняў службовым асобам вымагаць у падначаленых і насельніцтва звыш устаноўленых плацяжоў рознага роду падачкі. Гэтую норму можна разглядаць як першы прававы акт, які паклаў пачатак барацьбы са злоўжываннямі мясцовых улад. У арт. 16—20 вызначаліся агульныя прынцыпы парадку прызначэння і пазбаўлення дзяржаўных пасад: ніхто не мог быць пазбаўлены пасады без віны, устаноўленай у працэсе публічнага разбірацельства. Мясцовыя службовыя асобы павінны былі выконваць свае абавязкі і вырашаць справы ў адпаведнасці з мясцовымі звычаямі.

Прывілей 1492 г. заканадаўча пацвердзіў абавязковы характар мясцовых прававых звычаяў. Урад быў абавязаны даваць дзяржаўныя пасады і маёмасць у кіраванне і трыманне толькі ўраджэнцам Вялікага княства. На пасады павінны былі прызначацца асобы найбольш дастойныя і тыя, хто аказаў дзяржаве найбольшую карысць.

У прывілеі абвяшчалася неабходнасць вынясення справядлівых судовых рашэнняў, забараняліся хабары і судзейская неаб'ектыўнасць. Устанаўліваліся пэўныя тэрміны разгляду спраў. Тым самым гэты канстытуцыйны акт быў накіраваны на ўдасканальванне адзіных для ўсёй дзяржавы нормаў судаводства.

Класавая і саслоўная накіраванасць прывілея асабліва выразна была выказана ў арт. 25, па якім урад абавязваўся не ўзвышаць простых людзей над шляхтай. З мэтай недапушчальнасці пераходу маёнткаў у рукі іншаземцаў устанаўлівалася правіла, па якім у выпадку выхаду жанчыны замуж за граніцу Вялікага княства яна пазбаўлялася ўсіх правоў на нерухомую маёмасць. У прывілеі абвяшчалася нязменнасць усіх раней выдадзеных грамат, якія заставаліся ў сіле на вечныя часы.

Прывілей 1492 г. быў своеасаблівай феадальнай канстытуцыяй, якая замацавала асновы грамадскага і дзяржаўнага ладу Вялікага княства Літоўскага, пануючага становішча класа феадалаў і яго вярхоў — паноў.

Прывілей з'явіўся важным крокам у заканадаўчым афармленні асноўных прынцыпаў грамадзянскага, сямейнага, крымінальнага, адміністрацыйнага права. Асабліва важнае дзяржаўна-прававое значэнне мелі нормы,

якія замацавалі абмежаванне ўлады гасудара і фактычна вызначылі яго прававое становішча не як гасудара-вотчынніка, а як вышэйшай службовай асобы ў дзяржаве. Выключнае дзяржаўна-прававое значэнне гэтаму акту надавалі і сучаснікі, называючы яго «генеральным прывілеем».

Канстытуцыйны характар прывілея 1492 г. становіцца яшчэ больш ясным і дакладным з тымі дапаўненнямі і ўдакладненнямі, якія былі зроблены ў Гарадзенскім прывілеі ад 7 снежня 1506 г. У ім былі пацверджаны ўсе асноўныя палажэнні прывілея 1492 г. і больш дакладна выказана яго агульнадзяржаўнае значэнне. Прывілей 1506 г. пачынаецца агульнапрынятым для ўсіх прывілеяў уступам, але змест яго значна адрозніваецца ад іншых. У ім захоўваецца царкоўная формула «боскай міласцю», але адначасова падкрэсліваецца, што абранне вялікага князя адбылося са згоды і па жаданню духоўных і свецкіх феадалаў, а таксама іншых падданых і жыхароў Вялікага княства Літоўскага.

Вядома, на самай справе простыя людзі не ўдзельнічалі ў абранні гасудара, але ўнясенне гэтага запісу сведчыла аб жаданні кіруючых вярхоў трымаць уладу ў сваіх руках, грунтуючыся нібыта на волі ўсяго народа, бо яны лічылі сябе выразнікамі яго волі і прадстаўнікамі. Акрамя таго, у прывілеі пацвярджаліся «ўсе правы, вольнасці і граматы», выдадзеныя цэрквам, духоўным і свецкім феадалам, «гарадам, мяшчанам, жыхарам і наогул асобам усіх саслоўяў і стану» [14], г. зн. у гэтай частцы прывілей быў адрасаваны ўсяму насельніцтву Вялікага княства. Зразумела, што ўпамінанне аб захаванні правоў і вольнасцей усяго насельніцтва насіла ў значнай ступені прапагандысцкі характар, але ўсё ж яно мела і практычнае значэнне ў частцы захавання ў сіле нормаў, запісаных у абласных, валасных і гарадскіх прывілеях, у якіх змяшчаліся правілы, якія абаранялі ў пэўнай ступені правы простых людзей.

Новым для агульназемскіх прывілеяў быў запіс аб праве падданых падаваць чалабітныя і іншыя скаргі (арт. 8). Заканчваўся прывілей 1506 г. абяцаннем, дадзеным пад прысягай, захоўваць усе законы і раней выдадзеныя граматы ў поўнай сіле на вечныя часы.

Выданнем прывілея ад 7 снежня 1506 г. завяршыўся першы этап развіцця беларускага права ў форме прыві-

[14] Гісторыя Беларусі ў дакументах. С. 227.

леяў. Наступныя, выдадзеныя ў 1529, 1547 і 1551 гг., у асноўным пацвярджалі законнасць ранейшых прывілеяў і паўтаралі іх. Яны ўяўляюць цікавасць з пункту гледжання пагляду формы і спосабаў сістэматызацыі і кадыфікацыі норм права.

Праведзеныя ў 20-я гг. XVI ст. кадыфікацыя і сістэматызацыя права Вялікага княства Літоўскага, у выніку якіх быў выдадзены Статут 1529 г., паклалі пачатак новаму этапу сістэматызацыі права. Далейшае развіццё права ішло ў форме статутаў і соймавых пастаноў — ухвал і канстытуцый. Разам з тым у сярэдзіне XVI ст. працягвалі выдавацца і прывілеі, хоць іх змест, акрамя пацвярджальных прывілеяў 1529, 1547 і 1551 гг., носіць больш абмежаваны характар. Так, прывілей ад 7 чэрвеня 1563 г. высакамоўнымі словамі абвяшчаўураўненне ў правах праваслаўных феадалаў з каталікамі.

Шэраг новых палажэнняў уносіўся Бельскім прывілеем 1564 г. У ім абвяшчалася аддзяленне некаторых судовых органаў ад адміністрацыі, выбарнасць саслоўных судоў, роўнасць шляхты перад судом і законам. Усе гэтыя палажэнні былі ўзяты з праекта новага Статута, які ўступіў у сілу ў 1566 г.

Падобны характар меў і прывілей ад 30 снежня 1565 г., які вызначыў парадак склікання павятовых соймікаў. Нічога новага, па сутнасці, не ўносіў і прывілей ад 1 ліпеня 1568 г. У ім яшчэ раз аб'яўлялася аб ураўненні ў правах праваслаўных з каталікамі.

Падводзячы вынік разгляду агульназемскіх прывілеяў, можна адзначыць, што яны ў сукупнасці ўяўлялі сабой асноўныя законы дзяржавы, г. зн. складалі своеасаблівую канстытуцыю, у якой былі замацаваны асноўныя палажэнні дзяржаўнага і іншых галін права. У гістарычнай літаратуры іх значэнне часта прыніжалася, а прававы аналіз падмяняўся трафарэтным штампам, па якім агульназемскія прывілеі зводзіліся да ролі запазычаных з Польшчы імунітэтных грамат аднаго толькі саслоўя — шляхты. Гісторыкі не жадалі бачыць ролі народа, які сваімі выступленнямі ў 1386—1392, 1432, 1440 і іншых гадах аказваў націск на праватворчасць і правасвядомасць пануючага класа, а таксама прымушаў кіруючыя вярхі ўлічваць і яго інтарэсы, тым самым як бы нябачна прысутнічаючы пры выпрацоўцы найважнейшых заканадаўчых актаў. Таму ў кожным агульназемскім прывілеі ёсць нормы, якія прама ці ўскосна адрасаваны ўсяму насельніцтву дзяржавы. Гэты ўплыў

народа на заканадаўства яшчэ больш выразна праяўляецца ў абласных і гарадскіх прывілеях, якія знаходзіліся ў арганічнай сувязі з агульназемскімі прывілеямі.

### 3. Абласныя і валасныя граматы

Першыя абласныя граматы (прывілеі) у Вялікім княстве Літоўскім былі выдадзены Полацкай і Віцебскай землям у прамежку часу ад 1392 да 1399 г. Але неабходна мець на ўвазе, што значная частка нормаў, выкладзеных у гэтых дакументах, мае яшчэ больш старажытнае паходжанне.

Сапраўдныя першапачатковыя тэксты гэтых прывілеяў нам невядомы, але паколькі яны неаднаразова пацвярджаліся ў наступных граматах, у якіх даслоўна перапісваліся старажытныя тэксты, то аб іх змесце можна меркаваць па гэтых пацвярджальных граматах. Найбольш заслугоўваюць увагі наступныя абласныя прывілеі: Віцебскай зямлі (1503, 1509, 1561), Полацкай (1511, 1547, 1580, 1634), Смаленскай (1505), Жмудскай (1492, 1574), Драгічынскай (1511, 1547), Бельскаму павету (1501, 1547), Мсціслаўскаму павету (1551).

Самыя старажытныя нормы прывілеяў былі выпрацаваны на працягу доўгага часу, калі асобныя княствы выступалі як самастойныя дзяржавы, якія, прымаючы да сябе таго ці іншага князя, заключалі з ім дагавор (рад). У іх князі давалі абяцанне захоўваць правы жыхароў дадзенай зямлі, не парушаць нормаў мясцовага права. Да нас не дайшлі пісаныя тэксты дагаворных грамат Полацкага і Віцебскага княстваў, а ёсць толькі ўпамінанні аб такіх дагаворах, прысязе і цалаванні крыжа князем пры ўступленні на прастол.

Старажытныя нормы не былі створаны пры якімсьці адным князі, а выпрацоўваліся на працягу ўсяго перыяду існавання Полацкага або Віцебскага княстваў. Пасля ж страты імі сваёй самастойнасці скарацілася і самастойная праватворчасць, а раней выпрацаваныя прававыя нормы пераносіліся з аднаго акта ў другі, бо рад мог заключацца з князем толькі пры захаванні княствам сваёй незалежнасці. Норма права, выпрацаваная на працягу ўсёй гісторыі Полацкай або Віцебскай дзяржаў, затым уключалася ва ўсе наступныя граматы без істотных змен, але з далучэннем да іх новых прававых нормаў, што забяспечвалі і замацоўвалі аўтаномныя правы да-

дзенай зямлі, а таксама правы і ільготы класа феадалаў, багатых купцоў і рамеснікаў.

Змешчаныя ў Віцебскім і Полацкім прывілеях нормы дзяржаўнага права, якія замацоўвалі аўтаномныя правы гэтых земляў у складзе Вялікага княства Літоўскага, датычацца ў асноўным XIV і першай паловы XV ст., а затым пацвярджаліся ў XVI і XVII стст. Выдача абласных прывілеяў і іх пацвярджэнне мелі дзяржаўна-прававы характар, бо сама наяўнасць гэтых прывілеяў сведчыла аб асаблівым становішчы дадзенай зямлі ў дзяржаве, яе адасобленасці і непарыўнай цэласнасці.

Захаванне зямлі як адзінага цэлага і адасобленай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі з яе аўтаномнымі правамі было замацавана ў многіх палажэннях, запісаных у прывілеі. Напрыклад, было запісана: «а в заставу нам бояр и мещан Полоцких и поселских путников не посылати», «давати нам воеводу нашого Полочаном по их воли; а который будеть воевода наш нелюб им, и нам воеводу дати по их воли» [15]. Акрамя таго, пра зямлю як адзінае цэлае гаварылася і ва ўступных частках прывілеяў. «Били нам чолом бояре Полоцкие и мещане и весь город, вся земля Полоцкая» [16]. Дзяржаўна-прававая цэласнасць і адасобленасць асабліва выразна выказана ў наступным запісу Смаленскага прывілея: «А што Швитригайло отвернул был волости от Смоленска, тые волости зася его милость привернул к Смоленску; и што великий князь Витовт обернул было ко Мстиславли Смоленское волости Молоховскии люди, и тые люди его милость опять привернул к Молохве по старому; а тых волостей Смоленских никому не держати, нижьли бояром Смоленским же» [17].

Аўтаномны характар земляў, якія атрымалі прывілеі, выразна праяўляўся ў заканадаўчым замацаванні нормаў мясцовага звычаёвага права. Так, судзіць палачаніна трэба было толькі ў самім Полацку з удзелам палачан і па полацкаму праву. За баярамі і мяшчанамі гэтых земляў прызнавалася права свабоднага выезду з зямлі. «Теж Полочаном всим жити в Полоцку доброволь-но, покуль хто хочет; а будеть ли которому Полочанину от нас насильство, нам его силою не держати: ино ему путь чист, куда хто хочеть, без каждое зачепки; а во

---

[15] АЗР. Т. 2. С. 86—90.
[16] АЗР. Т. 2. С. 86—90.
[17] АЗР. Т. 1. С. 361.

всем именьи своем волен, идучи прочь продати, а любо которому приятелю своему приказати, в то нам не вступатися»[18]. Як відаць, і гэты запіс разглядае Полацкую зямлю як аўтаномную вобласць, насельніцтва якой карыстаецца асаблівымі правамі і ільготамі.

У абласных прывілеях значнае месца адводзілася забеспячэнню аховы маёмасных і асабістых правоў насельніцтва. Напрыклад, у Полацкім і Віцебскім прывілеях меўся запіс аб тым, што гасудар абяцаў не парушаць правоў уласнасці жыхароў дадзенай зямлі. У гэтых граматах звяртае на сябе ўвагу той факт, што насельніцтва ў цэлым шэрагу нормаў не падраздзяляецца на класы і саслоўі, а выступае як бы адзінай масай палачан, віцяблян, смальнян. Гэта можна растлумачыць тым, што такія нормы ўзніклі да ўтварэння ўстойлівага саслоўнага дзялення грамадства, г. зн. да XV ст. Параўноўваючы зместы агульназемскіх і абласных прывілеяў, можна адзначыць, што многія нормы іх утрымліваюць тоесныя правілы. Улічваючы, што нормы абласных прывілеяў носяць больш старажытны характар, можна з дастатковай падставай зрабіць вывад, што ў гэтай частцы агульназемскія прывілеі нічога новага не ўносілі, а толькі замацоўвалі ў законе мясцовае звычаёвае права.

Таму трэба таксама прызнаць неабгрунтаваным сцвярджэнне некаторых гісторыкаў аб запазычанні ў агульназемскіх прывілеях нормаў польскага права. Той факт, што ў шэрагу грамат робіцца спасылка на польскае права, можна растлумачыць тым, што ўрад, клапоцячыся аб распаўсюджванні каталіцызму, імкнуўся надаць каталіцкаму духавенству арэол носьбітаў законнасці і абаронцаў правоў насельніцтва. У гэтым асабліва былі зацікаўлены самі каталіцкія епіскапы і канонікі, якія, як правіла, прымалі ўдзел у рэдагаванні агульназемскіх прывілеяў і ўсімі сіламі імкнуліся паказаць, што ў каталіцкай Польшчы правы насельніцтва, асабліва класа феадалаў, больш шырокія, чым на Беларусі і ў Літве. Гэта прапагандысцкае сцвярджэнне ідэолагаў каталіцкай агрэсіі XV—XVI стст. многія гісторыкі прымалі за аксіёму і нават не рабілі спроб прааналізаваць гісторыю паходжання крыніц нормаў агульназемскіх прывілеяў. Параўнанне ж нормаў агульназемскіх і абласных прывілеяў дазваляе зрабіць выснову аб іх узаемнай сувязі і адзінстве паходжання іх крыніц з нормаў старажыт-

---

[18] АЗР. Т. 2. С. 89.

нага мясцовага звычаёвага права. Вядома, трэба мець на ўвазе, што пасля распаўсюджання каталіцызму магло мець некаторы ўплыў і замежнае права (рымскае, польскае, нямецкае), але ў аснове прывілеяў ляжала ўсё ж мясцовае звычаёвае права. Гэты вывад яшчэ больш пацвярджаецца з аналізу нормаў крымінальнага, грамадзянскага і працэсуальнага права, выкладзенага ў прывілеях.

У абласных прывілеях таксама ўпамінаюцца некаторыя мясцовыя органы кіравання і службовыя асобы, якія захоўваліся ў гэтых землях пасля іх уваходжання ў склад Вялікага княства Літоўскага. Такімі былі цівун, лоўчы, падвойскі, гараднічы і некаторыя іншыя. Таму абласныя прывілеі з'яўляюцца каштоўнай крыніцай і пры вывучэнні гісторыі мясцовых органаў дзяржаўнага кіравання. Значную каштоўнасць яны ўяўляюць і пры даследаванні сацыяльнай і саслоўнай структуры грамадства. Усё гэта дазваляе гаварыць аб навуковай значнасці абласных прывілеяў пры вывучэнні гісторыі грамадскага і палітычнага ладу Беларусі ў перыяд феадалізму.

Для вывучэння старажытнага быту сялян Беларусі, іх павіннасцей перад дзяржавай і мясцовай адміністрацыяй асаблівую цікавасць маюць граматы, выдадзеныя валасцям. Гаспадарскія лісты, статуты, выракі выдаваліся валасцям часцей за ўсё ў выніку чалабітнай скаргі насельніцтва на парушэнне даўніны і самавольства мясцовай адміністрацыі. Гэтыя акты па свайму зместу насілі розны характар. Адны з іх даволі падрабязна вызначалі памеры многіх павіннасцей насельніцтва — подаці грашыма, прадуктамі працы, палявання, промыслаў, розныя работы. Другія закраналі толькі адну або некалькі павіннасцей. Агульны аналіз гэтых актаў дазваляе ў значнай меры аднавіць характар эксплуатацыі працоўнага народа феадальнай дзяржавай у цэлым і асобнымі феадаламі. У валасныя граматы ўпісваліся як старадаўнія падаткі і павіннасці, якія несла насельніцтва на працягу многіх стагоддзяў — палюддзе, дзякла, куніца, серэбшчына, стацыі і інш., так і новыя.

З развіццём феадальных адносін і заняволеннем сялян старыя звычаі пастаянна парушаліся і ўводзіліся новыя падаткі і павіннасці. Асабліва разаральнымі для насельніцтва былі розныя паборы на карысць мясцовых службовых асоб, якія, імкнучыся да нажывы, даводзілі да галечы цэлыя вёскі і воласці. Урад, выдаючы валасныя граматы, у першую чаргу клапаціўся аб дзяржаўных даходах. Таму ў гэтыя граматы побач са старымі павін-

насцямі ўносіліся і новыя, чым узаконьвалася ўзмацненне эксплуатацыі працоўных.

Тэрыторыя, на якую распаўсюджвалася дзеянне таго ці іншага прывілея, не была аднолькавай. Так, прывілей ад 2 кастрычніка 1511 г. ахопліваў наступныя воласці: Крычава, Прапойска (цяпер Слаўгарад), Чачэрска, Горваля, Рэчыцы, Брагіна, Мазыра, Бчыча, Бабруйска, Свіслачы, Любашан, Усвяты, Азярышчаў, г. зн. ён распаўсюджваўся на тэрыторыі сучасных трох абласцей Беларусі: Гомельскай, Магілёўскай і Віцебскай. Іншыя ж прывілеі дзейнічалі толькі ў адной воласці. Дзеянне валасных прывілеяў не абмяжоўвалася тэрмінамі. Часцей за ўсё яны выдаваліся «до воли и ласки нашое господарское», інакш кажучы, да новай пастановы адміністрацыі. У тых выпадках, калі такога ўказання не было, меркавалася, што яны павінны дзейнічаць вечна. Змяняліся яны новымі прывілеямі або проста ігнараваліся мясцовымі службовымі асобамі, у сувязі з чым урад часам выдаваў паўторныя прывілеі.

Змест валасных прывілеяў у асноўным быў накіраваны на прававое замацаванне павіннасцей і некаторых правоў насельніцтва. Напрыклад, у Свіслацкім прывілеі 1540 г. акрамя павіннасцей насельніцтва указаны і іх наступныя правы: «А о дерево бортное и о бчолы мають ся они сами межи собою судити... а о межу дей потомуж суд... А в жадную дей сторожу их перед тым здавна не посылали... а ни в осад их до замку часу безпечного от неприятелей не гоняли... А хто коли з них умреть, тогды тот остаток на близких приходит. Теж вольно им всякое збожье и зверь мохнатый кому хотя продати, також мед пресный и быдло: врадники того им боронити не мають. А которые дей девки идут замуж межи своее волости, с тых куницы не беруть» [19].

У Магілёўскім прывілеі 1536 г. прадугледжаны былі гандлёвыя пошліны і льготы. У прывілеі, выдадзеным па скарзе жыхароў Усвяцкай воласці, гаварылася, што ў гэтай воласці ёсць старадаўні звычай, што яны самі старца паміж сабой выбіраюць.

Валасныя прывілеі цікавыя яшчэ і тым, што ў іх змяшчаюцца шматлікія водгаласы яшчэ больш старажытных прававых звычаяў. У гэтай сувязі заслугоўваюць увагі ўпамінанні пра куніцу, палюддзе і іншыя даніны. Так, палюддзе спаганялася ў Свіслацкай воласці

---

[19] АЗР. Т. 2. С. 367—368.

па паўтара гроша з дыма, у Чачэрскай па аднаму грошу, у Магілёўскай — палюддзе вызначалася агульнай сумай у 60 коп грошаў. Характэрна, што палюддзе ва ўсіх валасцях спаганялася грашыма, а не натурай.

Кароткі агляд абласных і валасных грамат дазваляе зрабіць вывад аб тым, што асноўнай крыніцай права, выкладзенага ў гэтых граматах, было мясцовае звычаёвае права.

## 4. Гарадскія граматы, прывілеі

Гісторыя гарадоў Беларусі датычыцца адной з найважнейшых праблем гісторыі беларускага народа. Само існаванне гарадоў сведчыць аб наяўнасці падзелу працы ў грамадстве, яго класавай дыферэнцыяцыі.

Час узнікнення гарадоў на тэрыторыі Беларусі дакладна не ўстаноўлены. Паводле звестак географа Баварскага, які пісаў у сярэдзіне IX ст., бужане мелі да таго часу 231 горад, свіране — 325, турычане — 104, пружане — 70, параўляне — 78 гарадоў. Пра лукамлянаў адзначалася, што яны мелі гарады, але колькасць іх не была ўказана [20].

На ранняй стадыі развіцця гарады ўяўлялі сабой невялікія ўмацаваныя паселішчы, якія служылі і адміністрацыйнымі цэнтрамі для дадзенай мясцовасці. У перыяд развіцця феадальных адносін адбываўся працэс іх узбуйнення, рост падзелу працы як унутры, так і паміж горадам і вёскай, аддзяленне яго ад вёскі, выдзяленне ў самастойныя адміністрацыйна-гаспадарчыя аб'яднанні з адасобленымі органамі кіравання і суда, са сваімі асаблівымі прававымі актамі.

Найбольш старажытныя нормы, якія датычаць правоў гарадскіх жыхароў (гараджан, месцічаў, мяшчан), захаваліся ў абласных прывілеях і гандлёвых дагаворах Полацка з Рыгай. Характэрна, што ў шэрагу нормаў мяшчане карысталіся аднолькавымі правамі з баярамі. Так, у Полацкім прывілеі 1511 г. гаворыцца: «А в заставу нам бояр и мещан Полоцких... не посылати». Падобная роўнасць правоў прадугледжана па атрыманню ў спадчыну, па праву выезду з Полацка і інш.

Выдзяленне гараджан у асобнае саслоўе атрымала адлюстраванне і ў замацаванні тэрміна «мяшчане». Гэты тэрмін атрымаў устойлівае распаўсюджанне ў другой

---

[20] *Шафарик П. Й.* Славянские древности. Т. 2, кн. 1. С. 192—229.

палове XV ст. У дагаворах Полацка з Рыгай запісана: «мы гараджане» (1330), «мы мужи полочане» (1407), у рашэнні 1486 г. ужо некалькі разоў называюцца мяшчане. Тэрмін «мяшчане» запісан і ў грамаце полацкіх мяшчан і баяр у Рыгу (1465). Усё гэта дазваляе зрабіць вывад аб тым, што ў сярэдзіне XV ст. склалася саслоўе мяшчан і ішоў хуткі працэс яго прававога афармлення.




Гарады з магдэбургскім правам

Першымі актамі, спецыяльна выдадзенымі толькі для гараджан, былі граматы (прывілеі) жыхарам Вільні (1387) і Бераста (1390). У іх гаварылася, што гараджанам дазваляецца судзіцца і вырашаць свае гарадскія справы па тэўтонскаму і майдэборскаму праву, і прадастаўляліся некаторыя ільготы.

На працягу XV і XVI стст. граматы на магдэбургскае права былі выдадзены ўсім буйным гарадам Беларусі. Мяшчане вызваляліся ад шэрагу феадальных павіннасцей, якія яны раней неслі сумесна з сялянамі дадзенай зямлі, воласці. Калі раней павіннасці вызначаліся нормамі звычаёвага права, то пасля аддзялення горада ад воласці пачалі рэгламентавацца ў прававых актах. А паколькі жыхары кожнага з іх неслі розныя павіннасці, то і граматы мелі індывідуальны характар.

Як вядома, у граматах змяшчаліся агульныя для многіх гарадоў прававыя нормы. Асабліва гэта датычыцца

грамат, выдадзеных мяшчанам найбольш буйных гарадоў: Вільні, Полацка, Менска, Бераста, Наваградка, Магілёва, Пінска, Віцебска. У іх указвалася, што выдаюцца яны для захавання ў памяці людской правоў і ільгот, якія накіраваны на паляпшэнне становішча гараджан і стварэння ўмоў для працвітання горада, а таксама для павелічэння даходаў дзяржаўнай казны. Клапоцячыся аб даходах дзяржаўнай казны, урад імкнуўся да таго, каб атрыманыя з насельніцтва розныя зборы не асядалі ў руках мясцовых службовых асоб — ваяводы, старасты, намеснікаў, дзяржаўцаў, а таму абмяжоўваў уладу гэтых асоб у адносінах да жыхароў гарадоў.

У грамаце на магдэбургскае права, выдадзенай жыхарам Віцебска ў 1597 г., указвалася, што яна выдаецца з такім разлікам, каб жыхары маглі лепш клапаціцца аб умацаванні горада. Такія асноўныя мэты выдачы гэтых грамат. Ва ўсіх граматах змяшчаліся ўказанні аб вызваленні гараджан ад улады і суда ваявод, стараст і іншых службовых асоб агульнага кіравання і аб перадачы ўладных паўнамоцтваў у рукі гарадскога войта, лент-войта, бурмістраў, радцаў (саветнікаў) і лаўнікаў (засядацеляў). Паўнамоцтвы войта і бурмістраў у розных гарадах не былі аднолькавымі. Так, у спецыяльна выдадзенай грамаце палачанам у 1499 г. ўказвалася, што войт можа судзіць усе справы, акрамя зямельных спрэчак, якія павінен разглядаць намеснік «са старшымі боярамі полацкімі, водлуг давного обычая».

Судом другой інстанцыі ў адносінах да войтаўскага суда ў некаторых гарадах аб'яўляўся суд вялікага князя і Рады, а ў іншых — замкавыя суды стараст і намеснікаў. Напрыклад, у Магілёўскай грамаце запісана, што на рашэнне войта можна падаць апеляцыйную скаргу вялікаму князю, а па Пінскай грамаце скаргу на рашэнне войта трэба было падаваць пінскаму старасце і толькі на яго рашэнне можна было апеляваць да вялікага князя.

У граматах прадугледжваліся пэўныя гандлёвыя ільготы для жыхароў дадзенага горада і абмежаванні для набочных. З гэтай мэтай у пэўныя дні ўстанаўліваліся кірмашы (да чатырох на год), якія маглі працягвацца па два тыдні, а таксама вызначаліся гандлёвыя дні кожнага тыдня. Мяшчане Вільні, Полацка і Трок вызваляліся ад уплаты мыта на тэрыторыі ўсяго Вялікага княства Літоўскага.

Гараджанам дазвалялася будаваць і атрымліваць

даходы з гасцінных дамоў, крамніц, важніц, ятак, васкабойняў, грамадскай лазні і іншых неабходных пабудоў, для чаго яны маглі браць бясплатна будаўнічыя матэрыялы ў дзяржаўных лясах і пушчах. Устанаўлівалася, што ўсе купцы, акрамя віленскіх, у чужых гарадах маглі весці ў звычайны час, акрамя кірмашоў, толькі аптовы гандаль. Вызначалася таксама мінімальная колькасць тавараў, што падлягала продажу чужым купцом.

Значнае месца ў граматах займалі розныя ільготы ў адбыванні феадальных павіннасцей, такіх, як падводная, вартаўнічая, адпрацоўкі і інш. Напрыклад, у Навагародскай грамаце гаварылася, што мяшчане абавязаны даваць падводы толькі вялікакняскім ганцам, уносіць у казну па 50 залатых, плаціць сярэбшчыну, ардыншчыну і іншыя грашовыя ўзносы, але не трэба было адбываць работы. У Пінскай грамаце ўказвалася, што мяшчане вызваляюцца ад абавязковых адпрацовак (талок і гвалтаў), акрамя неабходных работ у Пінскім замку.

У граматах прама або ўскосна прызнавалася права мяшчан валодаць і распараджацца землямі, якія належаць ім. Тым самым мяшчане-землеўладальнікі атрымлівалі такое ж права валодаць зямлёю, як баяры-шляхта, што яшчэ больш супрацьпастаўляла іх простым сялянам.

Першаступеннае значэнне ў граматах надавалася нормам, што ўстанаўлівалі парадак утварэння і кампетэнцыю гарадскіх органаў кіравання. У літаратуры часта гэтыя органы называюцца мясцовым «самакіраваннем». Трэба адзначыць, што такая назва носіць умоўны характар і не адпавядае зместу гэтага паняцця. Устанаўленне войтаўска-бурмістэрскай улады ў горадзе не вяло да сапраўднага самакіравання, а толькі змяняла яе форму. Замест улады і суда старасты або намесніка ўлада пераходзіла ў рукі войта, бурмістраў і радцаў.

У граматах таксама ўказвалася, што войт прызначаўся пажыццёва і яго ўлада ў горадзе не залежала ад насельніцтва і не абмяжоўвалася. Парадак выбрання бурмістраў у розных гарадах вырашаўся па-рознаму. Паводле Полацкай граматы 1498 г., войт выбіраў, г. зн. назначаў 20 радцаў з ліку гараджан, якія затым сумесна з ім «мають обрати, промежду себе, на каждый год, два бурмистры»[21]. З гэтага запісу добра відаць, што хоць гаворыцца аб выбары радцаў і бурмістраў, але на

[21] АЗР. Т. 1. С. 179—183.

самай справе размова ідзе аб іх прызначэнні войтам. Па Пінскай грамаце бурмістр прызначаўся старастам з чатырох кандыдатаў, якіх прадстаўлялі мяшчане. У Навагрудку войт разам з радцамі з шасці саміх радцаў выбіраў двух бурмістраў. Прыведзеныя прыклады наглядна сведчаць аб адсутнасці якой-небудзь залежнасці ўлады войта і бурмістраў ад асноўнай масы гарадскога насельніцтва, а таму няма дастатковых падстаў называць іх органамі гарадскога самакіравання.

Правы гараджан, структура і кампетэнцыя органаў кіравання з цягам часу мяняліся, выдаваліся новыя граматы, устанаўліваліся новыя парадкі. У шэрагу гарадоў мяшчане выкуплялі пасады войтаў і гэтыя пасады станавіліся выбарнымі, у іншых па-ранейшаму войты назначаліся. Адзінага закона аб органах кіравання і суда ў гарадах Вялікага княства Літоўскага працяглы час не было. Толькі законам ад 18 красавіка 1791 г. была зроблена спроба ўвесці аднастайныя правы для мяшчан усіх гарадоў і ўпарадкаваць суд. Гэты закон прызнаваў за ўсімі мяшчанамі права ўласнасці на землі і пабудовы. Устанаўлівалася адзіная падсутнасць спраў, якія мог разглядаць гарадскі магістрат. Меркавалася стварыць спецыяльныя апеляцыйныя суды, якія пераглядалі б рашэнні магістратаў і па першай інстанцыі вырашалі найбольш буйныя справы.

Пры вывучэнні грамат, выдадзеных гарадам на магдэбургскае права, звяртае на сябе ўвагу той факт, што ўсе яны гавораць аб увядзенні нямецкага права, але не змяшчаюць ніводнай яго нормы, не ўказваюць, якімі нямецкімі кодэксамі або зборнікамі трэба карыстацца. Няма ў граматах нормаў крымінальнай, грамадзянскай, сямейнай, зямельнай і іншых найбольш важных галін права, на аснове якіх складваліся праваадносіны і кіраваліся ў сваёй дзейнасці гарадскія органы. Азнаямленне з актамі гарадскіх магістратаў дазваляе меркаваць, што сапраўднае нямецкае права ў гарадах Вялікага княства Літоўскага насельніцтву не было вядома і за рэдкімі выключэннямі не прымянялася.

Падводзячы вынік разгляду гарадскіх грамат на майдэборскае права, можна з поўнай падставай сказаць, што ў іх змяшчаліся нормы мясцовага звычаёвага права (асабліва ў частцы ільгот і павіннасцей гараджан) і новыя нормы, выпрацаваныя ў працэсе выдзялення гараджан у асаблівае саслоўе феадальнага грамадства — мяшчан. Усё гэта дае падставу называць права не нямец-

кім, а гарадскім (мяшчанскім) правам Беларусі. Такі вывад становіцца яшчэ больш відавочным, калі ўлічыць прававыя нормы, што змяшчаліся і ў іншых граматах, якія атрымлівала насельніцтва гарадоў, абласцей і валасцей. На аснове мясцовага права будаваліся і ўсе гаспадарча-эканамічныя і маёмасныя адносіны, якія рэгуляваліся нормамі мясцовага пісанага і звычаёвага грамадзянскага, шлюбна-сямейнага і спадчыннага права.

## 5. Судзебнік 1468 г. Статуты Вялікага княства Літоўскага

У XV ст. судовыя справы разглядаліся не на падставе законаў, «юстыцыя кіравалася выключна звычаем і разважаннямі кожнай паасобку галавы і сумленнем, як здавалася кожнаму суддзі больш справядліва і правільна, і вельмі нястала»[22]. Так адзначаў стан судаводства вялікі князь літоўскі Жыгімонт I у грамаце 1522 г., хоць і да гэтага часу выдаваліся розныя граматы, якія павінны былі забяспечыць абарону правоў феадалаў і іншых груп насельніцтва, а таксама адзінства права для ўсёй дзяржавы.

Першая спроба ўсталяваць адзінства прававых норм на ўсёй тэрыторыі, абмежаваць самавольства суддзяў, а таксама ўзмацніць прававую ахову феадальнай маёмасці і ўвесці жорсткія меры пакарання злачынцаў была зроблена ў Судзебніку 1468 г. У гісторыка-прававой літаратуры выказваліся розныя думкі аб яго назве. У самім тэксце закона ён называецца «ліст», што ў тыя часы мела такое ж значэне, як і «грамата». Пры першай публікацыі ў 1826 г. І. Даніловіч назваў яго «Статут Казіміра», але гэтая назва ў рускай гістарычнай літаратуры не атрымала падтрымкі і ў сучаснай літаратуры гэты «ліст» называюць Судзебнікам Казіміра. Рукапісны тэкст Судзебніка не быў падзелены на артыкулы. Пры публікацыі яго падзялілі на 25 артыкулаў. Такое дзяленне прынята і ў сучаснай гістарычнай літаратуры.

Судзебнік быў зацверджаны вялікім князем на агульнадзяржаўным сойме 29 лютага 1468 г. пасля абмеркавання з князямі, панамі-радамі і «с всим поспольством». Ён, як і большасць заканадаўчых актаў Вялікага княства Літоўскага таго часу, быў напісаны на беларускай мове. У аснову яго было пакладзена мясцовае белару-

---

[22] Гісторыя Беларусі ў дакументах. С. 403.

скае звычаёвае права ў спалучэнні з новымі прававымі нормамі, выпрацаванымі судовай і адміністратыўнай практыкай, у адпаведнасці з новымі сацыяльна-эканамічнымі ўмовамі.

У арт. 1 звяртае на сябе ўвагу ўпершыню ўстаноўленая ў нашым заканадаўстве норма, якая забараняла перадаваць пацярпеламу дзяцей ва ўзросце да сямі гадоў, бацькі якіх былі вінаватыя ў крадзяжы і не мелі чым плаціць за шкоду. Арт. 5 і 6 абмяжоўвалі адказнасць жонкі і дарослых дзяцей злодзея, калі яны не ведалі аб злачынстве і не карысталіся крадзеным, бо па старажытнаму звычаёваму праву разам са злодзеем адказнасць несла ўся яго сям'я. Тым самым у Судзебніку атрымала замацаванне ідэя індывідуалізацыі пакарання.

Новым было ў законе вызначэнне злачынства як супроцьпраўнага дзеяння. Паводле старажытнага звычаёвага права, калі быў злоўлены злодзей з крадзенымі рэчамі (палічнае, ліцо), то такія рэчы ішлі ў даход суддзі (забіраліся ў двор), а пацярпеламу належала выплаціць у двайным памеры вартасць гэтых рэчаў з маёмасці злодзея і яго сям'і. У Судзебніку гэта правіла падверглася абмежаванню. Калі злачынец не меў чым плаціць, то суд павінен быў вярнуць палічнае пацярпеламу.

Узмацненне феадальнага прыгнёту і пазбаўленне залежных сялян (граматай 1447 г.) права вольнага адыходу ад феадала было замацавана ў арт. 24, якім прадугледжвалася пакаранне смерцю таго, хто дапамагаў сялянам або чэлядзі ўцякаць ад сваіх паноў. У гэтым артыкуле гаварылася: «А который будеть люди выводити, а любо челядъ невольную, а ухватять с лицом — того на шыбеніцу» [23].

У Судзебніку ўпершыню атрымала заканадаўчае замацаванне запалохванне як адна з асноўных мэт пакарання ў феадальным праве. Паводле звычаёвага права, злачынца, асуджаны да смяротнай кары, мог ад яе адкупіцца або быць перададзены ў няволю таму, хто пацярпеў, або яго блізкім. Судзебнік забараняў вызваляць злачынцу ад пакарання. «А над злодеем милости не надобе»,— сведчыў арт. 12. Заканчваўся Судзебнік прадпісаннем, якое абавязвала ўсіх жыхароў утрымліваць у належным парадку дарогі і масты. За парушэнне гэтай

---

[23] БЭФ. Т. 1. С. 130.

павіннасці накладалася кара ў 10 руб., г. зн. у 1000 грошаў.

Выданнем Судзебніка быў пакладзены пачатак новаму этапу ў развіцці прававой тэорыі, практыцы заканадаўчай дзейнасці дзяржаўных органаў, новых прынцыпаў сістэматызацыі і кадыфікацыі феадальнага права, якое завяршылася выданнем Статутаў Вялікага княства Літоўскага.


Вялікі князь Жыгімонт I

Праца па падрыхтоўцы першага Статута Вялікага княства Літоўскага вялася на працягу некалькіх гадоў у першай чвэрці XVI ст. Да 1522 г. быў падрыхтаваны праект Статута, але яго не зацвердзілі і праца па яго складанню працягвалася. Толькі 29 верасня 1529 г. ён быў уведзены ў дзеянне.

Хто ўдзельнічаў у падрыхтоўцы першага Статута, цяпер устанавіць немагчыма. З вядомых вучоных-юрыстаў, што жылі ў той час у Вільні, дзе вялася асноўная работа па яго складанню, можна назваць толькі аднаго — беларускага вучонага-гуманіста Францыска Скарыну, які стварыў у той час першую ва Усходняй Еўропе друкарню і пачаў выдаваць кнігі на беларускай мове.

Францыск Скарына меў ступень доктара медыцыны і доктара свабодных навук, у тым ліку і доктара права, а значыць, меў самую высокую для таго часу юрыдычную адукацыю, і вельмі верагодна, што ён удзельнічаў у падрыхтоўцы праекта Статута. З работ, якія апублікаваў Скарына, відаць, што ён ведаў мясцовае звычаёвае беларускае права, гісторыю рымскага права і права іншых дзяржаў. Супастаўляючы некаторыя нормы Статута з прававымі поглядамі Скарыны, можна сказаць, што шмат ідэй, выказаных ім, былі скарыстаны ў Статуце, што дае падставу меркаваць аб удзеле Скарыны ў падрыхтоўцы праекта Статута. Гэтае меркаванне пацвярджаецца яшчэ і тым, што ўрад меў намер выдаць Статут друкарскім спосабам.

Аналіз нормаў Статута паказвае, што за асноўную крыніцу яго было ўзята звычаёвае права беларускіх земляў, якія складалі цэнтр Вялікага княства Літоўскага, а таксама нормы пісанага права, што былі ў раней выдадзеных прывілеях. У Статуце былі запісаны асноўныя прававыя ідэі таго часу, адлюстравана праваўсведамленне насельніцтва і яскрава праявілася воля пануючага класа, накіраваная на ўстанаўленне і замацаванне парадкаў, выгадных і пажаданых феадалам.

Пры распрацоўцы Статута ўпершыню былі вырашаны вельмі складаныя тэарэтычныя і практычныя пытанні, такія, як размежаванне нормаў права паміж асобнымі галінамі, размяшчэнне іх у пэўнай сістэме. Было ўведзена шмат новых палажэнняў, раней невядомых праву Вялікага княства Літоўскага. Калі ўлічыць, што падобных сістэматызаваных збораў мясцовых законаў у той час не было ні ў адной з еўрапейскіх дзяржаў, дык яшчэ больш зразумелыя будуць цяжкасці, якія ўзнікалі пры падрыхтоўцы Статута, і больш відавочныя заслугі яго складальнікаў.

Паводле свайго зместу, Статут 1529 г. не быў кодэксам (як яго памылкова называюць многія гісторыкі), бо кодэкс — гэта заканадаўчы акт, у якім сістэматызавана выкладзены нормы права, што належаць да якойнебудзь адной яго галіны. У Статуце ж сабраны і размешчаны ў пэўным парадку нормы дзяржаўнага, зямельнага, адміністрацыйнага, грамадзянскага, сямейнага, крымінальнага, працэсуальнага і іншых галін права, што ўласціва збору законаў. Складзі ж яго нават у наш час куды цяжэй, чым асобны кодэкс па якой-небудзь адной галіне права.

Статут 1529 г. складаецца з 13 раздзелаў, якія ў сваю чаргу падраздзяляюцца на артыкулы. Першапачаткова ў Статуце было 244 або 245 артыкулаў, затым у 30-х гг. XVI ст. ён быў дапоўнены, у выніку чаго колькасць артыкулаў павялічылася да 283, а па Слуцкаму спісу да 278. Розніца ў колькасці артыкулаў тлумачыцца тым, што афіцыйны тэкст Статута не быў надрукаваны і не ва ўсе спісы яго былі своечасова ўнесены дапаўненні.

Пад уплывам ідэй гуманізму ў Статут 1529 г. былі ўпершыню ўнесены нормы, якія некалькі абмяжоўвалі самавольства магнатаў, абвяшчалася правіла, згодна з якім людзі, як убогія, так і багатыя, павінны былі судзіцца згодна з гэтым Статутам. Вялікі князь абавязваў-

ся захоўваць тэрытарыяльную цэласнасць дзяржавы, не дапускаць іншаземцаў на дзяржаўныя пасады, не даваць ім маёнткаў, земляў, чыноў, захоўваць існуючыя законы і выдаваць новыя толькі з панамі-радамі. Больш дакладным павінна было стаць судаводства, абмяжоўваліся судовыя пошліны, рэгламентаваўся ўдзел адвакатаў у працэсе.

Гаворачы пра станоўчае ў Статуце, трэба адзначыць, што з пункту гледжання юрыдычнай тэхнікі ў ім можна знайсці шэраг недахопаў — нормы крымінальнага права размешчаны ў некалькіх раздзелах, не вылучаны ў асобныя раздзелы нормы грамадзянскага права і г. д. Але трэба мець на ўвазе, што ў пачатку XVI ст. ні ў тэорыі, ні ў практыцы не было выразнага размежавання права на асобныя галіны і складальнікі не зрабілі ніякага парушэння, змясціўшы ў першыя раздзелы Статута нормы, якія вызначалі характар зямельных праваадносін, правы і абавязкі класа феадалаў, некаторыя нормы крымінальнага і грамадзянскага права.

Статут 1529 г. мае важнае значэнне і як помнік культуры і мовы беларускага народа. Напісаны на беларускай мове, ён дае магчымасць паўней вывучыць літаратурны стыль, лексіку і лад дзяржаўна-прававой тэрміналогіі і мовы таго часу. Выданне Статута было велізарным якасным скачком у справе кадыфікацыі і сістэматызацыі заканадаўства. Разам з тым Статут з'явіўся трывалай асновай для далейшага развіцця заканадаўства, ён быў галоўнай крыніцай, асновай пры падрыхтоўцы Статута 1566 г.

Новыя сацыяльна-эканамічныя змены ў княстве ўжо ў сярэдзіне XVI ст. патрабавалі і змен у заканадаўстве. Рост і павелічэнне феадальнай уласнасці ўзмацнялі феадальны прыгнёт, абеззямельванне сялянства (ствараліся фальваркі, павялічваліся панскія ўгоддзі). У палітычным жыцці аслаблялася роля знатнай арыстакратыі і ўзмацнялася значэнне «новых» буйных феадалаў, такіх, як Радзівілы, Сапегі, Хадкевічы, Кішкі, Пацы і інш.

Змены, якія адбываліся ў сацыяльна-палітычным жыцці ў 40—50-х гг., патрабавалі ўдасканалення права.

Недахопы права адчуваў і сам урад, таму ён неаднойчы спрабаваў абнавіць заканадаўства. Найбольш істотныя захады па падрыхтоўцы праекта новага Статута былі ўжыты ў 1551 г., калі была створана адпаведная камісія. Меркавалася, што камісія будзе складацца з дзесяці чалавек — пяці католікаў і пяці праваслаўных,



Вялікая княгіня Барбара Радзівіл

але дакладна сказаць, які сапраўды быў яе састаў, нельга. З тэксту Бельскага прывілею 1564 г. бачна, што ў камісію па падрыхтоўцы праекта ўваходзілі і другія асобы. Так, у прывілеі гаворыцца: «...Обраны на то были через них же самых и с посродку тых же станов особы певные, рады наши, маршалкове, врядники земские, хоружие и иные особы ряду и народу шляхетского и доктори прав чужоземских» [24].

Адсюль можна зрабіць вывад, што ў склад камісіі ўваходзілі таксама маршалкі, харужыя, «иные особы народу шляхетского» и «доктори прав чужоземских». У складанні праекта Статута, вядома, удзельнічалі і іншыя асобы, якія афіцыйна не ўваходзілі ў камісію. Значную работу правялі ўдзельнікі соймаў і службовыя асобы органаў дзяржаўнага кіравання. Яны выконвалі і ўсе арганізацыйныя справы.

Той факт, што праект Статута абмяркоўваўся на соймах пачынаючы з 1561 г., сведчыць аб актыўным удзеле шляхты ў яго падрыхтоўцы. Канчаткова Статут быў ухвалены на Бельскім сойме 1564 г. Упачатку меркавалі ўвесці новы Статут у дзеянне з 11 лістапада 1564 г., але справа зацягнулася і ён пачаў дзейнічаць з 1 сакавіка 1566 г. Выдадзены ён быў з дадаткам да яго прывілеяў 1563, 1564 і 1565 гг.

Статут падзяляўся на раздзелы і артыкулы. Усяго было 14 раздзелаў. У першым сабраны артыкулы, што абвяшчаюць асноўныя прынцыпы права Вялікага княства, а таксама нормы, што належаць да дзяржаўнага права і дзяржаўных злачынстваў. У другім раздзеле змешчаны нормы, якія рэгулююць абарону земскую. У трэцім выкладзены правы шляхты, і, ў прыватнасці, арт. 12 абавязвае вялікага князя не прымаць новых за-

[24] Статут Великого князьства Литовского 1566 года. М., 1855. С. 6.

конаў без сойма. У чацвёртым гаворыцца пра суддзяў і суды, асноўныя нормы працэсуальнага права; у пятым — нормы шлюбна-сямейнага права; у шостым — аб апеках; у сёмым — аб запісах і продажах, г. зн. аб праве адчужэння маёнткаў пад умовай закладу і продажу; у восьмым — аб тэстаментах; у дзевятым — аб зямельных спрэчках; у дзесятым — аб лясных промыслах. У адзінаццатым, дванаццатым, трынаццатым, чатырнаццатым раздзелах выкладзены нормы крымінальнага права — аб гвалтоўніцтвах і злачынствах супраць шляхты, аб злачынствах супраць простых людзей, аб маёмасных злачынствах і іншых злачынствах, у прыватнасці аб вывадзе феадальна-залежных сялян або чэлядзі нявольнай.

Да найбольш важных нормаў, выкладзеных у Статуце, належаць нормы дзяржаўнага права, што вызначылі склад тэрыторыі дзяржавы, парадак утварэння і дзейнасць дзяржаўных органаў, правы і прывілеі пануючага класа.

Тэрыторыя дзяржавы ў час выдання Статута 1566 г. ў адміністрацыйна-прававых адносінах падзялялася на дзве часткі: цэнтральную (не ў геаграфічным, а ў дзяржаўна-прававым сэнсе) і землі, «прыслухоўваючыя да таго панства». Цэнтральная частка дзяржавы ў помніках права называлася Вялікім княствам Літоўскім, таксама як і ўся дзяржава цалкам, ці проста Літвой. У яе ўваходзілі наступныя княствы і паветы: Берасцейскі, Браслаўскі, Віленскі, Вількамірскі, Валкавыскі, Гародненскі, Кобрынскі, Клецкі, Ковенскі, Лідскі, Менскі, Мсціслаўскі, Наваградскі, Ашмянскі, Пінскі, Рэчыцкі, Слонімскі, Слуцкі, Трокскі і Упіцкі. З гэтага пераліку відаць, што асноўную частку тэрыторыі цэнтральнай часткі, ці Літвы, складалі беларускія землі. У землі «прыслухоўваючыя» ўваходзілі Віцебская, Валынская, Жмудская (паўночна-заходняя частка этнаграфічнай Літвы), Кіеўская, Полацкая, Падляшская (заходняя частка Беларусі з гарадамі Бельскам, Мельнікам і Драгічынам на Бугу) і Падолле.

Дамінуючае становішча ў дзяржаве займалі цэнтральныя землі. На іх была найбольшая колькасць велікакняскіх маёнткаў, найбольш тут было і маёнткаў буйных уплывовых феадалаў: Радзівілаў, Гальшанскіх, Слуцкіх, Друцкіх, Сапег, Глебавічаў, Глінскіх, Хадкевічаў, Кішак і інш. Гэтая тэрыторыя была параўнаўча густа заселена, адсюль збіралася асноўная частка арміі, з насельніцтва гэтых земляў браліся і галоўныя сродкі

ў дзяржаўную казну. Феадалы гэтых земляў займалі пануючае становішча ў дзяржаве, у іхніх руках былі найбольш важныя органы дзяржаўнага кіраўніцтва і дзяржаўнай улады.

У буржуазнай літаратуры феадалы гэтых земляў называліся «літоўскімі» (ад назвы цэнтральнай часткі дзяржавы, а не паводле этнаграфічнай прыналежнасці), і некаторыя гісторыкі спрабавалі гісторыю Беларусі гэтага перыяду паказаць так, нібы беларускі народ прыгняталі не беларускія феадалы, а «чужыя» — літоўскія. Беларускі ж народ яны паказвалі як бяскласавы, з адных толькі сялян, таму адмаўлялі і класавую барацьбу сярод беларусаў. Памылковасць і шкоднасць такога пункту гледжання даказалі шмат савецкіх вучоных, і перш за ўсё У. І. Пічэта.

Класавае і саслоўнае дзяленне грамадства ў XVI ст. яскрава праявілася і ў помніках права, перш за ўсё ў Статутах. Адзін з ідэолагаў беларускіх феадалаў Леў Іванавіч Сапега пісаў: «...владзу і вольность у руках своих маем, а права сами собе творачы яко найбольшей можем волности своее во всем постерегаем, бо не только сусед а сполный наш обыватель в отчизне, але и сам господар пан наш жадное звирхности над нами заживати не можеть, одно только колько ему право допущаеть»[25].

Словы Сапегі аб тым, што самі феадалы твораць пажаданае ім права і што нават вялікі князь абавязаны падпарадкавацца іх волі, не былі пустым выхваленнем, яны адлюстроўвалі сапраўдныя суадносіны класавых сіл у дзяржаве. У адпаведнасці з воляй феадалаў быў выдадзены і Статут 1566 г.

Паколькі асноўную частку ядра дзяржавы складалі беларускія землі, беларуская мова была прызнана за дзяржаўную на ўсёй тэрыторыі княства, а нормы права, пажаданыя і выгадныя беларускім феадалам, зрабіліся абавязковымі для ўсіх.

У арт. 2 раздз. 3 абвяшчалася захаванне ўсіх ільгот і прывілеяў, атрыманых шляхтай у ранейшыя часы. Важнае значэнне мелі нормы, што рэгулявалі парадак прыняцця новых законаў. Так, у арт. 2 раздз. 2 гаварылася, што гаспадар ні сам, ні сумесна з Радай не праваможны вырашаць пытанні аб вайне і падатках. Іх мог вырашаць толькі сойм. Потым у гэтым жа артыкуле вызначаўся і склад сойма. У арт. 1 раздз. 3 гаспадар даваў

---

[25] Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г. Мн., 1989. С. 47.

абяцанне захоўваць Вялікае княства Літоўскае ва ўсёй яго славе, уладзе і «в границах ни в чом не вменшати и о вшем примножати». А ў арт. 3 таго ж раздзела ён яшчэ абяцаў: «...Добра князства Литовского не уменшым и то, што будеть через неприятелей того панства нашого отдалено разобрано и ку иншому панству от того панства нашого коли кольвек упрошоно, ку Короне ку Мазовшу ку Прусам ку Ифлянтом, то за се ку власности того Великого князства привести привлащати и границы оправити обецуем».

Трэба сказаць, што для Жыгімонта Аўгуста гэтае абяцанне было пустым гукам, бо пасля ён парушыў не толькі яго, але і сваю ўрачыстую прысягу, якую даваў, уступаючы на прастол, аб захаванні Вялікага княства Літоўскага ў цэласці.

Аналізуючы гэты артыкул, бачым, што сярод непрыяцеляў Вялікага княства Літоўскага пералічваюцца Польшча (Карона) і польская вобласць Мазоўша.

У арт. 9 раздз. 3 далей развіта норма аб тым, што «достойностей духовных и свецких, городов, дворов и кгрунтов, староств в держаньи и пожываньи и вечностей жадных чужоземцом и заграничником ани суседом таго панства давати не маем». Тым самым больш поўна і ясна была паўторана норма, раней выкладзеная ў Статуце 1529 г., якая забараняла даваць маёнткі і пасады «чужаземцам» і суседзям Вялікага княства Літоўскага. Вядома, гэтыя артыкулы былі ўнесены ў Статут 1566 г. насуперак волі польскіх феадалаў і самога караля, які ўсімі сіламі імкнуўся да ліквідацыі самастойнага існавання княства Літоўскага. Гэтая накіраванасць норм Статута супраць захопніцкіх тэндэнцый польскіх феадалаў — сведчанне памылковасці тэзіса буржуазных гісторыкаў, якія сцвярджалі, нібыта дробная і сярэдняя шляхта Вялікага княства Літоўскага імкнулася да уніі з Польшчай і тым самым да ўключэння Вялікага княства Літоўскага ў склад Польшчы.

У Статут увайшлі некаторыя ўстарэлыя нормы, якія не адпавядалі новым эканамічным і палітычным адносінам. Яны былі своеасаблівай данінай мінуўшчыне, таму адразу ж пасля ўвядзення Статута ў дзеянне давялося ўносіць у яго некаторыя змены. Так, ужо ў чэрвені 1566 г. быў зменены арт. 1 раздз. 7. Паводле старой рэдакцыі гэтага артыкула права землеўладальніка-шляхціца распараджацца сваімі маёнткамі было абмежавана ў адносінах спадчынных (фамільных) маёнткаў. Уладальнік

такога маёнтка меў права адчужаць, мінаючы сваіх родзічаў, толькі адну трэцюю частку сваіх маёнткаў, астатнія ж дзве трэція часткі можна было перадаць у заклад за суму, што не перавышала іх кошту, з правам выкупіць родзічам. Згодна ж з новай рэдакцыяй землеўладальнікі атрымалі поўнае права вольна распараджацца сваімі маёнткамі.

Наяўнасць некаторых архаічных нормаў у першапачатковай рэдакцыі Статута 1566 г. ніколькі не зніжала значэння гэтага гістарычнага помніка права.

Канстытуцыйныя нормы Статута былі накіраваны на абарону інтарэсаў буйных феадалаў, гарантавалі ім правы і перавагі ў прыгнятанні і эксплуатацыі працоўных, садзейнічалі ўмацаванню становішча феадалаў Вялікага княства ў адносінах з феадаламі Польшчы, якія ўвесь час імкнуліся захапіць беларускія і ўкраінскія землі.

Пасля прыняцця Статута 1566 г. кадыфікацыя і сістэматызацыя ўласнага заканадаўства, заснаванага на звычаёвым праве, нашмат апярэдзіла падобную работу ў іншых феадальных дзяржавах. Гэта таксама сведчыць, што ў Вялікім княстве Літоўскім у той час грамадскія адносіны стаялі на даволі высокім узроўні і былі юрысты, падрыхтаваныя тэарэтычна і практычна, каб адлюстраваць і замацаваць гэтыя адносіны ў заканадаўстве, стварыўшы другі Збор законаў.

Вялікія сацыяльныя і палітычныя змены, выкліканыя правядзеннем у жыццё аграрнай рэформы 1557 г. і далучэннем беларускага Падляшша і Украіны да Польшчы, ажыццёўленым паводле незаконнага распараджэння вялікага князя літоўскага і караля польскага Жыгімонта Аўгуста, а потым прымусовае падпісанне акта Люблінскай уніі 1 ліпеня 1569 г. выклікалі неабходнасць унесці новыя змены ў заканадаўства Вялікага княства Літоўскага. Дзеля гэтага ў 1569 г. была створана камісія, якая павінна была прывесці яго ў адпаведнасць з актам Люблінскай уніі і канчаткова афарміць ліквідацыю княства як дзяржавы. Аднак гэтая камісія ніякіх слядоў работы не пакінула.

Пасля смерці караля Жыгімонта Аўгуста ў 1572 г. артыкулы акта Люблінскай уніі, накіраваныя на ліквідацыю Вялікага княства Літоўскага, былі фактычна забыты і не выконваліся. Гэтая дзяржава заставалася самастойнай, звязанай з Польшчай толькі тым, што быў адзін кароль і агульны сойм. У Вялікім княстве былі захаваны

асобны ўрад, асобная армія і асобнае заканадаўства. Таму гэты ўрад і не лічыў патрэбным узгадняць нормы Статута з польскім правам адпаведна з пастановай Люблінскага сойма.

Пасля смерці Жыгімонта Аўгуста ўзаемаадносіны паміж феадаламі Польшчы і Вялікага княства Літоўскага былі настолькі непрыязныя, што нават не выключалася магчымасць разрыву саюзу з Польшчай. Таму польскія феадалы, далучыўшы да Польшчы Украіну і Падляшша, былі згодны ў той час з новым тлумачэннем акта Люблінскай уніі як саюзам дзвюх раўнапраўных дзяржаў. Вядома, пры такім становішчы адпала і неабходнасць змяняць канстытуцыйныя нормы Статута. Тое ж, што камісія не пакінула ніякіх слядоў работы, можа сведчыць толькі аб тым, што і сама камісія пасля 1572 г. перастала існаваць.

Разам з тым вядома, што ў 1574 і 1578 гг. у Статут уносіліся змены і дадаткі згодна з пажаданнямі феадалаў Беларусі і Літвы, насуперак патрабаванням польскіх феадалаў. Яны не датычылі норм канстытуцыйнага права, а толькі судовага, крымінальнага і грамадзянскага.

У сувязі з барацьбой феадалаў Беларусі і Літвы супраць зліцця з Польшчай вялікае значэнне надавалася захаванню свайго самастойнага права. Таму амаль на ўсіх соймах Вялікага княства Літоўскага абмяркоўваліся пытанні паляпшэння заканадаўства. Так, у 1579—1580 гг. быў падрыхтаваны і ў 1581 г. прыняты закон аб утварэнні Галоўнага суда — Галоўнага трыбунала. У гэты ж час пачалася работа па падрыхтоўцы новага праекта Статута.

Статут 1588 г. заканадаўча аформіў захаванне Вялікага княства Літоўскага як дзяржавы насуперак акту Люблінскай уніі. У гэтым галоўнае значэнне яго дзяржаўна-прававых норм. Складальнікі Статута не ўнеслі ў яго ніводнай нормы, якая б магла быць скарыстана на шкоду дзяржаўнай самастойнасці. Нормы дзяржаўнага права са Статута 1566 г. былі поўнасцю перанесены ў Статут 1588 г., яны былі толькі крыху ўдакладнены і дапоўнены. Складальнікі новага Статута нібы не заўважылі ці не зразумелі акта Люблінскай уніі аб уключэнні Вялікага княства ў склад Польшчы. І такія адносіны да рашэння Люблінскага сойма 1569 г.— яскравае сведчанне таго, што шляхта княства, якая ўдзельнічала ў рабоце соймаў, варожа ставілася да зліцця з Польшчай. Шляхта хацела толькі такога злучэння, пры якім Вя-



Леў Сапега

лікае княства Літоўскае заставалася б самастойным, г. зн. згодна была на цесны саюз дзвюх раўнапраўных дзяржаў, а не на ліквідацыю апошняга.

Статут 1588 г. быў падрыхтаваны ў час панавання вялікага князя і караля Стэфана Баторыя (1576—1586) на высокім тэарэтычным узроўні кваліфікаванымі правазнаўцамі, працай якіх кіравалі А. Б. Валовіч і Л. І. Сапега. Яны займалі ў той час адпаведна пасады канцлера і падканцлера Вялікага княства Літоўскага.

Сістэма Статута была складзена так разумна, што ў яго былі ўключаны нормы дзяржаўнага (канстытуцыйнага) права, чаго ў той час не было ні ў адной еўрапейскай дзяржаве,— адміністрацыйнага, ваеннага, судова-працэсуальнага, шлюбна-сямейнага і апякунскага, грамадзянскага, спадчыннага, зямельнага, ляснога і паляўнічага, крымінальнага.

У гэтым заканадаўчым акце адлюстраваліся дзяржаўна-прававыя ідэі таго часу і нават тыя, што апярэджвалі час, праявілася багатая прававая культура беларускага народа, бо складзены ён быў на беларускай мове і прававая лексіка была пакладзена ў яго аснову. Мовай Статута ганарыліся яго сучаснікі. Леў Іванавіч Сапега пісаў: «Так кождый обыватель годен ест наганенья, который вольностью се фалить и прав своих умети и розумети не хочеть, которым правом усю вольность свою обварованую маеть. А если которому народу встыд прав своих не умети, поготовю нам, которые необчым яким языком, але своим власным права списаные маем и кождого часу, чого нам потреба ку отпору всякое кривды, ведати можем» [26].

Зацвярджэнне Статута адбылося пры незвычайных

[26] Статут 1588 г. С. 47—48.

абставінах. Пасля смерці караля і вялікага князя Стэфана Баторыя, які памёр 12 снежня 1586 г., кандыдатамі на прастол у Рэчы Паспалітай былі рускі цар Фёдар Іаанавіч, якога падтрымлівалі праваслаўная шляхта Беларусі і Украіны, шведскі каралевіч Жыгімонт Ваза, за якога стаяла каталіцкае духавенства і значная частка феадалаў-католікаў, аўстрыйскі эрцгерцаг Максіміліян. Але рускі цар хутка адмовіўся ад вылучэння сваёй кандыдатуры на трон, і галоўная барацьба разгарнулася паміж прыхільнікамі Жыгімонта Вазы і Максіміліяна. Прадстаўнікі Вялікага княства, скарыстаўшы гэтую барацьбу і першымі даведаўшыся аб перамозе прыхільнікаў Жыгімонта, прапанавалі сваю падтрымку, калі ён зацвердзіць Статут, на што Жыгімонт згадзіўся. 28 студзеня 1588 г., не ведаючы яшчэ аб перамозе сваіх прыхільнікаў, Жыгімонт сваёй граматай зацвердзіў Статут і абавязаўся «права вольности и свободы их не только цело и непорушно держати, але што бы наболей примножати, справедливость и оборону чынити. Статут Великого князьства Литовского новоправленый сим привильем нашим ствержаем и всим станом Великого князьства Литовского ку уживанью на вси потомные часы выдаем. Водле которого вже якосмы сами, господар, так и вси станы, обыватели Великого князьства Литовского, заховатися маем»[27]. Гэтай жа граматай Статут уводзіўся ў дзеянне з 6 студзеня 1589 г. А для таго, каб хутчэй можна было ім карыстацца, было загадана яго «письмом польским и руским друковати» з прыкладаннем да яго агульнадзяржаўных прывілеяў.

Аднак Статут быў выдадзены без грамат, бо, на думку Льва Сапегі, не ўсе яны былі на карысць Вялікаму княству, у адных добрым быў пачатак, а сярэдзіна кепская, у другіх сярэдзіна добрая, а пачатак або канец дрэнныя.

Сістэматызацыя права, на аснове якой ствараўся Статут 1588 г., рабілася на новых прынцыпах, уласцівых для пераходнай эпохі ад сярэдневякоўя да новага часу і зараджэння буржуазных адносін: абмежаванне ўлады гасудара; намячалася раздзяленне ўлад, з-за чаго заканадаўчая замацоўвалася за соймам, выканаўчая — за вялікім князем і Радай, судовая — за вялікакняскім і галоўным судамі, а таксама за мясцовымі судамі; абвяшчэнне неабходнасці прытрымлівацца дзяржаўнага суве-

---

[27] Статут 1588 г. С. 43.

рэнітэту насуперак сярэдневяковаму царкоўнаму касмапалітызму, адзінства права для ўсёй дзяржавы і ўсіх паўнапраўных людзей.

Прызнанне розных ільгот і прывілей для пануючых саслоўяў і асобных груп феадалаў падрывала агульны прынцып адзінства права. Гэтыя прывілеі — не выключэнне, яны былі састаўной часткай усяго феадальнага права, хоць і не адпавядалі новым прынцыпам, у чым і заключалася ўнутраная супярэчнасць феадальнай сістэмы права. Побач з тыпова феадальнымі нормамі права ў Статут 1588 г. былі ўключаны і некаторыя нормы, народжаныя распаўсюджаннем ідэй Рэфармацыі і гуманізму.

Праз увесь Статут праводзіцца ідэя ўмацавання прававога парадку, пры якім усе дзяржаўныя органы і службовыя асобы абавязаны дзейнічаць толькі ў адпаведнасці з законам. Ідэя прававога парадку была накіравана найперш супраць дэспатызму гасудара, буйных феадалаў і сярэдневяковай тэакратычнай тэорыі паходжання і сутнасці дзяржавы. Адлюстравалася яна ў многіх артыкулах Статута, а таксама была выкладзена Л. Сапегам у яго прысвячэннях Жыгімонту III і ўсім саслоўям Вялікага княства Літоўскага. Ён пісаў: «... Для того права суть постановлены, абы можному і потужному не все было вольно чынити. Яко Цыцеро поведил, иж естесмо невольниками прав для того, абысьмы вольности уживати могли» [28].

Абвяшчэнне ідэі верхавенства права ў перыяд феадалізму сведчыла аб зараджэнні новай дзяржаўна-прававой тэорыі, якая найбольш поўна праявілася ў нормах дзяржаўнага права.

---

[28] Статут 1588 г. С. 47.

# ГАЛОЎНЫЯ РЫСЫ БЕЛАРУСКАГА ФЕАДАЛЬНАГА ПРАВА

## 1. Дзяржаўнае і ваеннае права

Дзяржаўнае права, якое дзейнічала на Беларусі ў XV—XVII стст., было добра распрацаваным у граматах і статутах і забяспечвала грамадскі і дзяржаўны лад, суверэнітэт дзяржавы, асноўныя правы і абавязкі грамадзян, замацоўвала асноўныя прынцыпы ўсёй прававой сістэмы, у ім атрымалі адлюстраванне ідэі Рэфармацыі і гуманізму.

У нормах дзяржаўнага права, выкладзенага ў Статуце 1588 г., быў замацаваны феадальны грамадскі лад і разам з тым утрымліваліся нормы, якія рэгулявалі новае буржуазнае права. Так, у Статуце абвяшчаецца фармальная роўнасць усіх перад законам, усе павінны судзіцца «тым одным правом писаным» (раздз. 1, арт. 1), хоць сам закон не быў роўны для ўсіх. Напрыклад, простым людзям — нешляхціцам — забаранялася даваць больш ці менш значныя пасады ў дзяржаўным апараце (раздз. 3, арт. 18). Яны не дапускаліся на соймы. Іх удзел у палітычным жыцці абмяжоўваўся толькі мясцовымі валаснымі справамі, хоць у Статуце і гаворыцца, што ўсе простыя людзі нароўні з феадаламі ўдзельнічаюць у выбранні гасудара (раздз. 3, арт. 2).

Да часу выдання Статута тэрыторыя Вялікага княства Літоўскага дзялілася на ваяводствы Берасцейскае, Віленскае, Віцебскае, Менскае, Мсціслаўскае, Навагрудскае, Полацкае, Трокскае і зямлю Жмудзкую. У іх састаў уваходзілі 22 паветы, 18 з якіх былі беларускімі (раздз. 3, арт. 7).

Адасобленасць Вялікага княства Літоўскага ад Польшчы была юрыдычна замацавана ў Статуце 1588 г. Яго

складальнікі не ўнеслі ніводнага артыкула, які б мог ушчаміць суверэнітэт княства. Больш таго, Статут усюды падкрэслівае адасобленасць Вялікага княства і абавязвае гасудара захоўваць недатыкальнасць яго тэрыторыі і нават вярнуць яму адарваныя ад яго землі (раздз. 3, арт. 1, 4). Строга выконваўся артыкул, які забараняў даваць чужаземцам, у тым ліку і палякам, землі, пасады, чыны і званні (раздз. 3, арт. 12).

Усё насельніцтва Статут дзеліць на саслоўі: шляхту, духавенства, мяшчан і простых людзей. Апрача таго, кожнае саслоўе складалася яшчэ з некалькіх груп. Так, выдзяляюцца найбольш багатыя і ўплывовыя феадалы, якія называюцца князямі, панамі раднымі, панамі харугоўнымі, затым ідуць менш уплывовыя, якія маглі займаць пасады ў павятовых органах і імянуюцца аселай шляхтай, земянамі. Прамежкавае становішча паміж феадаламі і сялянамі займала ўбогая, неаселая шляхта, служылая шляхта, а таксама засцянковая шляхта, якая мела невялікі надзел сваёй уласнай зямлі і сама працавала на ёй.

Галоўнай павіннасцю шляхты была ваенная служба. Прававое становішча ўсяго гэтага саслоўя рэзка адрознівалася ад становішча простых людзей. Толькі шляхціц меў права займаць пасады ў дзяржаўным апараце і судзе, свабодна купляць і прадаваць маёнткі і валодаць феадальна залежнымі сялянамі, без аплаты пошліны (мыта) вывозіць на продаж за мяжу прадукты, выробленыя ў сваёй гаспадарцы, актыўна ўдзельнічаць у павятовых сойміках і быць абраным у дэпутаты на агульнадзяржаўны сойм. Шляхціцу гарантавалася асабістая свабода, ён быў вызвалены ад падаткаў і павіннасцей, за выключэннем ваеннай службы і падаткаў на вайну.

Па Статуту, простыя людзі таксама падраздзяляюцца на некалькі груп. Найбольш багатыя з іх — гэта панцырныя і путныя слугі, якія па «Уставе на валокі» 1557 г. называліся баярамі путнымі і надзяляліся за службу дзвюма валокамі зямлі (42 га). Бортнікі, цяглыя людзі павінны былі працаваць у панскім маёнтку і выконваць іншыя павіннасці. Затым ішлі чэлядзь дамовая, розныя рамеснікі, мяшчане (раздз. 12, арт. 3, 4, 5, 6).

Асноўнае абмежаванне правоў сялян заключалася ў адмаўленні права ўласнасці на зямлю і ў забароне набываць ва ўласнасць маёнткі і землі. Так, у арт. 26 раздз. 3 падкрэслівалася, што просты чалавек, не атрымаўшы шляхецкай годнасці, не мае права набываць

шляхецкіх маёнткаў і земляў. Уласнікам усіх сялянскіх земляў прызнаваўся толькі феадал ці феадальная дзяржава. Феадальна-залежны чалавек не меў права без дазволу свайго пана змяніць месца жыхарства ці пайсці да другога феадала (раздз. 12, арт. 12, 13, 14, 15, 16). Самай бяспраўнай часткай насельніцтва былі чэлядзь дваровая і палонныя, якія знаходзіліся на становішчы рабоў. Яны не лічыліся суб'ектамі права, не маглі завяшчаць і атрымліваць маёмасць па тэстаменту (раздз. 8, арт. 1, 8).

Прававое становішча мяшчан адрознівалася ад становішча шляхты і сялян. Мяшчане амаль усіх беларускіх гарадоў у XV—XVIII стст. атрымалі спецыяльныя граматы на магдэбургскае права, якое дазваляла ім ствараць у горадзе органы кіравання, не падуладныя мясцовым старастам і ваяводам. Узначальвалі кіраванне войт, бурмістры і радцы. Мяшчане ўсіх дзяржаўных гарадоў былі асабіста свабоднымі людзьмі. Яны маглі мяняць сваё месца жыхарства і выязджаць за мяжу, ім гарантавалася права ўласнасці на маёмасць, а ў некаторых выпадках нават на маёнткі, але яны не дапускаліся на дзяржаўныя пасады і не мелі сваіх прадстаўнікоў ні ў панскай радзе, ні ў сойме. Аднак ім дазвалялася ўдзельнічаць у мясцовых гарадскіх сабраніях (соймах), дзе разглядаліся гарадскія справы, яны мелі права аб'ядноўвацца ў саюзы па прафесіях — у цэхі і рэлігійна-асветніцкія і дабрачынныя арганізацыі — брацтва.

Дзяржаўнае права Вялікага княства Літоўскага рэгламентавала структуру і кампетэнцыю вярхоўных органаў дзяржаўнай улады княства і ігнаравала органы Рэчы Паспалітай. Уся сістэма органаў дзяржаўнай улады і ўпраўлення княства будавалася на агульных прынцыпах феадальнага права: стварэнні ільгот і пераваг класу феадалаў і саслоўю шляхты і недапушчэнні простых людзей у органы ўпраўлення, юрыдычным замацаванні няроўнасці сярод розных сацыяльных груп насельніцтва і раздзяленні яго на саслоўі.

Кіраўніком дзяржавы і галоўнай асобай ва ўсёй сістэме дзяржаўных органаў прызнаваўся вялікі князь, які іменаваўся ў Статуце «господарем». Пасля Люблінскай уніі 1569 г. усе вялікія князі літоўскія былі адначасова каралямі Польшчы і каралямі агульнай саюзнай дзяржавы — Рэчы Паспалітай. У Статуце 1588 г. вялікі князь літоўскі імянуецца каралём толькі ў прыкладзеных да Статута дзвюх граматах, выдадзеных ад імя

Жыгімонта III Вазы, і ў прысвячэнні, напісаным Л. Сапегам.

Вялікаму князю як галаве дзяржавы належалі шырокія правы ў галіне ўнутранага кіравання і знешніх адносін. Ён меў права весці міжнародныя зносіны, пасылаць і прымаць паслоў, заключаць міжнародныя пагадненні, уступаць у саюзы, абвяшчаць вайну і заключаць мір. Ён лічыўся кіраўніком усіх вышэйшых выканаўча-распарадчых органаў, змяняў і прызначаў вышэйшых службовых асоб, яму належала права распараджацца ўзброенымі сіламі дзяржавы, дзяржаўнай маёмасцю, даходамі і казной, права падаравання маёмасці, чыноў і званняў. Яму належала права заканадаўчай ініцыятывы і за яго подпісам выдаваліся ўсе найважнейшыя дзяржаўна-прававыя акты. Ён меў права ажыццяўляць вышэйшы суд у дзяржаве, а таксама памілаваць асуджаных. З указанага пераліку правоў вялікага князя відаць, што да яго кампетэнцыі былі аднесены ўсе найважнейшыя пытанні дзяржаўнай улады і ўпраўлення. Але ажыццяўляў гэтыя паўнамоцтвы вялікі князь не аднаасобна, а, як правіла, з удзелам Рады, сойма і службовых асоб вярхоўнага ўпраўлення.

Прававое становішча вялікага князя літоўскага, аб чым сведчыць Статут 1588 г., было тыповым для становішча абмежаванага феадальнага манарха, аднак меліся і сур'ёзныя адрозненні ў выбарнасці і большай абмежаванасці правоў у галіне заканадаўства і суда. Разам з тым яно ўтрымлівала ў сабе і некаторыя элементы прававога становішча прэзідэнта ў рэспубліцы: яго правы засноўваліся на выбраным пачатку, на прававых нормах Статута, агульназемскіх прывілеяў і былі дэлегаваны ад класа феадалаў.

Абмежаванасць улады гасудара замацоўвалася ў Статуце па-рознаму: у адных выпадках гэта было выкладзена ў форме клятвы і абяцання вялікага князя захоўваць пэўныя правы (раздз. 1, арт. 2; раздз. 3, арт. 1, 2, 4, 12, 13), у другіх — у форме непасрэднай забароны. Так, забаранялася гасудару без дазволу сойма пачынаць вайну ці вызначаць падаткі на ваенныя патрэбы (раздз. 2, арт. 2), выдаваць законы, якія б супярэчылі Статуту (раздз. 3, арт. 5), пазбаўляць пасад і званняў (раздз. 3, арт. 13), выдаваць без дазволу сойма новыя законы (раздз. 3, арт. 15) і да т. п.

У абмежаванні ўлады гасудара першачарговае значэнне мела Рада. У яе склад уваходзілі два каталіцкія

епіскапы, ваяводы, кашталяны, некаторыя старасты, самыя важныя службовыя асобы цэнтральнага ўпраўлення і некаторыя буйныя феадалы па асабістых запрашэннях.

Рада была пастаянна дзеючым выканаўча-распарадчым, заканадаўчым, кантралюючым і судовым органам. Свае ўладныя паўнамоцтвы яна ажыццяўляла сумесна з вялікім князем, але ў яго адсутнасць (а гэта здаралася даволі часта, калі гасудар выязджаў у Польшчу) і без яго. Бягучыя штодзённыя справы ў Радзе выконвалі, як правіла, старшыя паны-рады, да якіх адносіліся віленскі каталіцкі епіскап, віленскія ваяводы і кашталян, трокскія ваявода і кашталян, а таксама службовыя асобы цэнтральнага ўпраўлення — маршалак земскі, гетман найвышэйшы, канцлер, падскарбі. Пры вырашэнні найбольш важных пытанняў Рада збіралася ў поўным складзе ці нават збіраліся соймы. Уладныя паўнамоцтвы Рады кантраляваліся вялікім князем і соймам. У сваёй дзейнасці яна вымушана была ўлічваць стан барацьбы класаў і асобных груповак унутры пануючага класа, а таксама знешнепалітычныя абставіны. Усё гэта прымушала яе дзейнічаць з пэўнаю аглядкай і даволі часта склікаць агульнадзяржаўныя соймы, каб заручыцца падтрымкай усяго саслоўя шляхты.

Прававое становішча Рады было замацавана ў агульназемскіх прывілеях 1492 і 1506 гг. У Статуце 1588 г. пра паноў рад упамінаецца толькі ў некалькіх артыкулах (раздз. 1, арт. 28; раздз. 2, арт. 11; раздз. 4, арт. 30, 52, 56).

Значнае месца ў Статуце адводзіцца прававому рэгуляванню парадку фарміравання і дзейнасці сойма Вялікага княства Літоўскага. Сойм як саслоўна-прадстаўнічы орган класа феадалаў і саслоўя шляхты ўзнік у выніку працяглага гістарычнага працэсу, які ідзе сваімі каранямі ў перыяд вечавых народных сходаў старажытнасці.

Працэс ператварэння шырокіх сходаў ваеннаслужылых людзей у прадстаўнічы орган саслоўя адбываўся паступова па меры юрыдычнага афармлення правоў і прывілей шляхты. У XVI ст. у склад сойма ўваходзілі ўсе паны радныя, вярхі каталіцкага і праваслаўнага духавенства, павятовыя старасты, харужыя, буйныя феадалы знакамітых фамілій па персанальных запрашэннях і па два дэпутаты ад шляхты з кожнага павета (раздз. 3, арт. 6). Дэпутаты ад павятовай шляхты атрымлівалі на-

казы-інструкцыі, якімі яны павінны былі кіравацца на сойме. На дэпутацкія расходы, звязаныя з удзелам у яго рабоце, ім выдаваліся пэўныя сумы грошай.

Кампетэнцыя сойма не была дакладна вызначанай. Маглі вырашацца любыя пытанні, што выносіліся на яго абмеркаванне гасударом або Радай. Але меліся і справы, якія адносіліся да выключнай кампетэнцыі сойма: выбранне вялікага князя, абвяшчэнне мабілізацыі ваенных сіл (паспалітае рушэнне), збор сродкаў на вядзенне вайны, заключэнне ваенных саюзаў, заключэнне уніі з Польшчай, устанаўленне новых падаткаў і павіннасцей, прыняцце найбольш важных заканадаўчых актаў, ажыццяўленне правасуддзя па некаторых дзяржаўных злачынствах. Уся работа сойма папярэдне рыхтавалася панамі. Яны прызначалі час і месца яго склікання, рыхтавалі праекты ўхвал. Прадстаўнікі ад паветаў маглі падаваць просьбы і скаргі шляхты сваіх паветаў, адказы на якія даваў гасудар, параіўшыся толькі з Радай.

Прававая рэгламентацыя парадку выбару дэпутатаў (паслоў) на сойм, склікання, іх спецыяльная кампетэнцыя атрымалі афармленне ў Статуце 1588 г. Парадак жа работы сойма ажыццяўляўся на аснове практыкі, якая ўжо склалася да таго часу. Соймы маглі праводзіцца як у закрытых памяшканнях, найчасцей у касцёлах або царквах, так і на вольным паветры — на плошчах гарадоў і мястэчак. Кіраваў пасяджэннямі маршалак земскі. Ён жа абвяшчаў прынятыя рашэнні ці адказы гасудара па заяўленых просьбах.

Пасля Люблінскай уніі 1569 г. перад кожным соймам Рэчы Паспалітай склікаўся сойм Вялікага княства Літоўскага ў г. Слоніме (раздз. 3, арт. 8). На гэтым сойме выпрацоўваліся абавязковыя інструкцыі, якія вызначалі мэты і задачы ўсіх прадстаўнікоў Вялікага княства на агульным сойме Рэчы Паспалітай, і абмяркоўваліся справы княства. Перад кожным агульным соймам і пасля яго збіраліся павятовыя соймікі. Кожны з іх, выбраўшы паслоў на галоўны сойм, вызначаў ім грашовыя сумы на дарогу (не менш як 120 ці 160 коп грошаў на дваіх), пры павышэнні цэн на прадукты харчавання гэтая сума магла быць павялічана (раздз. 3, арт. 7). Заканадаўчая дзейнасць сойма і Рады ў XVI ст. была плённай і найбольш значнай за ўвесь час існавання Вялікага княства Літоўскага.

На соймах Вялікага княства выпрацоўваўся агульны накірунак знешняй і ўнутранай палітыкі дзяржавы.

Дзякуючы ім павышалася палітычная актыўнасць усяго саслоўя шляхты, умацоўвалася ідэя адзінства ўсёй дзяржавы, якая складалася са слаба сцэнтралізаваных абласцей; патрэбы насельніцтва асобных мясцовасцей хутчэй вырашаліся ў цэнтральных органах дзяржаўнай улады. Сойм служыў форумам вострай ідэалагічнай барацьбы, абмяжоўваючы ўладу вялікага князя і часткова Рады.

На ўсе вышэйшыя пасады ў дзяржаве прызначаліся буйныя феадалы некалькіх найбольш знатных фамілій, толькі ўраджэнцы Вялікага княства Літоўскага, якія мелі пэўную адукацыю ці практычны вопыт дзяржаўнай службы. Усе пасады даваліся пажыццёва, і ні гасудар, ні Рада не мелі права без віны адабраць іх (раздз. 3, арт. 14).

Аналіз нормаў Статута, што вызначылі структуру, кампетэнцыю і характар дзейнасці цэнтральных устаноў і самых важных службовых асоб, прыводзіць да высновы, што былі ў ім дастаткова поўна і тэарэтычна добра распрацаваны нормы дзяржаўнага права, якія мелі прагрэсіўнае значэнне для свайго часу. У іх выразна абазначалася зараджэнне органаў галіновага ўпраўлення ў асобе маршалка земскага, гетмана, канцлера, падскарбія і інш.

Структура і кампетэнцыя мясцовых органаў дзяржаўнага ўпраўлення ні ў Статуце, ні ў іншых прававых актах не атрымалі разгорнутага асвятлення і замацавання, таму што гэтая сістэма склалася ў глыбокай старажытнасці і істотна не змянілася. Большасць дробных княстваў, што ўвайшлі ў склад Вялікага княства Літоўскага, захаваліся як адміністрацыйна-тэрытарыяльныя адзінкі — ваяводствы, паветы, воласці са сваімі органамі ўпраўлення.

У сярэдзіне 60-х гг. XVI ст. была завершана рэформа адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу, і ўся тэрыторыя дзяржавы была падзелена на ваяводствы, паветы, воласці, ці дзяржанні. Нягледзячы на змены ў сістэме мясцовых органаў, іх дзейнасць карэнна не перабудоўвалася. Па-ранейшаму мясцовыя феадалы ў кожным павеце захоўвалі сваё пануючае становішча. Сепаратызм асобных земляў быў ім выгадны, таму што ўмацоўваў іх палітычнае панаванне і ў той жа час быў выгадны ўсяму класу феадалаў. У выніку былі выдадзены заканадаўчыя акты ў выглядзе абласных, гарадскіх і валасных грамат, накіраваныя на захаванне мясцовай

аўтаноміі і абмежаванне самавольства службовых асоб і ўпарадкаванне іх дзейнасці.

Вышэйшай службовай асобай у сістэме мясцовых органаў кіравання быў ваявода, які ўзначальваў адміністрацыйныя, гаспадарчыя, вайсковыя і ў значнай меры судовыя органы на тэрыторыі ваяводства. Яму падначалены былі наступныя службовыя асобы: кашталян — па ваенных справах; падваявода — па адміністрацыйных; ключнік і скарбнік — па гаспадарчых; канюшы, лоўчы і інш. Сваю дзяржаўна-адміністрацыйную дзейнасць ваяводы выконвалі разам з мясцовымі соймікамі і радамі, у якія ўваходзілі князі і паны ваяводства.

Прызначаўся ваявода з ліку багатых і знатных феадалаў, ураджэнцаў Вялікага княства Літоўскага вялікім князем і Радаю пажыццёва. Пры назначэнні ваяводы ў Полацкае або Віцебскае ваяводства папярэдне патрабавалася атрымаць згоду мясцовых феадалаў прыняць дадзенага кандыдата. Апрача таго, і пасля назначэння ваяводы ў гэтыя ваяводствы мясцовыя феадалы мелі права яго замяніць. У сваіх ваяводствах ваяводы павінны былі праводзіць у жыццё пастановы і распараджэнні цэнтральных устаноў і клапаціцца аб забеспячэнні інтарэсаў мясцовага насельніцтва. Адначасова ваявода быў членам Рады і, як член цэнтральнага ўрада, меў магчымасць спалучаць інтарэсы мясцовыя з агульнадзяржаўнымі.

Галоўнай павіннасцю ваяводы было захаванне феадальнага правапарадку на сваёй тэрыторыі, а таксама агульнае кіраўніцтва эксплуатацыяй усіх крыніц дзяржаўных і вялікакняскіх даходаў, арганізацыя ўзброеных сіл ваяводства, судовыя справы, залічаныя да яго кампетэнцыі. Кашталян, які камандаваў ваеннымі сіламі галоўнага замка ваяводства і мясцовым апалчэннем, разам з ваяводам засядаў у Радзе.

Кіраўніком адміністрацыі ў павеце быў староста. Назначаўся ён, як і ваявода, гасударом і Радай з ліку буйных феадалаў. Гэтая пасада вельмі часта разглядалася як дадатковая крыніца даходаў радных паноў, а павіннасці, звязаныя з пасадай, выконваў яго намеснік — падстароста.

Уладныя паўнамоцтвы старасты на тэрыторыі свайго павета былі падобны да паўнамоцтваў ваяводы. Службовае становішча яго залежала ад таго, якія пасады ён яшчэ займаў, ад сваяцкіх сувязяў і паходжання. Павінен ён быў таксама наглядаць за падтрыманнем парадку на падведамаснай тэрыторыі, за гаспадаркай у дзяржаўных

маёнтках (фальварках), клапаціўся аб захаванні ў добрым стане замкаў і іншых грамадскіх збудаванняў, разглядаў судовыя справы і наглядаў за выкананнем судовых пастаноў вышэйшых судоў у сваім павеце.

Па мясцоваму кіраванню староста карыстаўся шырокімі паўнамоцтвамі, незалежнымі ад улады ваяводы, бо засноўваліся яны на старых традыцыях і звычаях улады мясцовых князёў. Намеснікам яго па грамадскіх і ваенных справах быў павятовы маршалак, які разам з харужым збіраў павятовую шляхту ў час паспалітага рушэння і вёў яе да месца збору. Ён жа, як правіла, старшынстваваў на пасяджэннях павятовага сойміка.

Захоўваліся ў павеце таксама старажытныя пасады ключніка, канюшага, гараднічага, лясьнічага, цівуна, харужага і іншых службовых асоб.

Вялікая ўвага ў дзяржаўным праве ўдзялялася мясцовым ваяводскім і павятовым соймікам, на якія збіраліся ўсе шляхціцы павета або ваяводства. На іх дэпутаты на агульны сойм выбіраліся, выпрацоўвалі інструкцыі, а таксама просьбы і хадайніцтвы да ўрада, заслухоўвалі справаздачы і інфармацыю аб вальных соймах, вылучалі кандыдатуры на судовыя і іншыя пасады, вызначалі памеры падаткаў і збораў на мясцовыя патрэбы. Праз павятовыя соймікі шляхта адстойвала свае мясцовыя інтарэсы перад цэнтральнымі дзяржаўнымі ўстановамі, непасрэдна ўдзельнічала ў палітычным жыцці дзяржавы.

Нізшым органам у сістэме мясцовага дзяржаўнага кіравання былі дзяржаўцы, якім даваліся ў часовае ўпраўленне і ўладанне двары, замкі і фальваркі. Дзяржаўцы наглядалі за гаспадаркай у маёнтках, атрымлівалі частку або ўсе даходы з маёнтка і адначасова выконвалі функцыі органа дзяржаўнай улады. Яны мелі права судзіць простых людзей, падуладных двару, замку або фальварку.

Для нагляду над феадальна-залежнымі сялянамі старасты і дзяржаўцы назначалі сельскіх войтаў, сотнікаў, дзесяцкіх.

У Падняпроўі і Падзвінні доўгі час захоўваліся сяляне-даннікі, якія павінны былі феадальную рэнту ўносіць у дзяржаўную казну, бо не былі ў феадальнай залежнасці ад якіх-небудзь паноў. Органамі мясцовага самакіравання ў гэтых сялян былі сялянскія сходы і абраныя на іх старцы. Старцы наглядалі за выкананнем феадальных павіннасцей сялян па будаўніцтву і рамонту

замкаў, мастоў і дарог, збіралі і адвозілі ў двор ці ў бліжэйшы замак грашовыя і натуральныя дані, удзельнічалі ў копных судах.

Ваеннае права Беларусі і Літвы ў XVI ст. грунтавалася на старажытных звычаях абароны сваёй зямлі і на новых нормах пісанага права, якое было цесна звязана з распаўсюджваннем агнястрэльнай зброі, што выклікала пераварот у ваеннай арганізацыі феадальнага грамадства, змену тактычных прыёмаў бою, патрабавала прафесійнай падрыхтоўкі пушкароў і ружэйных стралкоў. У сувязі з гэтым з'явіліся наёмныя атрады — гэта ўжо былі зачаткі пастаянных армій. Ваеннае права рэгламентавала ўсе найважнейшыя пытанні ўліку ваеннаабавязаных, камплектавання арміі, збору апалчэння, прававога становішча гетмана, харужых і іншых асоб каманднага саставу ў арміі, парадку размяшчэння армейскіх падраздзяленняў і асобных ратнікаў, камплектавання наёмных атрадаў, адказнасці за воінскія злачынствы, парадку набыцця прадуктаў харчавання. Паводле старадаўняга звычая на абарону сваёй зямлі і праследаванне ворагаў, якое «па народнаму называецца пагоняй, павінны выпраўляцца не толькі рыцары, а і кожны мужчына, якога б ён ні быў паходжання ці стану, толькі б ён быў здольны насіць зброю»[1]. Гэтае правіла амаль без змен захоўвалася і ў Статуце 1588 г., у якім гаварылася, што да ваеннай службы маглі прыцягвацца не толькі ўладальнікі маёнткаў, але і іншыя асобы. Так, у ім было запісана: «Хочем теж мети и уставуем абы вси подданые наши мещане, часу навалное потребы з иншими людми нашими войну служили, або з дозволеньем нашим на войну выправовали, водлуг постановенья соймового» (раздз. 2, арт. 1).

Соймавыя пастановы аб ваеннай павіннасці простых людзей вядомы з пачатку XVI ст. Так, на пастанове Наваградскага сойма 1502 г. ўсе князі, паны, зямяне і дваране павінны былі выстаўляць з кожных дзесяці сялянскіх двароў аднаго ратніка ў зброі, на кані, з кап'ём. Пытанні ваеннага права вырашаліся і на соймах у 1507, 1511, 1514, 1528 гг. Па пастанове сойма 1528 г. ўсе феадалы павінны былі выстаўляць з кожных васьмі сялянскіх служб «пахолка, на добром кони, во зброи, з древом, с прапором, на котором бы был панцер, прылбіца, меч або корд, сукня цветная, павеза (шчыт.— *Я. Ю.*) и

---

[1] БЭФ. Т. 1. С. 102.

остроги две»[2]. Аб ваеннай павіннасці простых людзей было запісана ў Віцебскай і Полацкай граматах, якія загадвалі віцяблянам і палачанам быць заўсёды гатовымі несці ваенную службу. Аб удзеле простых людзей у абароне сваёй зямлі сведчыць і Мікола Гусоўскі ў «Песні пра зубра», выдадзенай у 1523 г.

Усё гэта сведчыць аб памылковасці сцвярджэнняў буржуазных даследчыкаў нашай гісторыі, што нібыта неслі ваенную службу толькі шляхціцы. Вядома, што шляхта несла больш цяжкую ваенную павіннасць, бо калі сяляне выпраўлялі ратніка з дзесяці або васьмі двароў (служб), то шляхціц на вайну павінен быў ехаць з кожнага маёнтка. Ваенная павіннасць была абавязковай незалежна ад веравызнання — для праваслаўных, католікаў, пратэстантаў, мусульман (татараў). Не служылі толькі яўрэі, аднак калі яны прымалі каталіцкую веру, то аўтаматычна набывалі шляхецкую годнасць і станавіліся ваеннаабавязанымі нароўні з іншымі шляхціцамі.

Кадыфікацыя ваеннага права ўпершыню была зроблена ў Статуце 1529 г., а затым у Статутах 1566 і 1588 гг. Першы зборнік заканадаўчых актаў па ваеннаму праву «Артыкулы ваенныя» быў выдадзены па загаду віленскага ваяводы і гетмана Вялікага княства Літоўскага Міхала Казіміра Радзівіла ў 1754 г. у Нясвіжы.

У гэты зборнік былі ўключаны ваенныя артыкулы, выдадзеныя ў XVII—XVIII стст.: артыкулы ваенныя гетманскія 1609 г., артыкулы іншаземнаму войску Уладзіслава IV, салдацкія артыкулы гетмана Рыгора Хадкевіча, ваенныя артыкулы, дадзеныя гетманам Янушам Радзівілам пад Глускам, ваенныя артыкулы гетмана Міхала Казіміра Паца, ваенныя артыкулы гетмана Міхала Казіміра Радзівіла 1746 г. Апрача таго, некаторыя артыкулы ваенныя былі надрукаваны ў зборніку «Валюміна легум», выдадзеным у 1732—1782 гг.

Артыкулы ваенныя ў сваёй сукупнасці рэгулявалі ўсе важнейшыя правілы паводзін як простых ратнікаў, так і каманднага саставу, хто і як павінен несці ваенную службу, правы і абавязкі гетмана і іншых камандзіраў.

Ваеннае права Беларусі XVI—XVIII стст. было тэарэтычна добра распрацавана і задавальняла тагачасныя патрэбы грамадства.

---

[2] АЗР. Т. 2. С. 188.

## 2. Цывільнае (грамадзянскае) права

Цывільнае феадальнае права на Беларусі ў XVI ст. склалася пад уздзеяннем таварна-грашовых адносін і гандлёвага капіталу, што спрыяла зараджэнню ў яго нетрах норм, характэрных для буржуазнага права і яго ўсесаслоўнасці. Таму побач з феадальнымі нормамі цывільнага права, такімі, як непрызнанне за сялянамі права ўласнасці на зямлю і іншыя абмежаванні іх правоў, атрымалі значнае развіццё нормы, якія рэгулявалі дагавор куплі-продажу, пазыкі, залогу, арэнды, абавязкі, звязаныя з работай па найму, спадчыннае права. Побач з пазаэканамічным прымусам сялян да працы развіваецца і эканамічнае закабаленне. Аднак маёмасныя адносіны па-ранейшаму ў асноўным рэгуляваліся ў залежнасці ад класавай і саслоўнай прыналежнасці людзей. Аб'ём правамоцтваў суб'ектаў цывільна-прававых адносін залежаў таксама ад веравызнання, прававога становішча калектыву (горада, вёскі) і становішча асобы ў дадзеным калектыве або ў сям'і.

Найбольш поўнай правinduздольнасцю валодалі дзяржава, царква, манастыры, князі і паны. Яны маглі свабодна, без усякіх перашкод распараджацца сваёй маёмасцю. Значнай правадольнасцю валодалі і дробныя шляхціцы, якія не мелі права самастойна распараджацца маёнткамі і землямі, атрыманымі ад пана за службу ў часовае валоданне.

Праваздольнасць простых свабодных людзей у феадальным грамадстве не была роўнай. Напрыклад, мяшчане Вільні, Полацка, Віцебска, Менска, Гародні карысталіся больш шырокімі правамі, чым свабодныя людзі, якія жылі ў вёсках і малых гарадках — мястэчках. Абмежаваную праваздольнасць мелі залежныя сяляне, у якіх не было права свабодна, без дазволу пана ці яго адміністрацыі распараджацца нерухомай маёмасцю. Яшчэ меншай праваздольнасцю валодалі палонныя і чэлядзь нявольная (дваровая). Яны не маглі распараджацца маёмасцю, складаць тэстаменты ні нават атрымліваць маёмасць па тэстаменту. Абмяжоўвалася праваздольнасць і дзеяздольнасць жанчын і дзяцей.

Грамадзянская дзеяздольнасць мужчын прызнавалася з 18 гадоў, а дзяўчат з 13 (раздз. 6, арт. 1). Аднак і дасягнуўшы гэтага ўзросту, яны не атрымлівалі поўнай грамадзянскай дзеяздольнасці. Удава карысталася

больш шырокімі правамі, чым замужняя жанчына. Яна магла самастойна весці свае справы ў судзе або дару-чаць іх адвакату.

Асобы, якія не здольныя былі разумець характару сваёй дзейнасці («дурні», «шалёныя»), поўнасцю пазбаўляліся грамадзянскай дзеяздольнасці, іх правы абаранялі іх законныя прадстаўнікі (бацькі і блізкія родзічы) і апекуны.

Цэнтральнае месца ў цывільным праве займалі нормы рэчавага і абавязацельнага права, якія замацоўвалі за пануючым класам правы ўласнасці і іншыя маёмасныя правы на прылады і сродкі вытворчасці, чым забяспечвалася прававая аснова эксплуатацыі працоўных.

Сярод аб'ектаў права ўласнасці галоўнае значэнне надавалася маёнткам і землям, якія апрацоўваліся феадальна-залежнымі людзьмі і чэляддзю нявольнай. Грамадзянскаму праву былі вядомы наступныя правы на рэчы: уласнасць, валоданне (держание, посядание), залог (застава), сервітуты.

Для абазначэння ўласнасці ў заканадаўстве XVI ст. ужываўся тэрмін «властность», якім падкрэслівалася поўная ўлада суб'екта адносна гэтай рэчы. Разам з тым ужываліся і такія тэрміны, як «отчина», «купля», у якіх галоўная ўвага надавалася крыніцы набыцця ўласнасці. Ужыванне розных тэрмінаў для вызначэння права ўласнасці сведчыць аб тым, што права прыватнай уласнасці на зямлю і маёнткі яшчэ толькі замацоўвалася і права феадальнай уласнасці на зямлю паступова перарастала ў права неабмежаванай буржуазнай уласнасці.

Характэрнай рысай феадальнага права ўласнасці і валодання было тое, што ўласнік маёнтку або зямлі нёс спецыяльныя павіннасці, якія былі ўласцівымі гэтаму маёнтку або зямлі, і пры пераходзе права ўласнасці да другой асобы гэтыя павіннасці пераходзілі разам з маёмасцю, у тым ліку і вайсковая служба. Напрыклад, шляхціц або мешчанін, які купіў баярскую або сялянскую зямлю, калі ён не атрымліваў вызвалення ад павіннасці, выконваў тыя павіннасці, якія выконваў яго папярэднік. Так, у грамаце, выдадзенай у 1581 г. Сымону Мацеевічу, было запісана: «А вед же с тых только кгрунтов с троих волок волности шляхетское уживати мают, которые тепер держат, а естли бы што большей кгрунтов от подданых прикупили тогды с тых кгрунтов будут повинны повинность вшелякую чинити и полнити так, яко

тые подданые наши с тых кгрунтов чинили и полнили»[3]. Гэта грамата сведчыць таксама аб тым, што яшчэ ў 1581 г. меў месца продаж зямлі простымі людзьмі, што лічылася законным з'явішчам. Духоўныя асобы ці мяшчане, якія куплялі шляхецкія маёнткі, павінны былі несці з гэтых маёнткаў вайсковую службу (раздз. 2, арт. 1).

Паводле Статута 1588 г., зямельныя ўладанні феадалаў падзяляліся на тры асноўныя катэгорыі: 1) вотчыну, або дзедаўшчыну; 2) маёнтак, выслужаны ці атрыманы ў карыстанне (дзяржанне) на пэўны час («до живота», «до волі господарской»); 3) купленіны — маёнткі, набытыя паводле дагавору куплі-продажу навек. Купленінамі ўласнік мог распараджацца без усялякіх абмежаванняў. Распараджэнне вотчынамі было да 1566 г. абмежаваным, нельга было прадаць болей адной трэцяй часткі маёнтка без дазволу родзічаў, а аддадзены ў залог (заставу) маёнтак мелі права выкупіць родзічы. Выслужанымі маёнткамі ўладальнік мог распараджацца толькі са згоды вярхоўнага ўласніка, ад якога быў атрыманы маёнтак ва ўладанне.

Буйнейшым уласнікам земляў і маёнткаў на Беларусі ў XVI ст. была феадальная дзяржава. Права дзяржаўнай уласнасці на зямлю і маёнткі ў перыяд феадалізму было, па сутнасці, ні чым іншым, як правам калектыўнай уласнасці вярхоў, якія трымалі ў сваіх руках як дзяржаўную ўладу, так і дзяржаўную маёмасць і атрымлівалі з яе розныя карысці. Права ўласнасці асобных феадалаў і дзяржаўная ўласнасць у феадальнай дзяржаве складалі адзіную феадальную ўласнасць.

Зямельны фонд асобных феадалаў — гэта землі, якія ўваходзілі непасрэдна ў маёнтак, а таксама землі, якімі карысталіся феадальна-залежныя сяляне. Права ўласнасці феадалаў на зямлю вынікала ў першую чаргу з падараванняў гасудара, падпарадкавання і закабалення свабодных сялян або гвалтоўнага захопу іх земляў, а таксама ў выніку набыцця земляў і маёнткаў у парадку куплі-продажу, наследавання і г. д.

На Беларусі, як і ў іншых краінах, асабліва да сярэдзіны XVI ст., прызнавалася ў пэўнай ступені абмежаванае права ўласнасці на зямлю за сялянамі. Вырасла яно з фактычнага ўладання і распрацоўкі зямлі. У старажытныя часы сяляне жылі ў невялікіх вёсках або нават асоб-

[3] ЦГИА БССР, ф. 1755, оп. 1, ед. хр. 8, л. 292—294.

ымі сем'ямі паміж лясоў і балот. Суседнія паселішчы аб'ядноўваліся дзеля абароны ад нападу злачынцаў, разам выконвалі дзяржаўныя і грамадскія павіннасці, агульнымі сіламі падтрымлівалі неабходны парадак і сумесна прытрымліваліся старых звычаяў і рэлігійных культаў. У вытворчых адносінах такія аб'яднанні сялян — сяло, воласць — не з'яўляліся адзіным працоўным калектывам, хоць і карысталіся агульна некаторымі нападзеленымі землямі — лясамі, сенажацямі, пашай, рэкамі і азёрамі, і неслі розныя павіннасці. Сяляне лічылі сваёй тую зямлю, якую атрымалі ў спадчыну ад бацькоў і дзядоў і на якой працавалі самі. Такая зямля называлася «отчынай», «дзедзінай» і мела яшчэ назву «бацькаўшчыны», радзімы, чым яшчэ больш падкрэслівалася права сялян на сваю зямлю. Гэта права ў XIV—XV стст. забяспечвалася звычаёвым правам і прызнавалася як феадаламі, так і службовымі асобамі дзяржаўнага апарату. Аднак у XVI ст. кіруючыя вярхі пачынаюць адмаўляць права ўласнасці сялян на зямлю. Найбольш дакладна гэта было запісана ў «Уставе на валокі» 1557 г., дзе сцвярджалася, што «кметь и вся его маетность наша ест» [4]. Статут таксама не прызнаваў права ўласнасці на зямлю ў сялян і забараняў купляць яе ў іх без дазволу пана або панскай адміністрацыі.

У 1566 г. Берасцейскі сойм ухваліў закон, якім усім феадалам дазвалялася «именья свои отчизные и земские материстые и выслуженые, купленые и яким кольвек обычаем набытые и названые, не смотречы третее и двох частей... што хотя от них водле доброе воли своее и мысли, отдати, продати, даровати и записати заставити, от детей и близких отдалити» (Статут. 1566 г. Раздз. 7, арт. 1). Такім чынам, права феадальнай уласнасці збліжалася з правам буржуазнай уласнасці на зямлю і маёнткі. Гэты закон паклаў пачатак новаму этапу ў развіцці права ўласнасці на зямлю.

У феадальным праве, вельмі блізкім да права ўласнасці, было права ўладання «держание». Уладанне разумелася як фактычнае валоданне зямлёй або рэччу. Дзяржанне пры акрэсленых абставінах магло перайсці ва ўласнасць. Напрыклад, пры ўладанні нерухомай маёмасцю больш як 10 гадоў яна магла стаць уласнасцю (раздз. 3, арт. 43, 45). Аднак гэта правіла не распаўсюджвалася на маёнткі, атрыманыя ад пана ў дзяржанне

[4] АЗР. Т. 3. С. 83.

залежнымі ад яго людзьмі, а таксама на маёнткі, перададзеныя ў залог.

Права феадальнай уласнасці і права ўладання былі блізкімі паміж сабой, бо сярэдні і дробныя феадалы, якія знаходзіліся ў васальнай залежнасці ад буйных магнатаў, не маглі без іх ведама і дазволу свабодна распараджацца сваімі ўласнымі маёнткамі. Уладанне, як і ўласнасць, падлягала судовай абароне. Уладар маёнтка або зямлі, нават калі ён не меў дастатковага прававога заснавання на ўладанне, але карыстаўся пэўны час плёнамі з гэтага ўладання, меў права прад'явіць у судзе іск нават супраць законнага ўласніка, калі той без судовага рашэння самаўпраўна сабраў ураджай з гэтай зямлі або нанёс шкоду ўладару (раздз. 9, арт. 23). На абарону права ўладання былі накіраваны і тэрміны даўнасці: для рухомых рэчаў тры гады, для нерухомых — дзесяць гадоў (раздз. 3, арт. 45; раздз. 7, арт. 10).

Рост вытворчасці і развіццё гандлю выклікалі значнае пашырэнне крэдытна-грашовых адносін, што ў сваю чаргу запатрабавала уніфікацыі і больш поўнай рэгламентацыі прававых норм, якія рэгулявалі забеспячэнне крэдыта залогам маёмасці. Залог на нерухомую маёмасць мог праводзіцца ў дзвюх формах. Гэта, па-першае, перадача заложанай маёмасці крэдытору, прычым ён эксплуатаваў перададзеных яму разам з маёнткам залежных людзей у лік працэнтаў па пазыцы і мог пераўступаць свае правы другім асобам, і, па-другое, іпатэка — залог у форме запісу даўгоў на маёнтку ў судовых кнігах без перадачы маёнтка крэдытору. Рухомыя рэчы маглі перадавацца ў залог без пісьмовага засведчання ў службовых асоб, але з захаваннем пэўнай формы пагаднення. Залогатрымальнік меў першачарговае права на задавальненне сваіх патрабаванняў з закладзенай маёмасці перад іншымі крэдыторамі. Нормы права, што рэгулявалі залог маёмасці, забяспечвалі ў першую чаргу інтарэсы буйных феадалаў, манастыроў і гарадскіх ліхвяроў, якія выкарыстоўвалі залог маёмасці для таго, каб павялічваць свае маёнткі і падпарадкоўваць сабе, ставіць у залежнасць і занявольваць збяднелую шляхту, баяр і мяшчан.

Сервітуты як рэчавае права карыстання чужой рэччу былі добра вядомы праву Беларусі XVI ст. Напрыклад, жыхары гарадоў і вёсак карысталіся правам браць дровы і будаўнічыя матэрыялы на ўласныя патрэбы ў дзяржаўных лясах і пушчах, маглі пасвіць жывёлу, збіраць

грыбы і ягады, трымаць пчаліныя борці, праходзіць і праязджаць праз чужыя землі. Сервітутныя правы забяспечваліся звычаёвым і пісаным правам (раздз. 10, арт. 3).

Працэс юрыдычнага афармлення рэчавых правоў феадалаў на землі быў завершаны ў XV—XVI стст. Увесь зямельны фонд, не ўключаны ў маёмасць свецкіх і духоўных феадалаў, манастыроў, гарадоў і мяшчан, аб'яўляўся ўласнасцю дзяржавы, інакш кажучы, знаходзіўся ў калектыўным уладанні кіруючых вярхоў, князёў і паноў.

У XVI ст. адбыліся карэнныя змены ў абавязацельным праве, якое стала прыстасоўвацца да больш інтэнсіўнага грамадзянскага абароту і эканамічнага закабалення працоўных. Законам прадугледжвалася неаднолькавая праваздольнасць суб'ектаў у абавязацельствах. Залежны чалавек не меў права без згоды свайго пана заключаць пагадненні аб зямлі, паручыцца па абавязацельству на суму больш чатырох коп грошаў (раздз. 9, арт. 28). У выпадку невыканання свайго абавязацельства вольны просты чалавек мог быць перададзены крэдытору для адпрацоўкі доўгу і страчваў сваю свабоду. Апрача таго, закабаленне простага свабоднага чалавека магло наступіць і па загадзя заключанаму абавязацельству, якое павінна было афармляцца пісьмова (раздз. 7, арт. 8). У законе значная ўвага ўдзялялася абавязацельствам з дагавораў куплі-продажу, абмену, пазыкі, залога і іншых, а таксама з-за прычынення шкоды.

Усе здзелкі, як правіла, павінны былі заключацца ў прысутнасці сведак і з выкананнем некаторых рытуальных дзеянняў — рукабіццё, магарыч, памятнае і інш. Здзелкі аб зямлі павінны былі запісвацца ў службовых асоб у прысутнасці сведак, а потым заносіцца ў актавыя кнігі земскага суда. Пісьмовая форма прадугледжвалася і для дагавору пазыкі на суму звыш 10 коп грошаў.

Сістэма абавязацельнага права, выкладзеная ў Статуце 1588 г., была высокаразвітай і рэгулявала грамадзянскія прававыя адносіны ў гэтай галіне на працягу двух стагоддзяў. Яна была ўключана ў складзены ў 30-я гг. XIX ст. Збор мясцовых законаў Заходніх губерняў Расійскай імперыі, г. зн. лічылася прыдатнай і ў XIX ст.

Спадчыннае права рэгулявала парадак пераходу маёмасці нябожчыка да іншых асоб. Яно складала самастойны інстытут цывільнага права. Спадчыннае права вы-

дзялілася ў Статутах 1529, 1566 і 1588 гг. У Статуце 1588 г. замацоўвалася агульнае палажэнне, па якім «по смерти отцов и маток дети их сынове и дочки от отчизны и материзны не мають быти отъдалены але они сами и их щадки властные кровные и близкие правом прирожаным и слушне набытым звычаем стародавным, и теж статутом первым и теперешним, мають посегнути и одержати и тые добра на пожиток свой вечными часы» (раздз. 3, арт. 17). Паводле закона спадчыннікамі ў першую чаргу былі прызнаны дзеці спадчынадаўцаў і іхнія нашчадкі, але толькі народжаныя ў законным шлюбе, не аб'яўленыя бацькам незаконнымі і не пазбаўленыя права на спадчыну. Спадчыннікамі другой чаргі прызнаваліся браты і сёстры спадчынадаўцы.

Пры наяўнасці сыноў дочкі не наследавалі нерухомых маёнткаў бацькі, а атрымлівалі толькі адну чацвёртую частку кошту маёмасці, незалежна ад колькасці сыноў і дачок. Мацярынскі маёнтак яны наследавалі ў роўных долях з братамі. Жонка пасля смерці мужа атрымлівала частку маёнтка мужа, але не больш як трэць, у пажыццёвае валоданне, а спадчыннікамі лічыліся дзеці або сваякі мужа па мужчынскай лініі (блізкія па мячы). Унесены ў дом мужа пасаг жонкі ў выпадку яе смерці, калі не было дзяцей, вяртаўся ў той дом, з якога выйшаў, г. зн. перадаваўся яе родным (раздз. 5, арт. 19). У Статуце 1588 г. была прадугледжана магчымасць атрымання жонкай у спадчыну маёнтка, калі маёнтак быў набыты ў сумесным шлюбе, а дзяцей у яе з мужам не было, «тогды пры всей маетности жона остати маеть» (раздз. 5, арт. 21).

Абмежаванне правоў жанчын атрымліваць у спадчыну маёнткі мужа, а таксама абмежаваная магчымасць пазбаўлення дзяцей спадчыны былі звязаны з феадальнай павіннасцю ўладальнікаў маёнткаў несці вайсковую службу і выстаўляць пэўную колькасць ратнікаў.

Па Статуту 1588 г., бацькі адносіліся да трэцяй чаргі спадчыннікаў пасля дзяцей і братоў спадкадаўцаў. Усе астатнія родзічы і сваякі адносіліся да чацвёртай чаргі. Пры адсутнасці законных нашчадкаў і тэстаменту на карысць іншых асоб маёмасць прызнавалася вымарачнай і паступала ў казну. Не маглі набываць маёмасць па завяшчанню асобы, пазбаўленыя чэсці, і выгнаннікі — вываланцы. Палонныя і чэлядзь дворная маглі набываць маёмасць па завяшчанню толькі пасля таго, як атрымаюць асабістую вольнасць.

Законам прадугледжвалася, што не мелі права завяшчаць: непаўналетнія дзеці, асобы, якія страцілі вольнасць па суду, манахі, палонныя, чэлядзь дворная, псіхічна хворыя (яны маглі завяшчаць сваю маёмасць толькі пасля выздараўлення), выгнаннікі і пазбаўленыя чэсці. Феадальна-залежныя людзі маглі завяшчаць чужым асобам толькі адну трэцюю частку сваёй рухомай маёмасці, а дзве трэці павінны былі пакідаць дзецям, калі ж іх не было, то гэтымі дзвюма часткамі распараджаўся пан.

Шляхціц меў права завяшчаць чужым асобам толькі адну трэцюю частку маёнтка, а дзве трэці павінен быў пакінуць дзецям або сваім блізкім. Выключэнне з гэтага правіла было зроблена толькі ў адносінах да завяшчання на карысць гасудара.

Абмежаванне правоў феадала завяшчаць усю маёмасць чужым людзям у абход сваіх законных спадчыннікаў знаходзілася ў супярэчнасці з іх правам свабодна прадаваць, дараваць і мяняць маёнткі. Гэта супярэчнасць узнікла таму, што заканадавец пад ціскам развіцця таварна-грашовых адносін прымушаны быў дазволіць больш свабодна ўдзельнічаць шляхце ў розных грашовых здзелках і адначасова імкнуўся захаваць прававую аснову феадальнага землеўладання.

Такім чынам, у спадчынным праве, як і ва ўсім праве XVI ст., выявіліся старыя нормы феадальнага права і парасткі новых норм буржуазнага.

Сямейнае права Беларусі найбольш выразна захавала старажытныя звычаі і нормы звычаёвага права, аднак і ў яго былі ўнесены некаторыя змяненні. Яно рэгулявала і замацоўвала асабістыя і маёмасныя адносіны, якія ўзніклі са шлюбнага саюза, адносіны сваяцтва, апекі, усынаўлення і прыняцця іншых асоб у сям'ю. Нормы сямейнага права садзейнічалі забеспячэнню феадальнага грамадскага ладу, адасобленасці прывілеяванага саслоўя шляхты, гарантавалі захаванне права ўласнасці на асноўныя сродкі вытворчасці ў фамільным уладанні феадала.

Галоўная ўвага ў новых нормах сямейнага права, якія былі ўключаны ў Статут 1588 г., была звернута на маёмасныя адносіны ў сям'і. Неабходнай часткай шлюбнага дагавору становіцца пагадненне аб пасагу, вене, забеспячэнні правоў на сумесную і асабістую маёмасць.

На шлюбна-сямейнае права значны ўплыў мела царкоўнае права і рэлігійныя абрады. Шлюб афармляўся ў некалькі этапаў. Спачатку ад імя жаніха засылаліся да

нявесты і яе бацькоў сваты. Потым, калі была на шлюб узаемная згода, рабіліся заручыны (змовіны). Пры заручынах дамаўляліся аб пасагу і іншых маёмасных адносінах будучых мужа і жонкі. Заручыны маглі рабіцца яшчэ ў дзіцячым узросце будучых мужа і жонкі. Калі ў сям'і мелася некалькі дачок на выданні, то абавязкова трэба было выдаць спачатку старэйшую, а затым наступную за ёй па ўзросту.

Законам прадугледжвалася, што кожны, хто выдаваў «дочку сваю замуж, и даючы за нею посаг або выправу», перад тым як яе выдаць, павінен узяць ад зяця запіс, якім бы ён запісаў жонцы вено на адной трэцяй частцы свайго маёнтка (раздз. 5, арт. 1, 2).

Для прызнання шлюбу неабходна было выканаць акрэсленыя вясельныя абрады — у нявесты распляталі касу, садзілі на пасад, зводзілі маладых, абсыпалі на шчасце жытам, аўсом. Гулялася вяселле з пачастункамі, музыкай, песнямі і танцамі. Вяселле было не толькі сямейнай урачыстасцю. Яно прыдавала шлюбу грамадскую вядомасць і пацвярджэнне, сведчыла аб яго законнасці. З распаўсюджаннем хрысціянства ўводзілася і патрабаванне царкоўнага вянчання, якое было абавязковым для шляхты, каб мець доказы шляхецкага паходжання дзяцей (раздз. 3, арт. 28).

Уступаць у шлюб маглі асобы, якія дасягнулі пэўнага ўзросту (дзяўчаты з 13, а хлопцы з 18 гадоў), якія не знаходзіліся ў другім шлюбе, не былі паміж сабой у блізкім радстве.

Па царкоўных правілах хрысціянам забаранялася ўступаць у шлюб з мусульманамі, іудзеямі, якія павінны былі спачатку прыняць хрысціянства. Па правілах каталіцкай царквы ўступаць у шлюб не дазвалялася каталіцкім ксяндзам, а таксама асобам, якія ўжо раней былі ў трох шлюбах. Удава магла ўступіць у другі шлюб не раней чым праз шэсць месяцаў пасля смерці мужа.

Шлюб павінен быў адбывацца са згоды бацькоў маладых або іх блізкіх, а таксама жаніха і нявесты. Калі дзяўчына выходзіла замуж без згоды бацькоў або блізкіх родзічаў, то яна магла быць пазбаўлена пасагу і права на спадчыну. Але ў выпадку смерці бацькоў і забароны братоў або іншых родзічаў выдаць дзяўчыну замуж, яна магла атрымаць дазвол на шлюб ад дзяржаўнай адміністрацыі і тады не пазбаўлялася правоў на пасаг і іншую маёмасць.

Пры ўступленні ў шлюб феадальна-залежных сялян,

калі жанчына выходзіла ў другую мясцовасць, неабходна было атрымаць дазвол панскай адміністрацыі ці самога пана і заплаціць «вывадную куницу» у размеры ад 6 да 12 грошаў, а пры выхадзе замуж удавы «куніца» выплачвалася ў 20 грошаў.

Асабістыя ўзаемаадносіны мужа і жонкі ў сям'і складаліся ў залежнасці ад іх характараў, паходжання, маёмаснага становішча. Прызнанне ў законе маёмасных правоў жанчыны, а таксама роўныя правы яе адносна дзяцей забяспечвалі жанчыне некаторую свабоду ў здзяйсненні яе павіннасцей як гаспадыні ў доме, а не як рабыні ці служанкі мужа. Муж лічыўся галавой сям'і, асабліва ў тых выпадках, калі трэба было выконваць розныя дзяржаўныя і грамадскія павіннасці. Ён быў законным прадстаўніком сям'і ў дзяржаўных і судовых установах. У актавых кнігах судоў XVI ст. захавалася шмат запісаў розных здзелак, якія былі заключаны жанчынамі самастойна або разам з мужамі. Усё гэта сведчыць аб самастойнай правальдольнасці жанчын. Але трэба мець на ўвазе, што ў перыяд феадалізму, калі буйны феадал мог тварыць самавольства ў адносінах да залежных сялян і беднай шляхты, то і ў адносінах да жонкі нярэдкімі былі здзекі, асабліва ў тых выпадках, калі жонка была з беднай сям'і і не мела багатай і моцнай радні, здольнай абараніць яе ад дэспата мужа, бо дзяржаўныя ўстановы і службовыя асобы ў сямейныя справы не ўмешваліся. Разам з тым у Статуце 1588 г. меўся артыкул, згодна з якім у выпадку забойства жонкі або мужа аднаго другім і нежадання родных узбуджаць справу ў судзе, крымінальнае праследаванне павінны былі распачаць службовыя асобы па ўласнай ініцыятыве. За крымінальныя злачынствы супраць жанчын грашовыя выплаты спаганяліся ў двайным памеры.

Жанчыны былі пазбаўлены палітычных правоў. Яны не маглі выбірацца дэпутатамі на сойм і не прымалі ўдзелу ў павятовых сойміках. Яны не маглі займаць пасады вышэйшых і мясцовых службовых асоб, не маглі быць суддзямі.

Маёмасныя адносіны паміж мужам і жонкай залежалі ў першую чаргу ад таго, якая маёмасць была ў кожнага з іх пры ўступленні ў шлюб. Калі муж быў бяднейшы за жонку і прыходзіў у яе дом (у прымы), то яго правы па распараджэнню маёмасцю былі абмежаваны жонкай, але і ў такім выпадку ён лічыўся галавой дому і павінен быў несці ўсе павіннасці з гаспадаркі.

Дзеці ў сям'і, нават дарослыя, павінны былі слухацца бацькоў, якія маглі выдаць дачку замуж ці ажаніць сына, не пытаючы іх згоды. Бацькі простых людзей або беднай шляхты мелі права перадаць сваіх дзяцей на службу пану.

Маёмасныя правы дзяцей у сям'і былі абмежаваныя. Прызнавалася толькі іх права на маёмасць, якую яны атрымалі самі за асабістую службу або як спадчыну ці падарунак. У агульнай маёмасці сям'і доля дзяцей не была дакладна вызначана, хоць і не адмаўлялася іх права на некаторую яго частку. Так, бацька не мог без прычыны пазбавіць сына або дачку спадчыны і завяшчаць усю маёмасць чужым людзям.

Шырокія правы мужа і жонкі па валоданню і распараджэнню асабістай маёмасцю рабілі іх у матэрыяльных адносінах незалежнымі адзін ад другога, што пры адсутнасці ўзаемнай любові дазваляла патрабаваць скасавання шлюбу. Па вучэнню царквы, як каталіцкай, так і праваслаўнай, шлюб скасоўваўся толькі смерцю мужа ці жонкі. Аднак на Беларусі XVI ст. праваслаўныя і каталікі скасоўвалі шлюбы са згоды духавенства, мясцовых судоў ці адміністрацыі. Для гэтага дастаткова было мужу або жонцы заявіць у духоўным і свецкім судзе ці службовай асобе мясцовай адміністрацыі аб тым, што яны жадаюць скасаваць свой шлюб і просяць дазволіць ім мець магчымасць уступіць у новы. Характэрным у гэтых адносінах быў запіс, зроблены ў 1557 г. Іванам Тарусай і яго жонкай Марынай у гарадзенскім земскім судзе. У ім гаварылася, што ў сувязі з частымі сваркамі і нязгодамі пры адсутнасці ўзаемнай любові яны вырашылі скасаваць свой шлюб «и листы ростанья своего один другому под печатьми некоторых людей добрых на себе дали» [5]. Мяшчане запісы аб скасаванні шлюбу рабілі ў гарадскім магістраце.

Афармленне скасавання шлюбу сярод сялян праводзілася духавенствам, службовымі асобамі мясцовай адміністрацыі ці самім панам, які даваў дазвол на гэта, але, відаць, часцей за ўсё яно не афармлялася пісаным актам. Судовыя пошліны або плата папу ці службовым асобам мясцовай адміністрацыі, а таксама пану за скасаванне шлюбу, відаць, састаўлялі значны прыбытак. Па Стату-

---

[5] Акты Виленской археографической комиссии. Вильно, 1890. Т. 17. С. 413—414.

ту 1588 г. ва ўсіх выпадках скасаванне шлюбу павінна было разглядацца толькі «перед судом духовным».

У сістэме цывільнага і шлюбна-сямейнага права значнае месца адводзілася апякунскаму праву. Апека прызначалася над непаўналетнімі і іх маёмасцю. Яна прызначалася над хлопцамі да 18 гадоў і дзяўчатамі да 13 гадоў, але калі дзяўчына і пасля гэтага ўзросту не выходзіла замуж, то ўсё роўна не пазбаўлялася апекі. Па закону апекунамі лічыліся бацька або маці непаўналетняга, а таксама бліжэйшыя родзічы. Чужыя людзі маглі прызначацца апекунамі па тэстаменту бацькоў або па рашэнню суда. У сувязі з саслоўным характарам грамадства апякун прызначаўся з таго саслоўя, да якога належаў апякаемы, бо апякун павінен быў несці ўсе павіннасці, якія патрабаваліся з маёмасці апошняга, і валодаць не меншай дзеяздольнасцю, чым уладальнік, які пакінуў маёмасць непаўналетняму.

Апякун, прызначаны судом, павінен быў мець свой уласны маёнтак, быць ураджэнцам Вялікага княства Літоўскага, не вельмі старым, добра весці сваю асабістую гаспадарку. Не маглі быць апекунамі служыцелі рэлігійных культаў, за выключэннем выпадкаў, калі яны самі мелі ўласныя маёнткі ў тым жа павеце. Апякун не меў права прадаваць, дарыць, мяняць або іншым спосабам траціць маёнтак апякаемага. Іскі аб прысуджэнні маёмасці непаўналетніх прыпыняліся да іх паўналецця, за выключэннем некаторых.

Кароткі агляд найбольш важных норм цывільнага і шлюбна-сямейнага права дазваляе сцвярджаць, што к канцу XVI ст. на Беларусі склаліся неабходныя сацыяльна-эканамічныя і прававыя ўмовы ўсталявання парасткаў новага буржуазнага права, якія аказалі ўплыў на развіццё грамадска-прававых ідэй і прававой культуры.

### 3. Крымінальнае права

Заканадаўства Вялікага княства Літоўскага значную ўвагу прысвяціла крымінальнаму праву, якое было накіравана на абарону жыцця, здароўя і маёмасці асаблівва феадалаў, якім было прадастаўлена права судзіць і караць залежных ад іх людзей. Заканадаўчае афармленне правоў феадалаў судзіць залежных ад іх людзей прывяло да таго, што пан мог распраўляцца з простымі людзьмі, кіруючыся толькі сваім жаданнем і прыхаццю,

статков заплаты нам и головами выдаваны быти, а нижли ж невъвѣчную неволю жадною поступкою выробити мають тые которые бы заставлены были, а горломъ тотъ самъ злодей маеть быти каранъ который кралъ.

## Артыкулъ кд

О выдаванью лица з враду нашого и тежъ з двора княжацкого, панского и шляхецкого

К тому уставуемъ: естли бы лице принесено было до враду нашого господарского, кнежацкого, панского и земянского, а хотя бы тое лице была речь важная: золото, серебро, грошы, шаты, кони дорогие, тогды ж от всего того лица хотя и наважнейшого кождый врадъ взявши доходу своего пять десятъ грошей маеть тое лицо тому хто его ищеть без трудности дати, а злодей за вину злодейскую горломъ каранъ будеть. А с которое бы лицо стоило меншъ копы грошей, от того выину потому шесть грошей брано быти маеть.

## Артыкулъ ке

О будаги

Кнежата и панове хоруговные, и панове рада, такеж и врядники земские, и о будаги также ничто свого злодея сознанъ бываеть маетности заховати тымъ обычаемъ нижли панамъ их то есть когды бы ся чые кони албо лесное иное была приблудить або угоном трафити ся на именью их будеть взято до двора их або ловитвы хаму в томъ именью пану самому то такое было мо-

жеть

Старонка з Статута 1588 г. (р. 14, а. 24, 25).

а не нормамі права. Таму калі гаворка ідзе аб феадальным крымінальным праве, то трэба мець на ўвазе абмежаваны характар яго дастасавання. Пазасудовую расправу з простымі людзьмі ўжывалі і службовыя асобы дзяржаўнага і гаспадарчага кіравання.

У залежнасці ад характару злачыннай дзейнасці і яе вынікаў па-рознаму называліся і злачынствы. Так, злачынствы супраць здароўя, асабістай недатыкальнасці і маёмасці называліся гвалтам, крыўдай, зладзействам, шкодай. Супрацьпраўны і грамадска небяспечны характар злачынства адцяняўся тэрмінамі «выступ из права» (Судзебнік 1468 г.), віна. Агульнае паняцце злачынства, блізкае да сучаснага, упершыню сустракаецца ў граманце 1447 г. і называецца «проступкой». Такія дзяржаўныя злачынствы, як змова супраць гасудара, дзяржаўная здрада, бунт або паўстанне, спроба дзяржаўнага пераварота і некаторыя іншыя, называліся «ображенне маестату господарского». Гэтая назва была запазычана з рымскага права.

У другой палове XVI ст. на Беларусі мелася ўжо добра распрацаванае крымінальнае права. У Статут 1588 г. побач са старымі нормамі крымінальнага права былі ўключаны новыя палажэнні, якія адпавядалі пачатку зараджэння буржуазнага права.

У якасці суб'ектаў злачынства маглі прыцягвацца як вінаватыя асобы, так і групы асоб, якія адказваюць за чужую віну. Калектыўная адказнасць цэлай групы (сям'і, вёскі, воласці, горада) была зручным сродкам прымусу да пакорлівасці феадальна-залежных людзей, усталявання сярод іх кругавой адказнасці, давала магчымасць прымусіць усіх сачыць за падтрыманнем парадку, пажаданага і выгаднага для феадалаў, і весці пошук злачынцы ці адказваць за яго. Разам з тым у прававых актах рабіліся спробы абмежаваць адказнасць за чужую віну і абвяшчаўся прынцып персанальнай адказнасці толькі вінаватай асобы.

На практыцы права аб абмежаванні адказнасці за чужую віну ў адносінах да простых людзей, асабліва феадальна-залежных, часта не прымянялася. Так, калі след злачынцы прыводзіў да якой-небудзь вёскі, то яе жыхары павінны былі знайсці і выдаць яго або пакрыць усе нанесеныя ім страты і заплаціць судовыя штрафы. Калектыўная адказнасць шырока прымянялася за дзяржаўныя, антыфеадальныя і рэлігійныя злачынствы. Напрыклад, у 1623 г. за забойства уніяцкага архіепіскапа ў

Віцебску ўсе жыхары горада былі пакараны ліквідацыяй органаў гарадскога самакіравання, на іх былі накладзены дадатковыя падаткі і павіннасці, 100 чалавек прыгаворана да пакарання смерцю. Вечавы звон быў зняты, будынак ратушы разбураны, падлягала разбурэнню і саборная царква.

Суб'ектам злачынства прызнаваўся толькі чалавек. За шкоду, зробленую жывёлай, адказваў яе гаспадар. Асобы, псіхічна хворыя (шалёныя), як правіла, не падлягалі крымінальнаму пакаранню, але павінны былі быць пад замком.

Цікава, што ў некаторых выпадках ад адказнасці вызваляліся і асобы, якія ўчынілі злачынства «па глупству». Так, маглі быць вызвалены ад пакарання тыя, хто абвінавачваўся ў распаўсюджванні ілжывых звестак, якія няславілі гасудара, на той аснове, «если бы хто з глупства або шаленства в том выступил» (раздз. 1. арт. 4).

Вызваляліся ад крымінальнай адказнасці і людзі, якія не дасягнулі пэўнага ўзросту. У Статуце 1566 г. прадугледжвалася, што крымінальная адказнасць настае пасля 14 гадоў, а паводле Статута 1588 г.— пасля 16.

Размяжоўвалася ў крымінальным праве віна наўмысная і неасцярожная. Калі ў дзеяннях асобы не ўгледжвалася намеру ўчыніць злачынства ці неасцярожнасці, то не прымянялася і крымінальнае пакаранне. Так, калі ў каго-небудзь панёсся конь і сарвалася аброць і пры гэтым хто-небудзь быў збіты, то яздок не нёс крымінальнае адказнасці. Калі ж скачучы на кані яздок наўмысна ці неасцярожна збіваў цяжарную жанчыну, то яго чакала турэмнае зняволенне на чвэрць года і публічнае пакаянне, у выпадку ж смерці пацярпелай — каралі смерцю. Праяўленая неасцярожнасць у шэрагу выпадкаў не выклікала крымінальнага пакарання, а толькі абавязак выплаціць сям'і забітага галоўшчыну (нібы аплаціць зробленую шкоду). Да такіх выпадкаў адносіліся: неасцярожнае забойства на паляванні; калі на будаўніцтве дома рамеснік неасцярожна ўпусціў камень, цагліну або што-небудзь іншае на другога чалавека; калі зрубленае дрэва падала на чалавека; калі пры стральбе з лука або ружжа ў цэль страла або куля, адхіліўшыся ў бок, трапляла ў чалавека.

Пытанне аб пакаранні вінаватых асоб вырашалася па-рознаму ў залежнасці ад класавай і саслоўнай прыналежнасці як пацярпелага, так і злачынцы. Калі быў

забіты шляхціц некалькімі шляхціцамі і ўсе яны былі прызнаны вінаватымі, то караўся смерцю толькі адзін, па выбару абвінаваўцы (істца), астатнія прысуджваліся да турэмнага зняволення і выплаты галоўшчыны. Калі ж шляхціца забілі простыя людзі, то смяротная кара чакала ўсіх, колькі б іх ні было, і толькі ў выпадку забойства ў бойцы колькасць простых людзей, якія падлягалі пакаранню смерцю, абмяжоўвалася трыма чалавекамі.

Прагрэсіўнай з'явай у крымінальным праве XVI ст. было ўвядзенне крымінальнай адказнасці шляхты за забойства простага чалавека. Аднак працэсуальны парадак устанаўлення віны шляхціца ў такім злачынстве быў настолькі ўскладнены, што даказаць яго вінаватасць часта было немагчыма, у сувязі з чым і само злачынства магло быць беспакараным. Разам з тым факт наяўнасці нормы крымінальнага права, накіраванай на абарону жыцця простых людзей ад самавольства прадстаўнікоў прывілеяванага саслоўя, меў істотнае значэнне. Гэтая норма таксама сведчыць пра некаторы прагрэс у развіцці крымінальнага права і ўплыву на яго ідэі гуманізму. У гэтай частцы наша крымінальнае права апярэджвала права многіх еўрапейскіх краін. Напрыклад, у польскае крымінальнае права гэтая норма была ўнесена толькі ў 1768 г.

У тых выпадках, калі суд не ў стане быў устанавіць ступень вінаватасці асобы ў двухбаковай бойцы пры адсутнасці сведкаў, пытанне віны вырашалася жэрабем або прысягай. Калі перад пачаткам бойкі або ў час яе хто-небудзь патушыў свечку і нельга было ўстанавіць вінаватага ў нанясенні раненняў з-за цемені, то адказвала асоба, якая патушыла свечку.

Усе гэтыя прыклады сведчаць аб тым, што заканадаўца імкнуўся прадугледзець не толькі розныя формы віны, але і тыя выпадкі, калі яе практычна было вельмі цяжка ці нават немагчыма вызначыць і назваць вінаватую асобу.

Для правільнага вызначэння віны суд абавязаны быў выяўляць прычынную сувязь паміж дзеяннем вінаватага і вынікам. Напрыклад, чалавек лічыўся вінаватым у забойстве ў тым выпадку, калі пацярпелы памёр ад ран праз непрацяглы час. Аднак калі пацярпелы на працягу 24 дзён пасля пабояў хадзіў па карчмах і ў госці, а затым памёр хоць бы ад тых жа ран, то падсудны лічыўся вінаватым толькі ў нанясенні ран, але не ў забойстве. Тым самым нібы адмаўлялася прычынная сувязь.

У Статуце 1566 г. была зроблена першая спроба сфармуляваць прэзумпцыю невінаватасці. У ім падкрэслівалася, што суд «в речах вонтпливых склоннейший маеть быти ку вызволенью нижли ку караныо». Гэтае правіла не павінна было распаўсюджвацца на простых людзей, а Статут 1588 г. утрымліваў спецыяльную агаворку аб тым, што правіла адносіцца і да іх.

Неабходная абарона і крайняя неабходнасць прызнаваліся абставінамі, якія вызвалялі ад крымінальнай адказнасці. Паводле Статута 1588 г. пры перавышэнні межаў неабходнай абароны вінаваты вызваляўся ад крымінальнага пакарання, але ён павінен быў выплаціць сваякам забітага галоўшчыну. Пры нанясенні толькі ран для вызвалення ад пакарання дастаткова было даказаць, што пацярпелы першы пачаў агрэсіўныя дзеянні незалежна ад таго, якая была пагроза і якія дзеянні мог прадпрыняць той, хто абараняўся.

Здача непрыяцелю замка і капітуляцыя гарнізона лічылася цяжкім злачынствам, але здача замка ў сувязі з цяжкім голадам разглядалася як дзеянне, якое было зроблена пры крайняй неабходнасці і не падлягала крымінальнаму пакаранню.

Крымінальнае права XVI ст. выразна не размяжоўвала стадый злачыннай дзейнасці, хоць і адрозніваліся ўжо злосны намер, падрыхтоўка і замах, якія караліся толькі ў выпадках, непасрэдна прадугледжаных у законе. Так, падрыхтоўка бунту і змовы супраць гасудара каралася як закончанае злачынства. Намер у выглядзе пагрозы падпаліць маёмасць ці забіць каго-небудзь цягнуў за сабой абавязак таго, хто пагражаў, заявіць перад службовымі асобамі, што гэтага ён не зробіць, і прадставіць паручыцеляў. Калі ён адмаўляўся прадставіць паручыцеляў, то яго саджалі ў турму да таго часу, пакуль іх не будзе. Калі пасля пагрозы ў пацярпелага што-небудзь падпалілі або адбылося забойства і злачынца не быў выяўлены, то адказваў той, хто пагражаў.

Згодна са Статутам пакаранне вызначалася ў залежнасці ад ступені ўдзелу асобы ў злачынстве. Адрозніваўся просты саўдзел, ці савінаватасць, пры якім усе саўдзельнікі былі выканаўцамі злачынства, і складаны саўдзел, у якім адны дзейнічалі як падбухоршчыкі, другія — як выканаўцы і трэція — як супольнікі.

Супольнікамі лічыліся асобы, якія садзейнічалі злачынцу парадамі ці дапамагалі яму коньмі, зброяй, людзьмі або грашыма. Налічвалася некалькі відаў падбухтор-

вання. Крымінальную адказнасць разам з забойцамі нёс і той, «з направы чыее» было зроблена злачынства. Падбухторшчыкам прызнаваўся і феадал, які скіраваў залежных ад сябе людзей на злачынства. У якасці саўдзельніка мог быць прызнаны і намеснік, які ведаў пра злачынства, асабліва калі ён быў арганізатарам злачынай хеўры. Падбухторшчык псіхічна нездаровых (неўмяняемых) асоб разглядаўся як непасрэдны выканаўца.

Не лічыўся саўдзельнікам злачынства і не падлягаў крымінальнай адказнасці слуга пана, які суправаджаў яго пры нападзе (наездзе) на чужы дом і параніў ці забіў каго ў час абароны свайго гаспадара. Гэтыя нормы былі накіраваны на абарону інтарэсаў буйных паноў, каторыя мелі пры сабе слуг і ахоўнікаў, якія абавязаны былі выконваць усе іх распараджэнні, не баючыся крымінальнай адказнасці за злачыства. А самі паны, калі іх прыцягвалі да крымінальнай адказнасці за злачынную дзейнасць сваіх слуг, маглі пазбегнуць кары або адкруціцца грашовым штрафам.

Асобы, дзейнасць якіх не знаходзілася ў прычыннай сувязі са злачынным вынікам, але якія ведалі аб гэтым, як правіла, не неслі крымінальнай адказнасці, хоць маглі несці маёмасную. Напрыклад, маёмасць усёй сям'і дзяржаўнага злачынцы, якая ведала аб яго здрадзе, магла быць канфіскавана. Калі хто-небудзь быў абрабаваны або абкрадзены ў чужым маёнтку, то такі гаспадар, прыцягнуты да суда, не разглядаўся як саўдзельнік, але павінен быў заплаціць пацярпеламу ўсю шкоду.

Неаказанне дапамогі пры злачынным нападзе і затрыманні злачынцы магло прывесці да грамадзянскаправавой адказнасці ў выглядзе пакрыцця страт ці нават штрафу. Самастойным відам злачынства лічылася ўкрывальніцтва злачынцаў, і пакаранне вызначалася такое ж, як і таму, хто хаваўся.

У залежнасці ад аб'екта злачынствы ў феадальным праве можна падзяліць на наступныя групы: 1) дзяржаўныя «ображение маестату господарскага»); 2) супраць парадку кіравання і правасуддзя; 3) вайсковыя; 4) супраць хрысціянскай рэлігіі і царквы; 5) супраць маральнасці; 6) супраць жыцця, здароўя, чэсці людзей; 7) маёмасныя злачынствы; 8) злачынствы слуг і феадальназалежных людзей супраць паноў.

У Статуце 1588 г. ужывалася некалькі тэрмінаў для абазначэння пакаранняў, яны адлюстроўвалі розныя адценні пакарання. Найбольш блізкімі да сучаснага паняц-

ця былі «кара» і «казнь». Імі абазначаліся ўсе віды пакаранняў, тэрміны «віна» — у асноўным маёмасныя пакаранні і турэмнае зняволенне. «Покутой» называліся цялесныя і ганебныя пакаранні.

У феадальнай тэорыі права і судовай практыцы XVI ст. панавала думка, што лепшым сродкам для папярэджання злачынстваў з'яўляецца пагроза і публічнае прымяненне жорсткіх пакаранняў з мэтай застрашыць усіх патэнцыяльных злачынцаў. У сувязі з гэтай тэорыяй у заканадаўства ўводзяцца розныя артыкулы, у якіх прадугледжваюцца публічныя мучыцельныя пакаранні. Памылковасць гэтых тэорый канчаткова даказана навукай. Так, К. Маркс пісаў: «Гісторыя і такая навука як статыстыка з вычарпальнай відавочнасцю даказваюць, што з часоў Каіна свет ніколі не ўдавалася ні выправіць, ні запалохаць пакараннем» [6].

Запалохванне атрымала выразнае заканадаўчае замацаванне ў Судзебніку 1468 г. і Статутах 1529, 1566 і 1588 гг. Меркавалася, што пры дапамозе запалохвання жорсткімі пакараннямі можна ўтрымаць ад злачынства ці нават перавыхаваць злачынцу.

Запалохванню павінны былі служыць і непамерна вялікія маёмасныя кары і штрафы як на карысць пацярпелага, так і суддзяў. Крымінальнае пакаранне накладвалася з улікам класавай і саслоўнай прыналежнасці пацярпелага і злачынцы, а пры іх роўным стане ў грамадстве — па прынцыпу «око за око, зуб за зуб».

З'яўленне капіталістычных адносін у эканоміцы, узмацненне атыфеадальнай барацьбы і распаўсюджанне ідэй гуманізму выклікалі аслабленне ўсяго феадальнага ладу і царкоўнай ідэалогіі, якая падтрымлівала яго, што пацягнула за сабой нараджэнне новых ідэй і ў крымінальным праве. Адбывалася некаторае змякчэнне пакаранняў, і побач з запалохваннем прапанавалася вызначэнне пакарання адпаведна са злачынствам. Так, у прысвячэнні да Статута 1588 г. сказана ўжо, што за злачынныя справы павінна выносіцца «слушное каранье». У законе даволі часта гаворыцца пра ажыццяўленне справядлівасці, хоць разумеецца яна даволі своеасабліва — улічваюцца і захоўваюцца ўсе ільготы і перавагі феадалаў.

Класава-саслоўны характар феадальнага крымінальнага права як права-прывілеі асабліва быў відавочны

[6] *Маркс К., Энгельс Ф.* Соч. Т. 8. С. 530.

пры вызначэнні пакаранняў. Так, калі шляхціц наўмысна параніў або знявечыў другога шляхціца, то мог быць прысуджаны да такога ж калецтва. Калі ж шляхціц нанёс пабоі ці прычыніў калецтва простаму чалавеку, то прыгаворваўся толькі да выплаты штрафу — навязкі. Калі просты чалавек параніў ці пабіў шляхціца, то караўся адсячэннем рукі, а калі пакалечыў, то падлягаў пакаранню смерцю. Слуга, які параніў пана, караўся смерцю, а таму, хто падняў руку на пана, адсякалі руку.

Крымінальныя нормы Статута не ахоплівалі ўсіх відаў пакарання, а таму феадал, які чыніў суд над залежным насельніцтвам, мог прымяняць пакаранні, не прадугледжаныя законам ці нават звычаёвым правам. Маглі прымяняць розныя пакаранні гарадскія (вайтоўскія) і копныя сялянскія суды. Акрамя таго, існавала асаблівая сістэма пакаранняў у царкоўных судах.

У дзяржаўных судах найбольш часта ўжываліся наступныя пакаранні: 1) маёмасныя спагнанні, канфіскацыі і штрафы; 2) пакаранне смерцю; 3) цялесныя; 4) выдача злачынцы пацярпеламу (для адпрацоўкі даўгоў ці для казні); 5) турэмнае зняволенне, як правіла, не больш чым на адзін год і шэсць тыдняў; 6) выгнанне і аб'яўленне па-за законам; 7) пазбаўленне чэсці; 8) пакаянне; 9) пазбаўленне пасады.

Маёмасныя пакаранні і штрафы былі самым распаўсюджаным пакараннем. Яны маглі ўжывацца як асноўныя або дадатковыя від пакарання. Грашовыя спагнанні маглі ісці на карысць як пацярпелага ці яго родных, так і дзяржавы і суддзяў. Усе плацяжы мелі адкрыты класавы напрамак і былі накіраваны на абарону інтарэсаў паноў і шляхты. Так, галоўшчына за забітага шляхціца спаганялася ў 100 коп грошаў, за панцырнага слугу — у 60, за бортніка — у 40 коп, за цяглага чалавека — у 25 коп і за чэлядзіна — у 20 коп грошаў.

Пакаранне смерцю магло быць простым і кваліфікаваным. Простым пакараннем лічылася павешанне (горлам пакараць). Прычым у старажытныя часы прыгавор аб пакаранні смерцю павінен быў выконваць сам асуджаны ў прысутнасці суддзяў, якія слухалі яго пакаянне і агавор другіх злачынцаў, пасля чаго асуджаны сам лез у пятлю і вешаўся. У XVI ст. каралі таксама адсячэннем галавы і расстрэлам вайскоўцамі. Кваліфікаваным пакараннем смерцю былі чацвертаванне, спальванне на агні, утапленне, пасаджэнне на кол.

Пры феадалізме к простым людзям шырока прымяня-

ліся цялесныя пакаранні — калецтва і біццё дубцамі і пугамі. Напрыклад, у злодзея, які ўкраў што-небудзь у вялікакняскім двары на суму меней 2 коп грошаў, адразалі адно вуха. Зводні і ўтрымацелі прытонаў караліся адразаннем носа, вушэй і губы. Біццё пугамі і дубцамі магло адбывацца ў горадзе каля ганебнага слупа.

Выдача злачынцы пацярпеламу ў няволю (халопства) або для казні практыкавалася да сярэдзіны XVI ст. Першая спроба абмежаваць выдачу злодзея ці яго жонкі і дзяцей пацярпеламу была зроблена яшчэ ў Судзебніку 1468 г. У Статуце 1588 г. была запісана норма, згодна з якой злачынца ці яго жонка і дзеці могуць перадавацца пацярпеламу не ў якасці нявольнікаў, а для адпрацоўкі пэўнай сумы грошай.

Турэмнае зняволенне было двух відаў: лёгкае — у верхняй частцы замка і цяжкае — у падзямеллі з ланцугом на шыі. На ўтрыманне зняволенага грошы павінен быў даваць ён сам ці яго блізкія або пацярпелыя, па абвінавачванню якога злачынец быў прыгавораны да турмы.

Выгнанне і аб'яўленне па-за законам прымянялася ў асноўным да злачынцаў-феадалаў, якія хаваліся ад суда, калі абвінавачваліся ў цяжкіх злачынствах, за якія магло быць назначана пакаранне смерцю. Усім людзям пад страхам гэтай кары забаранялася хаваць выгнанніка ці нават мець з ім зносіны. Калі ж яго затрымлівалі, ён падлягаў неадкладнай кары смерцю. Апрача выгнання было яшчэ высяленне з гарадоў і мястэчак людзей, «которые без службы живучи и всякою работаю не бавятся», а толькі гуляюць у косці і п'янствуюць. Службовыя асобы павінны былі іх папярэдзіць два разы, а затым, калі яны не сыходзілі з горада, то «за третим дубцы бьючи вон з мест и местечек выганяти» (раздз. 12, арт. 24).

Пазбаўленне чэсці было дадатковай мерай пакарання для шляхты. Простыя людзі не пазбаўляліся чэсці, бо лічылася, што яе ў іх няма. Гэтае пакаранне азначала страту шляхецтва і ўсяго маёнтка. Пазбаўляліся чэсці шляхціцы, якія ўцяклі з бітвы, выгнаннікі, злачынцы, якія былі асуджаны да пакарання смерцю, але потым памілаваныя.

Пры пакаянні асуджаны павінен быў пры людзях у царкве або касцёле, стоячы на ўзвышшы, чатыры разы на год аб'яўляць людзям аб сваім злачынстве (раздз. 11, арт. 15). У выпадку нанясення абразы шляхціцу вінава-

ты мог быць асуджаны публічна прасіць прабачэння ў зняважанага, што рабілася ў судзе або ў іншым грамадскім месцы (царкве, касцёле). Пры гэтым ён заяўляў, што «на тебе брехал яко пес, а где бы так упорным был а тыми словы за разом у суду того отмовити не хотел, тогды маеть седети у везенью на замку нашом так долго аж тыми словы яко в том артыкуле написано, отмовит и навезку сполна отъдаст» (раздз. 3, арт. 28).

Адзначаючы жорсткасць крымінальных пакаранняў паводле старажытнага крымінальнага права Беларусі, варта звярнуць увагу на тое, што ў параўнанні з правам іншых еўрапейскіх дзяржаў таго часу яно было больш гуманным. Ідэі гуманізму выявіліся ў непрымяненні пакарання смерцю цяжарных жанчын, непрымяненні крымінальных пакаранняў да дзяцей і падлеткаў да 16 гадоў, ва ўстанаўленні крымінальнай адказнасці шляхціца за забойства простага чалавека, больш высокай адказнасці за злачынства супраць жанчын, параўнаўча невялікіх тэрмінаў турэмнага зняволення.

Раздзел 6

# ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЛАД І ПРАВА НА БЕЛАРУСІ Ў ПЕРЫЯД ІСНАВАННЯ РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ (XVII—XVIII стст.)

## 1. Дзяржаўны лад Рэчы Паспалітай

Пасля Люблінскай уніі ўзаемаадносіны паміж Вялікім княствам Літоўскім і Польшчай у значнай меры заставаліся такімі ж, як і пры персанальнай уніі да 1569 г. Новым было толькі тое, што гэты саюз дзвюх дзяржаў быў дапоўнены ўтварэннем новай канфедэратыўнай многанацыянальнай дзяржавы — Рэчы Паспалітай *, хоць па акту Люблінскай уніі Вялікае княства Літоўскае павінна было зліцца з Польшчай і страціць сваю самастойнасць. Але паводле Статута 1588 г. яно захоўвала поўны суверэнітэт, а акт уніі ігнараваўся. Такім чынам, гэтыя ўзаемаадносіны грунтаваліся не на прававой аснове, а на больш чым двухсотгадовай практыцы персанальных уній.

Сацыяльна-эканамічная структура грамадства на Беларусі ў гэты перыяд заставалася без кардынальных змен. Па-ранейшаму захоўваўся феадальна-прыгонніцкі лад, але больш выразна сталі выяўляцца капіталістычныя адносіны ў нетрах старога ладу. У таварна-грашовыя адносіны больш інтэнсіўна ўключаліся як паны, так і сяляне, якія былі вымушаны, каб заплаціць пану чынш грашыма, прадаваць частку сваёй прадукцыі або ісці на заробкі. У гарадах і панскіх маёнтках пачалі ўтварацца новыя мануфактуры па перапрацоўцы мясцовай сыравіны. Будаваліся новыя дарогі, масты. У 1784 г. было завершана будаўніцтва канала Агінскага, які злучыў Нёман з Прыпяццю. У 1781 г. пачалася будоўля Днепра-Бугскага канала.

Вышэйшымі органамі дзяржаўнай улады ў Рэчы Па-

* Рэч Паспалітая — даслоўны пераклад з лацінскае мовы слоў respublica (рэспубліка).

спалітай былі кароль і сойм. Прававое становішча караля вызначалася агульнадзяржаўнымі актамі — «Пакта канвента» і «Генрыкаўскімі артыкуламі», а на Беларусі і ў Літве яшчэ і Статутам 1588 г. «Пакта канвента» ўтрымлівалі шэраг абавязкаў, якія былі прапанаваны да падпісання Генрыху Валуа пры абранні яго на каралеўскі прастол у Рэчы Паспалітай у 1573 г. Затым па іх узору заключаліся пагадненні і з іншымі кандыдатамі на каралеўскі трон. Згодна з «Пактам канвента» Генрых Валуа, стаўшы каралём Рэчы Паспалітай, абавязваўся захоўваць наступныя ўмовы: заключыць вечны саюз Рэчы Паспалітай з Францыяй; у час вайны Францыя абавязана была прыслаць у Польшчу гасконскую пяхоту, а Рэч Паспалітая ў Францыю — кавалерыю; у выпадку вайны з Масквой Генрых Валуа павінен быў выставіць 4 тыс. гасконскай пяхоты і ўтрымліваць іх за свой кошт на працягу паўгода; стварыць за свой кошт флот на Балтыйскім моры. Прадугледжвалася пашырэнне гандлю паміж Рэччу Паспалітай і Францыяй, пацвярджэнне ўсіх правоў і прывілей.

Адначасова з «Пактам канвента» ў 1573 г. былі распрацаваны і «Генрыхаўскія артыкулы». У іх змяшчаліся асноўныя прынцыпы, што вызначалі паўнамоцтвы каралеўскай улады і сойма. У адрозненне ад «Пакта канвента», які складаўся для кожнага прэтэндэнта на каралеўскі прастол і заключаўся з ім, «Генрыхаўскія артыкулы» насілі нязменны характар і кожны нанава абраны кароль абавязаны быў іх пацвердзіць. У сувязі з тым, што Генрых Валуа іх не пацвердзіў, яны набылі сілу закона толькі пры каранацыі Стэфана Баторыя 30 мая 1576 г. і затым пацвярджаліся ўсімі каралямі Рэчы Паспалітай. У іх абвяшчалася свабоднае абранне караля, свабода хрысціянскага веравызнання, абавязак склікаць сойм раз на два гады на шэсць тыдняў, не склікаць агульнае апалчэнне (паспалітае рушэнне) без згоды сойма, мець пры сабе пастаянна савет з 16 сенатараў-рэзідэнтаў. Забаранялася ўстанаўліваць новыя падаткі і пошліны без згоды сойма. У выпадку вайны апалчэнне павінна было знаходзіцца ў межах дзяржавы, а пры пераходзе граніц выплачваць кожнаму ратніку па 5 грыўнаў. Прадугледжвалася, што калі кароль дзейнічаў насуперак праву і сваім абавязкам, то шляхта мела права адмовіцца ад падпарадкавання каралю і выступіць супраць яго [1]. Адмовы

[1] Historia Polski. Warszawa, 1957. T. I. Cz. 2. S. 300.

ад падпарадкавання абвяшчаліся ў выглядзе канфедэрацый (Слуцкая — 1767 г., Барская — 1768 г., Таргавіцкая — 1792 г.).

Соймы Рэчы Паспалітай падраздзяляліся на звычайныя, што склікаліся каралём, і надзвычайныя, калі склікаліся кіраўніком каталіцкай царквы ў Рэчы Паспалітай — прымасам, у выпадку смерці караля або яго адмаўлення ад прастола. Для выбрання новага караля склікаліся тры соймы: 1) канвакацыйны, на якім вызначаліся час і месца выбараў караля, мяркуемыя кандыдаты на каралеўскі прастол, выпрацоўваліся ўмовы дагавору з кандыдатам; 2) элекцыйны (выбарчы), на якім праводзіліся выбары і заключалася пагадненне «Пакта канвента»; 3) каранацыйны, на якім ажыццяўлялася ўрачыстая каранацыя і кароль прыносіў прысягу захоўваць усе правы і ўмовы пагаднення. Гэтыя ўмовы настолькі абмяжоўвалі ўладу караля, што ён не валодаў



Сойм Рэчы Паспалітай.

ні заканадаўчай, ні выканаўчай, ні судовай уладаю. А для таго, каб ён нічога сам не мог зрабіць, пры ім пастаянна знаходзіліся не менш як чатыры сенатары з 16 сенатараў-рэзідэнтаў.

Сойм Рэчы Паспалітай складаўся з трох «соймавых саслоўяў» (станаў): караля, сената і пасольскай ізбы (палаты дэпутатаў). Лічылася, што пасольская ізба была рашаючай часткай сойма, але фактычна яна нічога вырашаць не магла. Агульныя (вальныя) соймы Рэчы Паспалітай засядалі ў Варшаве, а з 1673 г. кожны трэці сойм збіраўся ў Гародні. У сенат уваходзілі ўсе каталіцкія архіепіскапы і епіскапы, ваяводы, каштэляны і некаторыя службовыя асобы вярхоўных органаў кіравання Польшчы і Вялікага княства Літоўскага, усяго 140—150 сенатараў. Пасольская ізба складалася з выбіраемых прадстаўнікоў павятовай шляхты. У сярэдзіне XVIII ст. у складзе пасольскай ізбы было 236 дэпутатаў [2].

Усімі справамі на сойме кіравалі вярхі каталіцкага духавенства і некалькі сем'яў буйных землеўладальнікаў-магнатаў, якія праз сваіх стаўленікаў кантралявалі выбары дэпутатаў на павятовых сойміках і накіроўвалі іх паводзіны на вальных соймах. Соймы збіраліся, як правіла, адзін раз на два гады не больш чым на шэсць тыдняў. Для прыняцця рашэнняў патрабавалася аднагалоснае іх ухваленне. Кожны дэпутат валодаў правам накладаць на любое рашэнне і ўсю работу сойма забарону — свабоднае вета, што вяло да бяссілля сойма. Акрамя таго, усе дэпутаты з паветаў абавязаны былі дакладна прытрымлівацца інструкцый, атрыманых на павятовых сойміках, што ў сваю чаргу стварала цяжкасці ў рабоце. З 55 соймаў, якія склікаліся ў 1652—1764 гг., 42 былі сарваны накладаннем вета. Першы раз сойм Рэчы Паспалітай быў сарваны ў 1652 г. дэпутатам Уладзіславам Сіцінскім, які дзейнічаў па ўказанні Аляксандра Радзівіла. У некаторых выпадках для таго, каб пазбегнуць зрыву сойма накладаннем вета, дэпутаты аб'яўлялі сойм канфедэрацыяй, і тады рашэнні прымаліся простай большасцю галасоў.

Кампетэнцыя агульных соймаў Рэчы Паспалітай была шырокай. Лічылася, што сойм можа вырашаць усе пытанні дзяржаўнага кіравання і заканадаўства. Да спецыяльнай кампетэнцыі сойма адносіліся: выбранне караля; скліканне апалчэння, аб'яўленне вайны і заклю-

---

[2] Польский сейм. Варшава, 1959. С. 16.

чэнне міру; устанаўленне падаткаў з шляхты для вядзення вайны. У 1601 г. быў прыняты закон, згодна з якім прысваенне простаму чалавеку шляхецкага звання магло праводзіцца толькі па прадстаўленню сената і дэпутатаў сойма, а для феадальна-залежнага чалавека патрабавалася яшчэ згода яго пана. У пачатку XVII ст. соймавымі пастановамі былі створаны камісіі па ўдакладненню граніц паміж Вялікім княствам Літоўскім і Польшчай. У 1646 г. сойм прыняў пастанову аб уключэнні ў склад Вялікага княства гарадоў Лоева і Любеча з прылеглымі да іх раёнамі.

Для кантролю над паступленнем і расходаваннем грашовых сродкаў Вялікага княства Літоўскага па рашэнню сойма ствараўся адасоблены ад Польшчы фінансавы трыбунал, які камплектаваўся з прадстаўнікоў Вялікага княства Літоўскага. Фінансавая адасобленасць Вялікага княства захоўвалася да апошніх дзён яго існавання. Да 1775 г. на граніцы з Польшчай дзейнічалі таможаныя кантормы і спаганялася пошліна за завоз і вываз купецкіх тавараў.

Рашэнні соймаў Рэчы Паспалітай падраздзяляліся на тры групы: 1) датычыліся ўсёй Рэчы Паспалітай — аб вышэйшых органах улады, падатках і іншых агульных справах; 2) мелі дачыненне да Польшчы; 3) мелі сілу для Вялікага княства Літоўскага. Як правіла, апошнія ў соймавых дакументах выдзяляліся ў спецыяльны раздзел.

У сярэдзіне XVIII ст. у Рэчы Паспалітай разгарнулася вострая палітычная барацьба прыхільнікаў рэформаў дзяржаўнага ладу з рэакцыйнымі коламі каталіцкага духавенства і буйных феадалаў. Прагрэсіўныя дзеячы, звязаныя з развіваючымiся капіталістычнымі адносінамі, імкнуліся рэфармаваць феадальны дзяржаўны апарат і прыстасаваць яго да новых эканамічных і палітычных умоў. Рэакцыйныя колы жадалі захаваць у недатыкальнасці старыя феадальныя парадкі, не лічыліся з агульнанароднымі і агульнадзяржаўнымі інтарэсамі. Не атрымліваючы падтрымкі сярод народа, яны пайшлі на змову з суседнімі манархічнымі дзяржавамі — Аўстрыяй, Расіяй і Прусіяй.

Дзейнасць рэфарматараў асабліва актывізавалася пасля смерці ў кастрычніку 1763 г. караля Аўгуста III. Канвакацыйны сойм 1764 г. прыняў шэраг пастаноў, паводле якіх абмяжоўвалася прымяненне вета па фінансавых справах, а дэпутаты сойма вызваляліся ад аба-

вязку прытрымлівацца інструкцый, атрыманых ад павятовых соймікаў. У якасці часовых органаў кіравання былі створаны дзве камісіі па фінансавых пытаннях, адна для Польшчы, другая — для Вялікага княства Літоўскага. У верасні 1764 г. на элекцыйным сойме каралём Рэчы Паспалітай быў абраны ўраджэнец Беларусі (маёнтак Волчын Берасцейскага павета) стольнік Вялікага княства Літоўскага Станіслаў Панятоўскі, пляменнік канцлера Вялікага княства Літоўскага Міхаіла Фрэдэрыка Чартарыскага. Новаму каралю на каранацыі было дадзена яшчэ імя Аўгуста. Ён у 1755—1758 гг. прыязджаў у Пецярбург, быў блізка знаёмы з Кацярынай, якая стала затым царыцай, у сувязі з чым яго кандыдатура на каралеўскі прастол была падтрымана царскім урадам. Пасля яго выбрання ўнутрыпалітычная барацьба набыла яшчэ больш востры характар, асабліва рэлігійная барацьба праваслаўных, уніятаў і пратэстантаў супраць засілля каталіцкага духавенства. Каталіцкаму духавенству ўдалося, карыстаючыся соймавымі пастановамі 1717, 1733 і 1736 гг., абмежаваць у палітычных правах іншаверцаў, што выклікала іх пратэсты і служыла прычынай для ўмяшання замежных дзяржаў ва ўнутраныя справы Рэчы Паспалітай. Пры падтрымцы Расіі 20 сакавіка 1767 г. у Слуцку беларускія іншаверцы абвясцілі канфедэрацыю, патрабуючы ад кіруючых колаў



Дом Касцюшкі ў Марачоўшчыне (каля Косава)

Рэчы Паспалітай адмены ўсіх дыскрымінацыйных норм у адносінах да праваслаўных і пратэстантаў. Адначасова была аб'яўлена падобная канфедэрацыя ў Торуне, падтрыманая Прусіяй. У чэрвені 1767 г. па ініцыятыве вярхоў каталіцкага духавенства і рэакцыйных феадалаў аб'явілі канфедэрацыю ў Радоме з мэтай недапушчэння правядзення рэформаў.

Сойм, які сабраўся ў кастрычніку 1767 г., павінен быў абмеркаваць пытанні аб ураўненні ў правах праваслаўных і пратэстантаў з каталікамі і не дапусціць правядзення рэформаў дзяржаўнага ладу, чаго патрабавалі ўрады Расіі і Прусіі. Яшчэ ў сакавіку 1764 г. гэтыя дзяржавы заключылі паміж сабой пагадненне, па якому ўзялі на сябе абавязацельства не дапускаць сілай зброі рэформаў дзяржаўнага ладу Рэчы Паспалітай. Сойм выбраў камісію для падрыхтоўкі рашэння аб ураўненні ў правах праваслаўных і пратэстантаў з каталікамі. Камісіяй быў падрыхтаваны ў лютым 1768 г. дагавор з Расіяй аб прадастаўленні свабоды выканання рэлігійных культаў і некаторым ураўненні ў правах некатолікаў з каталікамі. На сойме 1768 г. быў прыняты закон пад назвай «Кардынальныя правы», які замацаваў непахіснасць свабоднага прымянення вета, захавання шляхецкіх прывілей і недапушчэння рэформаў дзяржаўнага ладу. Разам з тым у «Кардынальных правах» меліся і некаторыя новыя нормы. Так, паводле арт. 19 уласнікі маёнткаў пазбаўляліся права прыгаворваць залежных ад іх сялян да пакарання смерцю, а арт. 20 пашыраў дзеянне арт. 1 раздз. 12 Статута Вялікага княства Літоўскага 1588 г., якім устанаўлівалася крымінальная адказнасць шляхціца за забойства простага чалавека на тэрыторыі Польшчы.

У тым жа 1768 г. у горадзе Бары (паўднёва-заходняя Украіна) была абвешчана яшчэ адна канфедэрацыя, якая заклікала да барацьбы за адмену раўнапраўя праваслаўных і захаванне ўсіх ранейшых правоў шляхты. У падтрымку барскіх канфедэратаў выступіла Турцыя, якая пачала вайну з Расіяй. Скарыстаўшы тое, што Расія была занята вайной з Турцыяй, Аўстрыя ў 1769—1770 гг. акупіравала частку Польшчы і Украіны, а Прусія ў 1770 г. паўночна-заходнюю частку Польшчы і прапанавала Расіі заключыць дагавор аб сумесным раздзеле Рэчы Паспалітай. Да Расіі па першаму раздзелу Рэчы Паспалітаў (1772) адышлі ўсходнія раёны Беларусі з гарадамі Полацкам, Віцебскам, Оршай, Магілёвам, Рагачовам, Гомелем.

Па наказу Кацярыны II ад 28 мая 1772 г. гэтая тэрыторыя была ўключана ў дзве нанава створаныя губерні: Пскоўскую і Магілёўскую. Устанаўлівалася, што «суд і расправа» ў гэтых землях па асабістых справах павінны праводзіцца па мясцовых «законах і звычаях і іх моваю», г. зн. па Статуту 1588 г., а «справы ж, што парушалі спакой і цішыню грамадзян», падлягалі разгляду ва ўстановах, «кои от власти верховной на то устроены»[3].

Такім чынам, крыніцамі права ў гэтых губернях па найбольш важных крымінальных справах, асабліва па дзяржаўных злачынствах, з'яўляліся Саборнае ўлажэнне 1649 г., «Артыкул воінскі» і іншыя заканадаўчыя акты рускай дзяржавы. Дакладнага размежавання, па якіх крымінальных справах прымяняліся нормы Статута 1588 г., а па якіх рускае заканадаўства, не было. Указам Сената ад 8 мая 1773 г. у далучаных да Расійскай імперыі дзвюх беларускіх губернях ствараліся губернскія і правінцыяльныя суды. Суддзі гэтых судоў выбіраліся толькі шляхтай, якая мела не менш як 10 сялян мужчынскага полу, а выбранымі маглі быць шляхціцы, якія мелі не менш як 20 сялян. Змяняўся, у параўнанні са Статутам, час пасяджэння земскіх судоў. Яны павінны былі разглядаць справы толькі ў чатыры зімовыя месяцы, г. зн. з 1 лістапада па 1 сакавіка. Указам сената ад 28 жніўня забаранялася прадаваць беларускіх сялян без зямлі, бо «белорусское шляхетство издавна не имело сего в обыкновении»[4].

Паля першага раздзелу Рэчы Паспалітай дзейнасць рэфарматараў па пераўтварэнню дзяржаўнага ладу ў значнай ступені стрымлівалася замежным умяшаннем. Кацярына II, жадаючы яшчэ больш падпарадкаваць свайму ўплыву Рэч Паспалітую, лічыла неабходным стварыць выканаўча-распараджальны орган, які б выконваў указанні царскага пасла. Такім органам стаў створаны ў 1775 г. Пастаянны савет, які складаўся з 36 саветнікаў (18 сенатараў і 18 дэпутатаў), якія выбіраліся соймам. Аднак гэты Савет аказаўся няздольным кіраваць дзяржаўнымі справамі і фактычна Рэч Паспалітая працягвала заставацца дзяржавай без урада, а сам Савет быў ліквідаваны ў 1789 г.

Кароль Станіслаў Аўгуст і яго бліжэйшыя супрацоўнікі садзейнічалі развіццю асветы ў дзяржаве. У 1765 г.

---

[3] БЭФ. Т. 3. С. 26.
[4] БЭФ. Т. 3. С. 50.

быў створаны кадэцкі корпус, у якім навучаліся будучыя афіцэры. У 1773 г. сойм утварыў Адукацыйную камісію, якой даручаўся нагляд за народнай адукацыяй, школьнымі праграмамі і падручнікамі. Яна ведала выдзяленнем грашовых сродкаў на адукацыю. Гэта камісія з'явілася першым правобразам міністэрства асветы. Развіццё асветы садзейнічала росту свабодамыснасці і актывізацыі дзейнасці прыхільнікаў рэформаў дзяржаўнага ладу.

З 60-х гг. XVIII ст. пачалося эканамічнае ажыўленне, пашырыліся мануфактуры, актывізаваўся ўнутраны і міжнародны гандаль, значна ўзрасло эканамічнае значэнне гарадской буржуазіі. Узмацнялася агульнасць інтарэсаў буржуазіі і шляхты — уласнікаў землеўладанняў. Усё гэта выклікала неабходнасць выдання законаў, якімі пашыраліся б правы буржуазіі і абмяжоўваліся правы беззямельнай шляхты. У 1775 г. былі выдадзены законы, якія дазвалялі беларускім мяшчанам набываць феадальныя маёнткі, а шляхце займацца прадпрыемніцкай дзейнасцю і гандлем без страты сваіх шляхецкіх правоў. Значнай колькасці багатых мяшчан было прысвоена званне шляхты. Мяшчане дробных гарадоў і мястэчкаў былі пазбаўлены часткі сваіх правоў. Законам 1776 г. магдэбургскае права было захавана толькі ў Берасце, Вільні, Ваўкавыску, Гародні, Коўні, Лідзе, Менску, Мазыры, Наваградку, Пінску і Троках. Ва ўсіх


Тадэвуш Касцюшка


Людвіка Сасноўская

астатніх гарадах і мястэчках Беларусі і Літвы магдэбургскае права адмянялася, а судовыя справы паміж жыхарамі сталі вырашацца судом стараст. У гэтым жа законе ўсім мяшчанам гарантавалася недатыкальнасць іх уласнасці, забяспечвалася «свабода купецтва, гандлю і рамясла, куплі і продажу дамоў, участкаў і ўсякай маёмасці, права свабоднага пераезду і пакідання свайго месца жыхарства» [5]. З мэтай навядзення парадку ў гандлі былі ўведзены адзіныя меры даўжыні, аб'ёму і вагі ва ўсім Вялікім княстве Літоўскім. Тым самым была зроблена спроба зблізіць іх з адзінкамі вымярэння іншых дзяржаў, у тым ліку і Польшчы.

## 2. Канстытуцыя Рэчы Паспалітай 1791 г.

Збліжэнне шляхты з буржуазіяй садзейнічала ўтварэнню ў палітычнай барацьбе адзінага блока прагрэсіўнай часткі шляхты і буржуазіі. Гэты блок у гістарычнай літаратуры атрымаў назву «патрыятычная партыя». Яго дзейнасць асабліва актыўна праявілася ў 1790—1794 гг. Пачатак дзейнасці быў пакладзены на Чатырохгадовым сойме 1788—1792 гг. Сойм складаўся з 177 дэпутатаў, з іх 69 адносіліся да прыхільнікаў шляхецка-буржуазнага блока і прытрымліваліся рэфарматарскіх поглядаў. Яны былі найбольш энергічныя і дзейныя дэпутаты. Гэты сойм аб'явіў сябе канфедэрацыяй, таму яго рашэнні прымаліся большасцю галасоў і не магло прымяняцца свабоднае вета. Да заканчэння сваіх паўнамоцтваў у 1790 г. сойм прыняў пастанову аб падоўжанні сваіх паўнамоцтваў яшчэ на два гады і правядзенні новых выбараў дэпутатаў. Дадаткова было выбрана 182 дэпутаты, з якіх 112 былі прыхільнікамі правядзення рэформ. Такім чынам, з 359 дэпутатаў Чатырохгадовага сойма 181 былі прадстаўнікамі шляхецка-буржуазнага блока і прыхільнікамі рэформ. На актывізацыю дэпутатаў-рэфарматараў значны ўплыў аказвалі падзеі ў рэвалюцыйнай Францыі. Сойм у двайным складзе таксама абвясціў сябе канфедэрацыяй для таго, каб мець магчымасць прымаць рашэнні простай большасцю галасоў.

Пераўтварэнне дзяржаўнага ладу Рэчы Паспалітай Чатырохгадовы сойм пачаў з выкладання асноўных прынцыпаў канстытуцыйнага права, замацаваных у «Кардынальных правах», прынятых у студзені 1791 г.

[5] Volumina Legum. Petersburg, 1860. T. 8. S. 567—568.

У іх абвяшчалася дамінаванне каталіцкай рэлігіі ў дзяржаве, пераход з каталіцкай веры ў іншую разглядаўся як крымінальнае злачынства; адначасова і асобам, якія трымаюцца іншых веравучэнняў, забяспечвалася свабода і бяспека ў выкананні рэлігійных культаў; дэкларавалася вечная унія Польшчы і Вялікага княства Літоўскага ў саставе Рэчы Паспалітай і яе суверэнныя правы; Рэч Паспалітая аб'яўлялася прававой дзяржавай, у якой вяршэнства належыць толькі закону, прынятаму соймам. «Ніякая ўлада нікога не можа абавязаць выконваць распараджэнні, якія не адпавядаюць праву, і не можа дазваляць сабе і іншым таго, што забараняе права, не будзе ігнараваць тое, што права абавязвае выконваць» [6]. Асабліва важнае значэнне меў арт. 11, у якім абвяшчаліся свабода слова і друку, за выключэннем пытанняў, што датычаць пануючай каталіцкай веры, у інтарэсах якой магла быць устаноўлена цэнзура.

Буржуазны характар рэформ праявіўся ў законе ад 24 сакавіка 1791 г., якім бедная беззямельная шляхта пазбаўлялася права ўдзельнічаць у павятовых сойміках і прымаць удзел у выбарах дэпутатаў на агульны сойм. Тым самым у аснову быў пакладзены не саслоўны, а класавы прынцып, характэрны для буржуазнага выбарчага права.

Для жыхароў гарадоў і мястэчкаў першачарговае значэнне меў закон «Гарады нашы каралеўскія свабодныя ў дзяржавах Рэчы Паспалітай» [7], прыняты ў красавіку 1791 г. Гэтым законам мяшчане атрымалі такое ж права асабістай недатыкальнасці, якім карысталася беларуска-літоўская шляхта па Статуту 1588 г. Гэта значыць, забаранялася знявольваць падазраваемага пад ахову да судовага разбірацельства, за выключэннем выпадкаў затрымання на месцы злачынства, фальшывых банкрутаў, якія не прадставілі дастатковага залога ў судзе. Мяшчанам дазвалялася набываць маёнткі, населеныя залежнымі сялянамі, а ўласнікі маёнткаў коштам звыш 2 тыс. злотых атрымалі права ўзводзіцца соймам у шляхецкае званне. Акрамя таго, на кожным сойме яшчэ па 30 мяшчан, якія мелі нерухомую маёмасць у гарадах, маглі аб'яўляцца шляхтай. Мяшчане, якія дасłужыліся ў арміі да званняў штабс-капітана, капітана і ротмістра, станавіліся са сваімі нашчадкамі шляхці-

---

[6] Volumina Legum. Kraków, 1889. T. 9. S. 203—204.
[7] Ibid. S. 215—219.

цамі. Мяшчанам дазвалялася займаць ніжэйшыя пасады ў дзяржаўных установах і судах, а таксама быць адвакатамі. Мяшчане атрымалі права прадстаўляць свае інтарэсы ў соймавых камісіях пры разглядзе пытанняў, што датычыліся гарадоў. Закон аб гарадах стварыў спрыяльныя ўмовы для развіцця гарадоў і збліжэння мяшчан са шляхтай, што дазволіла ўмацаваць палітычныя пазіцыі шляхецка-буржуазнага блока і яшчэ больш энергічна пачаць далейшыя рэформы дзяржаўнага ладу.

Кансалідацыя патрыятычных сіл у сойме дазволіла 3 мая 1791 г. прыняць Закон аб урадзе (Ustawa Rządowa), які ў гістарычнай літаратуры прынята называць Канстытуцыяй Рэчы Паспалітай 3 мая. Прыхільнікі рэформ, баючыся, што сойм у поўным складзе не прыме гэтую Канстытуцыю, адважыліся крыху парушыць парадак і пачалі сесію сойма, калі значная частка рэакцыйных дэпутатаў і сенатараў не вярнулася з велікодных канікулаў. На сесіі прысутнічала толькі 182 дэпутаты і сенатары, што складала крыху больш як адну трэцюю частку агульнага саставу сойма. Трэцяга мая да каралеўскага замка ў Варшаве, дзе засядаў сойм, былі выстаўлены вайсковыя часці, якія падтрымлівалі рэфарматараў, а на вуліцы выйшлі гараджане. У залу пасяджэнняў сойма прыбылі прадстаўнікі мяшчан, тым самым выказваючы падтрымку Канстытуцыі.

Канстытуцыя 3 мая складалася з прэамбулы і 11 раздзелаў. У прэамбуле ад імя караля Станіслава Аўгуста гаварылася, што, улічваючы застарэлыя недахопы кіравання ў Рэчы Паспалітай і жадаючы выкарыстаць становішча, у якім знаходзіцца Еўропа, імкнучыся дасягнуць знешняй незалежнасці і ўнутранай свабоды народа, для агульнага дабрабыту і захавання дзяржавы і яе граніц зацвярджаецца гэтая Канстытуцыя. У раздз. 1 пануючай рэлігіяй у дзяржаве аб'яўлялася «святая рымская каталіцкая» рэлігія з усімі яе правамі. Пераход з каталіцкай веры ў іншую забараняўся. Для ўсіх іншых канфесій гарантавалася свабода выканання рэлігійных абрадаў. У раздз. 2 пацвярджаліся ўсе правы і прывілеі, дадзеныя шляхце Польшчы і Вялікага княства Літоўскага. Уся шляхта прызнавалася роўнай між сабой і ў роўнай ступені магла карыстацца ўсімі правамі і прывілеямі, асабліва асабістай бяспекі, свабоды, уласнасці. Шляхта прызнавалася найпярвейшым абаронцам свабоды і дадзенай Канстытуцыі. У раздз. 3 пацвярджаўся закон аб гарадах і аб'яўляўся часткай Канстытуцыі.

Раздз. 4 змяшчаў новыя нормы аб сялянах. У ім гаварылася: «Сяляне, з-пад рук якіх цячэ вялікая крыніца багаццяў краіны, якія складаюць у народзе самую шматлікую частку насельніцтва і, значыць, з'яўляюцца самай дзейнай сілай краіны, па справядлівасці, з пачуцця чалавечнасці і хрысціянскага абавязку, а таксама ўлічваючы наш уласны, правільна зразуметы інтарэс, мы бярэм пад ахову правы і нашага ўрада, устанаўліваючы, што з гэтага часу любыя свабоды, пажалаванні або сапраўдныя дагаворы, заключаныя між землеўладальнікамі і сялянамі іх маёнткаў, незалежна ад таго, ці былі яны зроблены ўсёй грамадою або кожным асобным жыхаром вёскі, павінны ўстанаўліваць агульныя і ўзаемныя абавязацельствы ў адпаведнасці з дакладным значэннем умоў і запісанага ва ўказаных пажалаваннях і дагаворах, якія знаходзяцца пад апекай краявога ўрада... Абумовіўшы тым спосабам уладальнікаў маёнткаў пры ўсіх паступленнях ад сялян, што ім належаць, і жадаючы заахвоціць павелічэнне насельніцтва ў краіне, даём поўную свабоду для ўсіх людзей, як нанава прыбываючых, так і тых, якія раней выдаліліся з краіны, а цяпер пажадалі вярнуцца на радзіму»[8]. У дадзеным раздзеле зроблена спроба хоць бы на словах крыху абмежаваць самавольства паноў у адносінах да сялян, бо сама залежнасць сялян ад паноў не адмянялася. Вядома, сяляне Рэчы Паспалітай не былі задаволены зместам гэтага раздзела Канстытуцыі, а таму не лічылі неабходным яе абараняць.

У раздз. 5 замацоўвалася прагрэсіўнае палажэнне аб тым, што «ўсякая ўлада ў чалавечым грамадстве бярэ свой пачатак у волі народа» і павінна складацца «з трох уладаў», г. зн. заканадаўчай, выканаўчай і судовай.

У раздз. 6 вызначалася структура і паўнамоцтвы сойма, які складаўся з дзвюх палат: палаты дэпутатаў (паслоў) і палаты сенатараў пад старшынствам караля. Палата дэпутатаў абвяшчалася святыняй заканадаўства. У яе павінны былі ўваходзіць 204 дэпутаты, абавязкам якіх было абмеркаванне ўсіх законапраектаў. Сенат, які складаўся з каталіцкіх епіскапаў, ваяводаў, каштэлянаў і міністраў пад старшынствам караля, налічваў 132 чалавекі. Закон, прыняты ў палаце дэпутатаў, перадаваўся ў сенат, які мог яго ўхваліць або адкласці да паўторнага пасяджэння сойма. У такім выпадку абедзве палаты збі-

---

[8] Volumina Legum. T. 9. S. 221.

раліся разам і рашэнне прымалася простай большасцю галасоў. Адмянялася свабоднае вета, забараняліся ўсякія канфедэрацыі. Устанаўлівалася, што Канстытуцыя падлягае перагляду праз 25 гадоў.

Па-новаму вырашалася ў Канстытуцыі пытанне аб выканаўчай уладзе — аб урадзе, склад і кампетэнцыя якога вызначаліся ў раздз. 7. Вышэйшым выканаўчым органам — урадам — абвяшчалася «Ахова законаў» (Straż praw). Ва ўрад уваходзілі кароль як старшыня, кіраўнік каталіцкае царквы — прымас як старшыня камісіі народнай асветы, і пяць міністраў: паліцыі, унутраных спраў, замежных спраў, ваенны міністр, міністр фінансаў. Назначаліся два сакратары, з якіх адзін вёў справаводства «Аховы законаў», другі — замежныя справы. Міністраў прызначаў кароль.

Да найбольш важных змяненняў адносілася адмена выбарнасці каралёў і ўстанаўленне спадчыннасці трона. Наследнік караля, дасягнуўшы паўналецця і прынёсшы прысягу, мог прысутнічаць на ўсіх пасяджэннях урада без права рашаючага голасу. Кароль надзяляўся шырокімі паўнамоцтвамі. Ён прызнаваўся вышэйшым распараджальнікам усіх узброеных сіл у дзяржаве, прызначаў і здымаў генералаў і афіцэраў, службовых асоб органаў дзяржаўнага кіравання, епіскапаў, сенатараў. Аднак усе акты караля мелі патрэбу ў подпісу адпаведнага міністра, які і адказваў перад соймам за дадзены акт, паколькі ў Канстытуцыі было запісана: «Асоба караля з'яўляецца свяшчэннай і ў бяспецы ад усяго. Нічога сам адзін не прымае, ні за што ў адказе перад народам быць не можа» [9]. У выпадку, калі ні адзін з міністраў не згодзіцца падпісаць рашэнне, кароль адступіць ад гэтага рашэння, а калі будзе настойваць на ім, то пытанне пераносіцца на вырашэнне сойма.

Для належнага функцыяніравання выканаўчай улады прадугледжвалася стварэнне пастаянных камісій пры ўрадзе. Чатыры камісіі — па асвеце, паліцыі, ваенная, фінансаў — выбіраліся соймам, а раней створаныя ваяводскія камісіі парадку падлягалі ўрадаваму нагляду.

Стварэнне адзінага ўрада для ўсёй Рэчы Паспалітай змяняла характар дзяржаўнай будовы, ператвараючы канфедэратыўны лад у федэрацыю, садзейнічала цэнтралізацыі дзяржавы і ўмацоўвала аўтарытэт цэнтральных органаў улады і кіравання, крыху абмяжоўвала ўсе-

---

[9] Volumina Legum. T. 9. S. 223.

магутнасць буйных феадалаў і іх самавольства.

Істотна змяніліся структура і характар дзейнасці судовых органаў (раздз. 8). Абвяшчаўся прынцып ажыццяўлення правасуддзя толькі судом. Тым самым уносіліся змяненні ў Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г. Згодна з Канстытуцыяй не маглі разглядацца справы ў гаспадарскім судзе і ў гродскіх судах старастаў і ваяводаў. Усе суды падраздзяляліся на суды першай і другой інстанцыі. Суды першай інстанцыі павінны былі разглядаць справы не пасесійна, а стаць пастаяннымі і працаваць на працягу цэлага года. Ствараліся рэферэндарскія суды для свабодных сялян, а таксама вышэйшы суд — соймавы. Астатні займаўся крымінальнымі справамі па дзяржаўных злачынствах супраць народа і караля. Канстытуцыяй прадпісвалася выдаць новы кодэкс па грамадзянскіх і крымінальных справах. Усе суды па-ранейшаму заставаліся саслоўнымі, залежных сялян працягвалі судзіць іх паны.

У раздз. 9 вызначаўся парадак устанаўлення рэгента на выпадак хваробы, палону або непаўналецця караля, раздз. 10 датычыўся вучобы дзяцей караля і нагляду за іх выхаваннем.

Апошні, 11-ты раздзел Канстытуцыі быў прысвечаны ўзброеным сілам дзяржавы. Побач са шляхецкім апалчэннем стваралася рэкруцкая армія з сялян. Ставілася задача павялічыць колькасць арміі ў некалькі разоў. Армія павінна была пастаянна заставацца ў падпарадкаванні выканаўчай улады і прыносіць прысягу на вернасць народу, каралю і на абарону народнай Канстытуцыі.

Прыняццю Канстытуцыі 3 мая папярэджвала вострая палітычная барацьба. Канстытуцыя з'явілася вынікам кампрамісу паміж землеўладальніцкай шляхтай і гарадской буржуазіяй. Яна захоўвала феадальна-прыгонніцкі лад і адначасова стварала больш выгадныя ўмовы развіцця мануфактурнай вытворчасці і гандлю, надзяляла больш шырокімі правамі гарадскіх жыхароў-мяшчан. Менш за ўсё яна ўносіла змен у прававое становішча сялян. Канстытуцыя карэнна змяніла структуру вышэйшых органаў улады. Сойм ператвараўся ў орган, здольны да дзеяння. Ён стаў сапраўды заканадаўчым і кантралюючым органам. Дзякуючы Канстытуцыі ў Рэчы Паспалітай была зроблена спроба ажыццявіць прынцып парламенцкага спосабу кіравання. Для свайго часу Канстытуцыя мела прагрэсіўнае значэнне, але яе палажэнні

не былі поўнасцю ажыццёўлены з-за бунту рэакцыйных колаў, якія абвясцілі вясной 1792 г. у горадзе Таргавіцэ канфедэрацыю, і ўмяшання замежных дзяржаў.

Акт Таргавіцкай канфедэрацыі аб'явіў незаконнай дзейнасць Чатырохгадовага сойма, які нібыта «парушыў кардынальныя правы, адмяніў усе шляхецкія вольнасці, а 3 мая, учыніўшы рэвалюцыйную змову, устанавіў новую форму ўлады пры дапамозе мяшчан, салдат, уланаў... Рэспубліку ператварыў у манархію, беззямельную шляхту ад роўнасці і свабод адхіліў»[10]. Далей гаварылася, што канфедэрацыя ўтворана ў імя абароны каталіцкай рэлігіі, захавання цэласнасці граніц Рэчы Паспалітай і старых свабод шляхты. Не маючы шырокай падтрымкі ўнутры дзяржавы, таргавічане звярнуліся да царскага ўрада, які 18 мая 1792 г. накіраваў 100-тысячную армію ім на дапамогу, што прывяло да хуткай перамогі таргавічан. Выклікаўшы ваенны разгром Рэчы Паспалітай, яны садзейнічалі і яе другому падзелу, бо ў студзені 1793 г. Прусія дамовілася з Расіяй аб адарванні ад Рэчы Паспалітай часткі тэрыторый. Да Расіі адышла частка Беларусі з гарадамі Менскам, Барысавам, Слуцкам, Пінскам, Мазыром і некаторыя раёны Заходняй Украіны, а да Прусіі спрадвечна польскія землі з гарадамі Торунем, Гданьскам, Познанню.

Сойм Рэчы Паспалітай, які сабраўся 17 чэрвеня 1793 г. ў Гародні, прызнаў гэтыя адарванні. У ходзе Гарадзенскага сойма было аб'яўлена аб роспуску Таргавіцкай канфедэрацыі і стварэнні Гарадзенскай. Гарадзенскім соймам, які дзейнічаў як канфедэрацыя, была адменена Канстытуцыя 3 мая і прынята новая Канстытуцыя. Асноўныя артыкулы Канстытуцыі 1793 г. былі наступнымі: аднаўляўся Пастаянны савет, аднаўлялася выбіральнасць каралёў, вышэйшым заканадаўчым органам краіны заставаўся сойм, які павінен быў склікацца кожныя чатыры гады на восем тыдняў, рашэнні ў сойме прымаліся большасцю галасоў, каралю прадастаўлялася права вета на соймавыя рашэнні, якія датычацца асноўных законаў[11]. Аднак і гэтая Канстытуцыя заставалася на паперы, бо Рэч Паспалітая страчвала сваю незалежнасць, а царызм аказваў рашаючы ўплыў на ваенныя і палітычныя справы.

---

[10] Historia Polski. Warszawa, 1958. T. 2. Cz. 1. S. 298.
[11] Ibid. S. 310—311.

### 3. Паўстанне пад кіраўніцтвам А. Т. Касцюшкі 1794 г.

Рэакцыйныя дзеянні таргавічан і захопніцкая палітыка замежных дзяржаў выклікалі вострае незадавальненне значнай часткі гарадскіх жыхароў і прагрэсіўна настроенай шляхты. Прыклад Французскай рэвалюцыі ўказваў на адзіна магчымы шлях вызвалення краіны ад замежнага дыктату і здраднікаў-таргавічан. У 1794 г. у Кракаве ўспыхнула паўстанне, у якім прынялі ўдзел шляхта, мяшчане і некаторая частка сялян. На чале паўстання стаў ураджэнец Беларусі Андрэй Тадэвуш Банавентура Касцюшка, праслаўлены герой барацьбы за незалежнасць Злучаных Штатаў Паўночнай Амерыкі. Ён быў прызначаны Вышэйшым і Адзіным начальнікам усіх узброеных сіл і кіраўніком усяго паўстання.

Касцюшка нарадзіўся ў небагатай сям'і беларускага шляхціца, фамільны маёнтак якога знаходзіўся ў вёсцы Сяхновічы Кобрынскага павета (у цяперашні час Жабінкаўскі раён Брэсцкай вобласці). Дакладная дата яго нараджэння не ўстаноўлена, выказана меркаванне, што ён нарадзіўся 4 лютага 1746 г., аднак больш праўдападобным трэба лічыць, што нарадзіўся ён 30 лістапада 1745 г. Дату 4 лютага ўказаў польскі даследчык Т. Корзан, зыходзячы з таго, што захавалася метрыка, з якой відаць, што яго хрысцілі ў Касаўскім касцёле 12 лютага 1746 г., дзе непадалёку яго бацька арандаваў фальварак Марачоўшчына. Аднак ёсць падстава меркаваць, што спачатку яго хрысцілі ў праваслаўнай царкве і назвалі Андрэем у гонар апостала Андрэя Першазванага, свята якога прыпадае на 30 лістапада, г. зн. яму спачатку далі імя, якое ён сам сабе прынёс, нарадзіўшыся 30 лістапада. Такое меркаванне грунтуецца таксама на тым, што яго маці Тэкля (Фёкла) была праваслаўнай веры і паходзіла з вядомага на Беларусі роду Ратамскіх. Вядомы факт, што Ратамскія сумесна з Агінскімі і іншымі праваслаўнымі шляхціцамі Менскага ваяводства ахвяравалі грошы на будаўніцтва ў Менску на Верхнім рынку (Саборнай плошчы) праваслаўнага сабора Пятра і Паўла.

Продкі Андрэя Тадэвуша Касцюшкі займалі сціплае становішча ў грамадстве. Яго прадзед Аляксандр Іван быў падсудкам у Берасцейскім земскім судзе, дзед Амбражэй пісарам у тым жа судзе. Бацька Людвік ніякіх пасад не займаў. У канцы 1765 г. Касцюшка быў залічаны на вучобу ў Варшаўскі кадэцкі корпус, дзе атры-

маў праз год афіцэрскае званне харунжага, але працягваў вучобу яшчэ тры гады. Потым пяць гадоў вучыўся ў Францыі. Вярнуўшыся на радзіму, Касцюшка не атрымаў дастойнай яго пасады. Летам 1776 г. ён выехаў у Паўночную Амерыку, дзе пачыналася вызваленчая барацьба за незалежнасць, і быў залічаны ў амерыканскую армію ў званні палкоўніка.

На працягу сямі гадоў Касцюшка змагаўся ў радах амерыканскай арміі. Асабліва каштоўнымі былі яго веды як ваеннага інжынера, бо амерыканская армія, якая складалася ў асноўным з фермераў і простых грамадзян, мела вострую патрэбу ў прафесіянальных ваенных і ў ваенных інжынерах. Першым буйным выпрабаваннем яго таленту было складанне праекта і будаўніцтва ўмацаванняў на берагах ракі Дэлавер для аховы горада Філадэльфіі, у якім у той час было сканцэнтравана кіраўніцтва барацьбой за незалежнасць.

Вясной 1777 г. галоўная небяспека для Злучаных Штатаў навісла з поўначы, дзе англічане, дзейнічаючы з Канады і Нью-Йорка, рыхтаваліся разграміць армію паўстаўшых, у сувязі з чым па рашэнню Кангрэса была створана армія Поўначы, у якую галоўным інжынерам быў прызначаны Касцюшка.



Пара пісталетаў, падараваных Д. Вашынгтонам Т. Касцюшку

Буйнога поспеху дабілася армія Поўначы ў бітве пад Саратогай, дзе было разгромлена моцнае злучэнне англійскіх войск. Гэта перамога ў значнай ступені была дасягнута дзякуючы добрым фартыфікацыйным умацаванням, пераадолець якія англічанам не ўдалося. Перамога з'явілася пачатковым этапам паражэння Англіі ў вайне, узняла дух амерыканскай арміі і павысіла яе аўтарытэт у Еўропе, садзейнічала афіцыйнаму прызнанню еўрапейскімі дзяржавамі незалежнасці Злучаных Штатаў Амерыкі.



Т. Касцюшка ў мундзіры генерала

За баявыя заслугі Касцюшка атрымаў званне генерала амерыканскай арміі і быў узнагароджаны вышэйшым ордэнам Цынцынаці. Вярнуўся на Беларусь Касцюшка ў 1784 г., але тут зноў яму не было месца ў арміі Вялікага княства Літоўскага і толькі ў 1789 г. ён атрымаў пасаду камандзіра брыгады ў польскай арміі. У 1792 г. Касцюшка ў знак пратэсту супраць Таргавіцкай канфедэрацыі падаў у адстаўку і пачаў працу па падрыхтоўцы паўстання.

Пачалося паўстанне 24 сакавіка 1794 г. ў Кракаве. У гэты дзень быў абвешчаны Акт паўстання, якім Касцюшка абвяшчаўся Вышэйшым і Адзіным начальнікам узброеных сіл і кіраўніком усяго паўстання. Яму даручалася сфарміраваць Вышэйшую народную раду, якая была ўтворана па загаду Касцюшкі 21 мая і стала вышэйшым заканадаўчым і адміністрацыйна-выканаўчым органам паўстання для ўсёй Рэчы Паспалітай. Яшчэ раней былі ўтвораны некаторыя мясцовыя органы кіравання, а таксама Вышэйшая Народная рада Вялікага княства Літоўскага (24 красавіка), якая прызначыла начальнікам паўстанцкіх узброеных сіл Вялікага княства Якуба Ясінскага.

У склад Вышэйшай народнай рады Рэчы Паспалітай уваходзілі начальнік паўстання, восем радцаў, якія ўзначальвалі аддзелы, і 32 іх намеснікі, па чатыры на

аддзел. У Вышэйшай радзе былі ўтвораны аддзелы парадку, бяспекі, справядлівасці, фінансаў, харчовы, вайсковага забеспячэння, замежных спраў, народнай інструкцыі, які наглядаў за школамі, газетамі, прапагандай.

Галоўнай задачай рады была мабілізацыя ўсіх сіл на барацьбу за вызваленне, камплектаванне і забеспячэнне паўстанцкай арміі, арганізацыя новых мясцовых органаў кіравання, стварэнне новай судовай сістэмы, правядзенне ў жыццё пастаноў, распараджэнняў, загадаў Начальніка паўстання і самой рады, вядзенне дыпламатычных спраў, вызначэнне падаткаў. Дзейнасць рады лічылася тымчасовай, да вызвалення краіны і ўсталявання пастаянных органаў дзяржаўнага кіравання. Рада займалася рэлігійнымі справамі. Так, 14 чэрвеня 1794 г. яна выдала пастанову аб аднаўленні іерархіі праваслаўнай царквы ў Рэчы Паспалітай, якая згодна з пастановай Пінскай праваслаўнай кангрэгацыі 1791 г. абвяшчалася незалежнай ад замежнай царквы.

Мясцовымі органамі ўлады былі ваяводскія камісіі парадку, у склад якіх мелі ўваходзіць па восем землеўладальнікаў, восем домаўладальнікаў мяшчан і па пяць духоўных асоб. Ніжэйшымі судовымі і адміністрацыйнымі органамі павінны былі стаць дазорныя ўпраўленні, якія ўтвараліся ваяводскімі камісіямі з разліку адзін дазор на 1000—1200 сялянскіх гаспадарак. У кожнае дазорнае ўпраўленне назначаўся наглядчык, які разглядаў скаргі сялян на паноў, а таксама скаргі пана на непадпарадкаванне сялян. Ён таксама мог разглядаць спрэчкі паміж сялянамі.

7 мая 1794 г. Касцюшка выдаў «Паланецкі універсал», якім абвяшчалася апека ўрада над сялянамі, сяляне аб'яўляліся асабіста вольнымі, г. зн. адмянялася прыгоннае права, але без зямлі. Пайсці ад памешчыка селянін мог толькі пры ўмове выплаты даўгоў і дзяржаўных падаткаў, а таксама паставіўшы ў вядомасць камісію ўпраўлення аб тым, куды ён перасяляецца. Устанаўліваліся пэўныя ільготы ў адбыванні паншчыны. Спецыяльнымі артыкуламі «Універсала» Касцюшка папярэджваў аб тым, што парушэнне гэтых пастаноў памешчыкамі будзе карацца судом і вінаватыя будуць пакараны як за процідзеянне мэтам паўстання.

Сяляне ў сваю чаргу заклікаліся старанна адбываць астатнія дні паншчыны, слухацца свайго начальства, дбаць пра гаспадарку, не павінны былі адмаўляцца най-

# A K T

## POWSTANIA OBYWATELOW, MIESZKANCOW WOIEWODZTWA KRAKOWSKIEGO.

Wiadomy iest światu stan teraźnieyszy nieszczęśliwey Polski. Niegodziwość dwoch sąsiedzkich Mocarstw i zbrodnia Zdraycow Oyczyzny, pograżyły ią w te przepaść. Uwzięta na zniszczenie Imienia Polskiego, Katarzyna II, w zmowie z wiarołomnym Fryderykiem Gwilelmem, dokonala zamiarow nieprawosci swoiey. Nie masz rodzaiu fałszu, obłudy i podstępu, ktoremi by się te dwa rządy nie splamiły, dla dogodzenia swoiey zemście i chciwości. Ogłaszaiąc się bezwstydnie Carowa za gwarantkę całosci, niepodległości i szczęścia Polski, rozrywała i dzieliła Jey Kraie, znieważała Jey niepodległość, trapiła bezustannie wszelkiego rodzaiu klęskami. Gdy zas Polska zbrzydziwszy sobie jey obelżywe iarzmo, odzyskała Prawa samowładnosci swoiey, użyła przeciwko niey zdraycow Oyczyzny, bezbożny ich spisek wsparła całą swą mocą zbroyną, a chytrze od obrony Kraju odwiodłszy Krola, ktoremu Seym prawy i Narod wszystkie siły swe ie powierzył, wkrotce samychże zdraycow haniebnie zdradziła. Przez takie podstępy stawszy się Panią losow Polski, wezwała do łupow Fryderyka Gwilelma, nadgradzaiąc iego wiarołomstwo, w odstąpieniu nayuroczystszego z Rzeczą pospolitą traktatu. Pod wymyślonemi pozorami, ktorych fałsz i bezczelnosc samym tylko tyranom przystoi, w istocie zaś dogadzaiąc nienasyconey chciwości i chęci, rozpostarcia tyranii przez opanowanie przyległych Narodow; zagarnęły te dwa spiknione na Polskę Mocarstwa, odwieczne i niezaprzeczone Dziedzictwa Rzeczypospolitey, otrzymały na zbrodniczym zieździe zatwierdzenie zaborow swoich, wymusiły przysięgi na poddaństwo i niewolą, wkładaiąc naysroższe na Obywatelow obowiązki, a sami żadnych procz arbitralney woli nie znaiąc; oznaczyły zuchwale, nowym i niesłychanym dotąd w Prawie Narodow ięzykiem, istnosc Rzeczypospolitey w rzędzie państw niższego stopnia; okazuiąc iawnie, że tak prawa iak granice państw udzielnych od ich upodobania zawisły, i że patrzą na pułnocną Europę, iak na łup przeznaczony dla ich drapieżnego despotyzmu.

Pozostała reszta Polski, nie okupiła tak strasznemi klęskami polepszenia stanu swego. Ukrywaiąc Carowa niebespieczne Europeyskim Mocarstwom dalsze zamiary swoie, poświęciła ią tym czasem barbarzyńskiey i nieukoloney zemście. Depce w niey nayświętsze Prawa Wolności, bespieczeństwa, własności Osob i maiątkow Obywatelskich; myśli i czucia poczciwego Polaka, nie znayduią schronienia przed ley podeyrzliwym prześladowaniem: mowie samey więzy narzuciła. Zdraycy tylko Oyczyzny maią od niey pobłażanie, aby się bezkarnie wszelkich dopuszczali zbrodni. Rozszarpali oni maiątek i dochody publiczne, wydarli obywatelską własność, podzielili między siebie Urzędy krajowe, iak gdyby łupy na pokonaney Oyczyznie zdobyte; a przybrawszy sobie świętokradzko imię Narodowego rządu, wszystko gwoli obcey tyranii i na pierwsze iey skinienie, niewolniczo dopełniaią. Rada Nieustaiąca, twor obcego narzutu, prawą Narodu wolą zniesiona, a świeżo od zdraycow na nowo wskrzeszona, targa, na rozkaz Posła Moskiewskiego, te nawet granice władzy swoiey, ktore od tegoż Posła z podłością przyięła, gdy ledwie co zniesione, lub uchwalone ustawy samowolnie podnosi, przerabia i niszczy. Słowem, Rząd mniemany Narodu, Wolnosc, bespieczeństwo i własność Obywatelow, zostaią w ręku niewolnikow sług Carowy, ktorey przemagaiące w kraju Woyska, są tarczą dla ich nieprawości. )( 

Акт паўстання 1794 г.



Т. Касцюшка

мацца да памешчыкаў за адпаведную плату. Духавенству прадпісвалася растлумачваць гэтае распараджэнне з амвонаў у касцёлах і ў царквах на працягу чатырох тыдняў. Камісіі ўпраўлення павінны былі прызначаць асоб, якія б аб'язджалі абшчыны і гучна чыталі гэтае распараджэнне ў вёсках і прыходах, заклікаючы сялян да таго, каб яны ў падзяку за вялікія дабрачыннасці Рэчы Паспалітай шчыра сталі на яе абарону.

«Паланецкі універсал» не адмяняў поўнасцю прыгоннага права і не ліквідаваў феадальнай эксплуатацыі, але дазваляў сялянам адыходзіць ад памешчыкаў, што было таксама ў інтарэсах буржуазіі, якая зараджалася. Гэты акт быў безумоўна прагрэсіўным, хоць і палавінчатым. Ён паслабляў эканамічны стан памешчыцкіх маёнткаў, абмяжоўваў паншчыну і падрываў значэнне шляхецкіх прывілей. Таму памешчыкі ўсяляк затрымлівалі апавяшчэнне «Універсала» і, баючыся сацыяльнай рэвалюцыі, часта ішлі на змову з замежнымі войскамі. Многія палажэнні Універсала не выконваліся на месцах і засталіся толькі на паперы. Супраць ажыццяўлення палажэнняў «Паланецкага універсала» выступілі вярхі каталіцкага духавенства.

Заклікі Касцюшкі да простага народа выклікалі недавер сялян і сабатаж памешчыкаў. Нямцэвіч, паплечнік Касцюшкі, у сваіх успамінах пісаў наконт гэтага: «Шляхта, якая прывыкла без перашкод карыстацца маёмасцю сваіх сялян, супраціўлялася выкананню загада Начальніка — Касцюшкі высылаць пятага селяніна з касой у армію. Нават сельскі народ, які так доўга быў у няволі, па большай частцы не прадбачыў лепшай долі, не ведаючы яе, быў абыякавым. Дарэмна Касцюшка сваім Універсалам з-пад Паланца ад 7 мая 1794 г. аб'явіў сельскі народ свабодным, аб'яўляў яму свабоду.

Універсалы гэтыя або не дайшлі, або ім не верылі»[12].

Гэтая характарыстыка, дадзеная Нямцэвічам адносінам памешчыкаў і прыгонных сялян да паўстання, адлюстроўвала сапраўднае становішча і ў значнай ступені тлумачыла пазнейшыя няўдачы паўстання. У сялян Рэчы Паспалітай на працягу стагоддзяў выхоўвалася рабская псіхалогія, яны, пакорлівыя сваім панам, не былі гатовыя да актыўных дзеянняў у якасці свядомых барацьбітоў за свае правы, за сваю свабоду. Усё гэта ўлічваў Касцюшка і ў кожным звароце да народа стараўся абудзіць яго свядомую актыўнасць, умацаваць веру ў перамогу.

У кастрычніку — лістападзе 1794 г. войскі паўстаўшых пацярпелі шэраг паражэнняў, цяжка паранены Касцюшка трапіў у палон.

Начальнікам узброеных сіл 12 кастрычніка 1794 г. Вышэйшы Савет прызначыў замест Касцюшкі яго земляка ўраджэнца Беларусі Томаша Ваўжэцкага, аднак ні па аўтарытэту, ні па ваенным здольнасцям ён не мог нават блізка параўнацца з Касцюшкам. 4 лістапада войскі пад камандаваннем А. Суворава авалодалі ўмацаваным прыгарадам Варшавы Прагай, пасля чаго кароль Рэчы Паспалітай і яго прыхільнікі настаялі на капітуляцыі Варшавы. За паспяховае падаўленне паўстання А. Сувораў атрымаў ва ўзнагароду ва ўласнасць з Берасцейскай эканоміі 13 тыс. 279 прыгонных сялян (мужчын і жанчын), а ўсяго на Беларусі і ў Літве было раздадзена рускім памешчыкам з 1772 па 1796 г. каля мільёна прыгонных сялян.

Паражэнне паўстання 1794 г. было непазбежным, бо яго не падтрымалі шырокія масы сялянства, слабай аказалася буржуазія, а шляхецка-буржуазны блок, які кіраваў паўстаннем, імкнуўся да таго, каб не дапусціць рэвалюцыйнага выступлення гарадскіх нізоў і сялянства. Акрамя таго, сабатаж і невыкананне распараджэнняў Касцюшкі, а часта і адкрытая здрада, падрывалі сілы паўстання.

Пачынаючы паўстанне, Касцюшка і іншыя кіраўнікі спадзяваліся, што Аўстрыя, Прусія і Расія не змогуць накіраваць значныя сілы супраць паўстання з-за ўцягнення іх у барацьбу з Турцыяй і Францыяй. Аднак кіраўнікі Прусіі і Аўстрыі аслабілі націск на рэвалюцыйную Францыю і сканцэнтравалі значныя сілы супраць

---

[12] *Niemcewicz J. U.* Pamiętniki czasów moich. Paryż, 1848. S. 207.



Касцюшкаўскія паўстанцы

Рэчы Паспалітай, не даўшы магчымасці тут нацыянальна-вызваленчаму руху перарасці ў аграрную рэвалюцыю, здольную змесці феадальны лад. Хоць паўстанне і пацярпела паражэнне, аднак яго значэнне ў гісторыі Еўропы велізарнае. Ідэі вызваленчага антыфеадальнага дэмакратычнага руху пачалі распаўсюджвацца ў Аўстрыі, Прусіі і Расіі.

Паражэнне паўстання дало магчымасць Аўстрыі, Прусіі і Расіі захапіць усю тэрыторыю Рэчы Паспалітай і ў 1795 г. падзяліць яе паміж сабой. Па гэтаму падзелу да Расіі адышлі Заходняя Беларусь, Літва, Курляндыя і частка Заходняй Украіны, а Прусія і Аўстрыя падзялілі паміж сабой Польшчу.

Пасля далучэння да Расіі тэрыторыя Вялікага княства Літоўскага была падзелена на тры адміністрацыйныя часткі з цэнтрамі ў гарадах Вільні, Гародні і Коўні. У склад віленскай часткі ўваходзілі паветы Віленскі, Завілейскі, Ашмянскі, Браслаўскі, Лідскі і Трокскі, гарадзенскай — Наваградскі, Слонімскі, Ваўкавыскі, Берасцейскі (а таксама некалькі валасцей), ковенскай — Вілкамірскі, Упіцкі і Самагіція. У Гародні засноўвалася вярхоўнае праўленне генерал-губернатара для ўсіх трох частак. Вярхоўнае праўленне складалася з чатырох аддзяленняў: казённага, крымінальнага, грамадзянскага і эканамічнага.

У тым жа 1795 г. былі ўнесены змяненні ў адміністрацыйна-тэрытарыяльнае дзяленне і замест трох частак былі ўтвораны Віленская і Слонімская губерні, якія пасля ўступлення на прастол Паўла I былі аб'яднаны ў адну губерню. Аляксандр I у 1801 г. распарадзіўся аб утварэнні на тэрыторыі Заходняй Беларусі і Літвы дзвюх губерняў: Гарадзенскай і Віленскай. У 1807 г. Расія заключыла з Францыяй Тыльзіцкі мірны дагавор, па якому перадавалася Расіі Беластоцкая акруга.

### 4. Права Беларусі ў XVII—XVIII стст.

Галоўнай крыніцай права на Беларусі і ва ўсім Вялікім княстве Літоўскім у складзе Рэчы Паспалітай заставаўся Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г., хоць многа разоў рабіліся спробы ўнесці ў яго папраўкі і змены. Так, адразу пасля ўвядзення яго ў дзеянне былі заўважаны працэсуальныя недакладнасці і прапанаваны папраўкі, аднак яны былі адхілены. Патрабавалі ўнясення паправак у Статут прадстаўнікі Польшчы. Яны лічылі, што артыкулы, якія забаранялі ім займаць пасады і набываць землі ў Вялікім княстве, супярэчаць акту Люблінскай уніі і падлягаюць скасаванню. Але гэтыя дамаганні былі адхілены, і Статут заставаўся без карэнных змен. Разам з тым прымаліся новыя законы, якія часткова дапаўнялі Статут або нават уносілі ў яго змены. У першую чаргу гэта адносіцца да агульнага федэральнага заканадаўства, якое хоць афіцыйна не адмяняла і не змяняла норм Статута, аднак фактычна ўносіла ў яго змены. У 1668 г. быў выдадзены закон, па якому за адыход ад каталіцкай веры вінаватыя караліся канфіскацыяй маёмасці і выгнаннем з дзяржавы. У 1689 г. абвінавачаны ў атэізме берасцейскі падсудак Казімір Лышчынскі быў па прыгавору соймавага суда пакараны смерцю. Па закону 1733 г. праваслаўныя і пратэстанты былі пазбаўлены права быць дэпутатамі сойма і суддзямі Галоўнага трыбунала. У канцы XVII ст. па соймавай пастанове дзяржаўнай мовай у Вялікім княстве Літоўскім замест беларускай прызнавалася польская.

Далучэнне ўсходніх раёнаў Беларусі да Расіі ў 1772 г. выклікала неабходнасць унесці змены ў парадак разгляду спраў у Галоўным судзе (Трыбунале). Па соймавай пастанове 1775 г. Галоўны суд павінен быў праводзіць свае сесіі замест Вільні, Менска і Наваградка

толькі ў Вільні і Гародні. У Вільні мелі разглядацца апеляцыі з судоў: ваяводства Віленскага паветаў Ашмянскага, Вількамірскага, Браслаўскага; ваяводства Трокскага паветаў Ковенскага, Упіцкага, княства Жмудскага; ваяводства Смаленскага павета Старадубскага; ваяводства Полацкага павета Аршанскага; у Гародні справы паветаў Лідскага, Гарадзенскага, Наваградскага, Слонімскага, Ваўкавыскага, Берасцейскага, Пінскага, Менскага, Мазырскага, Рэчыцкага. Пачатак Віленскай сесіі Галоўнага суда ўстанаўліваўся 15 лістапада, гарадзенскай — 1 мая. Кожная сесія працягвалася пяць месяцаў. Суды і соймікі Рэчыцкага павета мелі збірацца ў Бабруйску, Аршанскага павета — у мястэчку Халопенічы. Судам Мазырскаму і Рэчыцкаму з-за дрэннага стану дарог і разліву рэк колькасць сесій у год скарачалася з трох да дзвюх: першая сесія ў студзені, другая — у верасні. Сойм Рэчы Паспалітай у 1786 г. змяніў тэрміны правядзення сесій земскіх судоў. Так, суды Менскага і Берасцейскага ваяводстваў павінны былі разглядаць справы з 1 кастрычніка да апошняга дня студзеня замест трох сесій, якія прадугледжваліся Статутам. Таксама мяняліся тэрміны правядзення сесій земскіх судоў і ў іншых ваяводствах і паветах.

Важнейшай крыніцай права ў XVIII ст. стаў зборнік законаў, соймавых пастаноў і іншых прававых актаў пад назвай «Валюміна легум» («Кніга законаў»). Першыя восем тамоў гэтай кнігі былі выдадзены ў Варшаве ў 1732—1782 гг. У іх былі сабраны акты дзеючага ў той час права і фактычна страціўшыя сілу. Дапаможнае значэнне мелі таксама акты, змешчаныя як дадаткі да Статута 1588 г., якія выдаваліся на польскай мове ў 1648, 1693, 1744 і 1786 гг. У Статуце, выдадзеным у 1786 г., былі змешчаны закон аб утварэнні Галоўнага трыбунала і каментарыі да яго, алфавітна-прадметны паказальнік (рэестр) і некаторыя соймавыя пастановы XVIII ст.

Найбольш значныя змяненні права былі зроблены ў другой палове XVIII ст., асабліва чатырохгадовым соймам, які зацвердзіў Канстытуцыю 3 мая 1791 г.

# Раздзел 7

# ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЛАД І ПРАВА НА БЕЛАРУСІ Ў ПЕРЫЯД РАЗЛАЖЭННЯ ПРЫГОННІЦТВА І РАЗВІЦЦЯ КАПІТАЛІСТЫЧНЫХ АДНОСІН
(першая палова XIX ст.)

## 1. Грамадскі лад

Далучэнне Беларусі да Расіі не ўнесла істотных змен у характар феадальных грамадскіх адносін. Па-ранейшаму грамадства дзялілася на два асноўныя класы: паноў (памешчыкаў) і сялян, залежных ад паноў або дзяржавы, а таксама на саслоўі: шляхту (дваран), мяшчан, сялян і духавенства. Але разам з тым сталі выразна праяўляцца і новыя тэндэнцыі ў развіцці грамадства. Пад уздзеяннем таварна-грашовых адносін сельская гаспадарка ўсё больш страчвала свой натуральны характар і значная частка прадукцыі выраблялася для продажу альбо пераапрацоўкі. Напрыклад, толькі ў адной Гарадзенскай губерні ў 40-х гг. XIX ст. выпрацоўвалася 40—50 тыс. пудоў высакаякаснай танкаруннай воўны. Меліся палатняныя, суконныя, цукровыя, спіртавыя і іншыя фабрыкі. Сталі фарміравацца два новыя класы: буржуазіі і наёмных рабочых. У гандлі і прамысловасці на Беларусі дамінавалі апалячаныя памешчыкі, яўрэі і рускія купцы і фабрыканты. Рабочы клас складаўся з бедных мяшчан і выхадцаў з прыгонных сялян.

Дваране-шляхта на Беларусі ў першай палове XIX ст. у сваёй большасці былі каталіцкай або уніяцкай веры і часцей за ўсё лічылі самі сябе палякамі, хаця на самой справе былі этнічнымі беларусамі, або, як тады часцей за ўсё называлі, ліцвінамі. Прававое становішча дваран на Беларусі вызначалася «Жалованной грамотой дворянству» 1785 г., пацверджанай Указам 1801 г. Гэта азначала, што ўсе правы і прывілеі дваранскага саслоўя захоўваліся ў поўнай меры, у тым ліку і галоўнае з іх —

права ўласнасці на зямлю і прыгонных сялян. У 1831 г. быў выдадзены ўказ «О разборе шляхты в западных губерниях и об устройстве сего рода людей», у якім адзначалася, што за ўсімі, хто дакажа сваё права на дваранства (шляхецтва), захоўваюцца ўсе правы і перавагі дваранству імперыі дараваныя. Але фактычна ўсімі правамі маглі карыстацца толькі дваране-памешчыкі, у якіх былі прыгонныя сяляне. Так, яшчэ ўказ Сената 1773 г. права выбіраць судзей у беларускіх паветах, далучаных да Расіі, даваў толькі памешчыкам, у якіх мелася не менш як 10, а быць абранымі — не менш як 20 прыгонных сялян-мужчын[1]. 6 снежня 1831 г. быў выдадзены Маніфест «О порядке дворянских собраний, выборов и службы по оным», згодна з якім выбіраць на дваранскія пасады маглі толькі дваране, якія мелі не менш як 100 душ прыгонных сялян або 3 тыс. дзесяцін незаселенай зямлі.

Духавенства на Беларусі падпарадкоўвалася розным вышэйшым царкоўным установам. Большасць сялян (каля 70%) належала да уніяцкай царквы, святары якой прызнавалі, як і каталікі, уладу папы рымскага. Пасля ўключэння Беларусі ў Расійскую імперыю пачалася дыскрымінацыя уніяцкай царквы. Па загаду Мікалая I у 1839 г. быў скліканы Полацкі сабор праваслаўнага і часткі уніяцкага духавенства, на якім абвясцілі аб лікві-



Палац у Марачоўшчыне (каля Косава), пабудаваны ў сярэдзіне XIX ст.

[1] БЭФ. Т. 3. С. 38.

дацыі уніяцкай царквы на Беларусі, а ўсіх вернікаў далучылі да рускай праваслаўнай царквы.

Сяляне па свайму прававому становішчу дзяліліся на прыватнаўласніцкіх (панскіх), дзяржаўных (казённых), вольных і аднадворцаў. Колькасць прыватнаўласніцкіх сялян значна павялічылася ў канцы XVIII і першай чвэрці XIX ст. за кошт раздачы дзяржаўных сялян фаварытам Кацярыны II, Паўла I і Аляксандра I, а таксама ў сувязі з закабаленнем вольных людзей і аднадворцаў. У канцы 40-х гг. памешчыкам належала 70 і дзяржаве — 19% усіх сялян.

Дзяржаўнымі лічыліся сяляне, якія раней у Вялікім княстве Літоўскім называліся старасцінскімі, паезуіцкімі, паманастырскімі, а таксама сяляне з канфіскаваных маёнткаў памешчыкаў, якія ўдзельнічалі ў паўстаннях 1794 і 1830—1831 гг. У 1841 г. царскі ўрад канфіскаваў і далучыў да дзяржаўных маёмасцей маёнткі каталіцкага і праваслаўнага духавенства. Затым у 1843 г. Міністэрству дзяржаўных маёмасцей былі перададзены іменні з залежнымі сялянамі парафіяльных цэркваў. У выніку гэтых актаў царкоўная ўласнасць на сялян на Беларусі была ліквідавана.

Дзяржаўныя сяляне павінны былі плаціць дзяржаўныя падаткі ў казну, выконваць розныя земскія павіннасці і даваць грошы і прадукты на мірскія мясцовыя патрэбы. Да земскіх павіннасцей належалі зборы на ўтрыманне пошты, на рамонт і будаўніцтва дарог і мастоў і іншыя мясцовыя работы. Мірскія зборы ішлі на пабудову і ўтрыманне валаснога праўлення, запасных магазінаў і іншыя мясцовыя патрэбы. Але найбольш цяжкім для дзяржаўных сялян былі павіннасці на карысць арандатараў дзяржаўных маёнткаў.

Па закону ад 7 жніўня 1797 г., усе паселішчы дзяржаўных сялян былі аб'яднаны ў воласці. У кожнай воласці ўстанаўлівалася валаснoе праўленне ў складзе валаснога галавы і пісара. Нагляд за своечасовым выкананнем воласцю ўсіх павіннасцей і збораў ажыццяўляла губернская казённая палата праз сваіх чыноўнікаў. Па паліцэйскіх справах воласць была падначалена ніжняму земскаму суду, якім кіраваў капітан-ісправнік.

У 1837—1838 гг. праводзілася рэформа па ўпарадкаванню кіраўніцтва над дзяржаўнымі сялянамі. Былі ўтвораны Міністэрства дзяржаўных маёмасцей і яго мясцовыя органы: палаты ў губернях, акругі ў паветах.

На Беларусі яшчэ ў канцы XVIII і пачатку XIX ст.

захоўваліся ў невялікай колькасці вольныя людзі. Па закону ад 20 кастрычніка 1783 г. вольныя людзі Магілёўскай і Полацкай губерняў мелі права сяліцца па свайму выбару ў сельскай мясцовасці або ў горадзе, набываць зямлю ва ўласнасць. Вольныя людзі пражывалі і ў іншых беларускіх губернях. Па пятай рэвізіі (перапісу насельніцтва) 1795 г. у Віленскай губерні было 20 964, у Гарадзенскай — 7286 вольных людзей. У 1857 г. колькасць вольных людзей зменшылася ў Віленскай губерні да 2176, у Гарадзенскай — да 1191 чалавека. Калі яны жылі не на сваёй уласнай зямлі, а на дзяржаўнай, то і адбывалі такія ж павіннасці, як і дзяржаўныя сяляне, калі ў горадзе — то такія, як мяшчане, а калі на памешчыцкай — плацілі чынш або нават адбывалі паншчыну.

Аднадворцы і грамадзяне заходніх губерняў — гэта катэгорыя насельніцтва Беларусі, якія да 1831—1832 гг. лічыліся шляхтай, а па ўказу 19 кастрычніка 1831 г. не здолелі даказаць сваё шляхецтва і таму не былі прызнаны дваранамі. Галоўная прычына, па якой бедныя шляхціцы выключаліся з дваранскага саслоўя, была палітычная, бо многія з іх былі ўдзельнікамі паўстання 1830—1831 гг. Згодна з указам ад 19 кастрычніка 1831 г. аднадворцы і грамадзяне павінны былі плаціць падаткі і пастаўляць рэкрутаў. Тыя з іх, якія жылі ў гарадах, сталі называцца грамадзянамі, а якія ў сельскай мясцовасці— аднадворцамі [2].

Прыватнаўласніцкія сяляне знаходзіліся ў самым цяжкім стане. Памешчыкі распараджаліся сваімі сялянамі як хацелі. У 1775 г. была зроблена спроба забараніць продаж беларускіх сялян без зямлі, бо, як сказана ў дакладзе Сената Кацярыне II, «белорусское шляхетство издавна не имело сего в обыкновении» [3]. На практыцы сялян не толькі прадавалі, але аддавалі ў наём падрадчыкам, якія рукамі прыгонных сялян будавалі чыгункі, каналы, крэпасці, казармы і выконвалі іншыя работы, а таксама заводчыкам для работы на фабрыках і заводах. Сяляне павінны былі плаціць розныя падаткі і працаваць на панскім полі па пяць—сем дзён на тыдзень. Пасля далучэння Беларусі да Расіі падаткі сялян узраслі ў некалькі разоў. Павел I, жадаючы стрымаць хціваснь памешчыкаў, выдаў указ, які забараняў змушаць сялян

---

[2] *Улащик Н. Н.* Предпосылки крестьянской реформы 1861 г. в Литве и Западной Белоруссии. М., 1965. С. 95.
[3] БЭФ. Т. 3. С. 50.

працаваць у нядзелю і рэкамендаваў абмежаваць паншчыну — не больш чым тры дні на тыдзень. Але гэтыя рэкамендацыі так і заставаліся толькі на паперы, бо прымаць іх ці не прымаць, вырашаў сам памешчык. Сяляне не мелі нават права скардзіцца на сваіх паноў у органы дзяржаўнай улады.

Усе сяляне, як дзяржаўныя, так і прыватнаўласніцкія, павінны былі штогод выстаўляць рэкрутаў для рускай арміі. У 1794 г. па загаду Кацярыны II было прадпісана набраць рэкрутаў для камплектавання пяці новых егерскіх карпусоў з Менскай, Полацкай і Магілёўскай губерняў. Асабліва павялічыўся набор рэкрутаў у 1809—1810 гг. Толькі ў адным 1811 г. з пяці беларускіх губерняў было забрана 14 750 рэкрутаў [4], якія павінны былі служыць 25 гадоў.

Рэскрыптам цара Аляксандра I ад 20 лютага 1803 г. дазвалялася памешчыкам вызваляць сваіх сялян ад прыгонніцкай залежнасці. Вызваленыя сяляне атрымалі назву вольных хлебаробаў. Іх павіннасці былі амаль такімі, як і дзяржаўных (казённых) сялян.

Мяшчане беларускіх гарадоў пасля далучэння да Расіі былі пазбаўлены часткі сваіх правоў і павінны былі плаціць падушныя падаткі, выконваць рэкруцкую і іншыя павіннасці. Найбольш прывілеяванымі мяшчанамі былі купцы першай і другой гільдый і фабрыканты. Яны маглі свабодна выбіраць сабе месца жыхарства, купляць зямлю, будаваць прамысловыя прадпрыемствы. Збліжэнню прававога становішча вярхоў мяшчан з дваранствам садзейнічаў закон 1832 г., якім было ўстаноўлена званне асабістага і спадчыннага ганаровага грамадзяніна. Спадчыннымі ганаровымі грамадзянамі прызнаваліся багатыя капіталісты, выдатныя вучоныя, мастакі, дзеці асабістых дваран; асабістымі ганаровымі грамадзянамі — чыноўнікі сярэдняга рангу і асобы, якія закончылі вышэйшыя навучальныя ўстановы. Ганаровыя грамадзяне не плацілі падушнага падатку, не неслі рэкруцкай павіннасці, вызваляліся ад цялесных кар.

Большую частву гарадскога насельніцтва беларускіх гарадоў складалі рамеснікі — майстры, падмайстры і іх вучні. Усе яны аб'ядноўваліся ў саюзы па прафесіях — цэхі. Цэхавая арганізацыя мела свае кіруючыя органы, якія ў сваёй дзейнасці кіраваліся мясцовым правам і

---

[4] *Корнейчик Е.* Белорусский народ в Отечественной войне 1812 года. Мн., 1962. С. 17.

сваімі цэхавымі звычаямі і традыцыямі. Ва ўсіх беларускіх гарадах і мястэчках значную частку насельніцтва складалі яўрэі, якія займаліся гандлем, рамяством, працавалі на фабрыках. Яны па закону ад 23 чэрвеня 1794 г. не мелі права выязджаць за межы яўрэйскай аселасці, а г. зн. за межы Беларусі і часткова Украіны.

## 2. Дзяржаўны лад

Расійская імперыя была цэнтралізаванай дзяржавай, вышэйшая ўлада ў якой належала цару-імператару. Усе яго распараджэнні павінны былі выконвацца адпаведнымі дзяржаўнымі ўстановамі, службовымі асобамі і падданымі. Ён паўнаўласна распараджаўся ўсімі грашовымі сродкамі і маёмасцю дзяржавы. Кацярына II, Павел I, Аляксандр I і Мікалай I раздавалі беларускія землі і сялян сваім генералам, чыноўнікам і іншым фаварытам без усялякага абмежавання. Цару былі падпарадкаваны ўсе вайсковыя сілы дзяржавы. Сваю ўладу цар ажыццяўляў праз вялікую армію чыноўнікаў і разгалінаваны апарат дзяржаўнага кіравання. У першыя гады царавання Аляксандра I быў утвораны т. зв. Інтымны камітэт, у склад якога ўваходзілі асабістыя прыяцелі цара: Качубей, Навасільцаў, Строганаў і Адам Юрый Чартарыскі. Для беларускага народа асабліва шкоднай была дзейнасць Чартарыскага, які праводзіў палітыку апалячвання Беларусі і дамагаўся яе далучэння да Польшчы. У 1802 г. царскім Маніфестам «Об учреждении министерств» былі ўтвораны восем міністэрстваў: ваенных сіл, марскіх сіл, замежных спраў, юстыцыі, унутраных спраў, фінансаў, камерцыі (гандлю), народнай асветы. Асаблівая ўвага надавалася міністэрству ўнутраных спраў, якое ажыццяўляла кіраўніцтва ўсімі мясцовымі органамі дзяржаўнай улады. У 1810 г. пачаў дзейнічаць Дзяржаўны савет як дарадчы орган пры цары. У сістэме вышэйшых органаў Расійскай імперыі асобае становішча займала царская канцылярыя, якая падраздзялялася на чатыры аддзяленні: першае выконвала асабістыя даручэнні цара, займалася асабістым складам чыноўнікаў; другое — рыхтавала праекты законаў; трэцяе — кіравала сакрэтнай паліцыяй і жандармерыяй, кіраўнік трэцяга аддзялення быў адначасова і шэфам корпуса жандармаў; чацвёртае — займалася дабрачыннымі ўстановамі. Дзейнасць трэцяга аддзялення была накіравана на падаўленне вызваленчага руху, у тым ліку на Беларусі, на заба-

рону нават беларускай мовы. У 1837 г. было ўтворана Міністэрства дзяржаўнай маёмасці, якое павінна было займацца ў першую чаргу дзяржаўнымі сялянамі.

Самадзяржаўе, праводзячы ў адносінах да Беларусі палітыку прыгнечання і не лічачыся з інтарэсамі народа, уводзіла свой адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел. Пасля далучэння ўсходняй часткі Беларусі да Расіі гэта тэрыторыя была ўключана ў дзве новаўтвораныя губерні — Магілёўскую і Пскоўскую. У 1776 г. з Пскоўскай губерні былі вылучаны беларускія паветы і ўтворана Полацкая губерня з паветамі: Веліжскім, Віцебскім, Гарадоцкім, Дрысенскім, Дынабургскім, Люцынскім, Невельскім, Полацкім, Рэчыцкім, Себежскім і Суражскім. Пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай у 1793 г. да гэтай губерні быў далучаны Лепельскі павет. У Магілёўскую губерню ўваходзілі паветы Аршанскі, Бабінавіцкі, Беліцкі, Копыскі, Клімавіцкі, Магілёўскі, Мсціслаўскі, Рагачоўскі, Сенненскі, Старабыхаўскі, Чавускі, Чэрыкаўскі. У 1840 г. быў скасаваны Бабінавіцкі павет, у 1852 г.— Беліцкі павет перайменаваны ў Гомельскі, у 1861 г. Копыскі павет перайменаваны ў Горацкі.

Пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай у 1793 г. была ўтворана Менская губерня ў складзе паветаў Бабруйскага, Барысаўскага, Вілейскага, Дзісенскага, Ігуменскага, Мазырскага, Менскага, Пінскага, Рэчыцкага і Слуцкага. У снежні 1842 г. Вілейскі і Дзісенскі паветы былі ўключаны ў склад Віленскай губерні, а Наваградскі павет далучаны да Менскай губерні.

Заходняя частка Беларусі ў 1795 г. была ўключана ў губерні Віленскую і Слонімскую. У Віленскую губерню ўваходзілі паветы Ашмянскі, Новааляксандраўскі (Браслаўскі), Віленскі, Вількамірскі, Завілейскі, Ковенскі, Расіенскі, Трокскі, Упіцкі (Панявежскі), Цяльшэўскі і Шавельскі. У 1842 г. частка паветаў Віленскай губерні была выдзелена ў Ковенскую губерню, а ў Віленскую губерню дадаткова ўключаны паветы Лідскі, Дзісенскі і Вілейскі. У Слонімскую губерню ўваходзілі паветы Брэсцкі, Ваўкавыскі, Гарадзенскі, Кобрынскі, Лідскі, Наваградскі, Пружанскі, Слонімскі.

Паводле ўказа Паўла I 12 снежня 1796 г. Полацкая губерня была аб'яднана з Магілёўскай і ўтворана Беларуская губерня з цэнтрам у Віцебску. Затым 6 лютага 1797 г. Віленская і Слонімская губерні ўтварылі адну Літоўскую губерню. Пасля смерці Паўла I указам Аляксандра I 27 лютага 1802 г. Беларуская губерня была

падзелена на дзве губерні — Віцебскую і Магілёўскую. Літоўская губерня 9 верасня 1801 г. раздзялілася на Віленскую і Гарадзенскую губерні. Па Тыльзіцкаму дагавору 1807 г. паміж Францыяй і Расіяй у склад апошняй увайшла Беластоцкая акруга, якая была далучана да Гарадзенскай губерні. Такім чынам, на пачатку XIX ст. ўся тэрыторыя Беларусі апынулася ў складзе Расійскай імперыі.

Мясцовыя органы дзяржаўнай улады на Беларусі будаваліся амаль такія ж самыя, як і па ўсёй імперыі, але меліся і некаторыя асаблівасці. Так, на тэрыторыі Беларусі існавалі генерал-губернатарствы: Беларускае ў складзе Магілёўскай і Віцебскай губерняў, потым да яго была далучана Смаленская губерня і часова Менская, якая ў 1831—1834 гг. утварала асобнае Менскае генерал-губернатарства; Віленскае, у якое ўваходзілі Віленская і Гарадзенская губерні (з 1801 г.), у 1843 г. да яго была далучана Ковенская, а з 1834 па 1856 і з 1862 па 1870 г.— Менская. У час паўстання 1863 г. у Менскае генерал-губернатарства ўвайшлі губерні Віцебская і Магілёўская.

Генерал-губернатар, як намеснік цара, узначальваў мясцовую адміністрацыю падпарадкаваных яму губерняў. Яго прававое становішча акрэслівалася вельмі недакладна, бо закон «Учреждение для управления губерний» 1775 г. толькі прадпісваў, што ён павінен «строгое и точное взыскание чинить со всех ему подчиненных мест» [5]. Гэта давала ім магчымасць дзейнічаць па сваім разуменні і быць адказнымі толькі перад царом. Пры генерал-губернатары мелася канцылярыя з невялікім штатам чыноўнікаў, бо асноўныя яго загады праводзіліся ў жыццё праз губернскія і павятовыя (уездныя) установы.

Галоўнай службовай асобай у губерні быў губернатар. Ён назначаўся вярхоўнай уладаю з ліку давераных асоб цара. Губернатары падпарадкоўваліся генерал-губернатарам і міністру ўнутраных спраў. У кожнай губерні мелася губернскае праўленне як дарадчы і выканаўчы орган. Яно складалася з «общего присутствия» і канцылярыі. У «общее присутствие» ўваходзілі генерал-губернатар, губернатар, віцэ-губернатар, саветнікі і асэсары. Старшынстваваў на пасяджэннях генерал-губернатар, а калі яго не было, то губернатар або віцэ-губернатар.

---

[5] Учреждение для управления губерний. Арт. 81 // Дворянская империя XVIII века: Сб. документов. М., 1960. С. 64.

Пасяджэнні «общего присутствия» праходзілі фармальна, бо ўсе найважнейшыя справы вырашаліся асабіста генерал-губернатарам або губернатарам праз губернскую канцылярыю, якая падзялялася на 4 аддзяленні. Першае аддзяленне канцылярыі распаўсюджвала законы, наглядала за выкананнем распараджэнняў генерал-губернатара, губернатара, губернскага праўлення. Праз другое аддзяленне губернатар кіраваў паліцыяй, праз трэцяе — здзяйсняўся нагляд за судамі, чацвёртае ажыццяўляла сувязь з фінансава-гаспадарчымі органамі.

Гаспадарчай і фінансавай дзейнасцю ў губерні кіравала казённая палата, якую ўзначальваў віцэ-губернатар, а з 1845 г.— старшыня казённай палаты. Галоўнай задачай казённай палаты быў расклад і збор падаткаў, кіраванне і нагляд за казённай маёмасцю, кантраляванне выдаткаў казённых грошай.

У губернях меліся іншыя органы кіравання: рэкруцкія ўправы (присутствия), пераўтвораныя ў 1831 г. у рэкруцкія камітэты, кіравалі рэкруцкім наборам у губерні, «Приказ общественного призрения» наглядаў і кіраваў сацыяльным забеспячэннем, бальніцамі, школамі. Былі таксама межавая кантора, губернскі пракурор і іншыя ўрадоўцы. У 1837—1838 гг. у губернях былі ўтвораны палаты дзяржаўнай маёмасці, якія павінны былі займацца дзяржаўнымі сялянамі.

Губернскае дзяржаўнае кіраванне праводзілася ў спалучэнні з дзейнасцю дваранскіх саслоўных устаноў — дваранскіх сходаў, губернскага прадвадзіцеля дваранства, якія на Беларусі працяглы час называліся па-старому маршалкамі. Яны, як правіла, уваходзілі ў склад розных «присутствий», камісій і камітэтаў.

Галоўны орган павятовай улады — ніжні земскі суд, які адначасова выконваў адміністрацыйна-паліцэйскія і судовыя функцыі. Узначальваў яго земскі ісправнік. У адрозненне ад паветаў цэнтральнай Расіі ў беларускіх паветах ён не абіраўся, а прызначаўся Сенатам са згоды міністра ўнутраных спраў. У склад ніжняга земскага суда ўваходзілі два-тры засядацелі, якія прызначаліся ад дваран. Ніжні земскі суд павінен быў сачыць за падтрыманнем парадку ў павеце, забяспечваць своечасовую выплату жыхарамі падаткаў і выкананне розных павіннасцей.

З 1837 г. паветы пачалі дзяліць на станы. У кожны стан назначаўся губернатарам з дваран, часцей за ўсё з адстаўных афіцэраў, станавы прыстаў, які выконваў па-

ліцэйскія абавязкі і падпарадкоўваўся земскаму ісправўніку.

Апрача ніжняга земскага суда ў павеце меліся службовыя асобы галіновага кіравання: павятовы казначэй, павятовы лекар і інш.

Для нагляду за дзяржаўнымі сялянамі ў 1837—1838 гг. у паветах былі ўтвораны акругі, тэрыторыя якіх магла ахопліваць адзін або некалькі паветаў. Акругі ў сваю чаргу дзяліліся на воласці. На чале акругі стаяў акружны начальнік з двума памочнікамі. У воласці кожныя тры гады сялянамі абіраліся валасны галава і два засядацелі, якія складалі валаснoе праўленне. Абіраўся таксама валасны пісар, але ён не ўваходзіў у праўленне.

Кіраўніцтва ў гарадах ажыццяўлялася органамі паліцыі, якія дзейнічалі на аснове закона «Устав благочиния» 1782 г. Згодна з гэтым законам у кожным горадзе дзейнічала «Управа благочиния», у якой засядалі гараднічы, прыстаў крымінальных спраў, прыстаў цывільных спраў і два ратманы. Гараднічы назначаўся сенатам па прадстаўленню генерал-губернатара або губернатара. Саслоўныя выбарныя органы — гарадскія магістраты — былі пад кантролем і ўладаю губернатараў і іншых чыноўнікаў, а таму былі пазбаўлены самастойнасці ў вырашэнні гарадскіх спраў.

### 3. Беларусь у вайне 1812 г.

Пасля перамогі над Прусіяй у 1806—1807 гг. Напалеон і Аляксандр I дамовіліся ў Тыльзіце аб утварэнні Варшаўскага княства, а Беластоцкая акруга перадавалася Расіі. Варшаўскае княства разглядалася Напалеонам як плацдарм для нападу на Расію. Урад царскай Расіі нібыта пачаў падрыхтоўку праекта аб аднаўленні Вялікага княства Літоўскага. У лютым 1811 г. А. Чартарыскі па прапанове цара ездзіў у Варшаву, каб дамовіцца з польскімі дзеячамі аб іх пераходзе на бок Расіі. Гэта місія поспеху не мела. У канцы 1811 і пачатку 1812 г. групай беларуска-польскіх дзеячаў на чале з Міхалам Агінскім, К. Любецкім і інш. быў падрыхтаваны праект аб адраджэнні Вялікага княства Літоўскага пад пратэктаратам Расіі па прыкладу Фінляндыі.

Напалеон, рыхтуючыся да нападу на Расію, у сваю чаргу пачаў прапагандысцкую кампанію за аднаўленне Вялікага княства Літоўскага і далучэнне яго да Польшчы. З гэтай мэтай да сойму Варшаўскага княства за ты-

дзень да нападу на Расію звярнуліся з петыцыяй 32 жыхары Літвы з прапановай аб'яднацца з Варшаўскім княствам.

24 чэрвеня 1812 г. 600-тысячная армія Напалеона, у складзе якой было 100 тыс. палякаў, рушыла цераз граніцу з Расіяй і на працягу аднаго месяца акупавала амаль усю Беларусь. 28 чэрвеня армія заняла Вільню. Напалеон разлічваў, што насельніцтва Беларусі і Літвы будзе да яго больш прыхільным і дапаможа яму, калі ён абвесціць аб утварэнні кіраўнічых органаў Вялікага княства Літоўскага. З гэтай мэтай 1 ліпеня 1812 г. у Вільні быў утвораны асобны ўрад Вялікага княства Літоўскага — Тымчасовая ўрадавая камісія, тым самым было аднаўлена Вялікае княства Літоўскае. Каталіцкае духавенства і некаторыя прапольскія дзеячы на Беларусі пачалі агітаваць за далучэнне да Польшчы. У Менску 19 ліпеня ў катэдральным касцёле адбыўся сход і ўрачысты малебен, дзе была абвешчана наступная заява: «Мы, абывацелі польскага каралеўства і Вялікага княства Літоўскага, што жывем у яго вобласці, якая за часы няволі была названа Менскай губэрняй,— шляхта, духавенства, мяшчане, сяляне і ўсякага стану людзі перад богам і ўсім грамадзянствам сведчым, што, вызваленыя з ярма маскоўскай няволі і вернутыя да нашай бацькаўшчыны, мы, як толькі даведаліся аб утварэнні конфедэрацыі ўсяго польскага каралеўства, жадаючы як наймацней зьвязацца сэрцам і зброяю з нашымі братамі, злучаемся добраахвотна, аднамысна праз сягонешні ўрачысты акт з конфедэрацыяю польскага каралеўства»[6]. З гэтай заявы відаць, што каталіцкае духавенства на Беларусі дзейнічала як варожая агентура супраць беларускага народа ў інтарэсах замежнай дзяржавы.

Сяляне, даведаўшыся аб Напалеоне і не чакаючы, калі будзе скасавана прыгоннае права, пачалі самі адмаўляць паслушэнства памешчыкам і аказваць супраціўленне французскім харчовым атрадам і марадзёрам. У цэлым шэрагу мясцовасцей сяляне ўтварылі ўзброеныя атрады і пачалі барацьбу супраць памешчыкаў і акупантаў. Памешчыкі ў паніцы ўцякалі ў гарады. Тымчасовы ўрад у Вільні для барацьбы з сялянскімі атрадамі ў кожным павеце ўтварыў шляхецкую жандармерыю, заданнем якой было падаўленне сялянскіх бунтаў. У Менску былі

---

[6] *Ігнатоўскі У.* Гісторыя Беларусі ў XIX і ў пачатку XX сталецця. Менск, 1928. С. 43.

пакараны смерцю дзесяць сялян за ўдзел у забойстве вылюдка-пана.

Напалеонаўскае войска, якое складалася з французаў, немцаў, аўстрыйцаў, палякаў, італьянцаў і прадстаўнікоў іншых народаў, разглядала Беларусь як ваенную здабычу і ўсё што магла рабавала і знішчала. За пяць месяцаў акупацыі былі да шчэнту зруйнаваны многія вёскі і гарады Беларусі. Толькі ў Менскай губерні загінула больш чым 50 тыс. чалавек забітымі, прапаўшымі без вестак і ад хвароб [7]. У паветах, якія былі акупаваны, панесла вельмі цяжкія страты сялянская гаспадарка.

Утвораны ў Вільні ўрад Вялікага княства Літоўскага фактычнай улады не меў і быў падпарадкаваны французскаму намесніку. У гарадах і паветах побач з павятовымі камісіямі меліся французскія ўправіцелі (губернатары), якім належала нічым не абмежаваная ўлада, падмацаваная вайсковай сілай. Віленскі ўрад, каб не дапусціць сялянскіх паўстанняў супраць памешчыкаў, арганізаваў егерскія батальёны з мясцовай шляхты, пачаў утвараць органы павятовай адміністрацыі, судоў. Пад уздзеяннем апалячаных памешчыкаў і каталіцкага духавенства часовы ўрад абвясціў аб аднаўленні уніі з Польшчай.

## 4. Судовыя ўстановы і права

Пасля далучэння ўсходніх раёнаў Беларусі да Расійскай імперыі ў 1772 г. па наказу Кацярыны II «суд і расправа ў тых правінцыях па асабістых справах павінны праводзіцца па іх законах і звычаях і іх языком ва ўсіх тых выпадках, каторыя не датыкаюцца нашай улады» [8]. Аднак пасля выдання «Учреждения для управления губерний» 7 лістапада 1775 г. і на гэтай тэрыторыі пачалі ўводзіцца суды, прадугледжаныя законам. На далучаных да Расіі ў 1793 і 1795 гг. беларускіх землях Віленскі генерал-губернатар сваім Маніфестам ад 17 снежня 1795 г. загадаў суд і расправу праводзіць ад імя і ўладаю яе імператарскае вялікасці «па старажытных іх правах і суддзямі, з іх жа абранымі... для таго ў акругах земскія і гродскія суды, а ў гарадах ратушы і магістраты пакінуць пад загадам Літоўскага трыбунала, як верхняга

[7] *Корнейчик Е.* Белорусский народ в Отечественной войне 1812 г. Мн., 1962. С. 107.
[8] БЭФ. Т. 3. С. 26.

земскага суда»[9]. Далей у Маніфесце прадпісвалася, каб па крымінальных справах прыгаворы аб пазбаўленні чэсці, пакаранні смерцю або аб гандлёвай ці публічнай казні, па якіх апеляцыі не дапускаліся, не выконваліся без дазволу на тое генерал-губернатара.

У 1797 г. Павел І загадаў аднавіць і ва Усходняй Беларусі старыя судовыя органы: земскія, гродскія і падкаморскія суды, прадугледжаныя Статутам Вялікага княства Літоўскага 1588 г. Але паступова судовая сістэма на Беларусі збліжалася з судамі, якія існавалі ў Расіі: былі ўтвораны ў кожнай губерні галоўныя суды, якія дзейнічалі на правах губернскіх судоў.

Ліквідацыя старой судовай сістэмы на Беларусі і яе уніфікацыя пачалася пры Мікалаі І пасля няўдалага паўстання 1830—1831 гг. Усё судаводства было пераведзена на расійскую мову, былі ўтвораны па закону ад 30 кастрычніка 1831 г. замест галоўных судоў у губернях палата крымінальнага і палата цывільнага суда. Земскія і гродскія суды былі пераўтвораны ва ўездныя (павятовыя) суды. Нагляд за дзейнасцю ўсіх мясцовых судоў здзяйснялі генерал-губернатары і губернатары, якія мелі права адмяняць пастановы мясцовых судоў і даваць суддзям указанні, як вырашаць тую ці іншую справу. Вышэйшай касацыйнай інстанцыяй для ўсіх судоў быў сенат.

У першай трэці XIX ст. на тэрыторыі Беларусі галоўнай крыніцай права заставаўся Статут 1588 г. Заканадаўча яго дзейнасць была скасавана ў губернях Віцебскай і Магілёўскай у 1831 г., а ў Віленскай, Гарадзенскай і Менскай у 1840 г. Але ў народнай правасвядомасці ён заставаўся дзеючым актам і пасля гэтых дат. Напрыклад, у камедыі В. Дуніна-Марцінкевіча «Пінская шляхта», дзеянне якой адбываецца ў 50-х гг. XIX ст., станавы прыстаў і ўсе дзеючыя асобы не ведаюць аб скасаванні Статута.

Да 1811 г. ўсе дзяржаўныя ўстановы і службовыя асобы на Беларусі карысталіся Статутам 1588 г., выдадзеным на польскай мове ў Вільні ў 1786 г. У 1811 г. у Пецярбурзе быў надрукаваны Статут 1588 г. на рускай і польскай мове і апошні раз на польскай мове ён быў выдадзены ў Вільні ў 1819 г. Суды, якія дзейнічалі на Беларусі, спалучалі як нормы Статута, так і агульнаімперскае права. У 1826 г. пачаліся працы па падрыхтоўцы Звода законаў Расійскай імперыі. Адначасова пачалася праца

---

[9] Там жа. С. 81.

па складанню Звода мясцовых законаў Заходніх губерняў, які меркавалася ўключыць у агульны Звод законаў Расійскай імперыі. Працай па падрыхтоўцы Звода мясцовых законаў кіраваў вядомы беларускі вучоны-юрыст Ігнат Даніловіч, які ў розныя часы працаваў прафесарам у Віленскім, Харкаўскім, Кіеўскім і Маскоўскім універсітэтах, а з 1830 да 1835 г. у Пецярбурзе ў камісіі М. Спяранскага. Праца па падрыхтоўцы Звода мясцовых законаў Заходніх губерняў была ў асноўным завершана ў 1834 г., а па некаторых раздзелах вялася да 1837 г. Гэты звод не быў уведзены ў дзеянне як асобны закон і не быў уключаны ў Звод законаў Расійскай імперыі. Толькі асобныя нормы Звода мясцовых законаў былі ўключаны ў агульнаімперскі Звод законаў. 25 чэрвеня 1840 г. на ўсёй тэрыторыі імперыі адмянялася дзеянне Статута і іншых старых актаў і ўводзілася агульнарасійскае заканадаўства.

З 1 мая 1846 г. на ўсёй тэрыторыі Расійскай імперыі стала дзейсным «Улажэнне аб пакараннях крымінальных і папраўчых», зацверджанае ў 1845 г. Па «Улажэнню», памешчыкі захавалі сваё права караць сялян, высылаць іх у Сібір. Суды мелі права прымяняць самыя жорсткія кары. К сялянам і мяшчанам маглі прымяняцца катаржныя работы, кары на целе: біццё розгамі, пугамі, палкамі. Дваране, духавенства, ганаровыя грамадзяне, купцы першай і другой гільдый не павінны былі прымушацца да працы, пазбаўляліся ад кляймення. Усё гэта сведчыла аб захаванні феадальна-прыгонніцкага права без істотных змен. Разам з тым новыя ідэі буржуазнага права паступова ўкараняліся ў жыццё. Асабліва яны сталі выразнымі ў нормах цывільнага права, якія былі сістэматызаваны ў томе 10 Звода законаў Расійскай імперыі.

Раздзел 8

# ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЛАД І ПРАВА НА БЕЛАРУСІ Ў ПЕРЫЯД КАПІТАЛІЗМУ (1861—1917)

## 1. Рэформа 1861 г. на Беларусі

Паступовае, але няўхільнае развіццё эканомікі па капіталістычнаму шляху выклікала неабходнасць скасавання прыгоннага права, прывяло да паўсюднага распаду натуральнай гаспадаркі. Сталі будавацца новыя фабрыкі і заводы. Так, да 1859 г. колькасць прамысловых прадпрыемстваў у беларускіх губернях была наступнай: у Віцебскай губерні — 278, Віленскай — 71, Гарадзенскай — 131, Менскай — 63, Магілёўскай — 241. На іх працавалі 10 тыс. 721 рабочы [1]. Ішоў працэс умацавання капіталістычных адносін і ў сельскай гаспадарцы. Узрасла колькасць сялянскіх бунтаў супраць памешчыкаў і ўсёй прыгоннай сістэмы. У грамадстве склалася выбуховая сітуацыя. Многія памешчыкі і нават сам цар разумелі, што неабходна скасаваць прыгоннае права. Аляксандр II, выступаючы ў 1856 г. перад дваранамі Маскоўскай губерні, сказаў: «Чуткі носяцца, што я хачу аб'явіць звальненне ад крапаснога стану. Гэта несправядліва, а ад гэтага было некалькі выпадкаў непаслухмянства памешчыкам. Вы можаце сказаць гэта ўсім направа і налева. Я не скажу вам, каб я быў цалкам супраць гэтага; мы жывём у такі час, што з часам гэта павінна здарыцца. Я думаю, што і вы адной думкі са мною; такім чынам, значна лепш, каб гэта адбылося зверху, чым знізу» [2].

У сувязі з тым, што ў сельскай гаспадарцы Беларусі, асабліва ў Гарадзенскай і Віленскай губернях, найбольш выразна выявілася разлажэнне феадальных адносін, цар-

[1] БЭФ. Т. 3. С. 395—397.
[2] *Джаншиев Г. А.* Эпоха великих реформ. М., 1898. С. 18.

скі ўрад даручыў віленскаму генерал-губернатару арганізаваць «заяўленне» дваран трох губерняў аб жаданні скасаваць прыгоннае права. «Заяўленне» з'явілася фармальнай падставай пачаць працы па падрыхтоўцы праектаў заканадаўчых актаў аб рэформе. У студзені 1857 г. быў утвораны Сакрэтны камітэт, які павінен быў падрыхтаваць праект закона аб скасаванні прыгоннага права. Утвараліся таксама губернскія дваранскія камітэты. Падрыхтоўкай праектаў займаліся і міністэрствы. У лютым 1861 г. праект быў зацверджаны Дзяржаўным саветам і 19 лютага Аляксандр II выдаў Маніфест аб вызваленні сялян.

У Маніфесце пацвярджалася, што права ўласнасці на зямлю прызнавалася за памешчыкамі, а сяляне павінны былі сваю зямлю купляць у памешчыкаў, уносячы ім выкупныя плацяжы і выконваючы вызначаныя павіннасці. Ад сялян патрабавалася таксама, каб яны заставаліся па-ранейшаму ў «повиновении помещикам» і бездакорна выконвалі даўнейшыя павіннасці не менш чым два гады.

Апрача Маніфеста былі выдадзены: «Общее Положение о крестьянах, вышедших из крепостной зависимости», «Положение о губернских и уездных по крестьянским делам учреждениях», «Местное положение о поземельном устройстве крестьян, водворенных на помещичьих землях, в губерниях: Виленской, Гродненской, Ковенской, Минской и части Витебской» і шэраг іншых законаў. Колькасць зямлі, якую атрымліваў сялянскі двор, сума плацяжоў і іншыя павіннасці, якія павінен быў выконваць селянін, запісваліся ва ўстаўныя граматы.

Сяляне на Беларусі, як і паўсюдна, былі незадаволены грабіцельскай рэформай. Яны адмаўляліся выконваць павіннасці на карысць памешчыкаў, плаціць выкупныя плацяжы, падпісваць устаўныя граматы. Для таго, каб прымусіць сялян выконваць павіннасці і для падаўлення сялянскіх бунтаў, у вёскі накіроўваліся салдаты і казакі. Аднак і гэта не дапамагло. У 1863 г. сялянскія хваляванні перараслі ў шырокае народнае паўстанне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Супраць паўстаўшых была накіравана 200-тысячная армія. Адначасова царызм вымушаны быў зрабіць пэўныя палёгкі сялянам. Так, указам ад 1 сакавіка 1863 г. у губернях Віленскай, Гарадзенскай, Менскай, Ковенскай і частцы Віцебскай сяляне звальняліся з 1 мая 1863 г. ад павіннасці часоваабавязаных і залічваліся да сялян-уласні-

каў. У лістападзе 1863 г. такая ж палёгка была зроблена і адносна сялян Магілёўскай і Віцебскай губерняў. 9 красавіка 1863 г. была выдадзена пастанова аб утварэнні ў Паўночна-Заходніх губернях камісій па праверцы ўстаўных грамат і тыя, у якіх памеры сялянскіх надзелаў былі паменшаны, а павіннасці павялічаны, камісіі павінны былі скасаваць. У жніўні і кастрычніку з'явіліся цыркуляры. Яны прадугледжвалі надзяленне зямлёй тых сялян, зямля якіх была забрана памешчыкамі пасля 1844 або 1857 г. Усе гэтыя захады былі накіраваны на тое, каб адцягнуць сялян ад паўстання. Адначасова царызм узмоцніў рэпрэсіі. У маі 1863 г. генерал-губернатарам Паўночна-Заходніх губерняў—Віленскай, Гарадзенскай, Менскай, Ковенскай, Віцебскай і Магілёўскай — быў прызначаны М. М. Мураўёў, які атрымаў мянушку вешацеля. Карыстаючыся амаль неабмежаванай уладаю, ён ва ўсіх паветах Беларусі і Літвы ўвёў ваенна-палявыя суды, якія за кароткі час пакаралі смерцю 240 чалавек[3], апрача таго, тысячы людзей былі забіты і пакалечаны ў час карных экспедыцый, сотні вёсак і мястэчак спалены і зруйнаваны. Тым самым, так званае вызваленне сялян не прынесла ім ні свабоды, ні дабрабыту.



Кастусь Каліноўскі

## 2. Мясцовыя органы дзяржаўнага кіравання і самакіравання пасля рэформы 1861 г.

Згодна з Маніфестам 19 лютага 1861 г. і Агульным Палажэннем аб сялянах, якія выйшлі з прыгоннай залежнасці, улада памешчыка над сялянамі павінна была спыніцца, але фактычна яна заставалася.

[3] *Фридман М. Б.* Отмена крепостного права в Белоруссии. Мн., 1958. С. 161.

N 1.

# MUŻYCKAJA PRAUDA.

Dziecinki!

Minulo uże toje. kali zdawało sia usim. szto mużyckaja ruka zdasce tolko da sachi.—ciepier nastau taki czas. szto my sami możem pisaci, i to pisaci takuju praudu sprawiedliwu jak Boh na niebi. O. zabremić nasza prauda i jak małanka pierelecić pa swieci! Niechaj paznajuć szto my możem nie tolko karmić swaim chlebom. no jeszcze i uczyć swajej mużyckoj praudy.

Pytali i pytajuć usie. szto czuwaci na swieci. chto nam biedym mużykam dać wolność? No praudu skazauszy mało chto chocze skazaci tak jak sumlenie każe—pa sprawiedliwości. My mużyki. braty waszyje. my wam budziem hawaryć całuju praudu, tolko słuchajcie nas!

Maskali, czynouniki i mnoho panou. buduć pierepyniać pismo nasze da was; no najduć sia ludzie i z mużykou razumniejszyje i z panskaho rodu i z miasteczkowych szto choczuć waszej swabody. waszaho szczaścia.—jony to wam sami heto pismo dowaci buduć. kab wy znali chto wasz pryjaciel. a chto wasz woroch.

Sześć let uże minuło jak paczali hawaryć a swabodzie mużyckoj. Hawaryli, tałkawali i pisali mnoho. a niczoho nie zrabili. A hety manifest szto Car z Senatom i z panami dla nas napisau. to taki durny. szto czort wiedaje da czeho jon padobny.—nijakoj u nio m nienia praudy. niema z jeho dla nas nijakoj karyści. Parabili Kancelaryi. zrabili sud, jakby heto nie usio rouno brać u sraku czy z sudom, czy bez suda. Parabili Pisarou, Pasredni-

kou a usio za mużyckije broszy i wielikije broszy —czort ich wiedaje na szto; dla toho chyba. kab zapisywali u ksiezki, jak mnoho napiszuć na srakach muzyckich. A z hetaho to i widać, szto nam niczoho dobraho i nie dumali zrabici.

Pranda. abieszczali to kaliś dać nam wolność: no jak nam zdajeć sia na nasz muzycki rozum, szto choczuć aszukaci. bo kalı prez sześc let niczoho nie zrabili. to czerez rok peunie nie zrobiać. Mohuć jeszcze napisaci i druhi manifest, jeszcze bolszy ad hetaho, no i z hetaho druhobo manifestu niczoho dobraho jak i z pierszaho nie budzie.

Ad maskala i panou nie ma czeho spadziewaci sia; bo jony nie wolności a hłumu i zdzierstwa naszeho choczuć. No nie douho jony nas buduć abdziraci. bo my paznali hdzie siła i prauda i budziem wiedać jak rabić treba kab dastać ziemlu i swabodu. Waźmiem sia Dzieciuki za ruki i dziarżem sia razom! a kali pany schoczuć trymać z nami. tak niechaj że robiać pa świętej sprawiedliwości: bo kali inaczej—tak czort ich pabiery! Mużyk pakul zdużaje trymaci kosu i sakieru, baramić swaho patrapić i u nikoho łaski prasić nie budzie.

**Hetu: Mużyckuju Praudu napisau i znou pisaci budzie Jaśko haspadar z pad Wilni**

**Kasztuje hroszy 5**

«Мужыцкая праўда» К. Каліноўскага

Для нагляду над сялянамі, у дапаўненне да старога дзяржаўнага паліцэйскага апарату, утвараліся новыя органы ўлады: у губернях — губернскія па сялянскіх справах прысутствія; у паветах — міравыя пасрэднікі і павятовыя міравыя з'езды, з 1874 г. павятовыя па сялянскіх справах прысутствія і з 1889 г. земскія ўчастковыя начальнікі і іх павятовыя з'езды; у валасцях — валасныя сходы, валасны старшыня, валаснoe праўленне, валасны сялянскі суд; у сёлах — сельскі сход, сельскі стараста.

Губернскае па сялянскіх справах прысутствіе складалася з губернатара (старшыня), губернскага прадвадзіцеля дваранства, кіраўніка палаты дзяржаўных маёмасцей, губернскага пракурора, двух мясцовых дваран, якіх прызначаў міністр унутраных спраў, і двух мясцовых дваран, абраных павятовымі прадвадзіцелямі дваранства. Апрача таго, у склад прысутствія маглі назначацца і іншыя губернскія чыноўнікі. Такі склад губернскага прысутствія поўнасцю адпавядаў інтарэсам памешчыкаў.

Губернскае прысутствіе разглядала скаргі на дзейнасць міравых пасрэднікаў і іх павятовых з'ездаў, кантралявала пагадненні паміж памешчыкамі і сялянамі аб змяншэнні сялянскага зямельнага надзелу, зацвярджала складзеныя па паветах праекты аб размеркаванні селішчаў па валасцях, а таксама вырашала іншыя пытанні ажыццяўлення рэформы.

Міравыя пасрэднікі займаліся непасрэдным правядзеннем рэформы. У кожным павеце назначаліся трыпяць участковых міравых пасрэднікаў. Імі маглі быць патомныя дваране-памешчыкі, якія мелі не менш чым 500 дзес. зямлі або не менш чым 150 дзес. і дыплом аб заканчэнні навучальнай установы з правам на чын XII класа. Міравыя пасрэднікі прызначаліся губернатарам і зацвярджаліся сенатам. Яны разглядалі спрэчкі і скаргі паміж сялянамі і памешчыкамі, а таксама скаргі сялян на валасных службовых асоб і валасныя сходы, зацвярджалі устаўныя граматы; разглядалі некаторыя судова-паліцэйскія справы (аб патравах, парубках лесу і інш.). Галоўнае іх прызначэнне — састаўленне ўстаўных грамат аб умовах паміж памешчыкам і сялянамі. Але праводзячы буржуазную рэформу па прыгонніцкаму закону, яны ў некаторых мясцовасцях пачалі адстайваць інтарэсы сялян, чым выклікалі незадавальненне царскіх улад і былі заменены іншымі. Так, з 39 міравых пасрэднікаў Гарадзенскай губерні 37 былі звольнены ў 1863 г. з-за ненадзейнасці [4].

Па свайму прававому становішчу міравыя пасрэднікі не лічыліся дзяржаўнымі чыноўнікамі і не ўваходзілі ў склад установ мясцовага самакіравання. Яны прыраўноўваліся да павятовых прадвадзіцеляў дваранства. Скаргі на іх рашэнні разглядаліся павятовымі з'ездамі

---

[4] *Фридман М. Б.* Отмена крепостного права в Белоруссии. С. 162.

міравых пасрэднікаў. У склад павятовага з'езда міравых пасрэднікаў уваходзілі ўсе міравыя пасрэднікі дадзенага павета, павятовы прадвадзіцель дваранства (старшыня) і назначаны губернатарам чыноўнік. Міравыя пасрэднікі дзейнічалі да 27 чэрвеня 1874 г., калі іх функцыі былі перададзены новаўтвораным павятовым прысутствіям па сялянскіх справах. У склад павятовага прысутствія павінны былі ўваходзіць павятовы прадвадзіцель дваранства, іспраўнік, абавязковы член прысутствія, старшыня земскай павятовай управы (дзе былі ўтвораны земскія ўстановы) і адзін з ганаровых міравых суддзяў, дзе меліся міравыя суды. Але на Беларусі ў той час не было ні земстваў, ні міравых судоў, таму галоўнай асобай улады над сялянамі стаў павятовы іспраўнік і падначаленыя яму паліцэйскія.

Валасны сход складаўся з сельскіх і валасных прадстаўнікоў улады і па аднаму прадстаўніку ад кожных дзесяці сялянскіх двароў. У губернях Віленскай, Гарадзенскай і Менскай батракі і бабылі мелі права пасылаць на валасны сход па аднаму выбранаму ад кожных 20 дарослых работнікаў. Прызначэннем валаснога схода былі: выбары валасных службовых асоб і суддзяў валаснога суда; вызначэнне і раскладка мірскіх збораў і павіннасцей; праверка рэкруцкіх спісаў і раскладка рэкруцкай павіннасці; стварэнне і ўтрыманне валасных школ.

Валаснoe ўпраўленне складалася з валаснога старшыні, усіх сельскіх стараст і зборшчыкаў падаткаў. Асобае становішча ў валасных органах займаў валасны пісар, які не абіраўся сялянамі, а прызначаўся праўленнем і фактычна вырашаў большасць валасных спраў.

Валасны суд абіраўся валасным сходам штогод у складзе ад 4 да 12 суддзяў. Справы ў судзе павінна была разглядаць калегія ў складзе не менш трох суддзяў. Валаснoму суду былі падсудныя справы па спрэчках паміж сялянамі, а таксама справы па малаважных крымінальных або адміністрацыйных праступках. Валасны суд меў права прыгаворваць сялян да наступных кар: арышт да 7 дзён, пакаранне дубцамі да 20 удараў, грашоваму штрафу да 3 р., грамадскім працам да 6 дзён. Рашэнні валаснога суда па ўсіх справах лічыліся канчатковымі. У 1866 г. быў прыняты закон, згодна з якім сяляне атрымалі права падаваць скаргі на прыгаворы валасных судоў з'езду міравых пасрэднікаў, калі валасны суд парушаў сваю кампетэнцыю.

У 1889 г. павятовыя па сялянскіх справах прысутствія былі скасаваны і іх паўнамоцтвы перададзены земскім участковым начальнікам. Земскі начальнік прызначаўся на тры-чатыры валасці і наглядаў над сялянамі і ўсімі сельскімі ўстановамі. Ён меў шырокія паўнамоцтвы, мог судзіць сялян, адмяняць пастановы валаснога суда. На пастановы земскага начальніка можна было падаваць скаргі павятоваму з'езду земскіх начальнікаў, г. зн. такім жа земскім начальнікам, а на пастановы з'езда — у губернскае прысутствіе. Паколькі земскія начальнікі прызначаліся толькі з дваран і ўваходзілі ў склад розных дзяржаўных устаноў па сялянскіх справах, то і пасля рэформы 1861 г. сяляне заставаліся пад уладаю памешчыкаў.

### 3. Земская рэформа 1864 г.

Сялянская рэформа 1861 г. выклікала неабходнасць больш шырокага ўдзелу і праяўлення ініцыятывы ў кіраванні мясцовымі справамі ўсіх слаёў насельніцтва. З гэтай мэтай 1 студзеня 1864 г. было выдадзена Палажэнне аб губернскіх і павятовых земскіх установах, згодна з якім утвараліся губернскія і павятовыя земскія сходы як распарадчыя ўстановы і губернскія і павятовыя ўправы як выканаўчыя. Выбары павятовых гласных (дэпутатаў) праводзіліся на трох выбарчых з'ездах: павятовых землеўладальнікаў, гарадскіх выбаршчыкаў і выбарных ад сельскіх грамад. Правам выбіраць ад землеўласнікаў карысталіся толькі ўласнікі зямлі, меўшыя не менш як 125 дзес., ад гарадскіх жыхароў — уласнікі акрэсленай нерухомай маёмасці або гандляры і фабрыканты з абаротным капіталам не менш як 6 тыс. р. у год. Для сялян выбары былі шматступеннымі: сельскі сход, валасны сход, павятовы з'езд. Найбольшую колькасць дэпутатаў у павятовы земскі сход выбіралі памешчыкі і буржуазія. Гласныя губернскіх земскіх сходаў выбіраліся на павятовых земскіх сходах з разліку адзін губернскі гласны на шэсць павятовых гласных. Выбары земскіх устаноў праводзіліся адзін раз на тры гады.

Павятовыя і губернскія земскія сходы склікаліся адзін раз на год на некалькі дзён. Большасць гласных у гэтых сходах складалі дваране. Старшынствавалі на земскіх сходах адпаведна павятовыя і губернскія прадвадзіцелі дваранства.

Асноўная праца ў земскіх установах выконвалася ў

павятовых і губернскіх управах, якія былі пастаянна дзеючымі органамі і мелі штатных чыноўнікаў, якія займаліся рознымі галінамі мясцовых спраў. У кампетэнцыю земстваў уваходзілі мясцовая гаспадарка, пабудова і дагляд дарог, школ, бальніц, дабрачынныя ўстановы, арганізацыя сельскагаспадарчага крэдыту, прапаганда агранамічных ведаў, паляпшэнне саматужнай прамысловасці, арганізацыя земскай статыстыкі і г. д. Але царскія чыноўнікі вельмі насцярожана адносіліся да земстваў, асабліва на Беларусі і Украіне. А таму на тэрыторыі заходніх губерняў земствы не ўтвараліся на працягу 40 год. Толькі ў 1903 г. была зроблена першая спроба ўтварыць у губернях Менскай, Віцебскай, Магілёўскай земствы. Але яны не абіраліся, а прызначаліся міністрам унутраных спраў і губернатарамі. Палажэннем, выдадзеным 2 красавіка 1903 г., утвараліся губернскія і павятовыя камітэты і ўправы па справах земскай гаспадаркі замест губернскіх і павятовых земскіх сходаў. У склад губернскіх і павятовых камітэтаў уваходзілі службовыя асобы губернскага і адпаведна павятовага апарату кіравання і земскія гласныя, якіх прызначаў на тры гады міністр унутраных спраў па прадстаўленню губернатара. Ён жа старшынстваваў у губернскім камітэце. Яму належала галоўная роля і ў губернскай управе. 14 сакавіка 1911 г. быў выдадзены ўказ аб ажыццяўленні ў беларускіх губернях Палажэння аб земствах з некаторымі папраўкамі і змяненнямі. Так, у выбарчыя сходы паветаў сельскія грамады маглі пасылаць не больш як адну трэцюю частку ўсіх гласных, а ў губернскія — толькі аднаго сялянскага гласнага ад кожнага павета.

Гэтыя змяненні сведчылі аб тым, што развіццё капіталістычных адносін няўхільна патрабавала ўвесці больш шырокую дэцэнтралізацыю органаў мясцовага самакіравання, а чыноўніцка-бюракратычны апарат імкнуўся захаваць бюракратычны цэнтралізм і не дапусціць у органы самакіравання працоўных.

Не дапускаліся рабочыя і ніжэйшыя служачыя да ўдзелу ў органах гарадскога кіравання, якія ўтвараліся згодна з «Гарадавым палажэннем» 16 чэрвеня 1870 г. У гарадах утвараліся гарадскія думы і гарадскія ўправы. Старшынстваваў у гарадской думе і гарадской управе гарадскі галава. У выбарах гарадской думы прымалі ўдзел толькі заможныя падаткаплацельшчыкі. Гарадская дума складалася ў залежнасці ад велічыні горада з

30—72 гласных. У губернях Віцебскай, Віленскай, Менскай, Магілёўскай гарадская рэформа праводзілася ў 1875 г.

Гарадскія дума і ўправа займаліся добраўпарадкаваннем горада (водаправод, асвятленне, масты, вуліцы, санітарнае ўтрыманне), наглядам за школамі, бальніцамі і г. д. Гарадскія органы самакіравання выбіраліся на чатыры гады. Выбары праводзіліся па трох выбарчых з'ездах (буйных, сярэдніх і дробных падаткаплацельшчыкаў), якія выбіралі роўную колькасць гласных. Гэта давала значную перавагу багатым падаткаплацельшчыкам.

Земская і гарадская рэформы былі для свайго часу значным крокам наперад у развіцці самакіравання і абмежавання чыноўніцка-бюракратычнага апарату. Але яны не здолелі па прычыне сваёй абмежаванасці далучыць да самакіравання шырокія слаі працоўных і выпрацаваць у іх навыкі дэмакратычнага вырашэння мясцовых спраў.

Па закону аб ваеннай рэформе 1874 г. была ўведзена ўсеагульная ваенная павіннасць мужчын, якія дасягнулі 21 года, замест ранейшага рэкруцкага набору. Тэрмін службы ў арміі скарачаўся, замест 20 гадоў салдаты павінны былі служыць: у сухапутных войсках шэсць гадоў і на флоце сем гадоў. Асобам, якія мелі адукацыю не ніжэй шасці класаў гімназіі, тэрмін службы скарачаўся да двух гадоў.

## 4. Судовая рэформа 1864 г.

Кардынальныя змяненні ў грамадстве, выкліканыя сялянскай рэформай, перамены ў мясцовых органах кіравання, уключэнне мільёнаў сялян у актыўныя таварна-грашовыя здзелкі садзейнічалі хуткаму росту грамадзянска-прававых адносін і выклікалі патрэбу змены ўсёй судовай сістэмы, яе дэмакратызацыі. У верасні 1862 г. Аляксандр II зацвердзіў «Асноўныя палажэнні судовага ладу», якія паслужылі базай для распрацоўкі новых законаў. 20 лістапада 1864 г. былі зацверджаны судовыя ўставы, якія складаліся з чатырох законаў: «Учреждение судебных установлений», «Устав уголовного судопроизводства», «Устав гражданского судопроизводства», «Устав о наказаниях, налагаемых мировыми судьями». Згодна з гэтымі законамі суды аддзяляліся ад выканаўчай, адміністрацыйнай і заканадаўчай улады. Утвараліся

новыя суды: міравы суд і з'езды міравых суддзяў, акружныя суды, судовыя палаты і як вышэйшая касацыйная інстанцыя — сенат. Такім чынам, ствараліся дзве судовыя сістэмы: мясцовыя і агульныя суды. Да мясцовых належалі валасныя суды, міравыя суды і з'езды міравых суддзяў, да агульных — акружныя суды, як правіла, адзін на губерню, судовыя палаты — адна на некалькі губерняў і касацыйныя дэпартаменты сената.

У міравых судах справы разглядаў аднаасобна міравы суддзя. Міравыя суды ствараліся па тры-чатыры ў адным павеце. Па закону міравы суддзя павінен быў выбірацца па спісу кандыдатаў, папярэдне зацверджаных губернатарам, на павятовым земскім сходзе. У беларускіх губернях міравыя суддзі не выбіраліся, а прызначаліся царскім урадам, бо да 1911 г. тут не было земскіх сходаў. Міравыя суды на Беларусі пачалі ўтварацца ў 1871 г. Міравымі суддзямі маглі быць мужчыны не маладзей 25 гадоў, якія мелі не менш 100 дзес. зямлі і адпаведную адукацыю. Апрача ўчастковых міравых суддзяў выбіраліся, а ў беларускіх губернях прызначаліся ганаровыя міравыя суддзі, якія маглі разглядаць справы, але не ўваходзілі ў штаты Міністэрства юстыцыі і не атрымлівалі жалавання. З'езд міравых суддзяў разглядаў апеляцыйныя скаргі на пастановы міравых суддзяў. Ён складаўся з участковых і ганаровых міравых суддзяў дадзенага павета.

Міравым судам былі падсудны цывільныя справы пры цане іска да 500 р. і крымінальныя, па якіх прадугледжваліся арышт да трох месяцаў, грашовыя спагнанні да 300 р., заключэнне ў работны дом да аднаго года.

Акруговыя суды складаліся з крымінальных і цывільных аддзяленняў. Крымінальныя справы маглі разглядацца каронным суддзямі разам з прысяжнымі засядацелямі. Каронныя суддзі прызначаліся царом па прадстаўленню міністра юстыцыі пажыццёва. Кандыдаты на пасаду суддзі павінны былі мець вышэйшую юрыдычную адукацыю і стаж працы ў праваахоўных органах не менш як тры гады. Узначальваў акруговы суд старшыня, аддзяленні — яго намеснікі.

Судовыя палаты дзейнічалі як суды другой інстанцыі ў адносінах да акруговых судоў. Аднак крымінальныя справы, якія разглядаліся акружнымі судамі з удзелам прысяжных засядацеляў, апеляцыйнаму перагляду не падлягалі. Па некаторых крымінальных справах, напрыклад па палітычных, судовыя палаты маглі дзейні-

чаць як суд першай інстанцыі. Судовыя палаты дзейнічалі на тэрыторыі сваёй судовай акругі. Напрыклад, акружныя суды Віленскай, Гарадзенскай, Менскай і Ковенскай губерняў знаходзіліся пад наглядам Віленскай судовай палаты, Віцебскі акружны суд — Пецярбургскай судовай палаты, Магілёўскі акружны суд — Кіеўскай судовай палаты.

Вышэйшым касацыйным судом для ўсёй Расійскай імперыі быў сенат, які дзейнічаў у складзе двух дэпартаментаў — цывільнага і крымінальнага. З канца XIX ст. сенат займаўся абнародаваннем і растлумачэннем законаў, мог выдаваць адміністрацыйныя распараджэнні.

Судовая рэформа 1864 г. была значным крокам наперад. Былі ўведзены ў жыццё важнейшыя прынцыпы: галоснасці, спаборнасці, свабоднай ацэнкі доказаў, незалежнасці суддзяў, удзелу адвакатаў у працэсе.

## 5. Грамадска-палітычны лад і права на Беларусі ў пачатку XX ст.

У другой палове XIX і пачатку XX ст. на Беларусі наглядаўся значны рост прамысловасці, гандлю, чыгуначнага і рачнога транспарту, што спрыяла росту рабочага класа і інтэлігенцыі. Ішоў хуткі працэс перабудовы ўсёй гаспадаркі на капіталістычны лад. Толькі за апошнія 20 гадоў XIX ст. на Беларусі было пабудавана 825 фабрык і заводаў. Высокія тэмпы росту прамысловасці захоўваліся і ў наступныя гады. Усё гэта прывяло да значных змен у сацыяльным складзе насельніцтва. Узмацніліся пазіцыі буржуазіі, вырас і пачаў арганізацыйна афармляцца клас пралетарыяту, нацыянальнай інтэлігенцыі. Але разам з тым захаваліся ў сацыяльна-эканамічнай структуры грамадства і дзяржаўным ладзе шмат якія перажыткі феадалізму: прывілеяванае становішча дваранства, памешчыцкае землеўладанне, царскае самадзяржаўе і самаўладства царскай адміністрацыі, палітычнае бяспраўе працоўных, нацыянальны прыгнёт беларускага насельніцтва, што значна абвастрала класавую і нацыянальна-вызваленчую барацьбу працоўных.

Асабліва цяжкім было становішча ў беларускай вёсцы. Сяляне пакутвалі ад беззямелля і непамерна вялікіх падаткаў. Сялянская рэформа 1861 г., праведзеная ў інтарэсах памешчыкаў і буржуазіі, не прынесла сялянам ні зямлі, ні свабоды. Не мелі рэальнай карысці для сялян

земская, судовая і іншыя рэформы 60—70-х гг. XIX ст. Крызіс у сельскай гаспадарцы падрываў усю эканоміку краю. Але царскі ўрад не жадаў надзяляць сялян зямлёй за кошт памешчыкаў, а хацеў ліквідаваць сялянскае малазямелле перасяленнем часткі іх у Сібір і на Далёкі Усход або змусіць найбольш бедных ісці шукаць працы ў гарады, прадаўшы сваю зямлю больш заможным сялянам, якія перасяляліся на хутары. Гэтымі мерамі разлічвалі вырашыць адразу дзве задачы: па-першае, аслабіць рэвалюцыйную барацьбу сялян, адарваўшы іх ад родных месц, і паставіць іх у такія ўмовы, каб яны страцілі сваю нацыянальную прыналежнасць і самасвядомасць; па-другое, рассяліўшы на хутары, падняць прадукцыйнасць працы заможных сялян, а беднякі, падаўшыся ў горад, павінны былі забяспечыць прамысловасць таннай рабочай сілай. Толькі за восем гадоў, з 1907 па 1914 г., з Беларусі перасяліліся ў Сібір і іншыя землі 335 тыс. 400 чалавек, апрача таго, сотні тысяч сялян з Беларусі штогод ішлі на заработкі ў іншыя губерні. Так, у 1906—1910 гг. пайшлі да 450 тыс. збяднелых сялян[5].

Перасяленне сялян на хутары праводзілася на падставе Указа ад 9 лістапада 1906 г., законаў 14 ліпеня 1910 г. і 29 чэрвеня 1911 г. Згаданыя ўказ і законы, вядомыя пад назвай сталыпінскай аграрнай рэформы, былі накіраваны на развіццё фермерскіх сялянскіх гаспадарак. Селянін, які пажадаў выдзеліцца на хутар, меў права патрабаваць выдзялення яму зямлі ў адным месцы. Гэтай зямлёй ён распараджаўся без усякіх абмежаванняў — мог яе прадаць, абмяняць, завяшчаць сваім родным або чужым людзям, падараваць, аддаць у залог або ў арэнду.

Важнейшай падзеяй у пачатку XX ст. была рэвалюцыя 1905—1907 гг., якая ўскалыхнула ўсю Расійскую імперыю. На Беларусі рэвалюцыйная барацьба супраць царскага самаўладства і нацыянальнага прыгнёту значна абвастрылася яшчэ ў 1902—1904 гг. У беларускіх гарадах і мястэчках узніклі рабочыя гурткі, сацыял-дэмакратычныя арганізацыі. У 1902 г. на базе культурна-асветніцкіх гурткоў моладзі Вільні, Гародні, Менску была ўтворана Беларуская Рэвалюцыйная Грамада. У снежні 1903 г. адбыўся ў Вільні Першы з'езд, на якім гэта партыя атрымала назву Беларуская Сацыялістыч-

[5] БелСЭ. Мн., 1975. Т. 12. С. 119—120.

ная Грамада (БСГ). Яе стваральнікамі былі браты Іван і Антон Луцкевічы, К. Кастравіцкі (К. Каганец), В. Іваноўскі, В. Ластоўскі, Ф. Стацкевіч, А. Уласаў, Ф. Умястоўскі, А. Пашкевіч (Цётка), А. Бурбіс. Праграма БСГ, прынятая на Першым з'ездзе, змяшчала асноўныя сацыял-дэмакратычныя патрабаванні: краявой аўтаноміі для Беларусі, ураўняльнае землекарыстанне разам «са скасаваннем права асабістай зямельнай уласнасці», выбарнасць чыноўнікаў, устанаўленне прагрэсіўнага падатку. На Другім з'ездзе ў студзені 1906 г. БСГ прыняла новую праграму муніцыпалізацыі зямлі. БСГ выдавала пракламацыі, газету «Наша доля», якая ў студзені 1907 г. была забаронена. З лістапада 1906 г. пачала выходзіць у Вільні газета «Наша ніва», у якой супрацоўнічалі многія беларускія паэты і пісьменнікі: Цётка, Я. Купала, Я. Колас, М. Багдановіч, Ц. Гартны, З. Бядуля, А. Гурло, К. Буйла і іншыя. З самага пачатку рэвалюцыйныя падзеі на Беларусі былі састаўной часткай першай рускай рэвалюцыі. Яны адыгралі станоўчую ролю ў жыцці беларускага народа, актывізавалі яго барацьбу за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, узнялі яго палітычную актыўнасць.

Пад ціскам рэвалюцыйных падзей царызм змушаны быў пайсці на некаторыя змены ў дзяржаўным ладзе і праве. Пачатак быў пакладзены царскім Маніфестам ад 6 жніўня 1905 г. аб утварэнні Дзяржаўнай думы. Адначасова былі выдадзены «Учреждение Государственной думы», «Положение о выборах в Государственную думу» з дадаткамі да яго, якімі ўстанаўлівалася колькасць дэпутатаў Думы. Тры беларускія губерні — Віленская, Гарадзенская, Магілёўская — выбіралі па сем дэпутатаў, Менская — па дзевяць, Віцебская — па шэсць. Дзяржаўная дума, названая булыгінскай па прозвішчу аўтара праекта, утваралася як дарадчы орган пры царскім урадзе. Выбары ў Думу павінны былі праводзіцца па трох курыях: памешчыкаў, гараджан і сялян. Гэтым законам устанаўліваліся прывілеі памешчыкам, якія атрымлівалі ў думе 85% усіх дэпутацкіх месц. Булыгінская дума не была склікана самадзяржаўем, але заканадаўства аб ёй паказала, што царызм не жадаў дзяліцца ўладай з народам.

17 кастрычніка 1905 г. цар выдаў Маніфест «Аб удасканаленні дзяржаўнага парадку», у якім абвяшчаліся «непарушныя асновы грамадзянскай свабоды на пачатках сапраўднай недатыкальнасці асобы, свабоды вера-

вызнання, слова, сходаў і саюзаў»[6], дэкларавалася пашырэнне выбарчых правоў і правоў Дзяржаўнай думы. Згодна з царскім указам ад 11 снежня 1905 г. рабочыя атрымалі права выбіраць выбаршчыкаў у губернскія і гарадскія сабранія. Царскімі Маніфестам і ўказамі ад 20 лютага 1906 г. змяняліся склад, парадак дзейнасці і кампетэнцыя Дзяржаўнай рады і Дзяржаўнай думы. У красавіку 1906 г. быў выдадзены ў новай рэдакцыі Звод асноўных дзяржаўных законаў, якім пацвярджалася, што «імператару ўсерасійскаму належыць вярхоўная самадзяржаўная ўлада. Падпарадкоўвацца ўладзе яго не толькі за страх, але і за сумленне, сам Бог загадвае» (арт. 4). Але ў арт. 7 гэтага ж закону гаварылася: «Гасудар імператар здзяйсняе заканадаўчую ўладу ў з'яднанні з Дзяржаўнай радай і Дзяржаўнай думай»[7]. Тым самым гэты закон меў характар канстытуцыйнага акта. Усё гэта сведчыць аб тым, што рэвалюцыя 1905—1907 гг. вымусіла царскае самадзяржаўе ўнесці змены ў дзяржаўны лад. Але гэтыя змены менш за ўсё адбіліся на правінцыі, дзе па-ранейшаму чынілі самавольства паліцыя і чыноўнікі.

Рэвалюцыя 1905—1907 гг. мела выключна важнае значэнне ў жыцці беларускага народа. Яна паказала, што сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне народа залежыць ад яго згуртаванасці і свядомасці, ад яго рашучасці дамагацца свабоды. Пасля паражэння рэвалюцыі яшчэ больш узмацніліся паліцэйскія рэпрэсіі, але стрымаць рэвалюцыйную і нацыянальна-вызваленчую барацьбу яны ўжо не маглі.

Цяжкае гора напаткала беларускі народ з пачаткам першай сусветнай вайны, якая пачалася 19 ліпеня (1 жніўня) 1914 г. Тэрыторыя Беларусі была ў непасрэднай блізкасці ад раёна баявых дзеянняў, а летам 1915 г. вайна перакінулася на тэрыторыю Беларусі. Немцы акупіравалі Заходнюю Беларусь. Фронт усталяваўся па лініі Дзвінск—Паставы—Баранавічы—Пінск. Больш як мільён сялян былі выгнаны са сваіх хат і вымушаны падацца ў бежанцы ў рускія губерні.

На тэрыторыі Беларусі размясціліся войскі Заходняга фронту, звыш 1,5 млн рускіх салдат і афіцэраў і каля 1 млн нямецкіх. На захопленай тэрыторыі немцы разрабілі прамысловыя прадпрыемствы, налажылі жорсткія

---

[6] Государственная дума в России. М., 1957. С. 90.
[7] Государственная дума в России. С. 141—142.

падаткі на народ, вывозілі рабочых і сялян на работы ў Германію.

Цяжкія страты панесла сельская гаспадарка Беларусі па абодва бакі фронту. Скараціліся пасяўныя плошчы, не хапала рабочых рук, бо толькі з Менскай, Магілёўскай і Віцебскай губерняў было мабілізавана ў армію 633 тыс. 600 чалавек[8]. Арміямі, як нямецкай, так і рускай, праводзіліся масавыя рэквізіцыі коней, буйной рагатай жывёлы, прадуктаў харчавання і фуражу. Узраслі ў 5—8 разоў цэны на прадукты харчавання і адзенне, што прывяло да значнага пагоршання жыццёвых умоў рабочых і служачых.

Як толькі пачалася вайна, 50 губерняў Расіі, у тым ліку ўсе беларускія, пераводзіліся на ваеннае становішча. Уся паўната ўлады была перададзена ў рукі ваенных, была ўведзена ваенная цэнзура, утвараліся ваенна-палявыя суды.

На захопленай частцы Беларусі немцы праводзілі двудушную палітыку: акаталічаным беларусам, якіх называлі палякамі, абяцалі адраджэнне Польшчы, а беларусам і літоўцам — утварэнне сваіх дзяржаў. У адозве акупацыйных улад да жыхароў Вільні, падпісанай графам Пфайлем, гаварылася, што «нямецкія войскі шчыра спачуваюць польскаму насельніцтву»[9], а ў лісце да генерала Людэндорфа рэкамендавалася яму, «каб вялося змаганне з польскімі ўплывамі і каб падтрымліваліся іншыя нацыянальнасці (літоўцы, беларусы, яўрэі)»[10]. Але немцы не мелі намеру дазваляць беларусам утвараць свае дзяржаўныя органы. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі ў Расіі, у верасні 1917 г., яны дазволілі літоўскім дзеячам правесці канферэнцыю і ўтварыць вышэйшы орган улады Тарыбу (Раду). На пасяджэнні Тарыбы 11 снежня 1917 г. было абвешчана аб утварэнні незалежнай літоўскай дзяржавы, у склад якой была ўключана значная частка беларускай тэрыторыі, у цесным саюзе з Германіяй па ваеннай, камунікацыйнай, манетарнай і таможнай службах, а затым у сярэдзіне 1918 г. Літва была аб'яўлена манархіяй, а каралём абраны нямецкі князь Вільгельм Ульрых Віртэмбергскі.

З акупацыяй нямецкімі войскамі Вільні частка беларускіх нацыянальных дзеячаў пераехала ў Менск. Скла-

---

[8] История Белорусской ССР. Т. 1. С. 625.
[9] Ніва (г. Беласток). 1990. 18 сак.
[10] Там жа.

ліся два ідэйныя цэнтры, якія падтрымлівалі ідэю ўтварэння беларускай дзяржавы. У Вільні, нягледзячы на нямецкую акупацыю і спыненне выдання беларускай газеты «Наша ніва», працягвалі работу беларускія арганізацыі. У снежні 1915 г. была ўтворана Канфедэрацыя Вялікага княства Літоўскага, якая ставіла сваёй мэтай стварэнне «на фундаменце незалежнасці Літвы і Беларусі» самастойнай дзяржавы [11].

У 1916 г. у Вільні быў утвораны «Цэнтральны саюз беларускіх нацыянальных грамадскіх арганізацый», які накіраваў сваіх прадстаўнікоў на міжнародную канферэнцыю ў Стакгольм. У гэтым жа годзе беларуская дэлегацыя на чале з В. Ластоўскім прадставіла мемарандум на міжнароднай канферэнцыі ў Швейцарыі, у якім былі сфармуляваны палітычныя патрабаванні беларускага нацыянальнага руху аб утварэнні беларускай дзяржавы. Але прадстаўнікі Англіі, Францыі і іншых дзяржаў, якія ўдзельнічалі ў канферэнцыі, засталіся глухімі да гэтых запатрабаванняў.

### 6. Грамадска-палітычны лад і права на Беларусі ў дні лютаўскай рэвалюцыі

Рэвалюцыйныя выступленні рабочых і салдат Петраграда 27 лютага 1917 г. прывялі да звяржэння царскага ўрада ў Расіі. У Петраградзе быў утвораны Савет рабочых дэпутатаў, большасць у якім складалі прадстаўнікі сацыялістычных плыняў — меншавікі і эсэры. Старшынёй Савета быў абраны меншавік Н. С. Чхеідзе, а яго таварышамі А. Ф. Керанскі і М. І. Скобелеў.

Дэпутатамі Дзяржаўнай думы ў гэты ж час быў утвораны Часовы камітэт Думы пад старшынствам М. В. Радзянкі. У ноч на 28 лютага Часовы камітэт Думы выдаў адозву да народаў Расіі, у якой заяўляў, што ён бярэ на сябе ініцыятыву аднавіць у дзяржаве парадак і ўтварыць новы ўрад. Такім чынам, у першыя дні рэвалюцыі ў Петраградзе ўсталявалася двоеўладдзе — своеасаблівае перапляценне ўлады буржуазіі ў асобе Часовага ўрада і ўлады Саветаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў.

Праз дзень, 1 (14) сакавіка 1917 г., аб перамозе народнай рэвалюцыі ў Петраградзе стала вядома ў Менску, Віцебску, Полацку, Гомелі і іншых гарадах Беларусі.

[11] Літ. і маст. 1990. 22 ліст.

4 сакавіка ў Менску быў утвораны Савет рабочых дэпутатаў і выбраны Часовы выканаўчы камітэт Савета, старшынёй якога быў абраны Б. П. Позерн, а таварышам старшыні І. Е. Любімаў. Была ўтворана гарадская міліцыя, на чале якой стаў М. В. Фрунзе. Міліцыяй былі вызвалены з турмы ўсе палітычныя вязні, раззброена паліцыя. 5 сакавіка адбылося другое пасяджэнне Менскага Савета, на якім было вырашана правесці 6 сакавіка агульнагарадскую маніфестацыю.

У ноч з 3 на 4 сакавіка адбылася нарада прадстаўнікоў гарадской думы, павятовага і губернскага земстваў, а таксама іншых уплывовых гарадскіх асоб (усяго 70 чалавек) з мэтай утварэння новага органа ўлады замест губернатара і губернскага праўлення. Нарада пастанавіла ўтварыць Камітэт грамадскага парадку і бяспекі. Цывільным камендантам горада быў выбраны старшыня губернскай земскай управы Самойленка. У той жа дзень галоўнакамандуючы Заходнім фронтам генерал Эверт афіцыйна зацвердзіў Самойленку на пасадзе каменданта. 5 сакавіка міністр унутраных спраў Часовага ўрада князь Львоў прызначыў яго мінскім губернскім камісарам, які замяніў губернатара.

Услед за ўтварэннем Саветаў рабочых дэпутатаў пачалі ўтварацца Саветы салдацкіх дэпутатаў. 8 сакавіка ў Менску адбылося першае агульнае аб'яднанае пасяджэнне Менскага Савета рабочых і салдацкіх (менскага гарнізона) дэпутатаў. На гэтым пасяджэнні быў выбраны новы выканаўчы камітэт Менскага Савета з 22 чалавек. За кароткі час у арміях Заходняга фронту было ўтворана каля 7 тыс. ротных, палкавых, дывізійных, карпусных, армейскіх, пры тылавых часцях і штабах камітэтаў [12].

У гэты ж час пачалі ўтварацца і сялянскія камітэты. 20—23 красавіка (3—6 мая) 1917 г. у Менску адбыўся Першы з'езд сялянскіх дэпутатаў Менскай і Віленскай губерняў. З'езд выбраў выканком Савета на чале з М. Ф. Фрунзе і дэлегатаў на Першы Усерасійскі з'езд сялянскіх дэпутатаў. Саветы сялянскіх дэпутатаў мелі значны ўплыў на сялянскія масы ў Беларусі, дзе быў вельмі вялікі працэнт буйнога памешчыцкага землеўладання і мелася каля 300 тыс. сялян, якія парабкавалі. Вялікае значэнне ў пашырэнні рэвалюцыйнай свядомасці сялян адыграў Першы Усерасійскі з'езд сялянскіх дэпутатаў,

---

[12] *Ивашин В. Г.* Великий Октябрь в Минске. Мн., 1957. С. 19.

які праходзіў з 4 па 28 мая (10 мая — 10 чэрвеня) 1917 г. На з'ездзе з прамовай выступіў У. І. Ленін, які заклікаў сялян да неадкладнага захопу сялянамі памешчыцкіх земляў.

У пачатку чэрвеня ў Петраградзе адбыўся Першы Усерасійскі з'езд Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў. На ім прысутнічалі дэлегаты ад беларускіх гарадоў і губерняў. З'езд ухваліў знешнюю палітыку Часовага ўрада, абмеркаваў адносіны да вайны і міру, нацыянальнае пытанне, падрыхтоўку да Устаноўчага сходу і іншыя, але не вырашыў галоўнага пытання рэвалюцыі — аб міры і зямлі.

У сакавіку—красавіку 1917 г. значна актывізавалася дзейнасць беларускіх нацыянальна-вызваленчых арганізацый у Менску і іншых гарадах. 25—27 сакавіка 1917 г. ў Менску адбыўся з'езд беларускіх нацыянальных арганізацый. У яго рабоце прынялі ўдзел 150 дэлегатаў з розных гарадоў Беларусі і Расіі. З'езд выбраў Беларускі нацыянальны камітэт (БНК) з 18 чалавек, якому было даручана: «1) арганізаваць Беларусь у кантакце з Часовым Расейскім Урадам; 2) падгатовіць выбары ў Беларускую Краёвую Раду; 3) весці прапаганду выбараў у Расейскае Учрэдзіцельнае Сабраньне...; 4) цяпер жа прыступіць да апрацавання канстытуцыі «Беларускага Краёвага Ураду» [13]. У Беларускі нацыянальны камітэт былі выбраны вядомыя дзеячы нацыянальнага адраджэння Р. Скірмунт, А. Смоліч, В. Фальскі, Б. Тарашкевіч, Е. Канчар, А. Бурбіс, Ф. Шантыр, В. Іваноўскі, З. Жылуновіч і інш. З'езд выказаў сваю гатоўнасць падтрымаць Часовы ўрад і заявіў аб перадачы выканаўчай улады Беларускаму нацыянальнаму камітэту. У красавіку 1917 г. па ініцыятыве БНК быў скліканы Краёвы сялянскі з'езд, які выказаўся за аўтаномію Беларусі ў складзе дэмакратычнай Расійскай рэспублікі.

Летам 1917 г. у Вільні ўзнікла беларуская арганізацыя, якая дамагалася ўтварэння незалежнай беларускай дзяржавы. Арганізацыя атрымала назву «Сувязь (саюз) незалежнасці і непадзельнасці Беларусі». Яна выступіла як супраць канфедэрацыі Беларусі з Літвой, так і супраць аўтаноміі Беларусі ў складзе Расійскай рэспублікі, «супраць анэксійных прэтэнзій літвіноў да беларускіх зямель» [14].

---

[13] Спадчына. 1990. № 4. С. 33.
[14] Літ. і маст. 1990. 30 ліст.

Пад уплывам рэвалюцыйных падзей летам 1917 г. значна ўзрасла актыўнасць Беларускай Сацыялістычнай Грамады. Па яе ініцыятыве ў ліпені 1917 г. у Менску быў скліканы Другі з'езд Беларускіх арганізацый, на якім замест Беларускага нацыянальнага камітэта была ўтворана Цэнтральная рада беларускіх арганізацый. У Статуце Рады было запісана, што «яе дзейнасць грунтуецца на прынцыпах поўнага дэмакратызму, перадачы ўсёй зямлі без выкупу працоўнаму народу і абароны інтарэсаў рабочых»[15]. Кіруючае становішча ў Цэнтральнай радзе належала дзеячам БСГ Я. Лёсіку, П. Бадуновай, Я. Дыла, З. Жылуновічу, А. Смолічу, Ф. Шантыру. БСГ восенню 1917 г. налічвала ў сваіх радах да 10 тыс. чалавек. Яе арганізацыі меліся і за межамі Беларусі — у Петраградзе, Маскве і іншых гарадах. Сярод петраградскай і маскоўскай секцый БСГ было многа рабочых, салдат і маракоў, якія падтрымлівалі праграму бальшавікоў. Восенню 1917 г. ў Петраградзе і Гельсінгфорсе з некалькіх раённых арганізацый БСГ была ўтворана Беларуская сацыял-дэмакратычная рабочая партыя (БСДРП), у радах якой налічвалася 700 чалавек. У выканаўчы камітэт БСДРП уваходзілі А. Чарвякоў, А. Усціловіч і інш. У красавіку 1918 г. БСДРП была пераўтворана ў беларускую секцыю пры Пецяргофскім раённым камітэце РКП(б). Беларускія секцыі РКП(б) былі ўтвораны ў Маскве і іншых гарадах Расіі. Маскоўская і петраградская беларускія секцыі РКП(б) актыўна садзейнічалі ўтварэнню Беларускай ССР.

Кароткі агляд нацыянальна-вызваленчага руху, які шырыўся на Беларусі на пачатку XX ст. і ў дні лютаўскай рэвалюцыі, дазваляе сцвярджаць, што беларускі народ свядома дамагаўся сваёй нацыянальнай дзяржаўнасці. Таму ўтварэнне ў 1918 г. Беларускай Народнай Рэспублікі, а затым Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі Беларусі не было гістарычнай выпадковасцю або падарункам з чужых рук, як гэта падавалася некаторымі гісторыкамі, а з'яўлялася заканамерным гістарычным працэсам, які развіваўся пад уплывам дзейнасці шырокіх мас народа.

---

[15] Голас Радзімы. 1988. 22 вер.

## ЗМЕСТ

Учебное издание

**Юхо** Иосиф Александрович

КРАТКИЙ ОЧЕРК ИСТОРИИ ГОСУДАРСТВА
И ПРАВА БЕЛОРУССИИ

Минск
Издательство «Университетское»
На белорусском языке

Вучэбнае выданне

**Юхо** Язэп Аляксандравіч

КАРОТКІ НАРЫС ГІСТОРЫІ ДЗЯРЖАВЫ
І ПРАВА БЕЛАРУСІ

Заг. рэдакцыі *С. К. Палякоў*
Рэдактары *Н. М. Філітовіч, Н. А. Соціна*
Мастак *М. А. Бушын*
Мастацкі рэдактар *Р. Ул. Кондрад*
Тэхнічны рэдактар *В. П. Безбародава*
Карэктар *Н. Б. Гуліш*

ІБ № 1659

Здадзена ў набор 30.10.91. Падпісана да друку 28.07.92. Фармат 84×108[1]/32. Папера друкарская № 1. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 14,28. Ум. фарб.-адб. 14,49. Ул.-выд. арк. 15,12. Тыраж 10 000 экз. Заказ 2054.

Выдавецтва «Універсітэцкае» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. 220048, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Друкарня імя Ф. Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка». 220067, Мінск, Жодзінская, 18.

**Юхо Я. А.**

Ю 94 Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі: Вучэб. дапам.— Мн.: Універсітэцкае, 1992.— 270 с.

ISBN 5-7855-0592-4.

Юхо Я. А. Краткий очерк истории государства и права Беларуси: Учеб. пособие.

**У кнізе ўпершыню асвятляюцца гісторыя ўзнікнення і развіцця дзяржавы і права на тэрыторыі Беларусі са старажытных часоў. Аналізуецца грамадскі і дзяржаўны лад Беларусі часоў Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, а таксама пасля далучэння яе да Расійскай імперыі. Паказваецца значны ўплыў беларускага права на права суседніх народаў, іх прававую культуру.**

**Для студэнтаў юрыдычных і гістарычных факультэтаў, выкладчыкаў сярэдніх навучальных устаноў, а таксама ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй беларускага народа.**

**Ю $\frac{1203010000-045}{М 317(03)-92}$ 19—92** **ББК 67.3я73**



Інфлянты
Полацкае в-ва
Віцебскае ваяводства
Віцебск
Маскоўская дзяржава
Мсціслаўскае в-ва
Барысаў
Менск
Магілёў
Менскае ваяводства
Слуцак
Навагрудскае ваяводства
Гомель
Мазыр
Украіна